


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**9** (1031)

**ВЕРАСЕНЬ**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# АВАНТУРЫ ПРАНЦІША ВЫРВІЧА, ЗДРАДНІКА І КАНФЕДЭРАТА

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны**

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### Як Лёднік у партрэтысты падаўся

Былі ў кельтаў чатыры багіні, якія любілі кружляць над полем бойкі: Немаін, Бадб, Марыган ды Маха. І добра, каб кружлялі ў абліччы прыўкрасных дзевак, а то пераўвасабляліся ў варон, чорных ды брахлівых. Кружлялі ды выбіралі, хто сёння загіне.

У скандынаваў валькірыі рабілі тое самае ў абліччы бялюткіх лебедзяў. Але тут, на Беларусі, паміж нізкім шэрым небам і полем у лапінах пабітага воспай сакавіцкага снегу, ніхто не лётаў. Праўда, сядзела на худым дрэўцы сарока, якая ў засмажаным выглядзе, згодна трактата Арнольда з Віłановы, ратуе ад чараў.

Але людзі, што абдымалі апошнімі абдымкамі халодную, вільготную зямліцу, памёрлі не ад счаравання ды сурокаў, а былі сумленна пасечаныя шляхецкімі шаблямі ды падстрэленыя кулямі, перад смерцю пастараўшыся ўчыніць такое ж вечнае шчасце іншым...

Вырвіч прыўзняўся ў страмёнах, углядаючыся ў смугу, што зацягвала патроху panылыя краявіды і рабілася адзіным саванам загінулым... Канфедэраты, расейцы, жаўнеры кароннага войска — якая цяпер ім, застылым, розніца? А вось ці ёсць хто жывы? Наводдаль, ля цёмнага падлеску, хадзіў белы конь, нервова ўскідваючы галаву, нібыта не мог уцяміць, чаму ягонае сядло пакінуў вершнік. У скураных ольстрах — кабурах пры сядле — усё яшчэ тырчэлі два пісталеты, якімі гаспадар не паспеў скарыстацца. Вунь ляжыць перавернуты вазок... Дзе ягоны гаспадар? А вось улан у белым мундзіры з чырвонымі вылогамі абдымае зямлю, самую памяркоўную каханку, і паспеў аддаць ёй усё цяпло свайго цела і ўсю кроў...

Панесла ж невялічкі аддзел падхаружага Лёдніка менавіта ў гэты бок. Няўжо Полацкага Фаўста, які здаваўся трывушчым, як загартаваны клінок, дастала ўсё-ткі нейкая нядобразычлівая валькірыя?

Харунжы Вырвіч выцер рукавом лоб. І ён сам вінаваты... Адпусціў падначаленага — так, трэба разведаць, ці праўда ў Капанічах спыніўся расейскі

* Працяг. Пачатак у № 8, 2015 г.

атрад, і куды кіруецца далей... А калі данеслі, што туды мусіў выправіцца не атрад, а цэлы полк, і пасланыя на выведку не вярнуліся, Пранціш, заміж таго, каб ехаць са сваімі жаўнерамі да месца збору канфедэрацкага войска, узяў двух добраахвотнікаў ды чуйдух сюды. З якога боку ні глядзі — злачынны для камандзіра ўчынак... За здраду могуць палічыць.

Але менавіта такія ўчынкі дазваляюць застацца чалавекам у самай азвярэлай, крывавай калатнечы.

Пранцысь не павярнуў назад, нават калі застаўся адзін — падстрэленага драгуна адправіў з таварышам... Так, кепскі з яго камандзір. Але як жыць, калі толькі і застанецца ўспамінаць буркатанне Лёдніка, маўляў, колькі можна забіваць падсвечнікам цвікі, укладаць шаблю ў рукі таму, хто прызначаны лекаваць?

Апошнія месяцы заміж пераможнай кампаніі ператварыліся ў суцэльны панылы жах. Свавольны гетман Шыман Касакоўскі, пасвараны з Генеральнасцю канфедэрацыі, дзейнічаў сам па сабе, збіраючы войска з каго прыйдзецца. Шляхта, мешчукі, сяляне… Усе, хто не хацеў панавання маскоўцаў і быў злы на Панятоўскага. Але й поспехі стракатага войска былі няпэўнымі. То прарвуцца ажно да Смаленска, то адкінуцца назад… А што хацець? Шляхта, хто пабагацей, з'яўлялася са сваймі жаўнерамі, хто мог узброіць дзесяць, хто — трыццаць, хто й з сотняй панцырных баяр прыходзіў. І ўжо такі пан — сам сабе галава... Як на любой вайне, пакутавалі перш за ўсё бязвінныя. То маскоўцы вёску спаляць, то каронныя, то канфедэраты… Краіна паціху канала. Лёднік з кожным днём усё больш змрачнеў — і Вырвіч баяўся, што аднойчы наравісты Чорны Доктар проста адмовіцца выконваць якісь жорсткі загад. Дый глядзелі на доктара-канфедэрата скоса: праваслаўны, а барцы абараняюць жа каталіцкую веру, не шляхцюк — а зрабілі камандзірам, сармацкіх звычаяў не пільнуецца, вусоў не адпусціў, нават слівавіцы не адсёрбне пасля бойкі… Праўда, б'ецца так, што й на падпітку ніхто задзірацца з клісцірнікам не палезе. Кажуць, можа забіць, не датыкаючыся, агонь на адлегласці гасіць. Вядзьмак, адно слова. Зноў жа, каго параняць — зацыруе, нават з чыстца сваім мастацтвам дастане, модлы схізмацкія пад нос мармычучы.

Больш за ўсё Бутрым нудзіўся па сям'і. Адправіў Саламею з дзецьмі ды Хвэлькай у Полацак… Толькі й паспелі пабыць разам, як на караблі плылі, ды пасля ў дармезе па восеньскіх дарогах трэсліся праз усю Еўропу. Саламея шчаслівых вачэй ад вінаватага мужа не адводзіла. А вось Раіна нават у моры адгарадзілася ад былога жаніха, у каюце замкнулася. Толькі Лёднік час ад часу ёй нейкія адвары насіў — калі сам на нагах стаяў, бо марскую хваробу мікстуры, клапатліва назапашаныя Саламеяй, не надта лекавалі. А ўжыць правераны сродак — ром з перцам, каб з ног зваліцца, — доктар на вачах у дзяцей нізавошта не згаджаўся. Як гэта дрэнны прыклад сыну падаць? І так хапае шляхцюкоў, якія лічаць кепскім тонам на сваіх нагах з-за сяброўскага стала выходзіць.

І як толькі даплылі да першага ж порта, яшчэ ў Італіі — Раіна адправілася прагуляцца дый не вярнулася. Пакінуўшы па сабе памяць, быццам трымаў у руках птушку, слухаў, як калоціцца яе сэрцайка, а яна цябе — цоп за палец нечакана моцнай дзюбай, да крыві, дый паляцела… І як яе дакараць?

Вядома, доўг раззлаванаму Тызенгаўзу за нявыкананае Лёднікам даручэнне аказаўся выплачаны. Егіпецкая прынцэса працягвала нябачна ахоўваць дарагіх ёй людзей. Каб яшчэ ведаць, за якія шышы?

Вырвіч яшчэ раз з тугою агледзеў панылыя краявіды. Здаецца, вунь там нешта варушыцца... Здушыўшы раптоўную надзею, каб пасля не расчароўвацца горка, прыспешыў каня.

Баўтрамей Лёднік стаяў на каленях у брудным снезе і перавязваў раны расейскаму жаўнеру. Галава бялявага прыхадня бездапаможна ляжала на каленях ліцвінскага лекара. Побач, на бела-ружовым снезе, перавязаны ўжо, канфедэрат — твар і валасы ягоныя былі так упэцканыя крывёй, што не разабраць па абліччы, малады ці стары. Пранціш саскочыў з каня:

— Бутрым! Жывы!

Лёднік, не ўстаючы з кален, цяжка сплюнуў крывёй:

— Падобна, пан Вырвіч, смерць на мяне пакрыўдзілася ды ўнікае маёй кампаніі.

Голас Чорнага Доктара гучаў так ціха і хрыпла, што харужы спалохаўся:

— Ты сам як?

— Нічога... — але спробы ўстаць не зрабіў. — Каня майго падстрэлілі, дык гахнуўся, за стрэмя зачапіўшыся, так, што ўвесь бок адбіў аб нейкія карчы. Але скабы, здаецца, на гэты раз цэлыя...

— А дзе твае жаўнеры?

— Адзін — вось... — Бутрым кіўнуў на параненага. — Двое — там... — махнуў вяла рукой у поле. — Хай Гасподзь дасць ім месца спакойнае ў сваіх паселішчах... Астатнія з'ехалі з маскоўцамі за плячыма, спадзяюся, ацалеюць. Я... паспеў чалавек шэсць укласці, перш чым зваліўся ды самлеў.

Лёднік марудна адкінуў чорныя зліплыя пасмы, што завешвалі твар, і перарывіста ўздыхнуў, падобна, яму і дыхаць было балюча. Вырвіч падскочыў, падхапіў пад руку:

— Уставай, паехалі!

Бутрым з цяжкасцю падняўся, патрос галавой, як бы скідаючы слабасць.

— Гэтыя двое могуць выжыць... Іх нельга пакідаць на халоднай зямлі.

Пранціш раздражнёна выдыхнуў скрозь зубы. Можна й не пачынаць спрачацца — бескарысна. Доктар не рабіў розніцы паміж пацыентамі, свайго патэнцыйнага забойцу лекаваў гэтак жа, як і сябра. Ну і калі мог адратаваць камусьці жыццё — не адступіцца. Драгун бездапаможна азірнуўся.

— Хіба той вазок скарыстаць, калі колы цэлыя...

Перакуліць на месца экіпаж дапамог той жа Лёднік — даклыпаў ды ўпёрся ў вазок побач з Пранцішам, сціснуўшы зубы... Колы цэлыя. У вазку нават засталіся нейкія транты. Вырвіч зазірнуў у прыадчынены дарожны куфар: каштоўнае, вядома, забралі, пакінулі пацёрты камзол з недарагога сіняга мультану, яшчэ нейкія стракатыя анучы, не самыя чыстыя кашулі з карункамі, парык валяецца, быццам гняздо прывіднай птушкі, альбом тырчыць з белай шчыльнай паперы, такі недарэчны на вайне...

Вырвіч так-сяк запрог у чужы экіпаж свайго каня, які злосна касавурыўся цёмным вокам, нібыта быў глыбока абражаны, што яго, арыстакрата конскага, ваяра, змушаюць да сялянскай працы. Той самотны белы конь, што хадзіў каля лясочку, збег, можна было падумаць, спалохаўся, што і яго зараз завабяць ды таксама слугаваць змусяць.

Удвух з Лёднікам узвалілі на вазок параненых — тыя так і не апрытомнелі. Бутрым схадзіў яшчэ па сваю паходную сумку, што засталася ля забітага каня... Вырвіч ледзь не сплюнуў: так і ёсць, клятую скрынку нават сюды з сабою ўзяў Чорны Доктар! Можа, ён і ў прыбіральню з ёю ходзіць?

З таямнічай скрынкай, якую доктар вынес на злом галавы з дома барона дэ Варда, нешта незразумелае атрымалася. Пранцішу, вядома, карцела даведацца, дзеля чаго ж рызыкавалі. Быў бы шкаляром — сам бы цішком падглядзеў. Але Лёднік скарб свой хаваў, размаўляць пра яго не жадаў. Падобна, і з пані Саламеяй адмоўчваўся. Толькі перад ад'ездам у войска паклікаў у кабінет

былога студыёзуса дый вываліў таямніцу на стол... Хай бы ўжо з золата яна была! А то некалькі саржавелых абручоў, з'яднаных у падабенства шлема, ды з усялякімі колцамі, шасцярэнькамі, дыскамі, пакрытымі лічбамі, арабскімі літарамі ды незразумелымі знакамі, усё вельмі падобнае да астралябіі. Але зусім разламанай. Частка дэталяў увогуле ляжала купкай, нібыта жалезнае зерне для казачнай птушкі Рох.

— Гэта шлем Альбукасіса.

Гледзячы ў недаўменны твар Вырвіча, Лёднік раздражнёна забурчэў пра нядбайных студыёзусаў, якія гулялі ў карты на ягоных лекцыях. Але ўсё-ткі патлумачыў: жыў вялікі маўрытанскі лекар семсот год таму, хірург такі, што й сёння роўных яму няма. Былы прафесар умудрыўся, нават не спатыкнуўшыся, вымавіць поўнае імя таго араба: «Абул-Касім Халаф ібн аль-Абас аль-Захраві», і з захапленнем дадаў, што той напісаў трыццаць тамоў мудрасці пра хірургію... Вырвіч здрыгануўся і паспачуваў сабе, студыёзусу... Які, здаецца, шчасліва ўнікнуў знаёмства з тым Абу-як-там-яго ды ягонымі тамінамі.

Альбукасіс служыў пры двары халіфа Аль-Хакама, дзе хапала інтрыг, так што ўрэшце месца халіфа заняла ягоная ж блакітнавокая рабыня, якую называлі Субх. Кажуць, што ў той рабыні, што стала царыцай, з'явілася адмысловая гвардыя. Воі не ведалі болю і страху і былі паслухмяныя сваёй гаспадыні, як лялькі — батлеечніку, і менавіта дзякуючы ім Субх утрымала ўладу. Іх баяліся, як пярэваратняў ці дэманаў. А самае застрашлівае — яны і не былі цалкам людзьмі. Бо нібыта Альбукасіс падарыў сваёй прыгажуні-гаспадыні адмысловы шлем. Варта было ўздзець яго на чалавека і загадаць: «Служы мне» — і той ператвараўся ў пакорлівы механізм... Ну і нарабілі з дапамогай д'ябальскага шлема, як збаноў на мануфактуры, напэўна, цэлы полк.

Пранціш успомніў няшчаснага Гарганцюа... І Лёднік пацвердзіў:

— Так, методыку Бяскоўскі запазычыў. Альбукасіс — адзін з лічаных хірургаў свету, якім удаваліся аперацыі на мозгу. Ён мог усё зрабіць з чалавечым целам і трымаць пры ім душу даўжэй, чым дазваляе Гасподзь.

— Ты што, Скарамуш, зноў хочаш ужо з дапамогай гэтага шлема людзям у мазгі лезці? — гідліва папытаўся Вырвіч. Лёднік, тузануўшыся ад сваёй рабскай мянушкі, бліснуў чорнымі вачыма.

— Ды не буду я галовы нікому прабіваць! Супакойся... Проста... Памятаеш, я ў Гданьску купіў карту зорнага неба Гельвецыя?

— Яшчэ б... Заміж таго, каб залатую гарэліцу на тыя грошы піць, — незадаволена прамовіў Пранціш.

— Дык вось, гэты шлем — такая ж карта, толькі мозгу. І калі яго сабраць, як быў, ды адладзіць, мы будзем ведаць, у якой кропцы хаваецца, скажам, парушэнне мовы, альбо зроку, альбо дзе прычына эпілепсіі... Разумееш?

Вырвіч хмыкнуў, але механізм падаўся яму яшчэ больш гідкім, як саржавелы ад крыві ахвяр інструмент ката. Лёднік пакаянна ўздыхнуў.

— Ну так, з дапамогай гэтага шлема можна шмат бяды нарабіць, нават не раскрыўшы сакрэт стварэння рабоў. Мы страцілі шмат ведаў, цяпер з сотні пацыентаў пасля аперацыі на мозгу, можа, адзін выжыве. Я ж і забраў гэтую штуку, каб яны... тыя... не выкарысталі. Але... не змог яго знішчыць. Пакуль плылі, шмат разоў парываўся кінуць клятую скрынку за борт... Не выкінуў. Усё — атрута, і ўсё — лекі...

Памаўчаў, круцячы ў руках круглую дэталь з выгравіраванымі рысачкамі.

— Ведаш, Вырвіч... Можаш мною пагарджаць... Але... я не шкадую. Я заплаціў дорага за сваю цікаўнасць, але тыя веды, тая практыка, якія я набыў у Манпелье... Яны вартыя, каб за іх нават памерці. Проста карыслівыя

гнюсы ператварылі тое, што мусіць лячыць, у сродак катавання і забойства. У Бяскоўскага, аказваецца, меліся трактаты Альбукасіса, тыя часткі, якіх ніхто больш не бачыў. А што за эксперыменты ў Таварыстве прагрэсіўнай медыцыны мы рабілі! Я б такое нідзе не спазнаў. Я кажу, вядома, не пра жахі ў сутарэннях...

Падняў на агаломшанага Пранціша змучаныя вочы.

— Я ведаю, што я грэшнік няварты. Але гэта мацней за мяне. Прабач.

Пранціш тады ледзь стрымаўся, каб не схапіць кляты шлем ды не шпурнуць у бліжэйшую студню. Бутрым дакладна вар'ят... З другога боку, без такой апантанасці хіба стаў бы сын полацкага гарбара дыпламаваным доктарам ды прафесарам?

Скрынку Лёднік забраў з сабой і ў войска. У вольны час корпаўся з жалезнымі дэталькамі, прымерваўся... Калі ж сабраў цалкам шлем, пачаў наладжваць. Нават Пранціша пару разоў угаварыў прымераць жудасны механізм. Ад чаго Вырвічу адразу пачаў мсціцца язмінавы пах і кляп у роце. Калі ж каго з жаўнераў ранілі ў галаву, Лёднік тут жа звяраўся са сваім шлемам, як скарбашукальнік з мапай, ды штосьці пасля запісваў у нататніку. Вось і цягаў з сабой паўсюль маўрытанскую спадчыну.

Вырвіч тузануў лейцы. Колы вазка скрануліся з месца, пакідаючы ў вільготнай глебе і мокрым снезе глыбокія баразны, быццам цёмныя раны, якія няма каму перавязваць. Лёднік бяссільна ляжаў, заціснуты паміж сваімі пацыентамі, дзюбатым носам у неба, прыціскаючы да грудзей шаблю — не раўнуючы, урачысты надмагільны стод. Пранціш пастараўся адагнаць недарэчныя параўнанні — а то наклічаш бяду... А шабелька, якую міласэрны доктар так пяшчотна да сябе прыціскае, сёння адняла не адно жыццё. А мо і не. Доктар жа адмыслова ўдасканальваў методыку, каб абяззбройваць ды аглушаць надаўжэй, абы не забіваць.

А бяда й з'явілася. Наперадзе паказаўся такі вялікі шыхт, што можна было ўспомніць бойку пад Воршай... Дарога заварочвала між пагоркаў, і здалёк здавалася, што па ёй паўзе даўжэзная чорная змяя ці атрутная скалапендра з тысячай ног. Мусібыць, той самы полк маскоўцаў, які адправілі ў Капанічы. Дакладна не свае жаўнеры. Хаця хто ведае, ці няма сярод іх землякоў? Расказвалі, што з тых, каго захапілі ў палон пад Кракавам, а пасля саслалі ў Омск і Табольск, адбіралі, хто маладзейшы ды здаравейшы, рэкрутамі ў расійскія войскі. А хто адмаўляўся — секлі розгамі...

Вырвіч спыніў каня і закруціўся, аглядаючы краявіды... Іхні вазок быў, як прусак на белым абрусе. Ні лагчавіны, ні дрэў, затое нерасталы снег. Дарэмна спадзявацца, што іх не ўгледзелі. Збочыць? У размяклыя балаты, што цягнуліся паабапал дарогі, зрэдзь прыкрашаныя нядошлымі прутамі асін? Развярнуцца? Дагоняць і разбірацца не стануць... Да таго ж у тым баку таксама ворагі — кароннае войска. Адзінае, што можа ўратаваць, — зараз пачынаўся хмызняк, які хоць на некалькі хвіляў захіне...

Вырвіч расштурхаў свайго былога слугу і прафесара.

— Пераапранаймася!

Бутрым зірнуў наперад, дзе, як чорная саранча, набліжаліся жаўнеры, і, як толькі пачаліся кусты, услед за Вырвічам без лішніх слоў зняў рынграф — нагрудны афіцэрскі знак з выявай Прасвятой Багародзіцы ды канфедэрацкую белую куртку з чырвонымі вылогамі. Шаблі ўкруцілі ў анучы ды ўшчамілі пад дно вазка, Вырвіч толькі з тугой пацалаваў на развітанне лязо Гіпацэнтаўра. Галоўнае, не кідаць, як вайсковую форму, якую драгун імкліва ўтаптаў у лужыну пад карэннямі кустоў.

Каптан, што знайшоўся ў пакінутым ранейшым гаспадаром вазка куфры, быў паматы і пацёрты. На правым локці ўвогуле красавалася дзірка, у якую выглядала Лёднікава не самая свежая, затое з пышнымі карункамі кашуля. На шчасце, хоць карункамі можна прыкрыць далоні: у Бутрыма яны прабітыя, а раптам хтось ведае пра гэтую дзіўную прыкмету?

Пранцішу пашэнціла яшчэ менш: хто набываў гэты жоўты, як сярэдзіна варанага яйка, венгерскі каптан, абшыты зялёнымі галунамі ды тасёмкамі? Гаспадару альбо бракавала густу, альбо купляў, на што пакупнікоў не знаходзілася, з добрымі зніжкамі. Ззаду на бякешы — венгерскія каптаны так называліся ў гонар сябра Стэфана Баторыя, фацэта-венгра Каспара Бякешы, красавалася цёмная пляма. Уладальнік, відавочна, кудысь няўдала прысеў, і, каб не смяротная небяспека, Пранціш нізавошта такі блазенскі ўбор з задоўгімі для яго рукавамі не напнуў бы. Але не да куртуазнасці... Апошнім марцыпанам да вясельнага торта Пранціш насунуў на Лёдніка парык, з якога не абсыпалася яшчэ ўся пудра. Парык сядзеў коса, з-пад яго там-сям выбіваліся чорныя пасмы. Але доктар выпрастаў спіну, грэбліва скрывіў вусны — па ягоным фанабэрыстым выглядзе нельга было западозрыць, што спадара толькі што згінала ад болю. Сядзіць, як маршалак на сойме. Вырвіч паправіў накручаную на шыю сінюю хустку ў дробныя ружовыя кветачкі, таксама спадчыну гаспадара вазка, адчуваючы сябе паўднёвай птушкай папугаем, прыгладзіў светлыя кудзеры і надаў фізіяноміі самы добразычлівы ды наіўны выраз. Больш нічога нельга было зрабіць, бо маскоўцы пад’ехалі ўжо так блізка, што маглі разгледзець, чым гэта пасярод белага поля займаюцца падазроныя людцы.

— Ты, Бутрым, галоўнае, маўчы... Давай ты ўвогуле немцам будзеш... Не, лепш аўстрыякам.

У давяршэнне ўсяго, калі Вырвіч сунуў руку ў кішэню жоўтай венгеркі, акрамя раскрышанай табакі, намацаў цыдулку, у якой на польскай нейкая «Твая Гэля» прасіла «даражэнькага Марка», якога прычакалася ўжо з Ліфлянтаў, прыхапіць дарогай пачак цынамону.

Паколькі цынамону ў вазку не засталося, мусіць, Марку ўдалося збегчы, і сядзіць ён разам са сваёй ненагляднай Гэляй і п’е гарбату з булкамі. Не, да Вялікадня яшчэ далёка, пост і ў праваслаўных, і ў каталікоў, але посныя галёпы таксама смачныя. Вырвіч зглытнуў... Вось жа заўсёды нешта ў галаву старонняе лезе, калі чакаеш невядомай прышласці...

Іх вазок абкружылі жаўнеры. Войска абцякала яго, як веснавая ручаіна — каменьчык, але каму трэба было — дачапіліся... Бялявы афіцэр з капрызліва надзьмутымі вуснамі, у капелюху з пухнатым белым плюмажам прыпыніў каня і няўважна пазіраў, як ягоныя людзі дапытвалі падарожных.

— Хто такія? Адкуль?

Пранціш — такі вось я дурнячок-прасцячок, вашамосці — пачаў балбатаць, як цяжка ім, зусім мірным людзям, праехаць у той час, як бунтаўнікі ўчынілі вайну. Вось, з міласэрнасці падабралі на полі бойкі дваіх, якія засталіся жывымі (адзін ваш суайчыннік, самі бачыце, вашамосць!), і што ж гэта дзеецца на свеце, і як можна паўставаць супраць памазанікаў Божых... Лёднік маўчаў, незадаволена зыркаючы на жаўнераў, што пачалі абшукваць павозку, не вельмі акуратна штурхаючы ягоных пацыентаў.

— А гэты, насаты, дужа ж па апісанні падобны да таго чортава доктараінсургента!

Вось і маеш... Давялося на хаду ламаць план — а як было зручна, нічога не выдумляючы, прадставіць Баўтрамея спрактыкаваным доктарам...

— Не, вашамосці, мой сябар ніякі не доктар, далібог! Ён... — погляд Пранціша ўпаў на вываленыя з куфра анучы, паўзверх якіх бялеў альбом з чыстымі старонкамі. — Ён... мастак!

І патрос у доказ альбомам.

Бутрым павольна павярнуў галаву да былога гаспадара і паглядзеў, як цвікамі прыкалаціў.

— З якім задавальненнем я б таго Лёдніка злавіў ды на палю пасадзіў, — раптам прамовіў афіцэр, падазрона вывучаючы аблічча насатага тыпуса ў сінім выцвілым камзоле. — Няўдзячны халоп! Здрадзіў яе вялікасці імператрыцы Кацярыне, якая яго, нявартага, міласцю сваёй адарыла!

Во як... Відаць, афіцэр пры двары бываў, чуў пра «чарнявага палячышку», як раздражнёна называў Баўтрамея фаварыт царыцы Арлоў. Доктара-бунтаўніка прывезлі на дазнанне ў Санкт-Пецярбург, а ён не толькі выкруціўся, але й царыцу зацікавіў.

Трэба адводзіць падазрэнні!

— Мой старэйшы сябар — вядомы аўстрыйскі мастак! — працягваў радаваць багіню Фантазію Вырвіч. — З Зальцбурга! Я, панове, у яго вучыўся, прыехалі разам сюды ў заробкі! Гер Айсман выдатныя партрэты малюе! Як жывыя выходзяць!

Бутрым сядзеў, нібыта праглынуў мальберт разам з усімі фарбамі, і асабліва шмат чорнай.

— А гэта што за д’ябальшчына?

Улан з пабітым воспай тварам круціў у кароткіх пальцах каштоўны Альбукасісаў шлем.

— Гэта спецыяльная прылада прапорцыі вымяраць! Каб галовы маляваць як найлепей!

Пранціш нездарма быў недапечаным паэтам і нават дзесьці драматургам.

Але занавес гэтай п’есы апусціць не ўдалося. Па загадзе бялявага афіцэра, які, падобна, лічыўся тут самым галоўным, падазроных мастакоў на вазку забралі з сабой, каб разабрацца на месцы... Месца было ў маёнтку Капанічы, які належаў нейкаму пану Валянціну Гараўскаму, прыхільніку Панятоўскага і Фаміліі. Жаўнеры, стамлёныя, злыя, збольшага маўчалі — а што гаварыць тут, на чужой зямлі, куды адправілі цябе ліць кроў за інтарэсы і без таго багатых улюбёнцаў Фартуны, і ты загінеш — а яны пры любым раскладзе між сабой дамовяцца. Ну, паадбіраюць адзін у аднаго ўладанні, абмяняюцца абразамі... Але на цвінтары нікому з іх міласціну прасіць не давядзецца.

— Вырвіч, ты ашалеў? Я ж зроду не маляваў! — сіпеў Лёднік на вуха спадарожніку ў жоўтым папугайскім паліто. — Чаму мастак?

— Якая табе розніца? — сярдзіта шаптаў у адказ Вырвіч. — Галоўнае, не прызнавайся, што доктар, а то складуць два і два — і капцы...

Маёнтак Капанічы быў, вядома, не магнацкім палацам, але й не шарачковым: два паверхі з мансардай, каржакаватыя кутнія вежы з гаўбцамі, высокі парадны ганак з калонамі і лесвіцай, што падымалася з двух бакоў, прыгожа закругляючыся: толькі й хадзіць па ёй дамам у сукенках з доўгім шлейфам, які пакорліва цягнуўся б услед па светлых прыступках... Але пан, які выйшаў сустракаць гасцей, не выглядаў надта ўрачыста, і наўрад мог спалохаць нават кацяня. Пузаты, як бочка з медавухай, нос крыгай, але не драпежны, як у Лёдніка, бо заканчваўся смешнай бульбінай, вусы звісаюць, быццам толькі вымачаныя ў піве, вечна здзіўленыя вочы падпухлі...

— Вітаю вельмішаноўнае панства! Вашамосць, яснавяльможны князь Гагарын! Ці шчасліва даехалі?

Здавалася, з’явіліся не жаўнеры-чужынцы, а суседзі на калядны карнавал. Праўда, прыгледзеўшыся, Пранціш зразумеў, што пан дужа нервуецца — толькі гэта хавае, і нібыта запабягае перад палкоўнікам маскоўцаў князем Гагарыным, тым самым бялявым афіцэрам, які загадаў затрымаць Вырвіча і Лёдніка. Круглы твар князя з маленькімі капрызлівымі вуснамі і кірпатым тонкім носам здаваўся дзіцячым, нягледзячы на зморшчыны на лбе. Гагарын адказаў штось ветлівае і ўзбег па лесвіцы, белае пухнатае пяро на ягоным капелюшы ледзь паспявала ляцець за гаспадаром...

А Пранцішу было не да палітэсаў. Вакол утварыўся сапраўдны вір — простыя жаўнеры адпраўляліся ў суседнюю вёску, на кватэры — от ужо ўзрадуюцца няшчасныя ліцвінскія сяляне. Кагосьці размяшчалі ў маёнтку — гаспадарчых прыбудоў і флігеляў у старым парку хапала. Князя ды некалькіх афіцэраў, безумоўна, чакалі пакоі гаспадарскага дома. А вось параненых, якіх прывезлі яны з Лёднікам, павалаклі ў розныя бакі — канфедэрата ў бок стайні, маскоўца ў флігель. Лёдніка аж затрэсла — выходзіць, свайго ж падначаленага на пагібель прывёз, у палон здаў. Вырвіч ледзь паспеў утрымаць яго ад выказванняў, штурхануўшы локцем у хворы бок, ад чаго Чорны Доктар ледзь стрымаў крык.

— Мой сябар непакоіцца, ці будзе добрае лячэнне для тых небарак, якіх мы выратавалі? Каб нашыя клопаты ў імя хрысціянскай міласэрнасці дарэмнымі не апынуліся... — прычапіўся Вырвіч да нейкага падпанка, мусіць, пісара. Але замест прыгорбленага кручка-пісара адказаў іншы пан, важны, з трохі грэблівым выцягнутым тварам, у парыку ды капелюшы, але захляпаны гразёй аж да пояса, нібыта на каленках у разводдзі поўзаў:

— Можаце супакоіць свайго сябра, малады чалавек... — пан змераў насмешлівым позіркам постаць у недарэчнай жоўтай венгерцы. — Я — дыпламаваны доктар і займуся вашым параненым.

— Іх двое, — ветліва, але цвёрда нагадаў Пранціш. Пан раздражнёна скрывіўся.

— Палонных мы таксама лечым. Мы добрыя хрысціяне.

І сышоў, важна, як паўлін. Па абліччы Лёдніка было відаць, што ён думае пра сумленнасць і майстэрства калегі.

Вакол мітусіліся, разгружалі павозкі... Мясцовая дворня не выглядала надта шчаслівай, дзеўкі дык увогуле недзе пахаваліся. Кватараванне войска — гэта не кірмаш, а цяжкая павіннасць, якой стараліся пазбягаць любым чынам, часам нават заразныя хваробы ў доме выдумляючы. Можа, на самазваных мастакоў забудуцца? Іх статус дасюль не вызначыўся — і не госці, бо прыехалі не добраахвотна, і не палонныя — зброі ў іх не знайшлі, зноў жа — маскоўскага жаўнера ўратавалі...

А на ганак выбег сапраўдны турак. Прынамсі, па адзенні: бліскучы жоўты халат, падпяразаны зялёным пасам, турбан... Вырвіч з палёгкай адчуў, што ён тут не галоўны папугай. А турак, які аказаўся звычайным лёкаем з цалкам тутэйшай фізіяноміяй, перагнуўся цераз парэнчы, упёршыся аб’ёмістым жыватом у балюстраду, і крыкнуў двум няпрошаным гасцям, што тапталіся ля свайго вазка:

— Пан Валенты загадаў спытаць вашых мосцяў, ці праўда адзін з вас партрэтыст?

Вырвіч разгублена паглядзеў на Лёдніка, які стаяў, выпрастаны і змрочны, як ксёндз на папрадухах.

— Так, мой спадарожнік — майстар-партрэтыст з Аўстрыі, гер Айсман.

— Гаспадар ласкава запрашае вашых мосцяў, — ветлівы зварот да абшарпаных мазідлаў нібыта гарчыў у лёкая на вуснах, — зайсці ў дом.

Калі вакол сноўдаюць чужыя жаўнеры, ад запрашэнняў не адмаўляюцца.

А ў доме была амаль Турэччына... Ну а месцамі Егіпет ды Персія. Пан Валенты Гараўскі выявіўся прыхільнікам распаўсюджанай у Еўропе моды на таямнічы Усход і неадменна зачытваўся «Казкамі тысяча і адной ночы» ды ўяўляў сябе багдадскім султанам Гарун-аль-Рашыдам. Стракатыя персіянскія кілімы, шырмы, распісаныя залацістымі арнаментамі, высокія вазы з паўлінавымі пёрамі... На дзвюх новенькіх карцінах блішчэлі ўсімі фарбамі пейзажы з чароўнымі палацамі на фоне пальмаў і жоўтага пяску. Лёкаі франтавалі ў турэцкіх уборах.

Вядома, дарэшты адмовіцца ад сармацкіх звычаяў пан не мог, таму й продкі, у чугах, падпяразаных слуцкімі паясамі, фанабэрыста паглядалі са старых парсунаў у цяжкіх залачоных рамках на ўсе гэтыя ўсходнія штукарствы, ды акрамя крывых турэцкіх шабляў упрыгожвалі сцены старасвецкія шастапёры і рыцарскія мячы, якія, пэўна ж, адсеклі галаву не аднаму турку.

Мусіць, і сам пан Валенты, які сядзеў у фатэлі з выразаным на спінцы з чорнага дрэва бязносым сфінксам, ахвотней апрануў бы султанскую вопратку, але схіляўся ў бок князя Гагарына, што заняў такое ж крэсла побач, задужа ветліва для султана. Князь утаропіўся ў прыхадняў светлымі халоднымі вачыма і прамовіў у бок гаспадара:

— Не думаю, што гэта добрая ідэя, вашамосць. Мяркуючы па абліччы гэтых камедыянтаў, і мой пісар малюе лепей.

Пан Валенты занерваваўся і нават уласнай персонай падышоў да Вырвіча і Лёдніка.

— Як хутка можаце зрабіць партрэт з найбольшым падабенствам?

Вырвіч, хаваючы разгубленасць, пакланіўся:

— Усё залежыць ад велічыні карціны і матэрыялаў, вельмішаноўнае панства. Вялікія партрэты мой настаўнік гер Айсман малюе вельмі карпатліва, можа, і паўгода праца зойме... Паспешлівасць шкодзіць высокаму мастацтву, вашамосць.

Каб яны на хлеб спявалі... У душу Пранціша запаўзалі самыя нядобрыя прадчуванні.

— Вось бачыце, пан Валянцін, гэта альбо шалберы, якія нічога не ўмеюць, альбо калі і сапраўды майстры, за пару дзён не справяцца, — князь Гагарын гаварыў тонкім лянівым голасам, нібыта з неразумным дзіцем. — Я адпраўляюся на складанае заданне, ад якога залежыць канец вайны, і не вольны над сабой. Давайце пачакаем, пакуль скончацца ваенныя дзеянні, настане трывалы мір у няшчаснай гэтай краіне, а ў Маскве Гасподзь спыніць пошасць. І тады мы з паннай Дамінікай Валянцінаўнай з усімі выгодамі наведаем маю вельмішаноўную цётачку, яе светласць Ульяну Андрэеўну, а ўжо тады падумаем пра вяселле...

Мяркуючы па прыкушаным вусе, пану Гараўскаму пачутае не прыйшлося да душы, але ён пастараўся схаваць раздражненне.

— І ўсё-ткі я хачу скараціць час пакутаў ад таго, што не могуць з'яднацца закаханыя сэрцы, дарагі князь Пятро Іванавіч. Паспрабуем найхутчэй спраўдзіць дадзеныя адзін аднаму словы гонару. Для шляхціца няма важнейшага, чым стрымаць слова, ці не так, дарагі князь?

На круглым твары Гагарына так-сяк праявілася няшчырая ўсмешка, а Гараўскі ўтаропіўся ў Лёдніка:

— Гер Айсман, трэба, каб за два дні вы намалявалі партрэт маёй дачкі і яе жаніха, яго светласці князя Пятра. Заплачу пяцьдзясят талераў золатам!

— Мой настаўнік толькі нямецкую мову разумее, вашамосць! — умяшаўся Пранціш і ўзяў на сябе справу тлумача.

Лёднік выкручваўся з ягонай дапамогай, як мог. І пра тое плёў, што нябёсная прыгажосць мадэляў вымушае доўгай падрыхтоўкі для яе ўвасаблення, і пра тое, што няма з сабой фарбаў — усе выкарысталі, і нават на падагру нажаліўся, якая круціць суставы ў такое надвор'е... Дарэмна. Парсуна патрэбная была пазарэз. Наколькі Пранціш зразумеў з размоў, Гараўскі калісьці прасватаў сваю дачку Гагарыну падчас моцнай п'янкі ў палацы Панятоўскага, і гэты шлюб мусіў спраўдзіць ягоныя амбіцыі. Масковец, аднак, не гарэў жаданнем жаніцца з не самай выгаднай для яго нявестай і прыдумваў усялякія адгаворкі. Не можа, маўляў, ісці да алтара, пакуль адзіная цётухна паводле ейнага жадання не пабачыць на свае вочы пляменніка з ягонай абранніцай, каб асабіста блаславіць. А то спадчыны пляменніку не пакіне.

Але Гараўскі нават не пабаяўся прапанаваць маёнтак для пастою палка, абы будучага зяця ў госці завабіць. І не збіраўся здавацца. Пачуўшы, што жаўнеры перастрэлі дарогай вазок з двума вандроўнымі мастакамі, якія везлі параненых, увішны ліцвінскі шляхцюк прыдумаў выйсце. Чаму б не адправіць да цётачкі гагарынскай на бласлаўленне партрэт? Вось пляменнік, вось побач нявеста... А даставіць парсуну ў суправаджэнні адпаведнага ліста ад Пятра Іванавіча пан Гараўскі сам паклапоціцца, самае вартае пасольства адправіць! А тады да Каляд можна і вяселле згуляць...

І высокія мастацкія якасці таго партрэта, трэба думаць, пану былі важныя, як парасяці табака.

А каб абадранцы-майстры не надта круцілі носам, пан уцямна папярэдзіў: не намалююць да суботы парсуну — будуць расстраляныя як канфедэрацкія шпіёны.

Пранціш шчыра ўзненавідзеў невядомую Даменіку Валянцінаўну, з-за якой узнікла праблема.

Але тут жа ўзнікла і сама Даменіка Валянцінаўна.

Будучая мадэль гера Айсмана ўвайшла, упэўнена пастукваючы абцасікамі, і гэтак жа ўпэўнена агледзела цёмнымі іранічнымі вачыма грамаду. Раздзеленыя бялюткім праборам гладка зачасаныя валасы блішчэлі, як шоўк колеру каштана, ніякіх табе напудраных парыкоў, чырваніл ды мушак. Тонкія выгінастыя броўкі, лоб высокі — панна не дурніца, маленькія вусны ўсмешлівыя, нос трохі з гарбінкай, як у бацькі...

— Каго вашамосць пан бацька хоча на расстрэл адправіць?

Пан Гараўскі пачаў распавядаць свой бліскучы план, а князь Гагарын кінуўся цалаваць ручкі нявесце... І па тым, як ён гэта рабіў, Пранціш зразумеў, што паненка князю нават надта падабаецца, і каб не змус жаніцца, дык і строіў бы тут прыемныя фіглі... Вось жа гэтыя кабеты, за пасады ды грошы на ўсё гатовыя!

Між тым панна Даменіка рашуча забрала з рук натхнёнага князя сваю вузкую белую ручку і ўтаропілася ў бацьку, прыжмурыўшы цёмныя вочы:

— Хіба татусю гэтак не церпіцца выправіць мяне з дому? Якое вяселле, калі ліецца кроў у Айчыне?

Апошнія словы паненка вымавіла без ценю іроніі, нават з горыччу. Князь Гагарын прасвятлеў тварам, унутрана згаджаючыся з нявестай. Але пан Гараўскі зноў горача загаварыў пра закаханыя сэрцы, пра небяспеку, якая павінна прыспешваць лёсавыя рашэнні... Карацей, сеансаў малявання ніяк не

пазбегнуць, хоць Пранціш нясмела нагадаў, што ў іх ні фарбаў, ні пэндзляў, ні палатна...

— Фарбы я свае пазычу, — нечакана прамовіла падступная паненка, выпрабавальна гледзячы на самазваных мастакоў. — Палатно ёсць адно... Загрунтаванае...

От выспятак Фартуны! Замаскіраваныя канфедэраты самі не ўцямілі, як апынуліся перад белым прастакутнікам будучай карціны, прычым Лёднік быў узброены кавалкам вугалю, якім належала рабіць накід, а на мальберце стракацелі раскладзеныя паненкавы фарбы і пэндзлі.

Наводдаль, як галубкі, уселіся дзве мадэлі. Князь капрызліва надзімаў вусны, адкінуўшыся ў крэсле, і раздражнёна круціў у руках срэбную табакерку з вензелем імператрыцы, у цёмных вачах шкоднай паненкі Дамінікі скакалі вясёлыя жарынкі. Прыслугу выставілі прэч, толькі пан Гараўскі час ад часу нецярпліва зазіраў у пакой. Геру Айсману не далі часу нат на эскізы, чым можна было адтэрмінаваць непазбежны канфуз.

Лёднік сціскаў аловак, як скальпель, і свідраваў паглядам палатно. Паўза зацягвалася.

— Давай, Бутрым, — падбадзёрыў яго ціхім шэптам на вуха Вырвіч, — ты ж крэсліць добра ўмееш!

— Чарцяжы — гэта ж не партрэт! — нервовым шэптам адказаў Лёднік. — У што ты зноў мяне ўкруціў!

Чакаць не выпадала, і Чорны Доктар рашуча намаляваў два авалы. Ну, галовы ж у людзей авальныя, ці не так?

Авалы былі раўнюткія. І лініі, якія пазначалі шыі, дасканалыя — хоць лінейкай правярай. Рука ў спрактыкаванага доктара цвёрдая.

На тварах з'явіліся вочы. Ад чаго падалося, што з палатна пазіраюць дзве савы.

Доктар дасканала ведаў будову чалавечага арганізма і мог намаляваць схему кожнай костачкі і ўнутранага органа.

Вось толькі чалавека намаляваць не мог. Прынамсі, так, каб не спалохаць гледача.

Пранціш ледзь стрымаўся, каб не ўчапіцца сабе ў кудзеры, схапіў другі кавалак вугалю і паспрабаваў дапамагчы доктару ў творчай справе. Абрысы шый трохі пакрывіліся, на тварах з'явіліся насы.

Ну, у прынцыпе, гэта былі насы. Бо Лёднік дакладна ведаў, як яны ўчыненыя і дзе знаходзяцца.

— А чаму вы не выкарыстоўваеце тое сваё прыстасаванне для вымярэння прапорцый? — лена папытаўся князь. Не забыў, трэба ж...

Што ж, хоць неяк час пацягнуць! Лёднік схадзіў па сумку, дастаў шлем Альбукасіса... І хутка расейскі палкоўнік Гагарын сядзеў з важным выглядам з механізмам маўрытанскага хірурга Альбукасіса на галаве і не падазраваў, наколькі ён тэарэтычна блізка ад таго, каб ператварыцца ў бязмозглага раба.

Лёднік круціў колцы на шлеме, адыходзіў, падыходзіў да мадэлі, прыжмурваючы вочы, штосьці хутка і змрочна запісваў на аркушы паперы, нібыта ставіў самы сумны дыягназ. Падобна, ягоная цікавасць была сапраўднай, але не мастакоўскай, бо даносілася мармытанне на лаціне «Цікавы ўзор брахіцэфаліі... Паменшаныя лобныя долі...»

І тут грымнула навальніца: паненка, пакуль жаніх таго не бачыў, энергічна скіравалася да палатна. Пранціш кінуўся, каб захінуць пудзілы, што лупіліся з белай паверхні, але дарэмна. Панна Дамініка неверагоднымі намаганнямі стрымала шчыры рогат, раптам схапіла вугаль і хуткімі ўпэўненымі

штрыхамі — раз-раз, як праля бялізну пранікам шаруе, накідала абрысы ўласнага аблічча, потым — Гагарынскага... Вусны ў намаляванага князя крывіліся гэтак жа капрызліва, як у жыцці. Зірнула насмешна на Вырвіча, прыўзняўшы бровы, абцерла пальцы проста аб цёмную сукенку (дзікунка!) і вярнулася на месца.

Лёднік, пабачыўшы перамененым свой будучы шэдэўр, агаломшана паглядзеў на Вырвіча — ці не ў таго прачнуўся талент? Пранціш, чые шчокі чамусьці палалі, ціха буркнуў пра паненчыну ласку...

— Думаю, на сёння хопіць! — звонка абвесціла Дамініка. — Фарбамі няхай дамалююць заўтра.

І сышла, упарта пацокваючы абцасікамі, нават не азірнулася. Відаць, моцна замуж хоча за князя, раз дапамагла маляваць партрэт, з прыкрасцю падумаў Вырвіч.

І самы час быў знікаць з маёнтка як мага хутка і непрыкметна.

Накід гера Айсмана гаспадар дому і госць ухвалілі, хаця й пакрытыкавалі ўдосталь. Мастакі з усім згаджаліся і абяцалі выправіць, улічыць, удасканаліць...

І апынуліся ў пакоі, больш падобным да турэмнай камеры — усе выгоды, ложкі з пярынамі, а акенца ў дзве далані пад самай столлю, ды яшчэ густа забранае кратамі, і дзверы звонку на жалезных засовах. І два жаўнеры ў калідоры на варце. Мусіць, пан Гараўскі моцна баяўся, што падазроныя майстры выслізнуць, як вугры, а тады й патэнцыйны зяць знікне з канцамі, бы шэры журавель у самотным небе.

Перад сном вязні паспелі разы тры пасварыцца. Вырвіч і сам разумеў, што, каб прадставіў Лёдніка хоць картографам якім ці гандляром тытунем, ужо, магчыма, былі б яны сярод сваіх, у войску ягамосці гетмана Шымана Касакоўскага. Якога Лёднік, дарэчы, чамусьці не любіў, сцвярджаючы, што амбітны пан, калі павернецца справа іначай, і мундзір расейскай арміі можа апрануць, і з тым жа запалам пераследаваць былых саюзнікаў.

Але толку падпіраць дах, калі сцены абрынуліся. Пераначуем — болей пачуем. Не з такіх жорнаў выбіраліся...

Лёднік тужліва круціў у пальцах медальён з трыма ўкладзенымі ў яго цёмнымі пасмачкамі — Саламеі, Аляксандра і Сафійкі.

— Калі ўжо мая адысея скончыцца…

Вырвіч вінавата ўздыхнуў: гэта ж праз яго Лёднік павінен быў пакінуць сваю Пенелопу ў Полацку.

— Затое ў мяне ёсць шанец напісаць паэму пра авантуры ліцвінскага Уліса!

Бутрым нават зацікавіўся:

— І якія ж аналогіі будуць з гамераўскім варыянтам? Троі, здаецца, мы пакуль не спалілі?

Пранціш пачухаў патыліцу.

— Ну, мы ўжо столькі падчас нашых прыгод назіралі руйнаванняў ды пажараў, на дзесяць Трояў хопіць. А вось тваё зняволенне ў барона дэ Варда якраз можна прыпадобніць зняволенню Адысея на востраве ў німфы Каліпса. Зніклы для свету, зачараваны герой, часу не ведае... Праўда, ні дэ Вард, ні тым больш Бяскоўскі да німфаў не падобныя. Хіба згадаць тваіх… сясцёр па палоне? Тая Каламбіна — чым не німфа?

Лёднік паморшчыўся, бо пра сваё зняволенне ў якасці Скарамуша маўчаў, як воцату выпіўшы.

— Добра, а што цяпер? Мы па схеме Гамера дзе?

— Думаю, у цара феакаў Алкеноя, — упэўнена адказаў Вырвіч. — У яго была дачка царэўна Наўсікая, дужа разумная і смелая, і калі Адысея выкінулі хвалі на іхні бераг, няшчаснаму бадзягу дапамагла…

— Наўсікая, кажаш... — пасміхнуўся Лёднік і ўлез з недарэчным пытаннем:

— Спадабалася паненка Гараўская?

Вырвіч натапырыўся, як верабей.

— Ды я б да такой ніколі з куртуазнымі намерамі не наблізіўся!

— Раздражняе? — насмешна ўдакладніў Лёднік і па-ментарску дадаў: — Вы, пан Вырвіч, ужо не юнак, а ладны дзяцюк, час навучыцца самога сябе разумець. Вас злуе, што вашыя звычныя фіглі ды кукарэцыі з такой дзяўчынай будуць бескарысныя.

— А мне з будучай княгіняй Гагарынай галантнасцяў не разводзіць! — сярдзіта буркатнуў Вырвіч і перавярнуўся на другі бок, чамусьці адчуваючы крыўду.

А раніца нічога не выратавала. Хутка абодва няшчасныя ілжэ-мазідлы сталі перад нясконачаным шэдэўрам, і Лёднік з прыхаванай панікай касавурыўся на выціснутыя на палітру фарбы. Адзінае што, Чорны Доктар, які ўмеў ганяць і прыслугу, і студэнтаў, умудрыўся з раніцы зноў надаць сабе прафесарскі выгляд: напудраны наноў парык выглядаў акуратненька, камзол выцвілы, але адпрасаваны, і нават дзірка на локці зацыраваная. Пад камзолам былі шчыльна перавязаныя палатном скабы, што рабіла паставу яшчэ больш выпрастанай. А дзюбаты нос задзіраць Полацкі Фаўст з дзяцінства навучыўся. Пранцішу зноў зрабілася няёмка за папугайскую вянгерку з цёмнай плямай на азадку.

Хіба палёгка атрымалася — князь Гагарын пасядзеў зусім нядоўга ды збег, спаслаўшыся на вайсковую неабходнасць. Затое месца каля дачкі заняў пан Гараўскі, які ўзяўся занудна разважаць пра падзенні нораваў і залаты сармацкі век. «Ды твае продкі з залатога сармацкага веку чужынцаў бы на ганак не пусцілі!» — ледзь стрымаўся ад заўвагі Вырвіч.

Паненка нешта лена адказвала бацьку, утаропіўшыся цёмнымі вачыма пад столь, дзе ляпныя анёлкі вартавалі прыцемак, і была думкамі так далёка, што зноў раздражняла. Яшчэ й ад таго, што Вырвіч спадзяваўся, што і сёння атрымае нечаканую дапамогу. Панне ж карціць замуж за Гагарына! І чаму толькі сама не возьмецца выканаць іх двайны партрэт, калі такая ўвішная?

Насамрэч, панна Дамініка некалькі разоў зрабіла спробу адаслаць бацьку, але пан Гараўскі сваю кветачку пільнаваў, як цыклоп адзінае вока.

А самае непрыемнае, што паненка, напэўна, яшчэ й шчыра весялілася: як жа самазванцы-няўмекі карціну расквецяць?

Лёднік уздыхнуў, як перад бойкай, і тыцнуў пэндзлем у чырвоную фарбу...

Па-праўдзе, Пранціш вельмі спадзяваўся, што з колерамі ў Бутрыма атрымаецца лягчэй. Ён жа з дзяцінства вучыўся змешваць фарбы ў друкарні Івана Рэніча, бацькі сваёй будучай жонкі. І ўмеў скласці карнацыю, цялесны колер, са свінцовых бялілаў і кінавары, і фарбу посх першага роду, і вянеду з тоўчанага вугалю ды вапны, якой вочы малююць, і фарбу вірыдонавую, якую атрымліваюць, абмазаўшы мядзяную пласціну мёдам, соллю і заліўшы воцатам, як раіў вялікі Тэафіл, і здабыць пігмент сіні сукус з бузіны... Так, Баўтрамей Лёднік, полацкі алхімік, мог бы лёгка для самаўпэўненай паненкі Дамінікі зрабіць дасканалы набор фарбаў... Але намаляваць імі хаця б яблык ён не мог. Вырвіч спрабаваў надаць партрэту хоць трохі прыстойны выгляд, падмалёўваючы, як умеў...

І затрубілі Іерыхонскія трубы, і ўстаў з месца пан Гараўскі, жадаючы пабачыць, як міла выглядае і ў намаляваным выглядзе ягоная ўлюбёная дачушка, без драбочка княгіня Гагарына і свецкая львіца.

Пан стаяў і сінеў, як ультрамарын, бо дыханне пераняло ад абурэння, і замест уцямных слоў сіпеў: «Ш-што? Ш-што?» — і тыцкаў пальцам у карціну, на якой, апярэджваючы свой час на некалькі стагоддзяў, вычварна спляталіся markdown рознакаляровыя пісягі, вымалёўваліся прывідныя сілуэты.

Выразней за ўсё бачыліся два ярка-чырвоныя раты.

Вочы таксама меліся. Чатыры. Здаецца.

А лепш за ўсё Лёдніку ўдаўся парык князя Гагарына. У ім была дасканала перададзеная ўся імклівая, мройная натура князя, падобная да хмаркі, якую трэпле бура... Прынамсі, менавіта гэта паэт Вырвіч тлумачыў заказчыку. Ну і пра новыя павевы ў мастацтве, пра еўрапейскую моду на з’яднанне фарбаў, пачуццяў і снабачанняў у фантасмагарычным капрычыа...

— Кап...капрычыа! Я пакажу вам капрычыа! Падманшчыкі! Злодзеі! Шпегі! Заб’ю!

Пан Гараўскі пачаў ліхаманкава намацваць шаблю, якой, на шчасце, пры ім не было, і мармытаць:

— Усё зблоцілі, злодзеі... Нічога, нічога... Ты, донечка, сама намалюеш... Вунь як мне палацы з пальмамі намалявала…

У дзверы сунуліся былі лёкаі з пераляканымі фізіяноміямі, але паненка адным узмахам рукі адправіла іх назад — адразу стала зразумела, хто ў доме сапраўдны гаспадар.

— Тата! — панна Дамініка схапіла бацьку за плечы і змусіла паглядзець сабе ў вочы. Пранціш у чарговы раз падзівіўся: што за норавы ў гэтым доме? Ды другі даўно б такую дзёрзкую дачку лейцамі па мяккім месцы адхадзіў, хай яна сто разоў шляхцянка.

— Я ж табе колькі казала — маё сэрца занятае! І не гэтым аблізаным князем.

— Глупства... Прыдумала сабе ўяўнага каханка... — сярдзіта і трохі трывожна прагаварыў пан Гараўскі. Паненка ваяўніча прымружыла вочы.

— І зусім не ўяўнага. Вось ён, мой сапраўдны жаніх!

І — тыц пальцам у Пранціша!

На падлогу з сухім шчаўчком упаў пэндзаль, штоываліўся з пальцаў драгуна, і пакаціўся, пакідаючы за сабой на паркеце чырвоны хвалісты пісяг, як след крывавага забойства. Лёднік зірнуў на Вырвіча, нібыта хацеў упэўніцца, што драгун увесь гэты час яго не падманваў, хаваючы амуры з паненкай-мастачкай.

— Тут непаразуменне... — мармытнуў у адчаі Вырвіч, але сямейная драма Гараўскіх разварочвалася ўжо без яго ўдзелу. Паненка Дамініка спрабавала супакоіць раз’юшанага бацьку:

— Забыўся, колькі разоў мне расказваў, як звёз маю пані-маці з дому, дзе цябе не прымалі як жаніха? Як вы ўцякалі, хаваліся, і як каханне за ўсё ўзнагароджвае? Пан-бацька думае, што толькі ў яго так можа быць?

— Дамініка, гэта... гэта занадта! — пан Гараўскі збянтэжана адварочваўся ад дачкі. — Ды хто гэта такі? Валацуга нейкі, жабрак!

— Ён выдаў сябе за беднага мастака, каб пабачыцца са мной, тата! — настойліва малявала рамантычную гісторыю паненка. — Ён шляхціц, з добрага роду.

Пан Гараўскі гатовы быў раскатаць шалбера па паркеце і прытаптаць зверху.

— А гэты... Айсман, партрэтыст гарохавы, ён хто? Найміт-забойца, мяркуючы па фізіяноміі?

— Мой слуга, вучоны чалавек, што ўзгадаваў мяне з дзіцячых гадоў, вашамосць, — прамовіў свецкім тонам Вырвіч. Лёднік хмыкнуў, але змаўчаў. — Мы абодва вельмі засмучоныя, што прычынілі вашамосці такія нязручнасці, і папрасілі б дазволу пакінуць гэты дом, каб надалей не ганьбіць яго сваёй нявартай прысутнасцю.

Пранціш, як мог, велягурыў і кланяўся гжэчна, марачы, каб паненка выпусціла яго з кіпцюрыкаў. Знайшлася нявеста! («Яшчэ адна да кучы», — з горыччу дадалося ў душы).

Панна толькі насмешна броўку прыўзняла:

— Вось бачыш, тата, які мой амарат добра выхаваны. Ён ніколі не ўчыніць нічога нешляхетнага. Калі, вядома, каханне не змусіць пераступіць цераз звычаі. Вы, пан-бацька, не хочаце ж давесці мяне да такога адчаю, каб я парушыла звычаі?

Небарака Гараўскі, якім падступная дачка, падобна, круціла, як хацела — не шляхціц, аануча, — выкрычаўшыся, як след, выцер рукавом лоб.

— Ну як ты не ўцяміш! Ты магла б пісацца вяльможнай, а не проста вельмі паважанай! Твая ж маці была па нараджэнні вяльможнай, а са мной прынізілася, за што вечна буду вінаваты… А радзіна маці тваёй колькі з нас здзекавалася, прыніжала! Можна было б тым фанабэрыстым сваякам нарэшце дулю паказаць, што зноў — на роўных! А месца краўчага, якое можа здабыць Гагарын! Мы б маглі паехаць у Варшаву! Бываць пры каралеўскім двары! Князь вазіў бы цябе ў Санкт-Пецярбург, на балі! Для чаго, халера, я сюды маскалёў повен двор напусціў, каб вёску ўсю аб'елі?

— Ды не надта Пётр Іванавіч пад вянец са мной гарыць ісці, — без ценю жалю прамовіла панна Дамініка. — І прыспешваць яго — не варта годнасці. І на сваякоў матчыных мне начхаць, яны нас не ведаюць, мы — іх. Таму давай, татусю, так... Я змірыся з ранай у сваім сэрцы. Не буду імкнуцца з'яднацца са сваім каханым, — панна махнула рукой у бок ашалелага Пранціша. — І ўгавару яго, небараку нешчаслівага, сысці і больш не турбаваць нас, але й за князя не трэба мяне пхаць. Пётр Іванавіч сказаў жа — счакаем да канца вайны. А да гэтага часу і сэрца маё, можа, загоіцца.

Паненка ласкава гладзіла бацьку па плячы, і ягоны твар пачаў прасвятляцца. Вось жа разумная — змагла ўчыніць, што пан не толькі супакоіўся, але й узрадаваўся, упэўнены, што яму пашанцавала. Дачка не збягае з бедным кавалерам, кавалер ціхамірна сыходзіць, ганьбы няма, з князем, можа, усё і наладзіцца...

— Толькі вазок нам аддайце... — прабурчэў адначасова раззлаваны і разгублены Пранціш.

— Вядома, вашамосць з разбітым сэрцам. А я захаваю на памяць гэты цудоўны партрэт, які найлепшым чынам адлюстроўвае мае душэўныя пакуты... — не ўпусціла паздзекавацца панна Гараўская. Як яна толькі не атручваецца, калі язык выпадкова прыкусвае?

Пан Гараўскі на радасцях нават не папытаўся імя падазронага жаніха ў жоўтай бякешы, відаць, у спадзеве, што больш ніколі яго не пабачыць.

Паненка выйшла праводзіць «жаніха» і ягонага «слугу».

— Што ж, думаю, вашамосці, мы дапамаглі адно аднаму найлепшым чынам, і крыўдаў быць не павінна.

Цяпер голас паненкі гучаў не насмешна, а нават стамлёна. Вырвіч пакланіўся.

— А як вашамосць здагадалася, што я шляхціц?

Панна Дамініка ўсміхнулася, яе вочы зноў дзёрзка заблішчэлі.

— Гэта было няцяжка. Вы з вашым старэйшым сябрам некалькі разоў рабілі такія рухі, быццам хапаецеся за шаблі. І ў вас, васпан, на пальцы сыкгнет з гербам, хоць герб і павернуты ўнутр далані. Ну і ў звычайных валацуг ніяк не мог апынуцца механізм, якому тысяча гадоў, спісаны арабскімі пісьмёнамі, якія вам, вашамосць, — панна Дамініка злёгку пакланілася ў бок Лёдніка, — добра знаёмыя. Але супакойцеся, я не збіраюся раскрываць вашы таямніцы. Шчаслівай дарогі!

Але шчаслівай дарогі не атрымалася. Таму што, калі праходзілі паўз флігель, прыстасаваны пад палкавы шпіталь, Лёднік у расчыненыя дзверы пабачыў, як знаёмы ім доктар схіліўся над параненым расейскім жаўнерам, якога яны з Вырвічам прывезлі, і з дапамогай бліскучых інструментаў збіраецца рабіць над ім нейкія маніпуляцыі. І Пранціш не змог утрымаць Бутрыма, ледзь рукаў яго не адарваў — Фаўст ірвануўся ў расчыненыя дзверы.

— Спыніцеся, васпан! Гэтага рабіць нельга, вы заб'еце пацыента!

Лекар падняў на прыхадня ў пацёртым сінім камзоле невыразныя вочы.

— А табе што за справа? Я дыпламаваны доктар!

Але Лёднік яго не слухаў, а даволі груба адштурхнуў і ліхаманкава закасаў рукавы.

— Пацыент зараз памрэ! Трэба шыць артэрыю...

У вырашальныя моманты голас Чорнага Доктара гучаў уладна і нават пагрозна.

— Абцугі! Ды не так — адразу спірытусам абліце! І рукі мне спірытусам спаласніце...

Вырвіч мог толькі вартаваць уваход ды бездапаможна назіраць, як Лёднік звыкла камандуе ходам аперацыі, а чужы лекар з выцягнутым конскім тварам мімаволі слухаецца, і панна Дамініка раптам рашуча — як рабіла, падобна, усё — пачала ім дапамагаць, як бы заўсёды лекавала параненых. Дапамога не была лішняй: у параненага ішла кроў, даводзілася хуценька падаваць то адзін інструмент, то другі. Лёднік быў засяроджаны і дакладны, як заўсёды...

Калі ўсё скончылася, масковец памацаў пульс параненага суайчынніка і здзіўлена пакруціў галавою: жывы!

Лёднік моўчкі адкасоўваў рукавы, захляпаныя барвай, але на гэты раз не мастакоўскай. Чужы лекар задумліва глядзеў на яго.

— Вось значыць, які вы... Доктар Баўтрамей Лёднік, ці не так?

Бутрым спакойна пацвердзіў.

— Менавіта так.

Пранціш разгублена азіраўся: вакол соўгаюцца жаўнеры, а шаблі ў вазку... Лекар нетаропка выцер рукі простым ільняным ручніком і падаў яго Лёдніку — абсталяванне ў палявым шпіталі было спартанскае, маглі б хоць ручнікоў падкінуць.

— Навошта вы выкрылі сябе? Дзеля ворага... Клятва Гіпакрата?

— Калі можна ўратаваць жыццё, пры чым тут клятвы і небяспека? — спакойна адказаў Лёднік, абцёршы рукі, і паненка Дамініка ўзяла ў яго ручнік, каб скарыстаць самой.

— Добрыя словы, пан Баўтрамей.

Палкавы лекар папытаўся ўсё гэтак жа задумліва:

— Ці не вы пацыента і прыклалі?

Лёднік не збянтэжыўся.

— Не я. Але мог і я. Толькі ён бы тады не выжыў.

Вырвіч закруціўся ў пошуку зброі, хоць калаціны якой.

— Перш чым вы зробіце тое, што павінны, — халодна сказаў Лёднік, гледзячы ў вочы калегу, — я папрасіў бы вас даць мне магчымасць пракансультаваць другога параненага, якога я прывёз.

— Позна, — спакойна прамовіў лекар і падняў руку, як бы папярэджваючы абурэнне і роспыты. — Паверце, ён памёр не таму, што былі кепскія ўмовы ці я яго не лячыў. Сепсіс... Пашкоджаны мозг... Гэта пакуль прысуд. Jura naturae sunt immutabilia[1]. Я рабіў, што мог.

Дзіўна, але Пранціш яму паверыў. І цяпер было ясна, што ўчора, калі яны з ім пазнаёміліся, чужы лекар быў брудным да пояса сапраўды таму, што, як і Лёднік, не вагаўся стаць на калені ў гразь над параненым.

Бутрым маўчаў, па ягонай змрочнай фізіяноміі нельга было здагадацца, што ён чакае арышту і, магчыма, смерці. Расейскі лекар, аднак, не спяшаўся клікаць варту, і не ад таго, што баяўся.

Панна Дамініка абцерла вільготнай анучай твар жаўнера і выпрасталася, сур'ёзна гледзячы цёмнымі разумнымі вачыма на доктара.

— Мяркую, ваш візіт у Капанічы скончаны, гер Айсман.

Палкавы лекар адвярнуўся і залязгаў інструментамі. Пранціш учапіўся ў Бутрыма і вывалак на двор, дзе стаяў вазок.

Апошняе, што Вырвіч бачыў, азірнуўшыся, — паненка Дамініка павольна падымалася па прыступках звілістай лесвіцы, і на хвілю падалося, што за яе фігуркай у простай цёмнай сукенцы цягнецца доўгі, казачна-бліскучы шлейф.

І засталося яшчэ ў памяці, як на развітанне нечаканая «нявеста» падала руку для пацалунку — вакол яе пазногцяў яшчэ можна было ўгледзець нязмытую чужую кроў — і ціха прамовіла:

— Яны ідуць у Тураў, полк Гагарына. Вам жа гэта трэба было разведаць? У іх сапраўды нейкая сакрэтная місія… Бывайце, жаніх!

І Вырвіч, пацалаваўшы цёплую маленькую руку, вымавіў, хоць і не збіраўся:

— Я Пранціш. Шляхціц Франтасій Вырвіч з Падняводдзя. Дзякуй вам, панна Дамініка.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

## Апошняя сустрэча з егіпецкай прынцэсай

Альберт Вялікі раіў, каб чытаць кнігі цёмнай ноччу, намазаць твар крывёю кажана. Кажаноў паблізу не мелася, таму й уласны палец не разгледзіш у гэтым катуху, прыстасаваным пад гаўптвахту.

— Не сумуй, Бутрым, разбяруцца! — удавана бадзёра прамовіў Пранціш, хаця самому было крыўдна, як у дзяцінстве, калі ў езуіцкім калегіуме аднакласнікі дражнілі сына шляхціца-шарачка, што сам вывозіў гной на поле, Гнаевіком. — Падумаеш, дачапіўся да нас нейкі француз! Яго замежная мосць Шарль Дзюмур'е, вайсковы кансультант, дзірка ў плоце... Пасмеў шляхту судзіць! Мяне, нашчадка Палямона, нейкі жабаед абвінавачвае ў здрадзе!

Пранціш сам не заўважыў, як замест таго, каб супакойваць былога слугу, пачаў выплюхваць уласныя перажыванні.

— Ды любы шляхціц на наш бок стане!

— Хто? — змрочна азваўся Баўтрамей і закруціўся дзесьці побач са стрыманым стогнам — з адбітым бокам і на пярыне мулка, не тое што на сене ў гэтай пуні. — Пан Шыман Касакоўскі з месье Дзюмур’е цалкам пагадзіўся. А як іначай? Два камандзіры вяртаюцца з задання без жаўнераў, прычым адзін з тых жаўнераў памёр у палоне. Без мундзіраў, апранутыя, як валацугі, быццам збіраліся дэзерціраваць. Ды яшчэ замест здабытых каштоўных звестак пра дыслакацыю ворага, якія маглі б апраўдаць учынак, вярзуць лухту пра Тураў... А што маскоўскаму палку рабіць у Тураве? Там боек няма, канфедэраты далёка, затое стаяць саюзнікі, каронныя войскі. Дый належыць мястэчка Салагубам, якія падтрымліваюць Фамілію.

У шчыліны між бярвенняў зазірнуў кволы сакавіцкі золак, цемра перастала быць суцэльна сляпой, намеціліся прывідныя абрысы. Вырвіч горка ўздыхнуў:

— Думаеш, паненка Дамініка зманіла? Што войска Гагарына ідзе ў Тураў?

Пранцысь нават у цемры ясна ўяўляў, як Лёднік скептычна прыўзнімае бровы.

— Наўрад. Панна Гараўская — не князёўна Паланэя Багінская, палацавая інтрыганка, для якой ілгаць было як дыхаць.

Успамін пра Паланэю на гэты раз адазваўся толькі ценем расчаравання — не болем, як колісь.

— Але ж і ты, Бутрым, мог прытрымаць свой востры язык і не распісваць, як пашкадуюць канфедэраты, што адмаўляюцца прызнаваць правы некаталікоў, і пры гэтым лічаць годным дамаўляцца з турэцкай Портай. Нас жа ледзь на месцы не пасеклі!

— Бо твае паны-браты бачаць не далей кончыка сваёй шаблі, — са змрочнай насмешкай прамовіў Лёднік. — Дзяржаву ўжо, лічы, прафукалі. Малодшы брат кайзера, прынц Генрых, думаеш, дарэмна некалькі месяцаў у гасцях яе вялікасці Кацярыны правёў? Дамаўляліся, каму які кавалак ад Рэчы Паспалітай ухапіць. Хто ім перашкодзіць? Месье Шарль Дзюмур’е цалкам мае рацыю, калі называе норавы правадыроў канфедэрацыі азіяцкімі ды абураецца, што магнаты больш занятыя баляваннямі, а шараговая шляхта — рабункамі ды двубоямі, чым вайной. Ведаеш, за што яго шляхцюкі ненавідзяць? Таму, што напісаў герцагу Шуазёлю, каб перастаў выплачваць пенсіі ўсім гэтым Пацам ды Богушам, бо яны іх трацяць не на вайну, а на гульбу. Ды яго ў свой час паны-браты ледзь не з’елі, калі даведаліся, што не прывёз ім з Францыі вялікіх скарбаў, адно свае вайсковыя ўменні ды жменьку наймітаў.

— Можа быць, расейскі генерал-марадзёр Крачэтнікаў лепшы ад нашае шляхты? — абурыўся Пранціш. — Абоз за абозам з разрабаваных маёнткаў у Расію шле! Альбо мярзотнік фон Дрэвіч? Гэты з сем’ямі канфедэратаў распраўляецца, не шкадуючы ні жанчын, ні дзяцей. Магнатаў аднаго на другога нацкоўвае, бядой дысідэнтаў карыстаецца, каб іх варожасць да «ляхаў» распаліць. Ці табе хочацца, каб мы страцілі дзяржаву, сталі ўскраінай чужой? Калі тая імперыя сваіх падданых не можа зрабіць шчаслівымі ды сытымі, от жа яна заваяваных ашчаслівіць!

Лёднік скрушна ўздыхнуў, відаць, уявіўшы, як распраўляюцца з ягонай уласнай сям’ёю.

— На вайне заўсёды з кожнага боку ёсць самаахвярныя героі і бессардэчныя нягоднікі, а самае прыкрае — бязвінныя ахвяры... Забойствам апраўдання няма.

— Вось жа ты, можна падумаць, мала забіваў! — Вырвічу не падабаліся гэткія «міралюбныя» мудраванні.

Маўчанне трывала даўжэй і было цяжкім, як вечавы звон.

— На мне шмат чужой крыві, — голас Чорнага Доктара гучаў глуха. — Дарма, што я праліваў яе ў сумленнай бойцы. На вайне — як у выграбной яміне. Немагчыма не выпацкацца, не прасякнуцца смуродам. Я ж калі з-за тваёй недальнабачнай абяцанкі патрапіў у гэтую зваду, даў сабе слова — нікога не забіваць. З аднаго боку ліцвіны ды палякі, з другога — такія ж... Народы нярэдка пажыраюць самі сябе знутры на радасць суседзям. Падзяляюцца, хто як хрысціцца, хто якому князю прысягаў... У Парыжы каталікі ўчыняюць гугенотам крывавую лазню на Святога Баўтрамея, у Вільні ў 1682 годзе натоўп пад правадырствам езуітаў ды з удзелам тагачасных студэнтаў тваёй альма-матар зацята выразаў пратэстантаў ды другіх іншаверцаў. Так што ваявода віленскі Пац, пабачыўшы, што нарабілася пры ягоным папушчальніцтве, «засмуткаваў і амаль што раптоўна памёр». Так і я... Слова не стрымаў. Смуткую... Але ваюю. А якое выйсце? Даць забіць сябе? Ці паплечніка? У той час, як у мяне ёсць зброя і магчымасць абараніцца? Адзінае маё адрозненне ад паноў-братоў — я ведаю, што забойства — грэх, а не забава.

— Падабаецца табе, Скарамуш, асуджаць шляхту, якая ёсць асновай дзяржавы! — раздражнёна азваўся Вырвіч. — Ля ўлады мусяць быць не тыя, хто звык да хамута, а тыя, што цэняць годнасць і волю. Гэта ў Масковіі цар можа любога двараніна на палю пасадзіць, пугай біць ды ноздры вырваць. А наш кароль — усяго толькі абраны намі адзін з нас! І Статут, па якім мы жывём, самы дасканалы і справядлівы ў Еўропе юрыдычны закон! У гэтай дзяржаве кожны шляхціц мае права на справядлівы суд. І мы гэтым скарыстаемся. Трэба пану Рысю звестку паслаць...

Лёднік зноў хмыкнуў.

— Пан Рысь хіба ад пане Каханку мог спадзявацца на дапамогу, а той у Чэхіі, вычэквае... Дзеля таго, каб вярнуцца ў свае палацы ды зноў з панамі-братамі, напіўшыся, шапкамі мяняцца.

Гэта Бутрым згадваў захоплены расповед пана Рыся, як Караль Радзівіл, шчырай душы сармацкі рыцар, падпіўшы, пачынаў мяняцца адзеннем з самым абцерханым шляхціцам. І зграя прыдворных, не жадаючы адставаць ад сюзерэна, далучалася да абмену, а ў выніку ўсе па дзесяць разоў пераапраналіся, забыўшыся, што каму належала. Пры гэтым літасцівы князь Радзівіл раздаваў свае залатыя пасы, кунтушы ды брыльянтавыя зашчапкі з красамоўнымі рэплікамі: «Бяры, дурань, дару!», «На, свіння!», «Трымай, асёл!», «Вазьмі, пасмешышча!»

— Можа, звярнуцца да гетмана Багінскага? — прамармытаў Пранціш, сам разумеючы, што справа дарэмная. Багінскі шчыра ненавідзеў доктара Лёдніка, якому ўдалося, хоць і ненадоўга, і не намерваючыся, прыцягнуць увагу расейскай царыцы, з чым яснавяльможнаму князю так і не пашэнціла.

— Каб твой Багінскі два гады не вагаўся, на чыім баку быць, а адразу кінуў войска выганяць маскву, вайна б даўно скончылася, і мы б жылі ў незалежнай дзяржаве, — сярдзіта прамовіў Лёднік. — І цяпер гетман-кларнэт, была б магчымасць, замест бойкі оперы сачыняў бы.

Памаўчаў і раптам спытаўся:

— А што, пан Вырвіч, цяпер паводле Гамера мы дзе?

Вось жа, запомніў гульню… Вырвіч трохі падумаў, успамінаючы ўніверсітэцкія штудыі:

— Мусіць, паміж Сцылай і Харыбдай мы апынуліся, пан Баўтрамей. Магутныя скалы між сабою б'юцца, а мы пасярэдзіне, як ёсць, заціснутыя…

— Выходзьце, панове! Сам вялікі гетман жадае вас бачыць!

Спамяні, называецца, нячыстую сілу... Цьмянае святло захутанай у шэры хмарны кунтуш раніцы разанула па вачах, як зыркае сонца Лангедока. Але арыштаваным не далі надта раздумвацца, заштурхаўшы ў закрыты вазок.

— Яснавяльможны князь Багінскі адмыслова ў Янава прыехаў, дапытаць вас.

Гэта Пранцішу шапнуў улан, ягоны нядаўні падначалены, сунуўшы апальнаму камандзіру біклагу, як спадзяваўся Вырвіч, з добрай слівавіцай, ды акраец сітнага. Пакуль трэсліся тры гадзіны, дык і спажылі з доктарам, дай Бог дабрадзею здароўечка. Вырвіча цешыла, прынамсі, тое, што ягоныя аднапалчане спачувалі яму — колькі ж разам пораху пакаштавалі, а французскаму кансультанту не давалі веры. І доктару не адзін абавязаны здароўем і жыццём. Таму й Гіпацэнтаўр быў побач, хоць і не ў руках, а ў аховы, і скрынка з Альбукасісавым шлемам — транты арыштаваных запакавалі і адправілі з імі.

Заняпалае мястэчка Янава — пахмурыя шэрыя хацінкі, таполі, цагляная пажарная вежа — сустрэла няветла, як сяржант — дэзерціра.

— Зноў ты, лекар! — князь Міхал Казімір Багінскі грэбліва пазіраў на Лёдніка, які з адсутным выглядам застыў слупам сярод пакоя, толькі нядаўна, мяркуючы па ўсім, завешанага персіянскімі дыванамі — князь нават у паходзе можа карыстацца выгодамі. На падлозе, непагляднай, з шэрых дошак, валяўся пухнаты кілім, як кветкавы луг. Князь выглядаў фацэтна. Сыты, як бычок, аблічча з мяккімі рысамі пакруглела. Другое падбароддзе стала зусім заўважным. Расшыты зялёным шоўкам і срэбнай ніццю кунтуш шчыльна абцягваў жывот, які звісаў над літым слуцкім пасам. Паненка Дамініка Гараўская парадны партрэт намалявала б на фоне пальмаў. Вырвіч шчыра парадаваўся, што перад сустрэчай ім з Бутрымам чамусьці прынеслі форму войска Агінскіх, можа, каб не абражаць абцерханым выглядам вязняў вока гаспадара-эстэта. А форма — файная: саетавыя кунтушы перлавага колеру, зялёныя атласныя жупаны, шаўковыя паясы з кветачкамі і залатымі зоркамі, зялёныя шапкі, абшытыя футрам, ды чырвоныя боты. І праводзілі арыштаваных ветліва, як бы звычайных гасцей. З чаго б такая міласць да «здрайцаў», трэба было задумацца, бо князь Багінскі ажно віраваў ад раздражнення, як па шрубе пахадзіў.

— Відаць, гэта Гасподзь нагадвае мне пра няпэўнасць Фартуны, увесь час падкідваючы ў бот няварты каменьчык, аб які, аднак, націраецца мазоль. Гэта я пра цябе, Бутрым. Такая твая ўдзячнасць за тое, што з рабства цябе выкупіў!

У гэтым месцы яснавяльможнаму можна было б нагадаць, што князь выкупіў прададзенага за даўгі алхіміка ў ягонага выпадковага ўладальніка, шкаляра Пранціша Вырвіча, каб пасланць у сутарэнні Полацка па старажытную рэліквію, а па выкананні ціхенька забіць. Куме, суседзе, згінула сякерка па тваім следзе...

— Ведалі б вы, панове, — працягваў гаварыць князь, нервова ходзячы туды-сюды па квяцістым кіліме, як навязаны баранчык, — як мне хочацца даць вас абодвух расстраляць. Але, на жаль, я паабяцаў захаваць вашы жыцці ў абмен на адну каштоўную рэч. Да таго ж мяне пераканалі, што вы мне можаце быць патрэбныя.

Ага, як стары конь ваўку...

Пранціш з годнасцю ступіў наперад (як шкада, што шаблі не вярнулі) і завёў прачулую прамову, бы ваду на кола ліў — не здрайцы яны з доктарам, а героі, Лёднік адзін шэсць жаўнераў пасек, і выбраліся цудам ды ўласным клёкам, і звесткі здабылі пра варожыя перамяшчэнні...

У гэтым месцы князь ажывіўся, у бляклых вачах бліснула цікавасць.

— Дзеля таго я вас і загадаў прывезці. Паўтарыце дакладна, што пачулі пра Тураў...

Князь вельмі ўважліва выслухаў велягурысты даклад Пранціша. Дзіўна, але Багінскі не пачаў крычаць, як Дзюмур’е — «Што вы гародзіце гароды, які-такі Тураў!», і нават не здзівіўся, што полк Гагарына, узброены трыма марцірамі, кіруецца ў бок горада на Прыпяці.

Вялікі гетман літоўскі тужліва паглядзеў убок, дзе ля сцяны сумавала ягоная ўлюбёная арфа з удасканаленай ім самім педаллю, а каля арфы сумавала прыгожанькая пухленькая кабета з ярка падмаляванымі вуснамі сардэчкам, князева каханка д’Асэ, і лена ела чорны вінаград са срэбнай талеркі. Млявасць паненкі была ўяўнай: у цёмных вачах час ад часу ўспыхвалі ўладныя жарынкі, шпегавала красунька, здаецца, на французаў, а заадно дадавала ваяўнічасці князю, як рука надае форму мяккай скуранай пальчатцы.

— Думаю, можна не папярэджваць вас, што будзе, калі раскрыеце пачутае, — пагрозна звярнуўся князь да гасцей і ўсеўся ў фатэль, абцягнуты залаціста-зялёным саетам. — Да мяне пастуціла данясенне, што Панятоўскі з дапамогай Тызенгаўза і ягоных людзей нешта сур’ёзнае рыхтуюць у Тураве. Цялок баіцца, што расейцы ў яго хутка адбяруць падораную імі ж цацку — польскі трон, і хоча мець нейкую абарону, магутную зброю, якая змусіць з ім усіх лічыцца. Справа нежартоўная, і нават маскоўцы занепакоіліся. Нашто ім моцны кароль, якім нельга круціць, як заўгодна?

Багінскі пагардліва скрывіў вусны, і Пранціш падумаў, што і сам Багінскі лёгка мог стаць такім кішэнным каралём, каб толькі яго Кацярына Другая ўпадабала. Хіба што сёстры князя, ваяўнічыя амбітныя кабеты, ды ягоная жоначка, спрактыкаваная палітыканка, у першым шлюбе Чартарыйская, рукі якой князь не так даўно апантана дабіваўся, граючы п’ескі ўласнага сачынення на кларнеце, пхалі б яго наперад, як войска пхае таран да брамы абложанай крэпасці.

— Вось вам і магчымасць апраўдаць свае правіны. Заўтра ж адправіцеся ў Тураў ды разведаеце, што там рыхтуе Тызенгаўз, ваш нядаўні сябрук. Падрабязнасці вам раскажа граф Пянткоўскі.

Вось яно як... Ішлі лысы ды пляшывы, ды знайшлі грэбень. Зноў брацца за шпегаўскую справу, на гэты раз у якасці двайных агентаў. Тызенгаўзу маніць, што ў канфедэратаў толькі шпегавалі, потым канфедэрацкаму гетману дакладаць пра таемныя справы кароны... Заміж таго, каб сумленна шабляй махаць! От патрапілі ў ваўчыную яму, хоць вый... Пранціш скасавурыўся на Лёдніка — той стаяў занадта выпрастаны і занадта збялелы — і рашуча звярнуўся да князя:

— Ваша княская мосць, пан Баўтрамей паранены. Яму трэба хоць некалькі дзён адляжацца.

Бутрым паслаў Пранцішу адзін са сваіх злючых позіркаў, але Багінскі да таго моманту ўжо страціў усю энергію, нібыта раскруцілася спружына ў васковай лялькі, і паблажліва махнуў рукой.

— Шавец без ботаў, лекар без здароўя. Лячы свайго былога халопа.

Князя прыцягвала арфа, як шкаляра — велікодная булка. Мусіць, толькі й чакаў вярнуцца да перапыненага працэсу сачынення чарговай оперы.

— Вось цікава, а я чула, што пан Лёднік быў надзвычай прыязна прыняты пры двары расейскай імператрыцы, — раптам пачуўся таненькі млявы галасок. Мадам д'Асэ вырашыла ўмяшацца ў гутарку і нават стала па левую руку ад крэсла князя. Спадніцы пані пагойдваліся, нібыта на хвалях плыў шаўковы намёт.

— Я ўсяго толькі быў прывезены ў палац на адзін вечар, каб удзельнічаць у разглядзе важнай палітычнай справы, вашамосць, — суха прамовіў Лёднік. Пранціш выдатна памятаў той вечар. Арыштаванага прафесара Віленскага ўніверсітэта Лёдніка, які нават пад катаваннем не прызнаўся, што ягоныя студэнты ўдзельнічалі ў закалоце супраць кароны, прывезлі ў Санкт-Пецярбург на дазнанне. Царыца не паверыла, што адзін чалавек мог стрымаць пасланы арыштоўваць змоўшчыкаў атрад, і Бутрыму давялося з шабляй у руках, на пацеху прыдворным, даказваць сваё фехтавальнае майстэрства. Чым вельмі ўразіў імператрыцу, якая дужа любіла мужчын баявітых ды небяспечных. Лёдніку ўдалося пераканаць уладарку не чапаць акадэмію, але застацца пры двары ён наадрэз адмовіўся, як і ад ролі часовага фаварыта, і быў зараз жа высланы з расейскай сталіцы напалоханым магчымай канкурэнцыяй каханкам Кацярыны Грыгорыем Арловым.

Бутрым свае прыгоды ў царскім палацы згадваць адмаўляўся, але чуткі пайшлі, як кругі ад жабы, што скочыла ў сажалку. Вось і д'Асэ абмярала Чорнага Доктара цікаўным позіркам цёмных, як спелыя вішні, вачэй, і відавочна вышуквала, што ж у гэтым змрочным хударлявым тыпусе ёсць такога прывабнага, што й імператарскую асобу змагло зацікавіць. Ну і, напэўна, прыкідвала, як можна выкарыстаць новую і вельмі незвычайную фігуру ў сваёй шпіёнскай гульні. Лёднік рабіў выгляд, што не заўважае пільнай увагі красунькі, затое князь адразу ж зноў уз'ятрыўся і не папусціў прынізіць нявартага суперніка.

— Вось гляджу я на цябе, Бутрым, і дзіўлюся. Якая ж ты нікчымнасць. Усё табе ў рукі давалася. Мог быць цяпер генералам, можа, нават канцлерам, змясціўшы Паніна, ну хаця б прыдворным доктарам. А заміж таго стаіш перада мной, пабіты, з літасці маёй жывы, у адзенні майго слугі. І нават падораную табе на памяць манархіняй бясцэнную святыню ты, дурны халоп, аддаў, як непатрэбную анучу... Хаця й правільна — не ў тваіх рабскіх руках яна павінна знаходзіцца, а ў чалавека высакароднага, які ведае цану падарунку імператрыцы!

Князя ажно распірала ад ганарлівага задавальнення, як бочачку з перастаялым півам.

— Вашамосць атрымаў у абмен на нашы жыцці карону святога Альфрэда? — ветліва папытаўся здагадлівы Лёднік. Вось нечаканы паварот...

— Не твая справа! — раздражнёна крыкнуў князь, аж мяккі твар затросся. Затое ягоная каханка напружылася, падабралася, як ласка перад тым, як кінуцца на птушаня. Та-ак, Бутрым, падобна, зноў князю напаскудзіў, выкрыўшы, што той валодае рэччу, за якой палююць вельмі небяспечныя асобы.

А Пранціш з прыкрасцю адзначыў, што і цяпер, падобна, Раіна пастаралася... Карону святога Альфрэда, якую Кацярына Другая падарыла на памяць Баўтрамею Лёдніку, той аддаў, каб выкупіць Раіну Міхалішыўну ў яе гаспадара, вандроўнага мага і шалбера Батысты. На рэліквію палявалі езуіты, рэліквію хацеў залучыць сабе князь Багінскі, і крывавы след усё пашыраўся за артэфактам дванаццатага стагоддзя. Ніхто, акрамя Раіны, не мог выманіць рэліквію ў Батысты, бо сам вандроўны маг не ахвяраваўся б, а хутчэй пясочкам магілы Лёдніка ды Вырвіча прысыпаў бы ды зверху тарантэлу станчыў.

— Пайшлі прэч! Каб праз тры дні выпраўляліся ў Тураў. Я даў слова захаваць вашы жыцці і здароўе, але захоўваць іх я магу і ў вязніцы.

Д'Асэ з міла-драпежнай усмешкай прысоўвалася да Багінскага, і было зразумела, не супакоіцца, пакуль з князя не вытрасе ўсё пра карону.

Вось цяпер ясна, чаму з арыштаванымі абыходзіліся ветліва, апранулі, накармілі, зброю вярнулі... Усё ў аплату за рэліквію! Засталося знайсці месца для таго, каб дні са тры адпачыць.

А з гэтым у маленькім мястэчку былі праблемы. Паўтары сотні хат, у рэшата можна згрэбці, а на пастой з'явіўся полк у дзвесце шабляў. Нарэшце адзін месціч, задумлівы мужык з такімі доўгімі пшанічнымі вусамі, што маглі дастаць да дна куфля з півам, параіў зайсці ў апошні дом на Татарскім канцы, які належаў нейкай Маланцы Гарабурдовай. Дом дыхтоўны, але не заняты, бо там нейкая паскудная хвароба, магчыма, тыфус, магчыма, чума, а жаўнеры ў час зацішша паміж бойкамі людзі прымхлівыя, заразы баяцца больш, чым кулі.

У кампаніі доктара Лёдніка заразы баяцца аніяк не выпадала, і парачка толькі што завербаваных шпегаў пашыбавала туды.

Строгая пані Гарабурдова, у чорным капоце і каптуры, як відаць, шаноўная ўдава, гасцям узрадавалася. Вылучыла ім асобны пакойчык, дзе былі не сеннікі, а два прыстойныя тапчаны і мажны камод на прыгнутых ножках, нібыта прадмет мэблі прысеў у багавейлівым рэверансе. І плату ўзяла паблажлівую. Радасць пані вытлумачылася хутка: варта было абодвум шпегам упасці на тапчанчыкі, за сцяной пачуўся такі пакутлівы, надрыўны кашаль, што Вырвічу стала непамысна. Зразумела, чаму іншыя пастаяльцы адразу заварочвалі адсюль. А Лёднік, вядома, пацёгся да гаспадыні прапаноўваць лекарскія паслугі.

Але пані Гарабурдова прадказальна вырашыла, што госці ў прэтэнзіі, і пачала запэўніваць, што ніякай заразы няма, проста адзін праезджы застудзіўся, але добра лечыцца, у дактароў быў, і ўсе лекі мае. І найперш хворы хоча, каб яго не турбавалі і не ведалі ягонага імя. А колькі заплаціў шчодра, як бы сам кароль, дык і заслугоўвае, каб ягоныя просьбы шанавалі. А што чуткі ходзяць пра заразу — дык гэта назнарок кемная гаспадыня распускае, каб п'яныя ўланы на дарэмшчыну не засяляліся. Хіба па-хрысціянску — хворых цурацца, вунь Францыск Асізскі нават да пракажоных хадзіў. А прыслуга няшчаснага хворага ўцякла, кінуўшы яго ў бядотным стане на самоце. Але пані Гарабурдова сама шчодрага госця даглядае і спакой ягоны і... як гэта... ін-ког-ні-та беражэ непахісна.

Што ж, Лёдніку і самому патрэбная была дапамога. Калі ён задраў кашулю, выявілася, што доктарскі бок нагадвае карціну ў ягонай жа жывапіснай манеры. Колеры пераліваліся ад цёмна-фіялетавага да пяшчотна-сіняга. Здабыты ў гаспадыні драўляны алей, хлеб з плесняй, мёд, дзёгаць, шчопаць ладану ды іншыя рэчывы былі змяшаныя ў адмысловы бальзам аўтарства прафесара Лёдніка і шчодра намазаныя на ягоныя няшчасныя скабы.

Ноччу сон Пранціша час ад часу перарываўся тым самым пакутлівым кашлем за сцяной, толькі прыглушаным, быццам хворы перхаў у падушку, каб нікога не трывожыць.

А на раніцу — дакладней, у той час, калі падпітыя ўчора шляхціцы паспелі ўжо прадраць вочы і прагнаць смагу першымі глыткамі добрага піва альбо й слівавіцы, у дзверы Гарабурдзіхі закалацілі, нібы са звесткай пра канец свету.

Але, прынамсі, звестуны Армагедона выглядалі б больш самавіта, чым гэтыя. Зброд, навербаваны абы-дзе, вечныя найміты вайны, якім усё роўна,

пад якім сцягам забіваць ды чым атрымліваць плату — талерамі, франкамі, кронамі, фунтамі, рублямі... Наколькі можна было зразумець, атрад наймітаў толькі што заявіўся папоўніць войска канфедэратаў, і ім таксама хацелася даху над галавой і лаўкі пад азадкам, каб распіць на той лаўцы, магчыма, свой апошні куфаль. Такім ганчакам смерці — абадраным, ганарыстым, з пустымі шалёнымі вачыма — няма чаго губляць і няма чаго баяцца. Ім, вядома, распавялі, што ў доме надта хворы, ад якога можна заразіцца. Пакажыце ж тую падлу, з-за якой сумленным жаўнерам няма дзе пасяліцца. Калі ён усё роўна памрэ, дык адпраўце ў камору альбо на гарышча... Па мніхаў пашліце, каб у манастыр завезлі дзеля хрысціянскай канчыны.

Лямант гаспадыні, падтрыманы віскам ейнай прыслугі, узлятаў да нябесных сфер, але тыя сферы, згодна Піфагора, і самі спяваюць ды лямантуюць. А гіцалі ўжо ўламіліся ў дом шаноўнай удавы і бясчынствавалі ля дзвярэй, з-за якіх даносіўся прыглушаны кашаль. Вырвіч не вытрымаў.

— Гэты дом заняты, панове! Тут пасяліліся два шляхціцы. Шукайце сабе жытло ў іншым месцы.

Жаўнер у насунутай на самае вока шыкоўнай шапцы з сабалінай аздобай і вялізным дыяментавым гузам, велікаватай яму, якая да таго ж недарэчна спалучалася з пашарпаным жупаном з бумазеі — ясна, што ваенны трафей, ашчэрыўся:

— Я сам шляхціц, вашамосць! З роду Гасціловічаў герба Далега, і нікому не дазволю абражаць сябе і сваіх паноў-братоў, з якімі на полі бойкі з'ядналіся! Не ведаю васпана і ведаць не хачу, і месца сабе здабуду сумленнай сваёй шабляй!

Кампанія зараўла, вочы загарэліся, як у ваўкоў, і штосьці тлумачыць ім было бескарысна. Самотны шляхціц у форме простага ўлана здаваўся ім лёгкай здабычай. Не засекчы — дык пацешыцца, фанабэрыю з чужынца збіць... Яны ж не ведалі, што Вырвіч меў досвед не толькі афіцэра драгунаў, але й настаўніка фехтавання. Вось толькі і прыхадні не былі шараговымі жаўнерамі... Гарабурдзіха лямантавала, шаблі звінелі, і Вырвіч, угневаны дарэшты, не збіраўся нікога шкадаваць. Вось ужо адзін, з пабітым воспай злым тварам, заціскае рану на перадплеччы...

Пралітая кроў не ахаладзіла, а толькі разгарачыла, як дармовая гарэлка.

— Бі! Сячы! Г-га! Г-га!

Напэўна, калідор перад дзвярыма, за якімі ўсё гучней нехта перхаў, ператварыўся б у залітую крывёй і заваленую целамі рознай ступені цэласнасці разніцу, але грымнуў нізкі вокліч:

— Ці-ха! Панства не можа дацярпець да поля бою? Трэба ў дамах мірных жыхароў сечы ўчыняць? Пад трыбунал захацелі?

Бойка на хвілю сунялася. Было чаго. Бо Лёднік, у кашулі навыпуск і накінутым на плечы жупане, выглядаў дакладна як адзін з чатырох вершнікаў Армагедона. Высокі, напяты, рука цвёрда сціскае шаблю, чорныя патлы звісаюць на плечы, на збялелым худым твары запалыя ад стомы цёмныя вочы, драпежны доўгі нос, вусны крывяцца жорсткай усмешкай... Дакладна не марцыпанамі пачастуе.

— Бі!

Найміты, здаецца, забыліся ўжо, з-за чаго пачалася бойка, і хацелі проста яшчэ трохі п'янкога напою з чужой смерці і болю, як бандзюкі-лестрыгоны, што шпурлялі абломкі скал у Адысееў карабель... Ну, атрымайце! Шабля Пранціша ўпілася зноў у чужое цела. Але доктар уладна схапіў Вырвіча за плячук:

— Адыдзіся! Заб’еш каго, зноў арыштуюць.

Скінуў жупан і ірвануўся наперад, арудуючы плазам шаблі, выкручваючы рукі так, што зброя адразу з абражаным звонам падала на падлогу... Круціўся, ажно шабля свістала, а голай рукой адштурхоўваў абяззброеных так, што здавалася, штурхае разгайданы звон. А калі адзін з нападнікаў адляцеў проста ад скіраванай у яго на адлегласці далані Лёдніка — а Бутрым доўга вучыўся такому ўдару ў знаёмага кітайца, — нязваныя госці ўсвядомілі: штось творыцца нязвыклае.

— Вядзьмак, пане-браце! — зароў хтось з абяззброеных і аглушаных аматараў чужога жытла. — З нячысцікам не звадзімося!

— Ды хай згарыць гэты кляты дом! — прастагнаў другі пад развітальны выспятак ад Вырвіча.

Калі дом апусцеў, Лёднік сагнуўся ад болю, трымаючыся рукой за бок, на лбе праступілі кроплі поту. Падлячыўся, называецца.

— Вось ён, сапраўдны твар вайны... — прасіпеў скрозь зубы. З-за дзвярэй пачуўся пакутлівы кашаль... А дзверы ж прыадчыненыя! Тыя гіцалі амаль іх выламалі. Вырвіч асцярожна штурхануў пашчапаную створку...

— Прашу вас, не глядзіце!

Раіна Міхалішыўна захінала аблічча тонкімі рукамі, больш падобнымі да абцягнутых костак. Голас непазнавальна змяніўся, хрыплы, сіпаты, ціхі, як травінка. І хто б мог падумаць, што такі страшны, глыбокі кашаль спараджаюць грудзі кволай маладой кабеты!

Лёднік, быццам і не здзівіўся, прысеў на край ложка, асцярожна ўзяўся за худую руку, што закрывала твар, намацаў пульс.

— Я ж папярэджваў вас, Раіна, — заставайцеся ў мяккім клімаце... Горы, кіпарысавы лес...

Пранціш з жахам глядзеў на тую, каго збіраўся назваць жонкай. І з цяжкасцю пазнаваў у гэтым змучаным стварэнні егіпецкую прынцэсу Семпенсентру, яна ж графіня Серафіна, што вытанцоўвала на гарачых вуголлях ды чаравала вогненнымі позіркамі. Вочы запалі і нібы выцвілі, русявыя валасы зліпліся ад поту... Попел, пыл і павута... Вось-вось адляціць матылёк, пакідаючы срэбны пылок ад крылаў на грубых пальцах нядаўняга шчаслівага паляўнічага.

Вырвіч раптам усвядоміў, пра што калісьці спрачаўся Скарамуш з дэ Вардам, калі аглядаў важную пацыентку. Барон не даў вучонаму рабу ўстурбаваць яе безнадзейным дыягназам і паспяшаўся справадзіць да Месмера. Няхай той адказвае, калі што...

— Чаму вы абое не сказалі мне?

Голас Лёдніка быў змрочны, але спакойны:

— Таму што спадарыня Раіна не хацела, каб вы, пан Вырвіч, ведалі, што ёй нядоўга засталося. І я спадзяюся, што васпан не распачне зараз дакоры ды пафасныя крыўды.

Раіна закашлялася, і Пранціш проста зайшоўся ад жалю і жаху, назіраючы, як выгінаецца яе худое цела, напружваюцца жылы на шыі... Лёднік дапамог кабеце адпіць адвару і мякка прамовіў:

— У мяне няма з сабою лекаў, але я мог бы і без іх паспрабаваць зменшыць боль... Рукамі. Я... магу, вы ж ведаеце, Раіна.

Бутрым і праўда ўмеў рабіць адмысловы масаж, які некаторыя лічылі чараўніцтвам. Але Раіна толькі ўсміхнулася збялелымі вуснамі і прашаптала:

— Дзякую, пан Баўтрамей... Але боль — гэта часам... добра. Ён нагадвае, што ты яшчэ жывы...

Пранціш не вытрымаў і штурхануў доктара:

— Чаго сядзіш? Я здабуду табе любыя інгрэдыенты, толькі спіс складзі. Давай, ідзі, пачынай варыць мікстуры, тынктуры! Бачыш, ёй кепска!

Але той не зрушыўся з месца, горыч і стома гучалі ў голасе.

— Доктар — усяго толькі чалавек, пан Вырвіч. Павер, каб хоць найменшы шанец...

Што ён гародзіць? Лекар, які столькі разоў са смяротнага ложка людзей падымаў! Заміж каб лячыць, нешта хворай расказвае пра іх з Вырвічам прыгоды, нібыта супакойвае напалоханае начніцамі дзіця.

— А адкуль у вас, Раіна, апынулася карона Святога Альфрэда? Вы спаткаліся з Батыстам?

Раіна, слухаючы Лёдніка, не адводзіла вачэй ад Вырвіча, сумных такіх, спакойных вачэй, якія заглядалі ўжо крыху далей, чым дазволена зямному воку, і Пранцішу хацелася раўці. Усё, што ён мог, — трымаць Раіну за руку, а якія ж халодныя пальцы, і даваць сабе слова быць хоць цяпер з ёю да канца.

— Я тады прыехала за вамі ў Францыю. Вы былі ў Ліёне, але зарабіць дастаткова грошай і заняць нейкае пэўнае становішча мне выпаў шанец у Парыжы, — пачала распавядаць Міхалішыўна слабым голасам, перарываючыся на кашаль. — Вядома, пашанцавала не адразу. Даводзілася і ў балагане па дроце хадзіць, і па вуліцах з жанглёрамі... Аднойчы так застудзілася, што ўсе застарэлыя болькі й праявіліся, і я зразумела — пакацілася кола з адхону... Нядоўга мне тузацца на вяровачцы лёсу. На вуліцы й пазнала мяне Мары, сяброўка-актрыса — мы пазнаёміліся з ёй у Версалі, дзе Батыста праводзіў сеанс магіі. Запрасіла ў Камедзі Франсэз. На жаль, голас я тады ўжо амаль страціла, спяваць не магла, а іграць у спектаклях хоць субрэтак, ды танчыць — чаму не? Аднойчы ў мой пакой у пансіёне пастукаліся і аб’явілі, што па мяне прыехаў мой муж. Прызнацца, я падумала... — Раіна адвяла вочы, на запалых бледных шчоках загарэліся дзве ружовыя плямы, і Вырвіч зразумеў, што тады яна вырашыла, быццам гэта ён, ліцвінскі драгун, знайшоў збеглую нявесту.

— Але гэта аказаўся Батыста, — горка зазначыла колішняя асістэнтка мага. — У яго ж былі выпраўленыя калісьці фальшывыя дакументы аб нашым шлюбе. Закон аказаўся на ягоным баку. Мяне маглі пасадзіць у турму за адмову суправаджаць мужа. Луіджы распавёў, што карону святога Альфрэда ў Францыі выгадна прыстроіць не ўдалося, караля цікавілі больш спакусныя рэчы, чым пазбаўлены каштоўных каменняў пагнуты залаты абруч. І мой уладальнік збіраўся, як вы яму раілі, адпраўляцца ў Ангельшчыну, адкуль карона й была ў свой час скрадзеная. Ангельцы, маўляў, шануюць традыцыі, кароль Георг дакладна захоча вярнуць рэліквію ў каралеўскую скарбніцу! Мая воля да ўвагі не бралася, Луіджы замкнуў мяне ў пакоі і запэўніў, што на раніцу забярэ з сабой. Але ноччу па яго самога прыйшлі. Раніцай прыслуга знайшла яго мёртвым. Не варта было гандляваць святой рэччу, ды яшчэ ў езуітаў скрадзенай...

— Напэўна, езуіты і пастараліся? — удакладніў Пранціш. Раіна пацвердзіла:

— Думаю, яны... Бо Луіджы быў атручаны. Мясцовы доктар запэўніў, што мой так званы муж памёр ад сардэчнай хваробы, ніякіх прыкмет гвалтоўнай смерці... Але Батыста ў свой час навучыў мяне добра разбірацца ў атрутах. Ціхая хуткая смерць за пісьмовым сталом, на якім застаўся пусты келіх... Думаю, Луіджы пашанцавала. Ён усё жыццё баяўся памерці ў вязніцы.

Вырвіч падумаў, што злыдзень не дарэмна баяўся. Злачынстваў на рахунку вандроўнага мага хапала.

— Ён хоць не паспеў табе нашкодзіць пры сустрэчы? — з горыччу папытаўся Вырвіч, памятаючы, як Раіна ўвесь час прыпудрывала сінякі — вандроўны маг выхоўваў дзёрзкую рабыню, выкупленую ў Слуцкім тэатры. Пальцы актрысы ўздрыгнулі.

— Якая цяпер розніца... Затое сваёй смерцю ён учыніў мне нечаканае дабрадзейства. Я засталася шаноўнай удавой. Да таго ж, вельмі багатай удавой.

Дык вось адкуль у Раіны былі грошы! Краем вока Вырвіч заўважыў, што Лёднік далікатна выйшаў з пакоя. Вырашыў даць развітацца маладым... Але Вырвіч усё яшчэ не мог паверыць, што дайшло да развітання. Зараз Бутрым вернецца з самымі надзейнымі лекамі!

— А як жа езуіты дазволілі табе ўспадчыніць карону святога Альфрэда? — пацікавіўся Пранціш, перачакаўшы чарговы прыступ пакутлівага кашлю ў хворай.

— Зразумела, забойцы ўсе рэчы Батысты ператрэслі, але кароны не знайшлі. У нас жа было шмат абсталявання для фокусаў, ніводзін куфар не без двайнога дна, люстраныя скрыні, магічныя шары. Праз год я й знайшла выпадкова ў адным з тайнікоў прыхаваную карону... Вось і прыдалася яна. Як жа я рада, што змагла яшчэ раз хоць трохі вам дапамагчы! Наастачу...

Пранціш пагладзіў худую руку.

— Ты яшчэ не раз дапаможаш мне... Анёл мой...

Светла-зялёныя вочы, бліскучыя ад ліхаманкі, прыплюшчыліся.

— Наўрад, пан Пранціш, можна назваць мяне анёлам... Але, спадзяюся, што й у бесцялесным стане я змагу пільнаваць ды спрошчваць вашыя шляхі.

Вырвіч сціснуў танюткія пальцы, як прахалодныя сцяблінкі веснавых кветак.

— Не кажы так!

— Ды што ж ужо займацца ілюзіямі ды сімваламі! — квола ўсміхнулася егіпецкая прынцэса. — Такі закон сцэны... Я — персанаж, які адыграў сваю ролю і мусіць сысці, каб саступіць месца іншаму персанажу. Больш цікаваму, якому аўтар адвёў важную ролю.

Пранціш страсянуў русявым чубам.

— Ды я б такога аўтара... Няздара! Што ж гэта за п’еса? Цяпер самы час для шчаслівага завяршэння. Разлучаныя закаханыя спаткаліся, праверылі пачуцці... І надалей павінны быць разам.

З вачэй Міхалішыўны праменілася мяккае светла-зялёнае святло.

— Гэта п’еса іншага жанру, дарагі пан Франтасій. Наш з вамі аўтар пайшоў вельмі банальным шляхам, выпісваючы слязлівую сцэну ў спачывальні. Збеглая нявеста памірае на руках жаніха... П’еса для чуллівых пакаёвак, якія вымачаць у саплях ды слязах усе батыставыя хусткі.

Вырвіч мімаволі пасміхнуўся.

— Гэта кепскі аўтар, Раіна. Трэба павучыць яго драматургіі.

— Позна...

Як жа яна на яго глядзела — з такім замілаваннем, з такой любасцю і адданасцю кабета не павінна пазіраць на мужчыну...

— Вас чакае іншая дзея, з іншымі персанажамі, дарагі пан Вырвіч, і другім, шчаслівым, фіналам, як і мусіць у авантурна-прыгодніцкім рамане. А мне дазвольце адкланяцца... Я чую апладысменты ў зале. І вуголлі пад маімі нагамі ўсё разгараюцца...

Дзесьці на вуліцы загарлалі п’яныя жаўнеры, завішчэла нейкая дзеўка... Нястройныя галасы завялі ваярскую песню:

Падымаліся чорны хмары,
неба пакрывалі,
Прыхадзілі злы татары
ды пад Крычаў сталі,
Запалілі стары Крычаў,
вежы запалалі.
Стары Крычаў падымаўся,
людзі ў рады сталі.

Але Вырвіч заўважаў толькі, як часта і слаба калоціцца сэрца ў ягонага няспраўджанага лёсу. І проста каб пагаварыць пра штось іншае, запытаўся:

— А што там у Тураве, не ведаеш? Навошта князь Багінскі нас туды пасылае?

Спытаўся — і зараз жа пашкадаваў, таму што хворая ўсхвалявалася, заперхалася, закруцілася і не адразу змагла выціснуць з сябе:

— Я дамовілася з князем толькі пра тое, што ён адпусціць вас узамен за карону і не будзе ўчыняць ніякай шкоды! Ён слова даў! Не ўблытвайцеся, пан Вырвіч, у новыя авантуры! З'язджайце як мага далей, у спакойнае месца!

Значыць, зноў магнаты маленькімі людзьмі гуляюцца... А спакойнае месца — дзе яно? На востраве Агігія, дзе Юпітэр трымае ў палоне ўласнага бацьку Сатурна, альбо на востраве Авалон, дзе лечыць свае вечныя раны кароль Артур, альбо на Белым востраве, які замест высахлага мора абкружае пустыня Гобі? Як жа хочацца часам апынуцца на такім востраве, дзе няма смутку і нуды, вайны і хваробы, а харчавацца можна вялізнымі арэхамі, што валяцца проста на галаву... Праўда, можна апынуцца і на востраве злой чараўніцы Кіркі, што ператварае падарожных у свіней... Затое як ім спакойна ды сытна жывецца! Нейкі час...

Вярнуўся Лёднік, з дзвюма шаблямі. Буркатнуў, што зноў бэйбусы ламіліся ў дом, давялося праганяць. Прынёс Раіне новы адвар... Але не валодаў той адвар уласцівасцямі філасофскага каменя і не мог адабраць у смерці тое, што ўжо належала ёй.

І ўсё гэта было так сумна, што нават Сафокл, майстар трагедый, калі б узяўся апісваць, дык ператварыў бы ўсіх для надання аптымізму ў антычных багоў, і гераіня стала б дачкой не крычаўскага збройніка-паўстанца, а якогась алімпійскага каваля Гефеста, і ператварылася на вачах каханага ў кветку альбо птушку, ці яшчэ лепей — зрабілася б сузор'ем. І праз колькі год вучоны доктар Баўтрамей Лёднік, папіваючы гарбату ў альтанцы ўласнага маёнтка, важна паказваў бы гэтае сузор'е госцю, свайму быламу вучню пану Франтасію Вырвічу, гетману альбо палкоўніку...

Але на беларускай зямлі любая антычная трагедыя выглядае бляклай, як нарэзаная з фольгі мішура леташняга карнавалу, і гэтак жа няздольная прыкрасіць несправядлівую гісторыю.

А потым, калі яны вярнуліся з беднай вясковай цэркаўкі — трэба было заплаціць святару за адпяванне, і ў роце стаяў яшчэ палыновы прысмак гарэлкі, адсёрбнутай над свежым насыпам на бедных сельскіх могілках, ля ганка іх пераняў вялізны белавалосы чалавек, вочы якога свяціліся то бяздонна-чорным, то чырвоным, а вусы былі агідна светлымі, як у пацука.

— Граф Пянткоўскі да вашых паслуг, спадарства! — насмешным гучным голасам прамовіў чалавек. — Нешта не бачу радасці ад сустрэчы на абліччах сваіх старых сяброў!

— Герман Ватман! — скрозь зубы прагаварыў Лёднік і схапіўся за шаблю. Граф не варухнуўся, толькі ўсмешка на ягоным спаласаваным шна-

рамі твары сталася яшчэ шырэй. Як у папуаса, які прымае ў гасцях смачнага ангельскага місіянера.

— Ты ж, здаецца, баронам быў...

— Цяпер я яшчэ і граф. Да кучы, — Ватман па-блазенску пакланіўся. — У апошнюю нашу сустрэчу ты, доктар, быў куды болей кемлівы. Нават забіваў мяне нейкім адмысловым чынам... Голай рукой, не дакранаючыся...

— Відаць, я кепска засвоіў гэты адмысловы чын! — Лёдніка аж калаціла ад нянавісці і трывогі, а ягоны пагляд змушаў успомніць легенду пра тое, што Піфагор спыняў позіркам статак шалёных быкоў.

— Мяне не так проста забіць, — меланхалічна прагаварыў Герман Ватман. — Si modo vera fatemur[2], можа, мяне ўвогуле нельга забіць, і я дажыву свой век, як гэткі скурчавелы дуб, пакуль сам па сабе не спарахнею. І чаго ты трасешся, доктар, ажно шабелька з ножнаў выскоквае? І ты, драгун, вачыма не бліскай, іскры з мяне позіркам не высечаш. Я — найміт. Самы лепшы найміт для самых багатых уладароў. Цяпер мне заплацілі, каб я ехаў з вамі двума ў Тураў — зусім як у старыя добрыя часы, праўда? Разнюхаеце, што там Тызенгаўз хавае, і па што Гагарын прыпёрся, а я вас дапільную, каб дачасна не ляснуліся альбо не ўцяклі. А потым можаце паспрабаваць мяне яшчэ раз забіць.

Беларуская вясна ціха ўсхліпвала першымі ручаінамі, што ніяк не маглі выбрацца з-пад кары шэрага снегу.

— Няўжо князь Багінскі думае, што мы паедзем кудысь з васпанам? — Пранціша, вочы якога і так гарэлі ад пралітых слёз, ажно перасмыкала ад аднаго пагляду на абыякавае аблічча волата, які ўжо не раз падчас такіх вось магнацкіх даручэнняў спрабаваў ад нядаўніх паплечнікаў пазбавіцца, а жонку Бутрыма, узятую ў закладніцы, аднойчы згвалціў.

Ватман лена агледзеў панылыя краявіды Янава, асобна затрымаўшыся паглядам на шэрай хмарцы, якая заплёўвала халоднымі дробнымі кроплямі ягоны шыкоўны капялюш з чорнай замшы, абшытай срэбнай тасьмой, з вялікім смарагдам на спражцы.

— А будзеце ірвацца са сваіх нітак, дарагія мае балванчыкі, дык балаган належыць не вам. Полацак пад рукою гетмана польнага Аляксандра Сапегі, які толькі што даў згоду далучыцца да барскай канфедэрацыі, і сям'і здрадніка небяспечна ў гэтым горадзе заставацца.

Лёднік збялеў, учуўшы нежартоўную пагрозу Саламеі і дзецям.

— Ды не пераймайся ты, лекар, — Ватман, здавалася, гатовы быў паляпаць Чорнага Доктара па плячы, каб не ведаў, што пры гэтым канкрэтна рызыкуе ўпадобіцца аднарукаму спартанцу Муцыю Сцэволе альбо гэткаму ж аднарукаму гішпанцу Сервантэсу. — Я ўмею рабіць сваю працу. Таму пакуль яе не зробім — табе й тваймy сябруку нічога не пагражае. А потым... — у вачах волата запалілася барвовае неба Рагнарок, апошняй бітвы сусвету, — а потым я цябе заб'ю.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

## Як Пранціш і Лёднік вадзянога змея лавілі

Кельты верылі, што калі выйсці з дому, не маючы пры сабе ніводнага жалезнага прадмета, ні з кім не павітацца і нікога не аблаяць, а да гэтага было паўтара тыдня засухі, то ўвечары на зацішнай палянцы пабачыш вакол сябе карагод кобальдаў. Гэткіх даўганосых лупавокіх карузлікаў, што ахоўваюць скарбы.

Жалеззя пры шпегах князя Багінскага было дастаткова — шаблі, пісталеты, стылеты, нават шлем Альбукасіса ў скрынцы Лёднік ашчаджаў, як паненка пудраніцу. Не тое, каб за дзень шмат з кім віталіся — а вось лаяліся парадкам. Асабліва Герман Ватман на нямецкай мове, а Лёднік на лаціне. Ну а да бліжэйшай засухі было ўвогуле далекавата — валіў сакавіцкі мокры снег, які часам змяняўся на шчыры дождж. Адкуль жа ўзяўся гэты кобальд перад вачыма?

Надта ўжо шматняк з папяровага млына, які ўпарта пагрукваў коламі на адным з прытокаў на Прыпяці, нагадваў кобальда. Шматнякамі называлі адмысловых людзей, якія ездзілі па ваколіцах ды збіралі анучы для вытворчасці найлепшай паперы, што выраблялі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Млыны аказаліся справай выгоднай, іх будавалі ўсё больш. Так што прамінулі часы, калі князь Вітаўт перадаваў на словах камандору тэўтонскага ордэна, маўляў, напісаў бы вам ліст, вашамосць, але паперы нямаш.

Да слова, і ў гэтым пасланні было больш здзекаў, чым праўды.

А цяпер у княстве рабілася папера і на галантныя лісты, і на бясконцыя судовыя справы, і на метрыкі, і на філасофскія трактаты. Асабліва з лёну, мяккая, бялюткая... Вось і тураўскі пан Жалоба, кліент Багінскіх, пераабсталяваў звычайны свой млын пад папяровы. Паперу тут разгладжвалі па старым звычаі цяжэннымі шліфавальнымі камянямі ў пяцьдзясят фунтаў, падклаўшы авечую скуру... І вадзяны знак, альбо філігрань, на аркушах, што выраблялі на гэтым млыне, выяўляў змея. Ён высоўваў з хваляў галаву, увенчаную рожкамі і трохі смешнаватую, як бы перад гэтым выпіў збан піва і не мог уцяміць, дзе паветра, дзе вада, дзе хвашчоўскі ёлуп.

Менавіта пра вадзянога змея ў гэты момант і распавядаў падобны да кабольда шматняк Грынька, паціраючы пачырванелы кончык носа, нібыта яго ў той нос змей і пацалаваў.

— Далібог, васпанства, не піў ані, наяве бачыў — поўня свяцілася, як ліхтар! Пачвара, як ёсць! Даўжэзная шыя, як слуп на кірмашы, галава маленькая, з бліскучай лускою... І бурбалкі, бурбалкі з вады! Я, прызнацца, не разглядаўся, у які бок яно пасля сплыло, бо ўцякаў так, што потым у гразі быў па пояс, а дзе так уляпаўся — і не памятаў.

Грынька пацягнуў з рыльца бутэлькі слівавіцу, якой яго пачаставалі добрыя паны, і ягоныя лупатыя вочы прыплюшчыліся ад шчырага задавальнення. Ватман раздражнёна пацёр падбароддзе, на якім пачало ўжо прабівацца белае шчэцце.

— Добра, пра вадзянога змея мы ўцямілі, спалохаліся належным чынам. Пра кікімару, у якую твая кума на гародзе рэпай кідалася, таксама. І пра летаўца, вогненнага цмока. А цяпер яшчэ раз паўтары — дзе ягамосць Антоні Тызенгаўз часцей за ўсё ў Тураве бывае і куды возяць па ягоным загадзе вазы, гружаныя жалеззем?

Вось ужо гадзіны са тры шпегі спрабавалі разведаць абстаноўку ў самага дасведчанага асведамляльніка пана Жалобы. Ну як жа — шматняк паўсюль ездзіць, з усімі балбоча... І сапраўды шмат карыснага распавёў, праўда, не ўсё было разабраць з мясцовай гаворкі. Полк Гагарына спыніўся ў прадмесці, але князь з усемагутным падскарбіем не сустракаўся. Затое Тызенгаўз па прыездзе расейскіх саюзнікаў стаў страшэнна нервовы, у горадзе ўвялі камендандцкую гадзіну, нібыта каб не прапусціць бунтаўнікоў...

Якраз ля таго храма на ўзгорку, што абрынуўся стагоддзі таму ад страшнага землятрусу, дзе цяпер могілкі, людзі Тызенгаўза і шнырають, немчукі нейкія. Няйначай, хочуць срэбнае дно Турава калодзежа ўзарваць, антыхрысты! Пра калодзеж хто ж не ведае, пры пракаветным князі Туры зроблены.

У ім тры дна — залатое, срэбнае і мядзянае. Як усе тры прарвуцца — хлынуць воды падземныя, і настане канец свету. Мядзянае дно гадоў сто таму прарвалася — гэта яшчэ дзед шматняка памятаў і ўнуку расказваў. Тады горад затапіла так, што на паверхні засталася толькі лапінка пасярод могілак. А што цяпер будзе... І так у рацэ змеі плаваюць, быццам звычайныя карасі...

Грынька зноў пачаў пераказваць гісторыю спаткання з пачварынай, з сумам паглядаючы на апусцелую бутэльку. Расповед усё больш запавольваўся, як быццам высыхала плынь, якая штурхала кола млына.

— Трымаюць змея пад гарою і кормяць людзьмі. Колькі іх у наваколлі пазнікала! А забіць такога змея можна, толькі зямлёй засыпаўшы. Але звычайным чынам на яго хоць як на Крэўскі замак навалі. А трэба запрэгчы ў стары лапаць чорнага пеўня, прывезці тры разы па поўным лапці зямлі, і толькі сыпанеш — зямля з усіх бакоў сама пачне на пачварыну насоўвацца!

— Цямноцце, — буркатнуў Ватман. — Пакуль адсееш у такіх сведкаў казку ад праўды...

— Шмат якія казкі выяўляюцца праўдай, васпан, — заявіў Вырвіч, які проста не мог ні ў чым пагадзіцца з клятым наймітам. Лёднік дык увогуле з тым не размаўляе, садзіцца як падалей і фізіяномію робіць, як быццам біскуп пабачыў пасярод поснага стала халадзец. Ды яшчэ шаблю з рук дэманстратыўна не выпускае. Вох, зачэпіцца за якую дробязь, ды ўчыніць чарговы двубой з бялявым гігантам...

— Чаму б не жыць сапраўды ў Прыпяці якой дагістарычнай жывёліне? — не здаваўся Пранціш. — Тут жа такія балаты наўкруг, што цэлы статак цмокаў можа гадавацца. Мне вось таксама давялося падобную пачварыну пабачыць... І нават забіць. Там яе цмокам звалі, а насамрэч — вялізная старая яшчарка, беднае стварэнне без усялякага чараўніцтва.

Драгун скрушна ўздыхнуў — дасюль сорамна было ўспамінаць, як у гарадку Дракошчыне ён паверыў у мясцовую легенду пра цмока, якому прыносяць у ахвяру дзяўчат, і сапсаваў месцічам увесь зладжаны дзеля заманьвання гасцей на кірмаш атракцыён. Так што яго ніколькі не здзівіла б з'яўленне падобнай жывёлы. У Менску, у Свіслачы, водзяцца ж вялізныя чорныя яшчаркі, менчукі нават часам іх ловяць ды ў дамах трымаюць дзеля форсу.

Побач грукаў галандзер, машына, якая дзёрла анучы на нітачкі. Крапала вада праз сеткі, у якіх фармавалася папера, а гатовыя аркушы на верхняй галерэі залы, дзе сядзела кампанія, сохлі, развешаныя на наваскаваным конскім воласе, нібы бялізна. У кожным аркушы хаваўся вадзяны цмок.

— На ягамосць падскарбія чараўнікі працуюць! — кобальд Грынька не сумняваўся ні на макуліну. — Гавораць не па-нашаму, не хрысцяцца. А з мануфактуры на дзяцінцы, што з боку Дамаўхая, рачулка такая, Яздой яшчэ завуць, часам нешта як зараве, як зафырчыць! Жалеззе ляскае... Варта вакол, янычары з ятаганамі ды венгрыкі з арбалетамі, нібы вакол царскай кароны пільнуюць. А адзін, галоўны чарадзей, малы такі, пузаты, валасы мукой абсыпаныя, мае вока суроклівае! Я такое вока заўсё-ёды пазнаю!

Шматняк важна паківаў карэлым пальцам.

— Мяне брат з Падолля навучыў. У чарадзея вока скача! Туды-сюды, бо нячысцік у ім жывець. Неяк пачалася ў братавым сяле маравая язва. Пайшлі ноччу хросным ходам, як належыць, а ў полі суседскі шляхцюк блукае, з аброццю ў руцэ. Кажа — коні ўцяклі. А вока так і скача! Людзі й скемілі, што панок і ёсць хвароба! Праўда, як ні білі — не прызнаўся, але вырашылі спаліць. Нават святар пагадзіўся, паспавядаў язву. А ў іх быў адзін пан, знаўца, як з ведзьмакамі абыходзіцца.

Грынька ажывіўся, нібыта сам прысутнічаў пры богаўгоднай справе.

— Той пан, Лабуцкі яго завуць, узяў рэмень са свежай скуры, абкруціў галаву хваробы, уклаўшы яму ў вушы каменьчыкі. Рот замазалі гноем, а вочы — анучай, абмазанай дзёгцем. Тады ўсцягнулі язву на вогнішча з сарака вазоў дроваў ды дваццаці вазоў саломы ды спалілі, і адзежу з дому ягонага прынеслі ды ў агонь пакідалі. І ніхто больш у вёсцы не захварэў!

Брат паляўнічага на ведзьмаў пераможна агледзеў грамаду. Пранціш адчуў, што яго зараз званітуе. Іх з Лёднікам неаднойчы вінавацілі ў вядзьмарстве — і вось які канец мог напаткаць, не паглядзелі б пераляканыя мужыкі ні на кляйноды шляхецкія, ні на дыпломы доктарскія. Сканалі б у агні, з гноем у роце і дзёгцем у вачох...

— Пакуль у гэтым краі не з'явіцца дастаткова медыкаў, пакуль не адчыняцца для беднякоў бальніцы — будзе вось такое дзікунства! — гнеўна кінуў Лёднік. — А я заміж таго, каб займацца медыцынскай адукацыяй...

— Ты ў гэтым свеце ніхто, доктар, — з насмешкай, густа замяшанай на нянавісці, абарваў яго наваспечаны граф Пянткоўскі. — І чым табе займацца — вырашае той, у каго ў руках нітачкі, на якіх ты навязаны.

— Пан Ватман ніты майго лёсу дакладна не ўтрымае!

Старыя ворагі счапіліся, праўда, пакуль на словах «ушчыплівых, няўчцівых, добрай славе датклівых», як пішуць у судовых кнігах. Шматняк, скарыстаўшыся тым, што паны страцілі да яго інтарэс, апусціў калматую галаву на стол і захроп, як кобальд, што скакаў да раніцы вакол свайго скарбу.

Пранціш з дапамогай усяго свайго дыпламатычнага рэсурсу неяк суцішыў спадароў. Ён і сам рады быў бы секануць па нахабнай пысе наймiта, але на млыне поўна ягоных жаўнераў, такіх жа спрактыкаваных дарагіх забойцаў. І шляхецкае слова Багінскаму дадзена, а ў Полацку могуць пакрыўдзіць Саламею з дзецьмі... Дый… Ну самому сабе прызнацца сорамна, самавітаму шляхціцу, як вярэдзіць хлапечая цікавасць да новай таямніцы. А раптам зноў файная прыгода!

— Ну што ж, — задумліва прагаварыў Ватман. — Калі Тызенгаўз і праўда рыхтуе таемную зброю, дык шукаць яе трэба на той самай загадкавай мануфактуры, якую зладзілі ля дзяцінца... Праўда, мне даносілі, яна зусім невялікая, незразумела нават, куды столькі жалеззя ў яе наскладалі.

— Вы што, верыце ўсяму, што наплёў гэты небарака? — насмешна папытаўся Пранціш.

— Ён усяго толькі дадаў яшчэ кроплю мядку ў тыя соты, што напоўненыя іншымі, — паэтычна выказаўся Ватман, і Вырвіч падумаў, што хутчэй параўнаў бы збор шпегаўскай інфармацыі не з працаю пчол, а з гадзюкамі, якія спаўзаюцца, каб дадаць яшчэ кроплю яду ў кубак злога чарадзея.

— Пачалася ўся гэтая містыка мінулым летам, — неахвотна пачаў распавядаць Ватман. — Невядома адкуль чатыры разы абстралялі снарадамі раздзелы Касакоўскага. Вакол на некалькі міль — роўнядзь, ні рэдута, ні лясочку, і раптам — снарады. А тры разы дасталося расейцам, якія таксама не маглі даўмецца. Поле, балота, рэчка... Гарматы схаваць няма дзе. Галоўнае — ні грукату, ні дыму. А бомба як з неба бэнц — і дваццаць чалавек выкасіла. Зімой было ціха, а нядаўна — зноў… То ў нас снарад з неба зваліцца, то ў расейцаў. Адна выснова — у Тызенгаўза з'явілася зброя, якая можа шпурляць ядры найменш на тры мілі. Бо нават гарматы-адзінарогі больш як на дзве мілі не стрэляць...

— І васпан думае, на тураўскай мануфактуры зрабілі вялізную гармату? — мімаволі зацікавіўся Вырвіч.

— А вось гэта вы з доктарам і высветліце!

Наймiт няспешна дастаў канверт, які яму на самым пачатку гасцявання на млыне перадаў мясцовы кобальд, зламаў пячатку і выклаў на стол два складзеныя аркушы. На адным — дробныя радочкі, на другім — чырвоныя і чорныя літары ўтваралі некалькі квадратаў. Ватман незадаволена схіліўся над лістамі, водзячы тоўстым пальцам па літарах і нешта мармычучы...

— Мудрая літарэя? — насцярожана падаў голас Лёднік. — І што ёю зашыфравана, нам не належыць ведаць, як баранчыкам не тлумачаць, якую страву з іх прыгатуюць?

— У палітыцы меней ведаеш, доктар, даўжэй жывеш, — павучальна прамовіў наймiт, не адрываючы вачэй ад паперы. — Мог на сваім сумным досведзе пераканацца.

Лёднік сціснуў зубы. Вырвіч нібыта чуў, як лязо доктаравай шаблі ажно звінела ад нецярпення, просячыся з похваў.

— Урэшце, мы з панам Вырвічам павінны ўсвядоміць, якім чынам нам патрапіць да пана Тызенгаўза не ў выглядзе трупаў. Пан Антоній — не той чалавек, да якога можна проста так заявіцца пасля паўгода вайны на другім баку, папрасіць прабачэння і зноў увайсці ў давер. Ды ён і размаўляць з намі не стане!

Раптам шматняк прыўзняў галаву ад стала і пакрыўджана прагаварыў, гледзячы мутным позіркам на папяровыя ветразі:

— Далібог, бачыў змія! Лупіцца з вады!

На гэтым расповед скончыўся. Грынька зноў апусціў галаву на мёртвую беларускую ліпу, што не падазравала калісьці аб сваім будучым пераўтварэнні ў стальніцу. Ватман акуратна склаў лісты ў канверт і выскаліўся, што мусіла азначаць усмешку. Бяздонныя вочы адлівалі барвовым.

— Не бяры ў галаву, доктар. Рабіце, што вам сказана, і будзе вам пернік. З макам.

І калі Пранціш з Лёднікам на раніцу выехалі ў бок места, у галаве Вырвіча так і круцілася чутае калісь ад нянькі Агаты: «Еш, дурань, гэта ж з макам».

Канверт, перададзены наймітам, Вырвіч узяў сабе. Было падазрэнне ў яго, што Лёднік нават паперынай, якую трымаў у руках люты вораг, згідзіцца. І цяпер пасланне, упрыгожанае васковай пячаткай з фанабэрыстым грыфонам, магчыма, гербам навюткага графа, нібыта халадзіла за пазухай, як гадзюка.

Канверт належала аддаць таму, хто сам яго папросіць. Карацей, гулялі, як у сляпога ката.

Дарога — калатуша з гразі, па абодва бакі ад яе бясконцыя палескія балоты... Там-сям на купінах насцярожана паказваюць дзюбкі пралесачкі — ці не зарана высунуліся? У небе сінія лапіны граюць у даганялкі з шэрымі, а сонца забылася, што можна ззяць ва ўсё кола, а не толькі вызіраць сціпла ў выпадковыя шчыліны паміж аблокаў. Добра хоць, Ватман даў коней, хай і не самых ладных, не з княскае стайні, а не выпер абодвух шпегаў пехатою. Таму скрынка са шлемам Альбукасіса мірна спачывала ў адной з дарожных торбаў на баку рудога коніка, які пражыў ужо доўгі век, носячы на спіне злых істот, што знішчалі адно аднаго агнём ды сталлю, і звык да змены гаспадароў.

Непадалёк гналі свае воды Прыпяць і сціплая рэчка Тур. Вырвіч успомніў урывак з трактата Міхалона Ліцвіна, колішняга літоўскага пасла да крымскага хана, які апісваў каралю гэтую мясцовасць: «Многія рэкі называюцца залатымі, асабліва Прыпяць, якая ў адным месцы паблізу Мазыра, пры ўтоку ракі Тура, з назапашваннем свежай вады з крыніц штогод, у пачатку сакавіка, напаўняецца такім мноствам рыбы, што кінутая ў яе дзіда ўшчамляецца і стаіць строма, нібы ўторкнутая ў зямлю — так густа збіваецца там рыба.

Я б не паверыў гэтаму, калі б сам не бачыў часцяком, як адтуль бесперапынку чэрпалі рыбу і напаўнялі ёю ў адзін дзень да тысячы вазоў, што належалі прыезджым купцам, якія штогод з'язджаюцца ў гэты час».

Гэх, прамінуў залаты век любай Літвы-Беларусі, не стаіць дзіда тырчма ў рэках ад мноства рыбы, лемпарда ў пушчы ледзь знойдзеш, каб для гусара накідку зрабіць з залацiста-плямістай скуры…

Далёкае галёканне з-за спінаў змусіла азірнуцца. Расплёхваючы фантаны халоднай гразі, да шпегаў нёсся атрад з пары тузінаў вершнікаў у белых мундзірах.

— Канфедэраты, — здзівіўся Лёднік. — Можа, ягамосць Багінскі ахову нам вырашыў прыслаць?

— Альбо яшчэ штосьці загадаць забыўся? — прамармытаў устрывожаны Пранціш.

Але ж дзіўная дапамога да іх пасланая... Вершнікі ваяўніча гарлалі і размахвалі шаблямі. Хутка можна было разабраць воклічы з асноўным сэнсам «Смерць праклятым здрайцам!»

Пранціш на ўсялякі выпадак абвёў вачыма пляскатую мясцовасць — іншых істот на ролю праклятых здрайцаў, акрамя іх з Лёднікам, не назіралася.

Бутрым першым прызнаў катастрофу.

— Уцякайма!

Коні, падараваныя Ватманам, прыпусцілі намётам, як маглі. А маглі не вельмі хутка. А тут яшчэ і свінцовыя пчолы над галавой зазумкалі... Праўда, альбо стралкі з пагоні былі касавокія, альбо хацелі не забіць, а напалохаць ды ўзяць жыўцом.

Калі пагоня нагнала ўцекачоў, тыя ўсё ж пастараліся ўступіць у перамовы... Першыя пару імгненняў. Менавіта столькі спатрэбілася, каб уцяміць, што куды ні павярні, дзіравым наверх. Паны-браты гарэлі гневам праведным і жадалі пакараць здрадніка-доктара і ягонага паплечніка харужага Вырвіча. І ясна было, што дваім — як бы яны ні валодалі фехтавальным майстэрствам — супраць двух тузінаў не выстаяць, і даручэнне князя Багінскага давядзецца выконваць іншым шпегам.

Але націск раз'юшаных канфедэратаў раптам суцішыўся. Вырвіч азірнуўся — з боку Турава набліжаўся яшчэ адзін атрад. На гэты раз кароннага войска. У жаўнераў ваяўніча тапырыліся вусы, бліскалі агаленыя шаблі ды зляталі з вуснаў ваяўнічыя крыкі. Засталося спадзявацца, што ў новых удзельнікаў драмы іншыя задачы, чымся пасячы на кавалачкі бязроднага Баўтрамея Лёдніка ды радавітага Пранціша Вырвіча.

Канфедэраты і каралеўскія жаўнеры наляцелі адно на аднаго... І гэты вусцішны момант Пранціш Вырвіч не забудзе ніколі. Ён і Лёднік апынуліся нібыта ў воку тайфуна. Вакол віравала няўмольная, жорсткая стыхія, нянавісць сутыкалася з нянавісцю, жаданне забіць — з гэткім жа... І самае жахлівае, што і з аднаго боку, і з другога ятрыліся тыя ж самыя ліцвіны, былыя паплечнікі, шляхцюкі, з якімі можна было б сядзець за бяседным сталом або разам абараняць сваё места ад захопнікаў...

Пранціш раптам усвядоміў, што ён не цяміць, на чыім ён баку, дзе сябры, дзе ворагі, дый ці можна адрозніць? Як быццам хтось падхапіў мураша з ягонай вечнай мурашынай сцяжынкі і трымае на далані. І кузурка ўпершыню бачыць, чаго варты той мурашнік, неахайная купка іглiцы, за якую ён гатовы быў загрызці альбо быць загрызеным.

Праўда, іншага мурашніка яму не дадзена, і, выпушчаны на волю, ён зноў ухопіцца за кінутую іглiцу і пацягне да сваёй Вавілонскай вежы…

Краем вока Пранціш заўважыў, што ў Лёдніка падобныя пачуцці, і полацкі доктар з адчайна-разгубленым тварам толькі па неабходнасці адбівае ўдары, ухіляецца, як можа, ад бойкі, і ў цёмных вачах яго туга і агіда.

Каронных было больш, і хутка яны пагналі барцаў. Да Пранціша і Баўтрамея пад'ехаў шляхцюк, такі пузаты, што, здавалася, на каня навалілі капу. У вёсцы яго называлі б «лажбель». Ніжняя губа шляхцюка грэбліва адвісала, быццам бы ён увесь час казаў «Ф-фу!», але вочы былі халодныя. Жорсткія, як у даверанай асобы палацавага інтрыгана.

— Канверт, запячатаны вадзяным зміем, у каго?

Вырвіч моўчкі падаў пасланне, шляхцюк гэтак жа моўчкі, не разглядаючы, схаваў за пазуху.

— Літасціва прашу панства рушыць за мною!

Як быццам не пасярод веснавой дарогі, на якой заціхла бойка, а на асамблеі ў палацы.

Ад'язджаючы, Вырвіч усё-ткі азірнуўся: на мокрай цёмнай зямлі Тураўшчыны, якая вызвалілася ад апошняга снегу, ляжаў мёртвы ліцвін, і ў ягоных ашклянелых вачах змешвалася з крывёй адлюстраванае неба.

Тураў сустрэў пахмура, як гаспадыня, якую расштурхалі на золку нечаканыя і непажаданыя госці. Хацінкі паглядалі сонна, там-сям бачыліся сляды пажарышч... На ўзгорку за голымі дрэвамі бялела царква.

— А калісь гэты горад быў сталіцай магутнага княства, — задумліва прагаварыў Лёднік, пагойдваючыся ў сядле. — І нават спрачаўся за славу з нашым Полацкам.

У голасе палачаніна можна было расчуць паблажлівасць — ну ясна, ніколі ён не прызнае, што якоесь места магло зраўняцца з ягоным родным Полацкам.

— Тут быў шлях з варагаў у грэкі, усяго з адным волакам. Гэта значыць, толькі аднойчы трэба было перацягваць караблі па сушы. На тураўскі прастол кіеўскія князі пасылалі сыноў, якія пасля рабіліся князямі кіеўскімі. Тут шмат загадкавага, у гэтым горадзе.

Пранціш агледзеў сціплыя краявіды. Хацеў бы папрыгажэць, ды плеш замінае.

— Пакуль нічога адметнага не бачу.

Лёднік хмыкнуў.

— Не мяркуй па вопратцы, шкаляр! Я местам Тураў зацікавіўся, калі мне прынеслі дзеля кансультацыі знойдзены тут чэрап жанчыны з пяцісотгадовага пахавання. Ніхто з кансіліуму лекарскага не мог вызначыць, чаму той чэрап такой дзіўнай формы — усе швы зарослыя, як у вельмі старых, а паводле стану зубоў нябожчыца была маладой. Я дыягназаваў рэдкую хваробу, з якой аднойчы сутыкнуўся, — чалавек паступова акасценьвае, солі ў ягоным арганізме пачынаюць асядаць, пераважваць флегму і кроў... Цікава, што парэшткі знайшлі ў каменным саркафагу. Я нідзе раней на Беларусі не сустракаў, каб продкаў хавалі ў саркафагах, да таго ж з рэдкага чорнага каменя.

— Што, нейкіх прыхадняў сюды было панаехала? Егіпцян? — няўважна пацікавіўся Вырвіч, якога больш займала, што ў лісце ад Ватмана, куды іх вязуць і як з гэтага нерата вылузацца.

— Купцоў ды наймітаў-ваяроў з усяго свету хапала, — задумліва працягваў Лёднік, і ягоныя доўгія цёмныя валасы звісалі з-пад шапкі, захінаючы худы твар з дзюбатым носам, як у сапраўднага ведзьмака. — Сюды кіеўскі князь Уладзімір Манамах адправіў удаву свайго папярэдніка на прастоле Святаполка. А ўдава, вялікая княгіня Варвара была дачкой візантыйскага імператара Аляксея Камніна.

Толькі лекцыі па гісторыі Турава шпегам не хапала... Але Лёднік працягваў далдоніць гладка, як вол языком ліжа, нібыта быў сватам ці братам тых пракаветных князёў:

— Можа, Уладзімір не хацеў трымаць пры двары жывы напамін пра Святаполка, якога шчыра ненавідзеў. А па-другое, візантыйская царэўна была дужа небяспечным чалавекам. Яна ж вырасла ў Канстанцінопальскім палацы, які славіўся інтрыгамі, жорсткасцю і вытанчаным валоданнем атрутамі. Варвара прыехала «на дажыцце» не адна, прывезла цэлы двор... Магчыма, дзякуючы такой «візантыйскай калоніі» тут і адбыўся талент Кірылы Тураўскага, ён у дзяцінстве мог круціцца сярод візантыйцаў і тое-сёе пераняць. І невядома, што яшчэ грэкі тут стварылі...

Вырвіч зноў азірнуўся і не змог уявіць, як па гэтых вузкіх вулках нясуць у пазалочаных насілках з шаўковым балдахінам візантыйскую царэўну. Бо цяпер насустрач валюхаўся воз з рагожамі, запрэжаны канём-свірэпай. Рэбры няшчаснай жывёліны тырчэлі, як штыкеціны ў плоце, а гаспадар-паляшук у насунутай на самыя вочы шапцы-магерцы гэтак насцярожана свідраваў цёмнымі запалымі вачыма вершнікаў, што, здавалася, скажы яму хто «Бу!», як палохаюць малое дзіця, плітане з воза, быццам прусак, у бліжэйшую шчыліну.

Між тым атрад перастрэлі двое ў форме янычараў. Спадарожнікі Вырвіча і Лёдніка пачалі горача спрачацца.

— Ягоная светласць пан Антоні загадваў адразу ж прывесці да яго гэтых паноў!

— Але ж ягоная мосць загадваў не праводзіць нікога са староннiх у сховішча! А гэтым здрайцам веры няма, хоць вы іх і ў бунтаўнікоў адбілі...

Выйсце знайшлося. Калі ўсе спешыліся, доктару і драгуну завязалі вочы хусткамі. Пранціш ледзьве сцярпеў такую непачцівасць, але ўзяў прыклад са стаічнага Лёдніка, які нават вусны не крывіў. У смалу, дык у смалу, спадарства.

Потым іх доўга вялі па нейкіх сходах. Пах веснавога свежага паветра змяняўся балоцістым смуродам сутарэнняў... Цягнула стылым паветрам, чулася мноства галасоў, жалезныляскат. Потым апынуліся ў памяшканні, дзе пах парфумы быў густы, як кісель, быццам ім спрабавалі перабіць смурод. Павязкі знялі... І шпегі пабачылі ў паўцемры скляпеністага пакоя самога падскарбія, другую асобу ў каралеўстве, ягоную мосць пана Антонія Тызенгаўза.

Пан Антоній, апрануты ў сціплы брунатны камзол, паўзверх якога было накінутае футра з чарнабуркі, уперыўся ў прыхадняў раз’ятраным шэрым позіркам.

— Ну што, дапамаглі вам, панове, вашыя канфедэраты?

Лёднік і Пранціш сціпла маўчалі.

Паколькі наўрад за тыя хвілі, што яны сюды дабіраліся, светлы дзень мог змяніцца на бяззорную ноч, выходзіла, што яны пад зямлёй. Сцэну магнацка-здрадніцкай драмы асвятлялі свечкі ў простых шкляных ліхтарах, а вокнаў за парцьерамі, што завешвалі сцены з грубай, пазелянелай ад часу цэглы, проста не мелася.

І дзвярэй не мелася. Вырвіч скасавурыўся: гэта быў не асобны пакой, а хутчэй ніша ў калідоры, па якім хтось увесь час швэндаў, і ўсё нагадвала полацкія сутарэнні, толькі выкладзеныя не з шэрых каменных пліт, а з цэглы. Дзеля ягонай светласці падскарбія ў закутак кінулі на падлогу мядзведжую шкуру, завесілі сцены габеленамі з батальнымі сцэнамі, але гэта мала змяніла пракаветныя, прапахлыя цвіллю, вільготныя катакомбы.

Але вось што нечакана — паміж габеленамі Вырвіч заўважыў выкладзены смальтай на кладцы праваслаўны крыж з надпісам на грэцкай унізе «Памажы, Божа, рабе тваёй Варвары». Слізнуў вокам па сценах больш уважліва: вунь там, здаецца, краёчак фрэскі... Ці не пры ўдаве кіеўскага князя Варвары ўсё гэта рабілася? Ля дальняй сцяны ў прыцемку вымалёўвалася каменнае ўзвышэнне, якое Пранціш адразу прыняў за прынесены для князя камод. Алтар? Падобна, тут была капліца! Рука сама пацягнулася перахрысціцца…

— Вось што клятыя бунтаўнікі задумалі!

Падскарбій апусціў на маленькі драўляны столік забраны ў Вырвіча ліст, і цяпер ягоны пагляд быў ужо больш лагодны.

— Што ж, за такія звесткі вам можна тое-сёе даравацць. Але як вы мяне расчаравалі, нягоднікі! — пан Антоній гаварыў адрывіста і важка, і лепш было яму не пярэчыць — пра круты характар падскарбія расказвалі страшныя байкі. — Ну з цябе, драгун, што ўзяць! Абы шабляй махаць — купіўся на прыгожыя словы! Айчына, воля, чысціня веры! Вы ж самі дысідэнты, праваслаўныя — чаго ж пайшлі да тых, хто вас правоў пазбаўляе? Не да слуцкіх канфедэратаў, адзінаверцаў? Тут, на Тураўшчыне, між іншым, калі перапіс быў, людзі ў большасці заявілі, што уніі не хочуць. Наадварот, жаляцца, што цэркваў праваслаўных няма, святароў не даюць... І цяпер што, ягонай вялікасці такіх вынішчаць пад корань? Каб расейцы за ягоных падданых заступаліся, нас вінавацілі ў жорсткасці?

Тызенгаўз узняўся з крэсла і, хутаючыся ў футра, пачаў нервова тупаць туды-сюды, спыніўся перад Лёднікам і тыцнуў пальцам яму ў грудзі.

— А ты! Пра-фе-е-сар! «Вох, як я мару пра айчынную медыцынскую акадэмію!» — перадражніў падскарбій. — Грошай табе адваліў — едзь, пераймай досвед, запрашай людзей на працу... А ён — у інсургенты! Далей дзяржаву развальваць!

Вырвіч не вытрымаў:

— Вашамосць, яснавяльможны князь, Лёднік ніколі не хацеў далучыцца да барскіх канфедэратаў! Ён і мяне адгаворваў! Гэта я яго змусіў, толькі я вінаваты!

Доктар тут жа ўпарта зрабіў крок наперад:

— Не слухайце яго, вашамосць! Я сталы чалавек, і сам адказваю за свае ўчынкі!

Але князь гнеўна абарваў абодвух, і давай далей шылам вышываць. Але, выкрычаўшыся, трохі супакоіўся.

— Цяпер хвасты падціснулі, назад просіцеся... Былых паплечнікаў здаеце... Значыць, і мяне ў свой час зноў здасцё! Ваша шчасце, пан Жылібер напісаў мне, што вас змусілі з’ехаць абставіны, а сам ён не супраць прыехаць сюды, калі ў нас скончыцца «хатняя вайна». Ён на дзіва добра пра цябе адзываецца, Лёднік!

Пан Антоній задумліва пагойдваўся, заклаўшы рукі за спіну, і, відавочна, вырашаў лёс правінавачаных. Цені ад свечак варушыліся на сценах, быццам старажытныя тураўцы вырашылі паназіраць за тым, што цяпер робіцца ў іхніх таемных сховішчах.

— Пад суд вас не аддам, хаця й давяраць важныя справы не рашуся. Але й дзіравае вядро можна для чагось у гаспадарцы прыстасаваць... Выбачайце ўжо, што не для пітной вады.

Падскарбій не паспеў агучыць, якім бачыць сумны лёс былых сваіх пасланцоў. У калідоры хутка загрукалі абцасы, загучалі трывожна галасы... І перад капліцай у пякельным святле паходняў адны за аднымі пранеслі насілкі з мерцвякамі.

Нябожчыкі выглядалі страшна — наколькі можна было ў прыцемку агледзець, твары спухлыя, пачарнелыя, вочы вырачаныя...

Пранціш перахапіў пільны позірк доктара: той ужо, напэўна, вызначыў дыягназ і яшчэ больш пазмрачнеў. Што ж тут, у тураўскіх сутарэннях, творыцца? Няўжо й праўда ахвяры прыносяць якой пачварыне?

Пачулася нямецкая лаянка, і ў пакой уваліўся невысокі пузаценькі чалавек у парыку, камзоле з сіняй воўны, кароткіх штанах, белых панчохах і чаравіках з вялікімі срэбнымі спражкамі — толькі плюнуць аматару сармацкіх традыцый на такога немчука. Нямчук абціраў пот з ілба пакамечанай батыставай хусткай і бясконца паўтараў «Майн гот!»

— Што, зноў няўдача, пан Пфальцман? — скрозь зубы запытаўся Тызенгаўз.

Таўстун замахаў у роспачы рукамі.

— Не магу зразумець, у чым справа, вашамосць! Усё адладжана, праверана... Думаю, справа не ў механіцы, а ў хімічнай частцы!

Госць затараторыў ліслiва, спрабуючы задобрыць пана.

— Але няхай яснавяльможны князь не хвалюецца, засталося прыбраць невялічкую пагрэшнасць! Я ўсё вылічу! Вы мне толькі знайдзіце, вашамосць, каго цяпер пасылаць на выпрабаванні... Спецыялістаў не засталося... Жаўнераў ці мужыкоў выкарыстаць не магу, веды патрэбныя. Я б... і сам паспрабаваў, але... Я ж не магу рызыкаваць усёй справай, бо без мяне ўсё заглухне... Як жа ж без мяне?

Голас Пфальцмана дрыжэў ад страху і жадання дагадзіць. Раптам ягоны позірк, які не адрываўся ад князя, што нервова хадзіў па пакоі, зачапіўся за постаці сведкаў размовы. Светлыя вочы немчука пашырыліся, вусны задрыжэлі.

— Ты... ты... Лёднік, ты тут? Н-навошта?

Радасці ў Пфальцмана было не больш, чым у маладога князя Іллі Астрожскага, якому паведамілі, што кароль памяняў яму нявесту, і замест гожанькай рахманай Барбары Радзівіл ён мусіць ажаніцца з ейнай старэйшай сястрыцай Ганнай, якая ўжо нарадзіла невядома ад каго двух байструкоў.

— Прывітанне, Якубе, — стрымана прамовіў Лёднік і не палез абдымацца з былым аднакурснікам па Лейпцыгскім універсітэце. Тым больш той таксама абдымкі не раскрываў. Вынаходнік Якуб Пфальцман добра засвоіў, што сустрэчы з герам Лёднікам ды ягоным высакародным сябрам панам Вырвічам для яго могуць закончыцца вельмі стратна. Вось і цяпер — занерваваўся, баіцца, што Лёднік зараз пасуне яго з месца галоўнага каралеўскага вынаходніка.

— Кажаш, няма каго пасылаць на выпрабаванні? — задумліва прамовіў Тызенгаўз. — Праблемы з хіміяй? Ну вось табе, Пфальцман, само неба паслала двух... спецыялістаў.

Цені на сцяне з выкладзенымі смальтай візантыйска-тураўскімі фрэскамі трывожна варухнуліся.

— Вы дазваляеце мне выкарыстаць гэтых людзей? — недаверліва-радасна прамовіў Пфальцман, і на душы Вырвіча зашкрэбліся вельмі нядобрыя прадчуванні, асабліва ў спалучэнні з успамінам пра пачарнелыя трупы.

— Даю гэтых паноў табе ў поўнае распараджэнне! — неяк вельмі жорстка, з нядобрай усмешкай прамовіў падскарбій. Пфальцман расквітнеў, як сурэпка на градзе, але ўсё-ткі асцярожліва папытаўся:

— А калі з герам Лёднікам што здарыцца? Вы ж хацелі, каб ён дапамог з медычнай школай...

Пранцішу не спадабалася, што Пфальцман не ўсхваляваўся лёсам пана Вырвіча герба Гіпацэнтаўр, быццам толькі жыццё былога слугі Бутрыма

мае каштоўнасць. Але яшчэ больш не спадабаўся адказ князя, які насмешна прамовіў:

— А мы палічым, што гэта Божы суд. Выжывуць — значыць, не ілгалі. Здохнуць — так здрайцам і трэба. Ubi culpa est, ibi poena subesse debet[3].

Драгун ішоў следам за доктарам па вільготных каменных норах, якія асвятляліся рэдкімі ліхтарамі. Няўжо пад усімі беларускімі гарадамі схаваныя такія кратавіны, поўныя злавесных таямніц? І ці не ёсць жыццё падземнае, з удзелам невядомых істот і іх таемных законаў, сапраўднай гісторыяй зямлі?

Між тым калідор з'яднаўся з больш шырокім — воз можа праехаць, і павёў уніз, каб лёд быў — дык саслізнулі б са свістам… Ліхтар у руках жаўнера, які ішоў першым, здаваўся балотным агеньчыкам, што можа завесці толькі ў дрыгву.

І раптам усе апынуліся ў вялізнай пячоры.

Яе зводы губляліся ў цемры, так што можна было ўявіць, быццам там грувасцяцца гаргуллі альбо звісае голле вечнага дрэва Ігдрасіль.

А ўнізе злавесна маўчала возера.

Яго чорныя воды люстравалі агні ліхтароў, быццам у Дантавым пекле, хаця пузаты Пфальцман аніяк не падыходзіў на ролю Вяргілія, які цягаў фларэнтыйскага паэта туды-сюды па тагасветных страхоццях. Аднак не было сумніваў, што менавіта куртатага вынаходніка месцічы лічаць чараўніком, а шматняк Грынька прыкмеціў у Лёднікавага аднакурсніка «суроклівае вока».

Як бы Раіна Міхалішыўна, танклявая і прыўкрасная, з горкім ротам і ветранымі валасамі, праспявала тут арыю Эўрыдыкі!

Але Вырвіч не змог стаць Арфеем і вывесці каханую са змрочнага царства.... І кроілася сэрца, і перахоплівала горла ад таго, што над чорнымі бяздоннымі водамі мсцілася белая танклявая постаць... Бывай, прынцэса мая...

А ў возеры плавала менавіта тое, з-за чаго, падобна, і апынуліся тут нявольныя шпегі, з-за чаго князь Гагарын гнаў сюды свой полк, а Антоній Тызенгаўз таемна сядзеў у заняпалым мястэчку заміж таго, каб пры двары ў Варшаве распрацоўваць тактыку і стратэгію вайны з канфедэратамі.

Напачатку гэта можа было прыняць за вялізную жалезную бочку. Але ў яе бакі ўрэзалі ілюмінатары, як на караблі. Да адкрытага люка, падобнага да адкрытай пашчы, вялі з берага масткі. Тырчэлі незразумелыя трубы і штось падобнае да плаўнікоў. Новенькія шрубы паблісквалі, як перліны на сукенцы прыдворнай дамы. Над збудаваннем ганарыста ўзвышалася сагнутая труба са шклом, як у тэлескопе — нібыта вялізнае пагрознае вока. Два мужыкі, якія штосьці падбівалі ў мастках, паглядалі на д'ябальскую пачвару з нянавісцю і страхам — гэтак жа, як і на паноў-чараўнікоў.

— Вадзяны змей... — прамармытаў уражаны Пранціш.

Але неверагоднага ў гэтым не было. Калісьці яны сустрэлі Пфальцмана, які вёз у Слуцкі замак да Гераніма Радзівіла жалезную чарапаху — адмысловую машыну, узброеную гарматамі, якую рухала пара. А тут таксама гарматы маюцца! Вунь, тырчаць іхнія тупыя пысы... Значыць, вось хто абстрэльваў з чыстага поля канфедэратаў ды расейцаў! Але як такі вялікі карабель ніхто не заўважыў?

— Ты ведаеш, Якубе, што Леанарда да Вінчы не захацеў распавядаць пра свае вынаходніцтвы для плавання пад вадой са словамі: «Людзі занадта злыя і выкарыстаюць гэта самым кепскім чынам»? — сур'ёзна зазначыў Лёднік.

Дык вось што! Гэтая штуковіна плавае пад вадой? Ну тады ясна, чаму яе не заўважылі...

— Ты сам, Баўтрамеюс, любіш паўтараць, што ўсё — лекі, і ўсё — атрута, — з прыхаванай крыўдай прамовіў Пфальцман. — Я проста ў чарговы раз зрабіў тое, што нікому не ўдалося! Так што твае словы, мой сябар, магу аднесці на рахунак звычайнай зайздрасці.

Бутрым прыкусіў губу. Пранціш дакладна ведаў, што той сапраўды трохі зайздросціць аднакурсніку, гэтаму смешнаму пузатаму чалавечку, які бярэцца за невыканальнае і дзёрзкае і здзяйсняе. Але Чорны Доктар не мог не дадаць і атруты:

— Я веру, што ты многае ўдасканаліў, сябар мой. Але яшчэ сто пяцьдзясят год таму, пры ангельскім каралі Якабе, галандзец Карнэліус Дрэбель катаў у Тэмзе ўсіх жадаючых на сваёй падводнай пасудзіне. Нават кароль плаваў... Казалі, Дрэбель пабудаваў урэшце падводны карабель, у якім магло змясціцца дваццаць чатыры чалавекі і які апускаўся на пяцьдзясят сажняў ад паверхні...

— Хопіць і чатырох метраў! — раздражнёна кінуў Пфальцман — відаць, ягоная канструкцыя глыбей не сягала.

— А рухавік, падобна, звычайныя вёслы, як у Дрэбеля? — задумліва прамовіў Баўтрамей, азіраючы вадзянога змея, быццам каня на кірмашы.

Пфальцман надзьмуўся, падобна гаспадару, дачку якога абмяркоўвае прыдзірлівая радня жаніха: і ходзіць крыва, і сама крыклівая.

— Пакуль іншага не прыдумаў ніхто. Пад вадой паравы рухавік не прыстасуеш. Затое вёслы рухаюцца аўтаматычна, дастаткова двух чалавек круціць падважнікі. І сістэма пагружэння незвычайная — я прыдумаў адмысловую помпу... У баласныя цыстэрны вада прасочваецца скрозь алавяныя пласціны з маленькімі адтулінамі... Ну, сам зараз убачыш.

Значыць, іх пусцяць унутр вадзянога змея! Нягледзячы на прыкрыя абставіны, вочы Полацкага Фаўста фанатычна загарэліся, дый Пранцішу цікава было аж да віску.

Між тым на беразе падземнага возера гуў невялікі порт. У прыцемку, які разганялі ліхтары ды паходні на адмысловых слупах, можна было разгледзець, як грувасціліся горамі мяхі, высіліся складзеныя бярвенні, шнырылі рабочыя з гружанымі калёсцамі. Проста над падводным караблём навісала канструкцыя, падобная да партавога крана: з жалезнай бэлькі спускаўся таўшчэзны ланцуг з крукам.

А яшчэ вакол стаяла ўзброеная варта.

Вырвіч падумаў, што недарэмна мужыкі глядзяць так ненавісна і са страхам, бо гэта ўвязвалася з расповедамі шматняка Грынькі пра ахвяры вадзянога змея: напэўна ж, тых няшчасных, якіх сагналі сюды дзеля чорнай работы, трымалі, як на катарзе, нікуды не выпускаючы, каб захаваць таямніцу.

Пфальцман падаў знак, і мужыкі, што рапаравалі драўляныя пеpакладзіны, таропка вызвалілі шлях.

Масткі пружынілі пад нагамі, быццам злаваліся, што іх турбуюць.

Услед за Якубам Пфальцманам шпегі асцярожна зайшлі, прыгнуўшыся, у вадзянога змея. Вырвіч заўважыў краем вока, як мужыкі плююцца ды хрысцяцца ім услед. Павевы Асветніцтва тут сустракалі шчыльна зачыненымі шыбамі.

Унутры змея было не дужа прасторна, амаль як у Жалезнай Чарапасе, у якой калісьці ездзілі па Слуцку, палохаючы месцічаў. Але, па сцверджанні Пфальцмана, сюды шчымілася каманда ў шэсць чалавек. У святле ліхтара бачылася, што сцены і знутры не з дрэва, а металічныя, і Вырвіч мог прысягнуць, што Пфальцман прыдумаў адмысловы сплаў.

А вось і гарматы... Падобна, што яны прыцэльваліся з дапамогай гэтай трубы са шклом. Лёднік калісьці распавядаў Вырвічу, яшчэ студыёзусу, пра камеру-абскуру, вядомую ў часы Арыстоцеля, і як з дапамогай сістэм люстраў шалбер Доктар Дзі дэманстраваў вогненны меч, што нібыта ўсё разразаў, як масла. Так што дзеянне трубы, якая паказвала ўсё, што адбываецца наверсе, Вырвіча не здзівіла.

Пасярэдзіне змея грувасцілася прылада, падобная да алхімічнага тыгля — атанора, з перагоннымі кубамі ды колбамі. Лёднік ледзь носам па тых колбах не вадзіў, тады выпрастаўся і са здзіўленнем папытаўся ў сябра:

— Ты што, награваеш салетру і такім чынам здабываеш кісларод?

Пфальцман важна хітнуў галавой.

— Менавіта так. Нам трэба, каб падводны карабель мог праплысці пад вадой як мага далей. У мінулым годзе, пакуль не перапыніліся на зіму, здавольваліся парай гадзін — больш без усплыцця каманда не вытрымлівае. Але ягоная вялікасць мае важныя планы на маё вынаходніцтва, дзвюх гадзін мала. Вось і... эксперыментую. Праўда, сістэма недасканалая, пачалі няшчасныя выпадкі здарацца...

Дык вось адкуль пасінелыя трупы на насілках! Сплылі падводныя мараходы на вадзяным зміі ў чысцец... Задыхнуліся ды атруціліся...

— Ты што, людзей адпраўляў пад ваду дыхаць неправераным рэчывам?

Лёднік быў угневаны, а Пфальцман толькі няўважна паціснуў плячыма. І Пранціш зразумеў, што гэты бяскрыўдны з выгляду чалавечак такі самы, што і заснавальнікі Таварыства прагрэсіўнай медыцыны з Манпелье. І дзеля навукі можа ўмарыць не аднаго няшчаснага...

— Няўдачы — неабходныя этапы на шляху да добрага выніку, хіба не ведаеш, — пацвердзіў высновы драгуна гер Якуб.

— Нават калі гэтыя этапы — людскія жыцці? Калі ты навучыўся па трупах да вышынь навукі караскацца?

Пфальцман пазіраў на Лёдніка недаўменна, як дзіця, якому патлумачылі, што кацяня млее зусім не ад шчасця, калі яго доўга ціскаць:

— Я ж нікога назнарок не забіваю. Наадварот, стараюся наладзіць бяспеку. Спадзяюся, ты ў гэтым дапаможаш... У механіцы я лепшы, але ў хіміі табе роўных мала.

Вынаходнік ляпнуў даланёй па бліскучым баку тыгля, быццам той быў неслухмяным дзіцем.

— Не магу даўмецца, што не так, чаму час ад часу настае атручванне. З кароткіх паходаў карабель вяртаецца без перашкодаў. А як толькі больш за дзве гадзіны апарат працуе — бяда... Прычым у лабараторных умовах — усё нармальна.

Лёднік сцяў зубы — праблема бязвінных ахвяраў у імя навукі была для яго асабліва балючай, ведаў за сабой грэх, і пачаў засяроджана вывучаць апарат для выпрацоўкі з салетры кіслароду. Пранціш разумеў, што ад таго, ці разбярэцца доктар з непаладкамі, залежалі іх жыцці. Было неахвота паміраць у тоўшчы халоднай веснавой вады, зняволенымі ў жалезнай бочцы, задыхацца, сінець... І добра, калі пахаваюць па-хрысціянску, а можна ж і на дне застацца навечна разам з клятым зміем... У канвенце Менскага езуіцкага калегіума шкаляры расказвалі адзін аднаму па начах легенду пра цмока, які жыў у пячоры менскай Высокай гары. Яго забіў жаніх прыгажуні, прызначанай у ахвяру пачварыне, але й сам быў смяротна паранены. Рыцара ў крышталёвай труне апусцілі на дно Свіслачы разам з забітым цмокам. І з моста, што ў Татарскім Канцы, можна пабачыць праз зеленаватую свіслацкую ваду рэбры таго цмока і бляск труны...

Пранціш з сябрам-гарбунком па мянушцы Вараня таксама бегалі глядзець таго цмока і крышталёвую труну, і, здаецца, штось угадвалі праз міглівую плынь. А раптам у гэтай легендзе адлюстравана трагічная гісторыя пра выпрабаванне першай падводнай лодкі на нашай зямлі? Прыдумаў у часы князя Глеба Менскага мясцовы ўмелец падводны човен, разам з ім патануў, ды так і застаўся на тваністым дне, у сваім чоўне, што ператварыўся ў саркафаг...

Пранціш змрочна пастукаў кулаком у жалезнае чэрава вадзянога змея, злавесна загуло рэха.

— Колькі людзей, гер Пфальцман, вы страцілі падчас эксперыментаў?

Чарадзей з суроклівым вокам паморшчыўся, быццам Пранціш груба парушыў правілы паводзінаў у шляхецкім таварыстве. Нягжэчнае пытанне...

— Не больш за тузін, пан Вырвіч. Самае прыкрае — пацярпелі найбольш дасведчаныя. Так што вы якраз дарэчы з’явіліся.

Лёднік змрочна маўчаў, зазіраючы ў перагонныя кубы, і не выказваў палкага жадання адправіцца ў падарожжа.

— А ты, Баўтрамеюс, змяніўся, я гляджу. Заўсёды ж першы кідаўся ў незвычайныя доследы, сам прасіўся паўдзельнічаць, да механізмаў любых ірваўся, як курэц да табакі. Відаць, адышоў ты апошнім часам ад навукі, перагарэў...

За фальшыва-спачувальным тонам немчука разлівалася вядро атруты.

Лёднік на пад’юджванне не паддаўся, як не чуў, абнюхваў сабе ды абмацваў прыладу, а потым уладна прамовіў:

— Мне трэба правесці дасканалыя лабараторныя даследаванні тае сумесі, якую ты выкарыстоўваеш для атрымання кіслароду, Якуб. Мяркую, памылка менавіта ў прапорцыях ды якасці рэчываў. Хаця б тыдзень папрацаваць з рэагентамі...

Круглы твар Пфальцмана зноў выпраменьваў задаволенасць жыццём.

— Лабараторыя наверсе, калі ласка. Але пан Тызенгаўз прызначыў выпрабаванні пазаўтраму, так што ў вас, сябры мае, адзін дзень на падрыхтоўку. Уражанні ад плавання, абяцаю, будуць незабыўныя!

Вось у гэтым Вырвіч не сумняваўся. Галоўнае, каб тыя ўражанні былі не апошнімі ў ягоным жыцці.

Дарэмна Лёднік абураўся, што так мала часу — усё было вырашана за іх... З’едлівыя прапановы Вырвіча падзяліць з імі гонар падарожжа Пфальцман рашуча адмёў — нават занерваваўся... Ясна, больш за ўсё на свеце баіцца, што яго змусяць выпрабаваць сваю душагубку на сабе. Таму адправіць на смерць каго заўгодна, абы не самому...

На беразе чорнага возера, якое ніколі не люстравала сонца, узброеныя жаўнеры пільна назіралі за тройцай даследчыкаў. Жалезны змей, таемная зброя караля Рэчы Паспалітай, ахоўваўся, як скарбніца. Рэха крокаў па драўляных мастках гублялася пад цёмнымі зводамі.

— І як такая вялізная пячора ўтварылася? — вырвалася ў Пранціша.

— У гэтай мясцовасці лінія сутыкнення зямных пластоў, — ахвотна патлумачыў Пфальцман. — Кожнае стагоддзе — моцныя землятрусы. У вашай краіне такія толькі тут здараліся. Вось падчас аднаго з такіх землятрусаў, ды з дапамогай падземных вод і ўтварыліся пустоты. Мясцовыя жыхары пра іх здаўна ведалі. Мой мясцовы памочнік Зыдар — на жаль, ён... стаўся сёння ахвярай навукі, запэўніваў, што гэтыя пячоры скарыстоўвалі ўладары Турава як асабістае сховішча. Таму й трымалі ўваход у яго ў таямніцы. Зыдар казаў, што тут існуе легенда пра калодзеж нейкага вашага князя...

— Тураў калодзеж, ці што? — удакладніў Вырвіч.

— Магчыма, — адмахнуўся Пфальцман, якому было начхаць на мясцовыя звычаі і імёны мясцовых князькоў. — Дык вось, у легендзе расказваецца пра калодзеж з некалькімі днамі, пад апошнім з якіх схаваныя сусветныя воды. І праўда, уваход сюды і быў замаскіраваны пад калодзеж. І дно мелася не адзінае. Пліта паварочвалася, вада адводзілася ўбок, і адкрывалася лесвіца сюды. А мы выкапалі асобны ўваход, шырокі, каб завозіць матэрыялы, і пабудавалі над ім мануфактуру.

Лёднік уважліва азіраўся наўкол.

— Сапраўдная пячора Цыклопа… А як карабель трапляе ў раку?

— З возера — падводны праліў проста ў Прыпяць.

Пфальцман няспешна дастаў з кішэні залатую табакерку з вензелем Станіслава Аўгуста, ухапіў табакі, уцягнуў носам, са смакам чхнуў, абцёрся карункавай хусткай.

— Праліў перакрываецца металічнымі кратамі, так што мы ў бяспецы. Але ў Прыпяць вы не паплывеце. Усяго толькі пратрываеце пад вадой на месцы некалькі гадзін, каб праверыць, як працуе ачышчальнік паветра. Карабель будзе пачэплены на ланцуг, калі што — мы вас выцягнем.

Вось табе маеш... А Вырвіч пачаў было планаваць, як яны з Лёднікам уцякуць разам з Жалезным змеем, як калісьці з'ехалі са Слуцкага замка на Жалезнай чарапасе. Не дурныя гаспадары, каб дапусціць такую магчымасць...

— А колькі сажняў тут да дна ў самым глыбокім месцы? — удакладніў Лёднік.

— А хто яго ведае! — светлыя вочы Пфальцмана пазіралі бязвінна, як у патомнага гіцаля. — Ля таго берага, відаць, расколіна ўтварылася падчас землятрусу. Але вы не хвалюйцеся, у тую дзірку апускацца не трэба, дый карабель не вытрымае. Будзеце тут, ля берага, там неглыбока.

Па дарозе наверх вочы шпегам не завязвалі. Навошта? Аховы хапала, выпускаць іх ніхто не збіраўся. Затое лабараторыя ў фальшывай мануфактуры абсталяваная — універсітэт пазайздросціць... Доктар адразу забразгаў рэтортамі-колбамі, правяраючы наяўнасць інгрэдыентаў, усё раскрытыкаваў, паслаў па рэчывы і інструменты, якіх яму не хапала... Ягоныя жаданні выконвалі бегма, быццам шчодра сыпалі Курцы-Рабцы адборнае зерне ў чаканні залатога яйка.

У той жа мануфактуры шпегам адвялі куточак, дзе пасяліцца, больш падобны да турэмнай камеры. Нешта апошнім часам такая абстановачка падазрона зрабілася традыцыяй. І зноў шаблі адабралі... Толькі кляты Альбукасісаў шлем пакінулі, які доктар, не пачырванеўшы, выдаў за старажытную астралябію, каторая, як гаворыцца, сама ўсё мерае, было б што мераць.

— Самы час уцякаць з гэтай пячоры Цыклопа, але ж не дадуць, — прашаптаў Пранціш Лёдніку, калі яны на нейкі час засталіся ў сваім пакоі сам-насам. Шаптаў — бо маглі падслухоўваць. Чорны Доктар толькі хмыкнуў:

— Адзінае выйсце — удала правесці выпрабаванне, каб зразумелі, што мы патрэбныя... А там будзе відаць...

Вырвіч кінуў на тапчан патрапаную шапку, у якой яго адправілі шпегаваць на князя Багінскага — насіў ён горшыя, насіў лепшыя, аблезлым собалем шляхціца-шарачка не здзівіць, а нашчадка Палямона — не прынізіць.

— А як ты думаеш, што было ў лісце, які Ватман нам падсунуў? Вунь Тызенгаўз як узрадваўся! А там, напэўна ж, фальшывыя звесткі пра канфедэрацкія войскі... Выкрыюць — і капцы нам...

— Самая добрая мана — тая, дзе ёсць дамешак праўды... — Лёднік стамлёна ўлёгся на свой ложак, заплюшчыўшы вочы — адбіты бок яшчэ балеў. —

І я ніколькі не здзіўлюся, калі дзеля таго, каб Тызенгаўз нам паверыў, адправяць на гібель пару дзясяткаў няшчасных канфедэратаў, уся віна якіх толькі ў тым, што вайскаводцам не шкада імі ахвяраваць.

— Думаеш, і сутычка на дарозе была не выпадковай? — Вырвіч усеўся на другі тапчан.

— Калі мы маем справу з Ватманам, у супадзенні і выпадковасці я адмаўляюся верыць, — горка прагаварыў Лёднік. — Думаю, ён адправіў за намі атрад з загадам схапіць здраднікаў, гэта значыць, нас, і адначасова хтось па ягонай волі папярэдзіў Тызенгаўза, што трэба ратаваць перабежчыкаў з каштоўнымі звесткамі. Усё праўдападобна, вось таму мы тут, а не ў вязніцы, як ворагі. Хоць не ведаю, у чым у нашым выпадку розніца.

Дзесьці за сцяной забразгаў метал аб метал — магчыма, кавалі рабрыну для Жалезнага Змея, а можа, ланцугі для яго ж.

— Чакай... Але ж нас лёгка маглі забіць альбо параніць! — уразіўся Вырвіч. — Тыя канфедэраты не прыкідваліся, яны й праўда лічылі нас здрайцамі і былі злыя, як харты.

— Ну, альбо Ватман высока цэніць нашыя баявыя здольнасці і ўпэўнены, што мы зможам сябе абараніць... — хмыкнуў доктар, — альбо — і гэта больш верагодна — ён нічога не меў супраць таго, каб нас і праўда добра прыклалі. Мая смерць прынесла б яму столькі радасці, што ён мог неяк дамовіцца са сваім прафесійным гонарам, калі заданне правалілася б.

Зжаваўшы вылучаны двум новым жыхарам таемнай мануфактуры хлеб і высербаўшы поліўку з плябейскіх гліняных місаў, шпегі раздзяліліся. Лёднік выправіўся ў лабараторыю, а Вырвіч, праводзіўшы яго, пачаў вынюхваць што можна. Загаворваў з жаўнерамі, з мужыкамі, якіх сагналі сюды дзеля чорнай працы. Падслухоўваў... Падлабуньваўся да Пфальцмана, адвешваў яму камплiменты вагой са званы Свята-Духава сабора... Нават распіў з герам Якубам па чарачцы вішнёвага лікёру, што развязала вынаходніку язык.

І выходзіла, што прызначанае так хутка выпрабаванне карабля было не капрызам падскарбія. А проста князь Гагарын настойліва патрабаваў, каб яго пусцілі праінспектаваць мануфактуру, пагражаючы, што да Панятоўскага пасланы ганец ад самой імператрыцы Кацярыны, які прывязе на гэта дазвол. Падобна было, што Гагарын ведае пра таемнае возера і вадзянога змея куды больш за Багінскага — пэўне ж, былі і ў расейцаў тут шпегі. І вялікая верагоднасць, што слабы духам і залежны ад Кацярыны кароль падпіша любыя паперы, каб не выклікаць падазрэнняў і няміласці імператрыцы. А то з расейцаў станецца і войскі на штурм павесці — іх і так нагналі ў Рэч Паспалітую, як вазоў на кірмаш... Прыстойную падставу знойдуць заўсёды — прыкладам, выкрылі змову супраць таго ж Панятоўскага... Вось і абараняюць яго, небараку неразумнага, нат калі ён не просіць.

А таемную зброю аддаваць расейцам вой як не хацелася — а яны ж забяруць, прычапіўшыся, што парушана пагадненне пра колькасць каронных войскаў у Рэчы Паспалітай. Таму карабель вырашылі як мага хутчэй перагнаць па Прыпяці ажно ў Дняпро, да ўмацаванага сховішча. Зрабіць жа гэта сталася не так лёгка, бо расейцы расставілі людзей уздоўж ракі. Варта лодцы ўсплыць, каб памяняць паветра — гамон... У маскоўцаў загад — у любую падазроную трубу, што з ракі высунецца, страляць ды падымаць трывогу. Яшчэ і пасярод Прыпяці на чаўнах пільнавалі, усіх рыбакоў мясцовых змусілі дапамагаць. Узнагароду вялікую прызначылі таму, хто заўважыць у вадзе штось незвычайнае. А месцічы на Тызенгаўза злыя і на ягонага вадзянога змея, маўляў, людзі з-за яго знікаюць, дык і стараюцца.

Ноччу не паплывеш — без ліхтара ты сляпы, з ліхтаром — заўважаць. Адзінае — ісці на глыбіні, не ўсплываючы, так далёка, каб скончыліся пасты жаўнераў. Таму неабходна было наладзіць апарат для выпрацоўкі кіслароду.

І Лёднік наладжваў... Усю ноч шчыраваў, выгнаўшы з лабараторыі Пранціша, каб не раздражняў, ды яшчэ колькі разоў спускаўся да карабля. Вярнуўся ў іхні закутак толькі пад раніцу, зняможаны, змрочны... Паваліўся спаць — але дазволіў сабе толькі пару гадзін на сон ды колькі хвіляў на малітву... Вырвіч жа асвойваў «механічны бок»: Пфальцман па старой памяці цярпліва тлумачыў драгуну, як дзейнічае помпа для напаўнення цыстэрн, як рухаць вёслы... Але паспрабаваць на практыцы не дазволіў.

З лабараторыі ўвесь наступны дзень даносіўся такі смурод, што ўсе прусакі ды блохі, мусіць, выдахлі, калі яны тут вадзіліся. Поўнае нігрэда, карацей… Лёднік час ад часу пачынаў перхаць ды выбягаў на калідор, аддыхацца.

Самым падазроным было, што ні доктару, ні драгуну так і не далі магчымасці апрабаваць змея ў руху — апусціцца, усплыць... Пфальцман запэўніваў, што турбавацца не варта. Можа, з імі кагось пашлюць умелага?

А ў вольныя хвілі Чорны Доктар засяроджана маліўся, асабліва за здароўе рабоў Божых Саламеі, Аляксандра ды Сафіі, і чытаў канон сваім заўсёдным заступнікам, святым пакутнікам Кіпрыяну ды Юстыніі, найлепшым абаронцам ад чарадзейства.

— Быў ты служкаю дэманаў напачатку, але Хрыстовым Багаяўленым вучнем выявіўся пасля... Ад чарадзейнага майстэрства адвярнуўшыся, багамудры, да спазнання Боскага, з'явіўся ты свету лекарам мудрэйшым... І сэрца маё, гноем грахоўным хворае, малітвамі тваймі ацалі...

А Пранціш яшчэ і пісаў вершы. Яны ліліся, як быццам спяшаліся спраўдзіцца на паперы перад тым, як паэт назаўсёды адправіцца ў халоднае бяздонне тураўскага калодзежа.

...Вада паглынае апошнія дні,
запальвае варта на вежах агні,
І князь старадаўні ўсё трубіць у рог,
склікаючы вояў, якіх не збярог.

І сніліся драгуну ў самым сэрцы старажытнага Турава то вогненны танец егіпецкай прынцэсы, то хуткія рухі тонкай рукі з заціснутым у пальцах вугалем, які пакідаў на чыстым палатне абрысы разумнага дзявочага твару з цёмнымі іранічнымі вачыма.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

## Пачвары тураўскіх сутарэнняў

Галілей назіраў праз удасканалены ім тэлескоп сонца, пакуль зусім не страціў зрок.

Шведскі хімік-фармацэўт Карл Шэеле каштаваў ды ўдыхаў усе рэчывы, якія вынаходзіў. Калі ён паспрабаваў адкрытай ім сінільнай кіслаты, то паспеў запісаць толькі, што яна мае смак горкага міндалю.

Лонданскі доктар Уільям Старк апантана падбіраў дыеты для змагання з цынгой. То харчаваўся адным мясам, то адным хлебам, то мядовымі пудынгамі… Калі шаноўны эскулап у якасці дваццаць чацвёртай дыеты пераключыўся на сыр чэстар, шматпакутны арганізм здаўся, і містэр Старк адышоў у лепшы

свет харчавацца амброзіяй і нектарам. Хаця, хто ведае, можа, смаліцы гарачай давялося небараку адсёрбнуць? Бо што занадта, то не здарова, як засведчыў полацкі доктар Баўтрамей Лёднік, калі ў мінулым годзе даведаўся пра смерць маладога лонданскага калегі.

Але й сам доктар Лёднік часцяком уяўляў з сябе апантанага. Вось і ноччу добра, што Пранціш пайшоў паглядзець, як там Бутрым, чаму доўга не вяртаецца з лабараторыі. Давялося ўскрываць замок, бо алхімік і выйсці за дзверы не можа, сінее ды хрыпіць, надыхаўся нейкай гадасцю… А пасля яшчэ й абураўся — навошта драгун дзверы ламаў, маўляў, нічога страшнага, эксперымент, усё было пад кантролем…

Карацей, у дзень выпрабавання Чорны Доктар выглядаў так, што было зразумела, чаму слугі дый некаторыя шляхцюкі пры поглядзе на яго жагналіся, шапталі пацеры ды скрыжоўвалі пальцы. Вочы запалі, дзюбаты нос драпежна завастрыўся, чорныя патлы звісаюць да плеч, у чорнай замшавай куртцы і нагавіцах, выдадзеных падводным падарожнікам, хударлявы і выпрастаны, як меч… Дакладна нагадвае злога чарадзея. Асабліва побач з невысокім, але ладным блакітнавокім светлачубым драгунам...

А той драгун глядзеў на Жалезнага змея, які ляжаў на бэльках над чорнай вадой, адкрыўшы пашчу дзвярэй, і чамусьці не меў п'янкога прадчування прыгодаў на сваю чубатую галаву, якое звычайна змушала то лезці ў логвішча пачвары ў Дракошчыне, то сунуцца ў полацкія сутарэнні...

За спіну змея быў зачэплены той самы крук на канцы ланцуга, які спускаўся з партовага крана. Гэта да прыкрасці нагадвала старога цмока ў Дракошчыне. Калі Пранціш гераічна таго забіў, яшчэ здзіўляючыся, чаму пачвара не бароніцца, пабачыў, што няшчасны звер быў надзейна прыкаваны.

Няшмат прыгожага ў бойцы, калі хтось з супернікаў на ланцугу.

А тут яшчэ і Лёднік выбрыкнуў: упёршыся позіркам у Тызенгаўза, заявіў:

— Яснавяльможны князь, прабачце за дзёрзкасць, але ў мяне ўмова. Я спушчуся пад ваду адзін, без пана Вырвіча.

Пранціш ажно захлынуўся ад абурэння, а Лёднік працягваў сваё: хоча адправіцца без памочнікаў. Вырвіч угледзеўся ў напружанае аблічча былога свайго слугі і з прыкрасцю здагадаўся: значыць, доследы доктара не цалкам удаліся, не ўпэўнены доктар у тым, што яны не задыхнуцца... Вось і абражае маладзейшага сябра недаверам. Ён што, верыць, што той застанецца?

— Вашамосць, яснавяльможны князь, не слухайце пана Лёдніка...

Але пафасныя заявы Пранціша перарваў пан Антоній:

— Вядома, у змаганні за ўласнае жыццё ў кожнага прачынаюцца нечуваныя сілы і бліскучыя ідэі. Але штосьці мне падказвае, доктар, што ты будзеш яшчэ больш высільвацца, калі трэба ратаваць не толькі сябе, але і пана Вырвіча. Абодва на карабель! Ці гвалтам запхнуць?

І ўжо калі Лёднік ступіў на драўляныя масткі, якія пакорліва загайдаліся, Тызенгаўз жорстка дадаў:

— Дарэчы, мы падымем вас на паверхню толькі заўтра раніцай.

Лёднік пры ўсім сваім уменні валодаць сабою ледзь не спатыкнуўся і рэзка павярнуўся да падкаморага.

— На столькі часу мы не разлічвалі, вашамосць! Вытрымаць там суткі, не абнаўляючы паветра, немагчыма!

Нават Пфальцман неяк сумеўся, збляднеў, відаць, яскрава ўявіўшы пасінелыя трупы былога аднакурсніка ды ягонага маладога паплечніка на ўсё тых жа насілках. Пранціш толькі ганарыста закінуў галаву: Вырвічы на смерць заў-

сёды йдуць без нараканняў! А падскарбій шырока ўсміхнуўся, як выскаліўся, і дадаў з фальшывым пафасам:

— Я веру ў твой геній, Баўтрамей Лёднік! Ты справішся! Ты ж не хочаш, каб загінуў у пакутах твой сябрук пан Вырвіч, дый сам хочаш вярнуцца да сям'і? Вось і прыдумай, як вам дыхаць у бліжэйшыя суткі. Абсталяванне для цябе падрыхтавалі. Прыдумаеш — усё, што натварылі, будзе забытае, і кароль вас шчодра ўзнагародзіць. А каб вы не намагаліся ўсплысці раней часу — дык механізм усплыцця адключаны, і дзверы звонку замацуем.

Тут абыходзіліся тым жа метадам, якім суровыя бацькі вучаць дзяцей плаваць, кідаючы ў ваду. Калі дзіця не слабое — выплыве.

Светлавокі жаўнер, падобны да рыбіны, зачыніў за выпрабавальнікамі круглыя дзверы са злавесным скрыгатам, як вечка труны, і нат выраз твару ў яго быў, як у прафесійнага трунара: з лёгкім фальшывым спачуваннем. Лодка загайдалася Харонавым чоўнам — бэлькі дасталі, і жалезную пасудзіну пацягнулі ўніз цыстэрны, загадзя напоўненыя вадой. Гэтак труну павольна апускаюць на пасах у глыбокую магілу. Дзесьці наверсе грымеў, раскручваючыся, ланцуг.

Змей па-вар'яцку марудна пагружаўся і пагружаўся, так што Вырвічу на нейкі час падалося, што яны патрапілі ў тую бяздонную расколіну, пра якую казаў Пфальцман… І так і будуць заглыбляцца, пакуль анёлы не ўструбяць, і не прачнецца ў нетрах акіяна вялізны змей Ёрмунганд, сын бога Локі і валатоўны, і ад ягоных рухаў выплюхнуцца воды і затопяць сушу, і пойдуць жывыя на апошні суд... І падымецца з бездані акіяна карабель Нагльфар, створаны цалкам з пазногцяў памерлых...

І раптам лодка скаланулася ад глухога ўдару, змей перастаў пагойдвацца... Ясна, леглі на дно. Колькі ж над імі сажняў чорнай вады? Два сажані? Тры? Усе пяць?

Лёднік запаліў прымацаваную да столі адмысловую швейцарскую алейную лямпу, падобную да шкляной трубкі, з пустым унутры кнотам — найноўшае вынаходніцтва, якое адно й мусіла змагацца з пякельнай цемрай. Вырвіч пастараўся выкінуць з галавы скандынаўскую жудасць пра Ёрмунгандаў ды Нагльфараў, пачутую ў Манпелье ад аднаго нарвежскага карабельнага доктара.

За маленькімі круглымі вокнамі — кожнае ў дзве далоні — спляталіся, як у блёкаце, чорна-зялёна-юлёвыя цені... Пранцішу падалося, што ў адно з акенцаў зазірае празрысты твар Раіны Міхалішыўны, і яе светла-зялёныя русалчыны вочы глядзяць з нетутэйшай тугою, а тонкія пальцы гладзяць шкло...

Вырвіч страсянуў галавой — не да твару шляхціцу ў час смяротнай небяспекі відзежамі паглынацца... Дзейнічаць трэба! Але Лёднік, заміж таго, каб штось рабіць, стамлёна асунуўся на падлогу, абапершыся спінай аб кляты апарат для выпрацоўкі кіслароду, з адчаем стукнуў кулаком у жалезную падлогу і вылаяўся на лаціне.

— Я ж казаў, пан Вырвіч, што прыношу тым, хто побач, адны няшчасці... Ну навошта ты дзесяць год таму па дарозе на Валожын купіў мяне за шэлег! Усё з-за мяне... І ў Манпелье ты ледзь не загінуў, і цяпер тут апынуўся... Вось у падобныя моманты я востра шкадую, чаму бацька мала біў мяне па галаве, так, што не адбіў мазгі, і я заміж сумленнай працы гарбара ўдарыўся ў навуку, і цяпер усім ды кожнаму карціць мяне скарыстаць!

Лёднік зноў стукнуў кулаком у падлогу, так, што падалося, зараз праб'е. А што — Чорны Доктар здатны на ўсялякія штукарствы.

— Навалач! Невукі! — гэта ўжо, відаць, на адрас падскарбія ды Пфальцмана. — Нават калі я адладжу апарат для выпрацоўкі кіслароду — гэта нас не выратуе...

— Чаму? — пракаўтнуў сліну Пранціш. Лёднік, сціскаючы ў руцэ медальён з пасмачкамі валасоў сямейных, адказаў роўным, як дошка для труны, голасам:

— Таму што за суткі... а дакладней, куды раней, мы задыхнемся ад тых атрутных рэчываў, якія вылучаюцца пры дыханні. А праводзіць хімічныя доследы ў герметычным памяшканні — гэта ўвогуле самазабойства!

Але Вырвіч герба Гіпацэнтаўр, чые продкі біліся з тэўтонцамі пад Грунвальдам, з татарамі на Сініх Водах, з туркамі пад Хоцінам і з маскоўцамі пад Воршай, не мог проста так здацца і чакаць смерці! Вунь з полацкіх сутарэнняў выбраліся — а тут усяго некалькі метраў вады. Праўда, халоднай, што пачынала ўжо адчувацца. Недарэмна ім кінулі ў карабель футры... А амаль усё астатняе месца займала начынне, перанесенае з лабараторыі. Нават стосы кніг паклалі... Даследуй, не хачу.

Пранціш абшарыў карабель, спрабуючы знайсці месца, адкуль можна выслізнуць... Дарэмна. Вокны малыя, дзверы надзейна закаркаваныя, сцены не праб'еш — дый хутчэй патонеш, чым выплывеш... Падважнік помпы, якая мусіла адкачваць з цыстэрнаў ваду, увогуле адкруцілі ды вынеслі. Спробы зрушыць з месца механізм, які кіраваў вёсламі, прынеслі яшчэ адно невясёлае адкрыццё — тыя, хто пасылаў сюды шпегаў, прадбачылі, што яны могуць паспрабаваць разгайдаць човен, неяк сплысці... Так што вёслы былі замацаваныя дзесьці звонку. Надзея на гарматы таксама растала: хто ж пакіне падазроным асобам магчымасць стрэліць? Карацей, яны з Лёднікам сядзелі бездапаможныя, як жукі ў слоіку.

А ціха як... Толькі дзесь нібыта вада крапае. А не дай Гасподзь, выявіцца дзюрка? І зараз сюды пацячэ вада, і патроху запоўніць іхнюю бляшанку… Ці патануць, ці задыхнуцца… Выбар багаты, як на Ракаўскім кірмашы.

Вырвіч зірнуў на доктара... Паміраць усё-ткі не хацелася. Лёднік падняў галаву, напружана ўгледзеўся скрозь прыцемак у аблічча свайго былога гаспадара, нібыта вырашаў штосьці вельмі важнае, з сілай правёў далонямі па выснажаным твары і ўзняўся, выпрастаны і напяты.

— Што ж, на горшы выпадак я мог бы паспрабаваць увесці нас у стан кататоніі — пры ім расходуецца зусім мала кіслароду. Але гэта вельмі небяспечна, і практыкі малавата. Можна было б проста загасіць лямпу, не траціць паветра на доследы, легчы ды чакаць, колькі пражывем... Але, баюся, нават калі здарыцца цуд, і мы выжывем, нас зноў адправяць на дно, ды яшчэ надаўжэй. Таму зраблю, як належыць навукоўцу.

Пранціш цалкам быў згодны, што лепей брацца за колбы, чым ужываць неправераныя магічныя метады, кшталту ўвядзення ў кататонію, штучны паралюш. Нават калі дастануць жывымі — могуць прыняць за мёртвых дый прыкапаць ціхенька, каб шуму не было...

Ліцвінскі Адысей, які патрапіў усё-ткі паводле Гамера ў царства Аіда, не зважаючы на холад, скінуў куртку, падкасаў рукавы кашулі, звязаў доўгія валасы ў хвост, абарваўшы з курткі скураную тасёмку. Пранціш таксама падрыхтаваўся дапамагаць у доследах. Лёднік засяроджана кіўнуў:

— Памолімся...

Стаў на калені, і Пранціш апусціўся побач, на халодную металічную паверхню:

— Памілуй мяне, Божа, дзеля вялікай міласці Тваёй, і дзеля мноства шчадротаў Тваіх, ачысці няправату маю. Зусім абмый мяне з няправаты мае, і ад грэху майго ачысці мяне. Бо няправату маю я знаю, і грэх мой перада мною ёсць і цяпер...

Што ж, Гасподзь нават з чэрава кіта дастаў прарока Іёну...

А потым Чорны Доктар узяўся за колбы-перагонныя кубы, адрывіста прагаворваючы скрозь зубы:

— З салетрай я так-сяк разабраўся... Калі падтрымліваць патрэбную тэмпературу, кісларод будзе вылучацца, смурод неяк вытрымаем. А што наконт паглынання адкідных газаў... Ёсць пара варыянтаў. Здабыць гідравокісь якога шчолачнага металу... А яшчэ той артыкул у «Лейпцыгскім часопісе», пра эксперыменты Прыстлі са шчолачным паветрам, якое ўступае ў рэакцыю з дыяксідам вугляроду... Магчыма, я мог бы тое рэчыва здабыць. Шатландзец Джозэф Блэк навучыўся абсарбіраваць вуглякіслы газ... Мусіць, ягоны метад яшчэ зручней... Натар пякучы і вокіс кальцыя... Так што буду складаць абсарбент з таго, што маем. А самае паганае, — раптам з пачуццём прамовіў Полацкі Фаўст, — можна атруціцца і вынікамі доследаў. У тыглі Пфальцман прадугледзеў невялічкую вентыляцыю — адводзіць дым праз цыстэрны, але яе недастаткова. Гэта ж не комін з хаты высунуць...

Наўрад дзесь яшчэ навуковыя эксперыменты рабіліся з такой жарсцю. Каб не Пранціш, Лёднік і глытка вады не выпіў бы, заняты справай. Хвіліны раставалі адна за адной, як на распаленай бляссе. Расчынні змешваліся, сычэлі, як змеі, пеніліся, рабіліся празрыстымі... Смярдзелі, вядома.

Бутрым звярнуў увагу, што лодка ўсё адно пагойдваецца — а гэта значыла, што ў вадзе моцная плынь. Мусіць, з той самай бяздоннай расколіны... Хоць бы туды не знесла…

Але дыхаць рабілася ўсё цяжэй. І рухацца ўжо не хацелася. Хацелася легчы і заплюшчыць вочы. Лёднік час ад часу нават трос драгуна за плечы, забараняючы спаць і запэўніваючы, што ўсё добра, хімічныя рэакцыі няхай не дасканала, але працуюць... Іначай яны б абодва даўно атруціліся, як іх папярэднікі.

Хвіліны, нібыта кроплі, што сцякаюць па шкле, збіраліся ў струменьчыкі гадзін і сцякалі кудысь за шыбу быцця... Цямнела ў вачох, шумела ўвушшу, балюча сціскала ў грудзях. Урэшце полацкі доктар і ягоны былы ўладальнік бяссіла ўселіся на падлогу, прываліўшыся да бакоў Жалезнага змея. І, хаця разумней было б маўчаць, зберагаючы паветра, маўчанне зрабіла б гэтыя, магчыма, апошнія хвіліны невыносным. Швейцарская лямпа, кнот якой прыкруцілі, але не загасілі — нельга было не сачыць за тым, як адбываюцца выратавальныя хімічныя рэакцыі, не разганяла задушлівую цемру, а толькі ледзь адсоўвала яе межы, як балотны агеньчык, адбіраючы ў людзей рэшткі кіслароду.

— Надзея ўсё роўна ёсць, хлопча, — глухім голасам прамовіў Бутрым. — Павер, я папрацаваў... добра, пару вынаходніцтваў на ўласны рахунак магу запісаць... Тызенгаўз, як ні кашчунна прызнаваць, мае рацыю — ён дамагаецца немагчымага, ставячы людзей на мяжу... Або зрабі, або здохні, і няважна, што дагэтуль такога ніхто не рабіў.

Пранціш і сам ведаў, што Лёднік учыніў дзеля іх уратавання амаль немагчымае. Урэшце, ім і праўда ёсць яшчэ чым дыхаць, і лямпа не згасае.

Бутрым сядзеў, апусціўшы галаву на калені, зусім, як тады, у доме дэ Варда. І Пранціш, хоць абяцаў ніколі не пытацца, што адбылося ў палоне прагрэсіўных дактароў, не вытрымаў:

— Слухай, а чаму, калі мы забіралі цябе з Манпелье, на тваёй скроні дзве такія таненькія касы былі заплеценыя?

Лёднік не раззлаваўся — і яму было не да ўмоўнасцяў, адказаў павольна і ціха:

— У аднаго горнага племені гэта спосаб адганяць злых духаў і ўвогуле няшчасці... На знак удзячнасці мне заплялі. Я паўпрытомны быў...

Пранціш здагадваўся, што падзякавала Лёдніку адна з рабынь. Бутрым пацвердзіў, уздыхнуўшы:

— Спадзяюся, хоць хтось з тых няшчасных, у ашыйніках, займеў волю...

Пан Вырвіч хмыкнуў:

— То ж яны да тае волі імкнуліся, ніводная за табой не пайшла. Такіх, як Раіна... — голас на імені памерлай нявесты здрыгануўся, — сярод панскіх наложніцаў няшмат. Не ўсім воля патрэбная. Чалавеку шчасце — тое, да чаго ён звык. Часам гэта ашыйнік і ланцуг. «Усё лекі, усё атрута...» Сам казаў. Цёмныя людзі ніякім злачынствам не абурацца, калі ім патлумачаць, што гэта правільна, нармальна... Толькі высакародным дадзена бачыць сапраўдную карціну свету і супрацьстаяць несправядлівасці!

— Цёмныя, кажаш? — ціха азваўся Лёднік. — Значыць, бедныя, непісьменныя? Я ведаў жабракоў, якія не вывучылі ў жыцці ніводнай літары. Але згубі побач з такім залаты талер — ён падбярэ і табе верне, нават калі ўвесь свет будзе з яго смяяцца за такі ўчынак. А вось табе нашыя адукаваныя магнаты... У часы Жыгімонта Старога здарылася знаменне: «слонце так ся было затмило, же на ножовое тылце тылко его видати было рогами на заход». І ўсчалася страшная вайна. Два магнаты павінны былі бараніць княства — Станіслаў Гаштольд і Януш Радзівіл па мянушцы Amor Polonia... А яны між сабою варагавалі. Дзе ўладанні аднаго — побач уладанні другога, б'юцца за межы... Галоўныя пасады дзяржавы — зноў два прэтэндэнты...

Пранціш разумеў, што Лёднік проста хоча адцягнуць увагу, прабавіць час... Што ім цяпер да магнацкіх звадаў?

— І вось напалі адначасова татары і маскоўцы. Ваявода трокскі Гаштольд апынуўся са сваім аддзелам у Крэўскім замку, які трапіў у аблогу... Адзін спадзеў быў на ваяводу віленскага Яна Радзівіла, той мусіў даслаць дапамогу, сабраць рушэнне... Але Радзівіл спецыяльна затрымаў у сябе каралеўскія лісты, што належала разаслаць шляхце. І Гаштольд мусіў адбівацца адзін... Каб потым ужо нацкаваць на Радзівілаў каралеву Бону, быццам прыўлашчылі каралеўскія землі ў Белавежскай пушчы.

— Вырвічы пакаленнямі змагаліся ў войсках князя Астрожскага, — перабіў Пранціш. — Мой пан бацька распавядаў, як Радзівілы ды Гаштольды праваслаўных Астрожскіх перад каралём абгаворвалі, ад улады адцяснялі... І што? За ўладу князі чалавечыя біліся заўсёды, яшчэ ў часы рымскіх цэзараў ды фараонаў. Але кожны шляхціц, прымаючы меч, прысягае, што будзе абараняць бязвінных. Ты таксама Гіпакрату кляўся і не вагаўся, калі выбіраў паміж вечным рабствам і калечаннем людзей...

— І тут не ўсё проста... — Лёднік стараўся дыхаць неглыбока. — Там, у дэ Варда, мне даводзілася адстойваць, аплочваць самай страшнай цаной свой лапік волі... Да прыкладу, я адмаўляўся рыхтаваць афрадызіякі, што выклікаюць юр. А аднойчы мяне змушалі рабіць спарон...

У прыцемку відаць было, як Лёднік перахрысціўся.

— Я, вядома, заявіў, што лепш сам памру, чым вазьму на сябе страшны грэх забойства ненароджанага дзіцяці.

— Ну і правільна! — горача падтрымаў Пранціш. Баўтрамей абцёр рукавом спацелы ад задухі твар. Круглыя вокны таксама, здаецца, усе запацелі, нагадваючы памутнелыя вочы паміраючай пачвары.

— Зацяжарала адна з нявольніцаў. Яна не стала чакаць, што ўчыняць з ёй гаспадары — знішчаць, калі страціць прывабнасць, ці прыдумаюць бяз-

божныя эксперыменты над ёй і дзіцем, і пазбавілася ад плоду сама. Пакуль яе знайшлі, сцякла крывёй.

Лёднік зноў перахрысціўся, прамармытаўшы кароткую малітву. Голас яго загучаў зусім глуха:

— Нават ведаючы, што будзе, я ўсё роўна не пагадзіўся б учыніць смяротны грэх. Але мая адмова забіла дзве чалавечыя істоты. З падобным сутыкаюцца ўсе лекары, асабліва — павітухі. Саламея магла б табе распавесці шмат жахлівых гісторый, Вырвіч, пра сваіх пацыентак, — голас Баўтрамея ўсё цішэў, да шэпту. — Мы з жонкай ніколі не парушалі хрысціянскіх запаветаў. Але сваёй цвёрдасцю аддалі многіх на смерць і ганьбу, і з гэтым трэба было жыць.

— Раіна ніколі б не згадзілася забіць сваё дзіця... Нават калі б яно было ад Батысты... Ці ад якога... іншага гвалтаўніка, — словы нібыта не слухаліся Вырвіча. — А я нават не паспрабаваў яе адшукаць. І тады, калі яна з’явілася да нас у Ліёне... Схапіць бы, змусіць застацца, абвянчацца... У нас было б хоць трохі шчасця! А я так і не зразумеў, чаго больш адчуваў да яе — шкадобы альбо кахання... І ці не падобная мая любоў да чыстай вады, у якой калісьці расчынілі кроплю атраманту? Дамешку не відаць — але ён ёсць... Паблажлівы, гідкі, грэблівы... Нездарма ж Раіна збегла...

Лёднік мармытаў сваё:

— Сафійка яшчэ падрасла... І мяне, мабыць, зноў не памятае... Каралевічна мая... Вёз ёй ляльку, памятаеш, у Нясвіжы ў краме купіў... Не збярог. Шлем гэты кляты захаваў, а падарунак для дачкі згубіў... Алесь ужо такі вялікі... Ён вырасце лепшым за мяне, і будзе добрым абаронцам сям’і... Гэх, не сустрэну і гэты Светлы Вялікдзень з любымі. Саламея мая, Пе-не-ло-па... Тчэ і тчэ бясконцы сувой з бяссонных начэй ды трывожных дзён...

Шэпт побач рабіўся ўсё цішэйшы. Вочы Пранціша заплюшчваліся як бы самі па сабе, шчака сутыкнулася з чымсьці цвёрдым...

— Уставай! Не засынай!

Вырвіча трэслі так, што зубы стукаліся... Скрозь туман ён убачыў над сабой чорныя прагалы вачэй — ці доктар, ці смерць? Але смерць наўрад стала б даваць яму аплявухі ды расціраць вушы. Пранціш патрос галавой, грудзі сціскала, як абцугамі.

— Колькі... нам яшчэ... да прызначанага панам Антоніем тэрміну?

Доктар памаўчаў, неахвотна прасіпеў:

— Дзве з паловай гадзіны.

— Многа...

Пранціш прысеў, абапершыся мокрай спінай аб рэбры зняволенага на ланцугу Змея. Цяпер было горача — жалезны куб тыгля плавіў паветра, хацелася скінуць не толькі кашулю, але й скуру.

— Як думаеш, Раіна мяне чакае?

— Раіна хацела б, каб ты жыў! — гнеўна адказаў доктар. Устаў, трымаючыся за сцяну, хістка падышоў да прыбораў, мармычучы пад нос штосьці навуковае. Ясна — вырашыў паспрабаваць яшчэ нейкі радыкальны сродак. Павялічыў агеньчык у лямпе, забразгаў колбамі з рэчывамі, нешта шэптам вылічваў...

Апошняе, што памятаў Пранціш — як постаць у белай расшпіленай кашулі стаіць на каленях перад перагонным кубам, спрабуючы дадаць туды нейкае рэчыва, а потым валіцца з выцягнутай рукой на падлогу, якую хістае падводная плынь. Хістае ўсё мацней, мацней...

І раптам грудзі нясцерпна забалелі і адначасова напоўніліся шчасцем — а як яшчэ назваць свежае паветра? Якое, аказваецца, гэта задавальненне — проста дыхаць...

У вачах патроху разамглялася... Але блакітных нябёсаў яны не пабачылі. А пабачылі той самы змрочны цёмны звод пячоры.

Пранціш павярнуў галаву: вунь пагойдваецца на хвалях Жалезны змей, над якім звісае ланцуг... Значыць, іх усё-ткі выцягнулі! А дзе Лёднік?

У святле паходняў, якое пасля сляпога прыцемку падводнай турмы здавалася балюча зыркім, на вільготным пяску ніцма ляжаў полацкі алхімік... Няўжо стваральнік цуду сам не змог ім скарыстацца? Вырвіч з цяжкасцю прыўзняўся... Але заварушыўся і Лёднік. Стаў на калені, упёршыся рукамі ў тураўскую зямлю, заперхаўся...

— Здаецца, я ў самы час загадаў дастаць вашых выпрабавальнікаў, — ветлівы тонкі мужчынскі голас гучаў са здзеклівай цікаўнасцю. — Колькі вы іх пад вадой пратрымалі? Гадзін пяць?

— Ды больш за суткі, вашамосць, — лісліва адказаў хтосьці.

— Ого! Ды яны ў вас жывучыя, як прусакі! Але каб вы яшчэ гадзіну мне галаву дурылі, што на канцы гэтага ланцуга бочкі з віном, а не падводны карабель, не ўдалося б мне ўчыніць богаўгодную справу...

Пранціш нарэшце змог падняць галаву і праз віраванне залатых пчолак у вачах разгледзець персанажаў сцэны. Капрызліва скрывіўшы вусны, над падземным тураўскім возерам стаяў расейскі князь Гагарын і пагардліва пазіраў на Пфальцмана, які ледзь не прысядаў ад страху. Князя Антонія Тызенгаўза нідзе не было... Затое былі расейскія жаўнеры. Няўжо, пакуль драгун і доктар сядзелі пад вадой, тут адбылася нежартоўная бойка? А пляскатвары шляхцюк, падобны да рыбіны, напэўна, асведамляльнік маскоўцаў — надта ж выцягваецца перад князем, ганарыцца — як удала ўсіх заклаў...

— Ягоная вялікасць кароль Станіслаў Панятоўскі раней нат, чым мы чакалі, даў дазвол на інспекцыю, запэўніўшы яе імператарскую вялікасць, што ніякай зброі ад яе не ўтойвае... А на гэтай чаропцы, як я назіраю, гарматы! — грозна прамаўляў Гагарын, пакуль Лёднік не ўстаў на ногі... А як пабачыў аблічча Чорнага Доктара, князю аж мову заняло. Ён перавёў шалёны позірк на Пранціша, потым зноў на Баўтрамея.

— Вось табе на, старыя знаёмыя! Мастакі самазваныя! Шпегі!

Чорныя воды тураўскага падземнага возера не плесканулісь ў прадчуванні хуткай ахвяры, але штосьці ў іх пракаветных нетрах, напэўна, аблізнулася. Пфальцман нясмела падаў голас:

— Ваша светласць, яны працавалі на нас, на яго вялікасць караля, прынеслі ягонай мосці падскарбію каштоўныя звесткі пра бунтаўнікоў! Гэта вядомы доктар Баўтрамей Лёднік, а гэта ягоны асістэнт высакародны пан Франтасій Вырвіч!

Падобны да дзіцячага, круглы твар Гагарына з дробнымі рысамі ажно перакрывіўся пры поглядзе на доктара:

— У мяне яшчэ ў Капанічах мільгнула думка, што ты — Баўтрамей Лёднік! Толькі я ўяўляў, што той Чорны Доктар больш… скажам шчыра, плячысты ды павабны.

Зыркнуў на Пранціша:

— А вы, значыць, камандзір барскіх канфедэратаў? І напэўна ж, на руках вашай мосці кроў не аднаго майго суайчынніка… І чаму васпан не патрапіўся мне на полі бойкі?

Вырвічу падалося, што ў нетрах падземнага возера нешта падплыло бліжэй да паверхні і разявіла пашчу ў чаканні пачастунку.

Але князь, нават раз’юшаны, разумеў, што забіваць тых, хто нібыта перайшоў на бок саюзнікаў, не выпадала, і Гагарын утаропіўся ў галоўную ахвяру — Пфальцмана.

— Кажаце, князь Антоній мяне не дачакаўся? Вось шкада... А то я б перад ім распавёў, як вы скралі сваё вынаходніцтва ў расейскага падданага Яфіма Ніканава!

Нямчук ажно пачырванеў — але не ад страху, а ад гневу, бо любоў да сваёй справы ды прафесійны гонар, як ні дзіўна, але заўсёды перасільвалі ягоны баязлівы характар.

— Запэўніваю вас, вашамосць, што ні ў кога я вынаходніцтваў ніколі не краў! Гэты падводны карабель я сам прыдумаў, і механізмы ягоныя, і адмысловыя прыстасаванні...

— Яшчэ скажы, што ніколі не бачыў папер, якія Ніканаў, сасланы ў Астраханскі порт, калісь пасылаў польскаму каралю! — пасміхнуўся Гагарын.

— Калі ў Расіі даўно ўмелі будаваць паводныя лодкі, дык чаму не пабудавалі? — абражаны вынаходнік быў нечувана дзёрзкі.

— Таму што пасля смерці вялікага Пятра дурні-чыноўнікі не ацанілі тое, чым ён апекаваўся, — павучальна патлумачыў князь. — Пяцьдзясят год таму патаемны карабель Ніканава падчас іспытаў у Архангельску ляснуўся разам з чатырма сотнямі рублёў, на яго выдаткаваных. Вынаходнік зведаў няміласць. Яго разжалавалі ў простыя адміралцейскія работнікі, саслалі і забаранілі займацца эксперыментамі. Ён дваццаць год завальваў царскую канцылярыю скаргамі, прапаноўваў удасканаленыя варыянты карабля... А калі яму загадалі сціхнуць, відаць, азлобіўся ды пачаў пісаць іншым манархам. Праўда, ягоныя лісты і там трапляюць пад сукно. Пакуль хтось пры цяперашнім польскім каралі іх не знайшоў. Ніканава на свеце няма, дык і рады прыўлашчыць ягоны плён?

Пфальцман надзьмуўся, як жаба на корч.

— Я калі і выкарыстаў, дык толькі сістэму напаўнення баласных цыстэрнаў, і тое ўдасканаліў!

Пранціш пасміхнуўся: ну немец і прасцяк, прагаварыўся, што знаёмы з чарцяжамі Ніканава! Не такі ўжо і разумнік гэты Пфальцман. Былы слуга Пранціша Вырвіча Бутрым куды кемней! Бо нямчук ідэю Жалезнай Чарапахі падгледзеў у нататніках Леанарда да Вінчы, Жалезнага Змея — у расейца...

— Ну, гэта на тым свеце будзеце з Ніканавым высвятляць, — абарваў Гагарын. — Што мяне цікавіць, дык што вы прыдумалі, каб можна было так доўга сядзець у караблі, не ўсплываючы?

Тут падскочыў у жаданні дагадзіць рыбатвары жаўнер:

— А гэта, вашамосць, доктар Лёднік пастараўся! Князь Антоні Тызенгаўз загадаў трымаць яго з памочнікам пад вадой, пакуль не вынайдуць штось...

— Добры спосаб! — ухваліў Гагарын. — Даўно хачу якога-небудзь маскоўскага канцылярыста замкнуць у пакоі з усімі ягонымі паперамі, пакуль не навучыцца імі харчавацца. Тады, можа, усе мае цяжбы за адзін дзень будуць вырашацца, ды без хабару.

Радавіты жаніх паненкі Дамінікі Гараўскай падбіў наском высокага бліскучага бота, які люстраваў злавеснае святло паходняў, каменьчык, і той пакорліва паляцеў у чорную ваду.

— І чарцяжы прылады для выпрацоўкі паветра прадставіце...

Лёднік рашуча ступіў наперад:

— Вашамосць, ніякіх чарцяжоў няма! Я працаваў ва ўмовах смяротнай небяспекі, і наўрад змагу паўтарыць тое, што выпадкова прыйшло ў галаву падчас афектацыі...

Гагарын, аднак, не раззлаваўся, ён зноў быў млява-спакойны, і ад таго ягоныя словы былі яшчэ больш важкімі і страшнымі.

— Не зможаш без афектацыі — зладзім афектацыю...

Пранціш не вытрымаў:

— Ваша княская мосць, дазвольце нагадаць, што пан Баўтрамей Лёднік — падданы яго вялікасці караля Рэчы Паспалітай, ён — шляхціц, і змусіць яго да чагосьці можна толькі згодна са Статутам Вялікага Княства Літоўскага... Id tantum possumus, quod de jure possumus[4]!

Князь выразна скрывіўся — Пранціш сам ведаў, як мала сёння каштуюць законы іх дзяржавы, якая патроху губляла незалежнасць.

— Яго вялікасць кароль Станіслаў Аўгуст — верны саюзнік яе імператарскай вялікасці, і з удзячнасцю прыняў яе дапамогу ў навядзенні парадку ў сваёй дзяржаве. Таму тое, што я зараз абвяшчаю, мае моц закону і для вас. Яе Вялікасць Кацярына не жадае, каб спакой гэтых земляў, якія знаходзяцца пад яе літасцівай суседскай апекай, парушала блюзнерская злачынная зброя, ужыванне якой збянтэжыць розумы, спакусіць уладай і пасее злосць у душах. Таму са згоды яго вялікасці Станіслава Аўгуста наша імператрыца зноў бярэ на сябе ролю міратворцы і цяжкую задачу захоўваць у таямніцы гэтую зброю, пакуль не знойдзецца ёй богаўгоднае прымяненне.

Усё-ткі наклалі лапу расейцы на Жалезнага Змея... Панятоўскі ў чарговы раз не вытрымаў уціску сваёй уладнай былой каханкі. Зусім як шкаляр, што напачатку смела адмаўляецца адкрыць злоснаму настаўніку імёны таварышаў, якія ўзялі ўдзел у пракудзе, але варта пабачыць розгу — і, пагарджаючы сабою, усіх выдае.

А тады плача ды крыўдуе на несправядлівасць лёсу.

Вырвіч чакаў, што зараз Гагарын загадае вывесці Вадзянога Змея ў Прыпяць, і, цалкам магчыма, для гэтага зноў спатрэбяцца яны з Лёднікам. А яны абавязкова нешта прыдумаюць, каб уцячы... Але расеец, нягледзячы на мяккую, дзіцячую знешнасць, быў зусім не дурань, а жорсткасці і хітрасці меў не менш, чым той жа падскарбій. Нават свавольная панна Дамініка Гараўская наўрад такога зацугляе. Дазволь паплысці Жалезнаму Змею — хто ведае, на якія хітрыкі здатныя ягоныя стваральнікі. Дый няма чаго дэманстраваць людзям пачвару — разнясуць чуткі на ўвесь свет-павет...

— Выцягвайце свой карабель на бераг, што можна — адкруціце, каб змясціўся на воз...

А вось і вялізныя калёсы загрукаталі па падземным ходзе... І дзе толькі такія здабылі?

Дарэмна Пфальцман верашчаў, што ягонае стварэнне будзе загубленае, ламаць — не будаваць... Жаўнеры ды паднявольныя мясцовыя мужыкі з вялікім задавальненнем накінуліся на Вадзянога Змея... Нямчук лямантаваў, лаяўся па-нямецку, а тады, пабачыўшы дарэмнасць пратэстаў, учапіўся ў Гагарына з ліслівымі роспытамі. Калі яе вялікасць Кацярына зацікавілася вынаходніцтвам, дык, напэўна, з уласцівай ёй шчодрасцю расплоціцца за яго?

Геру Якубу Пфальцману, відавочна, было ўсё роўна, хто з уладароў скарыстаецца з ягоных уменняў, абы плацілі ды не пагражалі забіць.

Вадзянога Змея пагрузілі на калёсы. Нешта ў чорным тураўскім возеры з палёгкай вільнула хвастом: нарэшце прыбралі гэтую жалезную бурбалку, якую ні з'есці, ні пакусаць, а тлуму вакол яе — хоць не ўсплывай ніколі...

Вечар у Тураве пах дымам. Дым пагойдваўся над комінамі, быццам пер'і на шлемах волатаў-рыцараў, што так доўга збіраліся ў крыжовы паход, аж паспелі ўрасці ў зямлю... А зямля тут была шчодра напоеная крывёй, якую хто толькі ні праліваў. У 1654-м войскі Аляксея Цішайшага так усё вынішчылі, што, паводле ліста тураўскага падстарасты Хведара Ляўковіча, «не толькі ў

дамах сялянскіх, што змаглі адшукаць, забралі, але, сялян у лясах знаходзячы, некаторых насмерць пазамучвалі…» А калі Януш Радзівіл горад узяў — хто ацалеў, таксама пашкадаваў, што жывы застаўся... Як жа — здрайцы, з казакамі хаўрусаваліся, на Сеч паўцякалі...

Пасля ўсіх падзеяў з чатырох соцень дымоў у мястэчку засталося трохі больш за сотню... А колькі яшчэ войнаў ды звадаў тут прапаўзалі вогненнымі цмокамі! Карацей, краявіды ўрачыстасцю не ўражвалі, хоць менавіта тут, у вежы на замчышчы, Кірыла Тураўскі, Златавуст, успяваў Госпада і хараство створанага ім свету.

Затое Вырвіч быў вельмі рады, што нарэшце яны з Бутрымам бачаць неба, няхай і зацягнутае цёмнымі нізкімі хмарамі, і доўгія гадзіны пад вадой здаваліся начным блёкатам. З мануфактуры іх выпусцілі. Вядома, нельга было спадзявацца, што за пасвечанымі ў таямніцу, а асабліва доктарам-вынаходнікам, не сочаць і дадуць з'ехаць. Затое з імі былі шаблі. Пранціш нібыта адчуваў, як радуецца ягоны верны прадзедаўскі Гіпацэнтаўр, а Бутрым цягнуў у скураной сумцы на баку Альбукасісаў шлем і нават пяшчотна пагладжваў сумку рукою. Эксперыментатар...

Тураўская карчма з ганарыстай назвай «Лондан», дзе яны апынуліся, калі й нагадвала чэрава Жалезнага Змея, дык хіба тым, што тут таксама было цяжка дыхаць: смурод гарэлкі, тушанай капусты, часныку ды разгарачаных целаў так густа замешаны, што, здавалася, сякеру ўтрымае... З усяе музыкі — толькі дудка, якая выводзіла таненька ды жаласна даўнюю мелодыю, за якой угадваліся кранальныя словы, якія звычайна пяюцца на вяселлі сіраціны:

...Рада б я ўстаці
К сваяму дзіцяці,
Благаслаўленнейка даці.
Чорная смага
На губах пала,
Не магу прэгукаці.
Жоўтыя пясочкі
Засыпалі вочкі —
Не магу прэглянуці.
Сырая зямля
На сэрцу легла —
Не магу прэдыхаці.
Дубовыя дошкі
Сціснулі ножкі —
Не магу пахадзіці.
Дубовыя цвечкі
Сціснулі плечкі —
Не магу ўстаці.

Што ж, і ў Лондане, дзе Пранціш з Бутрымам пабывалі, музыкі-жабракі на вуліцах умелі жаласна граць... Праўда, пры гэтым так і цэлілі зрэзаць кашалёк. А тут худзючы падлетак у сялянскай світцы гэтак старанна дзьмуў у свой нязвычны для карчмы немудрагелісты інструмент, так спалохана касавурыўся на наведнікаў, што не трэба было распытваць, як сюды трапіў. Граў сабе пастушок у полі, каровак цешыў. Карчмар выпадкова пачуў, ацаніў самавука, ну й дамовіўся з бацькамі ці гаспадарамі, што заробіць малец троху грошай, замяніўшы прыхварэлых музыкаў, бо не траціцца ж карчмару на больш самавітых майстроў. Што ж, таленты ў гэтым свеце над сабою не ўладныя, хто-небудзь іх абавязкова рана ці позна прадасць.

Шпегі агледзеліся: люд у карчомцы падзяляўся на дзве часткі, бы ў ваду налілі алей. У адной палове залы гулі шляхцюкі з кароннага войска, у дру-

гой — маскоўскія гусары. І тыя, і другія рабілі выгляд, што не заўважаюць суседзяў — звадзіцца было строга забаронена, пад пагрозай расстрэлу, бо ведала начальства, што гэта за навала. Але як не паганарыцца маладым ваярам, хаўрус перад хаўрусам? Вырвіч сам яшчэ нядаўна такі быў...

Пакуль што ў кожнага хаўруса меўся свой занятак. Шляхцюкі пацяшаліся з падпітага таварыша, які ўгаворваў маладую карчмарку з белым пульхным тварам, на якім гарэў намаляваны чырванілам румянак, ахвяраваць чаравічак з ножкі. З таго чаравічка верны рыцар панны хоча выпіць гарэліцы за яе здароўе. Рыцар быў немалады, нязграбны, як рыдван, і з шарачковай шляхты, пра што сведчыла заплямленая вопратка ды адсутнасць дарагіх сыкгнетаў і дыяментавага гуза на пакамечанай шапцы. У светлых вусах зачапілася капуста.

Карчмарка ўдавана сарамліва пасмейвалася, спрабуючы і адвязацца ад надакучлівага кавалера, якіх яна бачыла кожны вечар тузінамі, і не скрыўдзіць гасцей, бо шляхцюка толькі зачапі, хай ён і бедны, як бізун... Пасячэ, паб’е — і вінаваты не будзе, бо любы суд пастановіць, меў права абараняць ад прасталюдца свой гонар.

Расейскія гусары ў сваім куце падымалі віват за віватам у гонар яе імператарскай вялікасці, нахабна аглядаючыся, ці не пашанцуе заўважыць якую непавагу ды ўсчаць справядлівую бойку... Піва, моцнае, дубельтовае, стаяла на іх стале ў шкляніцы з трыма абручыкамі. Па звычаі, піток павінен быў аб’явіць, да якога абручыка адап’е — і калі памыляўся, яму далівалі да гарла. Але гусары шкляніцу занядбалі разам з півам, аддаючы перавагу гарэлцы і віну са звычайных чарак. Шчасце яшчэ, што зброю, зноў адпаведна загаду, наведнікі карчомкі мусілі пакідаць у вітальні, дзе яе замыкалі ў адмысловы куфар. О то ж Кірыла Тураўскі абураўся б норавамі ў месце, дзе быў біскупам, ды паўтарыў бы залатыя словы: «Гора будзе ўсім тым, хто не трымаўся кніжнай мудрасці і наказаў духоўных бацькоў; гора тым, хто пад гульні і скокі апіваўся віном; гора будзе жалейнікам і гора тым, хто іх слухаў, бо што ўзвялічвае д’ябла — губіць усіх хрысціян», і зноў наракаў бы: «Калі б я раздаваў у царкве медавуху альбо піва, — як жа хутка ішлі б вы сюды, апярэджваючы адзін аднаго; а я ж прамаўляю ў царкве слова Божае, лепшае за піва і медавуху».

Лёднік і Вырвіч прыселі ў самым цёмным куце, замовіўшы поснай поліўкі з грыбамі ды квасу з панцакамі. Папраўдзе, марылася толькі аб тым, каб хутчэй легчы.

Між тым гучны рогат з-за шляхецкага стала засведчыў, што рыцар з капустай у вусах дамогся свайго, і раззлаваная карчмарка ляснула перад ім на стол свой чаравічак. Рагаталі ж таму, што чаравічак, растаптаны ды не вельмі чысты, упрыгожваў не самую малую ножку, і туды можна было заліць, мабыць, дзве кварты... Нават просьбіт, нягледзячы на ап’яненне, западозрыў штось няладнае, не зусім адпаведнае рытуалу «высакародны рыцар п’е з туфліка прыўкраснай дамы»... Але бутэлька ўжо забулькатала, напаўняючы самазваны келіх.

Жалейка плакала, як птушка над раскіданым гняздом, аж хацелася даць стараннаму музыку злоты і выспятак пад азадак, каб вяртаўся да каровак. Тры чумакі ў прапітаных смалою апратках сціпла прытуліліся на лаўцы ля дзвярэй, насцярожана пазіраючы з-пад абстрыжаных пад гаршчок валоссяў, выбеленых сонцам, як лён. Дапілі хуценька келіхі ды пайшлі да сваіх валоў, відаць, збіраючыся заначаваць лепей у саломе на вазах, чым сярод шалёных жаўнераў. Пранціш ды Лёднік паспешліва сыходзілі ў адведзены ім пакойчык, услед ім неслася:

Дружныя залпы стральцы па літвінах пусцілі,
Потым нашых вершнікаў на канях парубілі.
Палеглі слаўны рыцары, Зянкевіч ды Ціхінскі,
Быў жа яшчэ забіты там рыцар Ян Тымінскі.
Ўсе яны служылі ў Ёрдановай роце,
Доўг свой Айчыне аддалі рыцарскі ў годнай цноце.

Ой, запалаюць канцы ў гэтай карчомцы, калі ваякі яшчэ больш паднап'юцца...

Пакой дастаўся шпегам не асобны, у ім ужо нехта спачываў. Здаровы дзяцюк на сенніку ля вакна накрыўся ваўнянай коўдрай аж з галавою. Каля яго стаялі набітыя чымсьці мяхі. Мяркуючы па паху — з сырымі скурамі. Доктар ажно на парозе затрымаўся — бо з дзяцінства не выносіў гэтага паху, таму й па слядах бацькі-гарбара не пайшоў...

Але шукаць іншы прытулак не было моцы, і Чорны Доктар дастаў са сваіх бяздонных кішэняў мяшэчак з нейкай вохкай сухой травой, хуценька расцёр між пальцаў, паднёс да носу... Пранціш нягучна хмыкнуў: хто б мог падумаць, што непераможны фехтавальшчык і маг чуйны, як паненка, якая не расстаецца з нюхацельнай соллю?

Рэзкі пах зёлак усё-ткі трохі перабіваў смурод з мяхоў. Бутрым ціха прачытаў вечаровую малітву, падзякаваўшы Госпаду, прасвятой Багародзіцы і ўсім святым за шчаслівае выбаўленне з падводнага палону, і зваліўся на сяннік, як нежывы. Мудраваць над Альбукасісавай прыладай у яго сіл не засталося. Пранціш таксама ўпаў на свой ложак... Усё-ткі не кожны дзень вяртаешся з апраметнай.

— Ну што, панове шпегі, выбавілі якога-небудзь цмока з пячоры?

Прыўзняўшыся з сенніка ля вакна, на суседзяў па пакоі паглядаў Герман Ватман, і ягоныя вочы, што ўмелі бачыць у цемры, нібыта свяціліся чырванню, як у пякельных істотаў.

## Заўвагі аўтара:

[1] Законы прыроды нязменныя (*лац.*).

[2] Папраўдзе (*лац.*).

[3] Віна павінна быць пакараная (*лац.*).

[4] Мы можам рабіць толькі тое, што законна (*лац.*).

***Працяг будзе.***





**Мікола ШАБОВІЧ**

# ДЗЕ ДОЖДЖ НАЧУЕ, НЕ ПЛАЧА ВЕЦЕР...

* * *

Вячэрняя прахалода.
Спякотлівы дзень, бывай!
Няхай адпачне прырода,
Бадзенеўскі родны край.

Ну, колькі ўжо можна парыць?!
А заўтра ж — пад трыццаць пяць!
Адно застаецца: марыць
І вершы ўначы складаць

Пра дожджык грыбны-лагодны,
А лепей — каб як з вядра!
Даволі ўжо дзён пагодных:
Грыбная стаіць пара!

Ды толькі ж ані грыбочка,
У лес ні пайдзі які,
І дрэвы свае лісточкі
Паскручвалі, бы ў булькі.

Эй, дождж, ты не спі, прачніся!
Эй, сонца, суціш прыгрэў!

---

*__Шабовіч Мікалай Віктаравіч__ нарадзіўся 4 студзеня 1959 года ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1981). Кандыдат філалагічных навук. Настаўнічаў на Вілейшчыне. Цяпер — дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.*

*Аўтар паэтычных кніг «Дом» (1996), «Яшчэ пакуль не лістапад» (1996), «Падары мне сваю адзіноту» (2002), «Мая надзея» (2006), кніг гумару «Хор болей не спявае» (2008), «Прыколы ад Міколы» (2015).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2009).*

Няхай праліецца з высі
Вады выратоўны спеў!

Няхай ачуняюць трошкі
Узлескі, лясы, палі
І скажа сваяк мой Лёшка:
«Якія грыбы пайшлі!»

* * *

*Дзмітрыю ПЯТРОВІЧУ*

Пісаць свой лёс — не вершы ўсё ж пісаць,
Не музыку, і нават не аповесці.
Пісаць свой лёс — як іскру выкрасаць
З інертнасці людской і безжыццёвасці.

Імкнуцца свет не толькі зразумець,
Але й змяніць — да лепшага, да вышняга…
Для гэтага патрэбна мудрасць мець,
Ды і сябры, як правіла, не лішнія.

Пісаць свой лёс — як вечны зніч гарэць.
А нехта скажа: «Што ўжо сілай мерацца?!
Усё адно за часам не паспець
Ні ў Беларусі, ні ў крутой Амерыцы».

* * *

Калі б я ведаў пра ўсё на свеце:
Дзе дождж начуе, не плача вецер,

Дзе песні-гулі снуюцца мройна,
Душы — шчымліва, наўсцяж — спакойна, —

Я паляцеў бы на крылах-марах
У край дзівосны, у край бясхмарны,

Каб толькі песціць радкі-радочкі
Пра маладыя дзянькі і ночкі,

Пра асцярогу пачуццяў першых,
Што ажываюць адно што ў вершах

І незямное нясуць адхланне:
Якое ўсё-ткі было каханне!..

Калі б я ведаў пра ўсё на свеце:
Дзе дождж начуе, не плача вецер…

* * *

Давай з табою адсвяткуем
Сустрэчы нашай першы дзень.
Хоць з Мёраў ты, а я з Бадзень, —
Давай з табою адсвяткуем.

Давай глынем на брудэршафт
Салодка-горкае атруты.
Бы спарышы, мы лёсам скуты…
Давай глынем на брудэршафт!

Ты помніш, помніш стрэчы дзень
На шумна-гулкім калідоры?
Хоць з Мёраў ты, а я з Бадзень,
Ды ўсё ж між нас — не горы-моры…

Чаму ж мы бачымся радзей?..
Мо ты забыла стрэчы дзень?..

* * *

Прыйсці ў твой сон — было б выпрабаваннем
Не толькі для цябе, але й мяне.
Лепш памаўчы. Не трэба пра каханне.
Прасцей за ўсё даверыцца мане.

Лепш памаўчы. Хай вочы пагавораць.
Нямала слоў,  ды большасць ні аб чым.
Ці многа дзён нам Бог яшчэ падорыць
Адчуць, як спаць салодка на плячы

І дакранацца вуснамі да вуснаў…
Так матылькі трапечуць ля агню…
У гэты век выродліва-распусны
Як захаваць пачуццяў чысціню?!

І святасць душ?! І шчырыя памкненні,
Калі наўкол — суцэльны несутрым?..
Спыніся, час, спыніся на імгненне,
Хай адвіруе пожаду Гальфстрым…

Прыйсці ў твой сон і ў сне тваім застацца
Да раніцы, а можа, назаўжды…
Шкада, што ты не зможаш закахацца…
Калі б змагла — о што было б тады!..

* * *

Адпачуццёвіць сэрцабой,
Як быццам лес адлістападзіць.
Мы зноў спаткаемся з табой
Адно другому штось парадзіць,

Былыя стрэчы прыгадаць
На той бярозавай алеі,
Дзе мы амаль што па складах
Кахання курс прайсці сумелі.

Дзе дождж імкнуўся астудзіць
Узлетуцененыя душы.
Наіўны дождж! Ды што рабіць —
Стаялі мы, нібы пад душам.

І выратоўны парасон,
Бадай, не быў выратаваннем…
Ды ўсё, на жаль, прайшло, як сон,
Не абяцаючы вяртання…

Аднак мы вернемся сюды,
Як колісь, возьмемся за рукі…
І той бяды, што ўжо гады, —
Няхай зайздросцяць нам унукі!

* * *

Вярнуцца ў лета пачуццёвае,
Сцяжынак нашых пераздвон
Гатовы я. А ты гатовая
Ўзысці царыцаю на трон?

Зноў чараваць сваёй усмешкаю,
Натхняць на новыя радкі,
Хоць маладыя ночы грэшныя,
Бадай што, згадваць не з рукі.

І не таму, што ўсё ўжо выстыла, —
Яшчэ агменіць пачуццё.
Мы не адну разлуку выстаім,
Калі дазволіць нам жыццё.



Міхась ПАЗНЯКОЎ

# ВЫЙСЦЕ ЗАЎСЁДЫ ЁСЦЬ...

*Аповесць*

## 1

Тройка чырваназорых бамбардзіроўшчыкаў набліжалася да шашы Мінск — Магілёў, па якой фашысцкія армады рухаліся і рухаліся на ўсход, зрэдзь уступаючы ў перастрэлкі і непрацяглыя баі з адступаючымі часцямі Чырвонай Арміі. Перад лётчыкамі стаяла задача спыніць варожую танкавую калону ў раёне горада Беразіно і даць магчымасць нашым байцам акапацца і заняць абарону за ракой Беразіной.

— Таварыш камандзір, наперадзе па курсе танкі! Вялікая калона! За імі грузавікі з пяхотай і бронетранспарцёры! — усхваляваным голасам паведаміў радыст.

— Бачу, бачу, сяржант, — спакойна адказаў капітан Васіль Зыкаў. — Экіпажам падрыхтавацца да атакі! Як і дамовіліся, спачатку атакуем галаву, затым хвост, а пасля паліваем агнём усю калону… Хлопцы, дадзім гадам жару!

Адважныя бамбардзіроўшчыкі спікіравалі на варожую тэхніку, барты якой былі размаляваныя ненавіснымі чорнымі крыжамі. Пачуліся першыя разрывы бомб, засакаталі нашы і нямецкія буйнакаліберныя кулямёты. З грузавікоў ударылі фашысцкія зеніткі. Хутка на шашы запалыхаў агонь. Гэта загарэліся ў галаве калоны некалькі танкаў. Зверху відаць было, як, ахоп-

---

*__Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч__ нарадзіўся 24 студзеня 1951 года ў вёсцы Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977). Працаваў настаўнікам у школе, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», галоўным рэдактарам часопіса «Вожык», галоўным рэдактарам часопіса «Нёман», намеснікам дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кніг паэзіі «Колер радасці» (1989), «Час надзеі» (1991), «Любі і помні» (2006), «Святое правіла…» (2008), «Усміхаюцца зоры над хатаю» (2011), «Доверием небо измерю» (2012) і інш., «Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» ў двух тамах (2012), многіх кніг для дзяцей, а таксама кнігі прозы «Паміж радасцю і болем» (2010) і кнігі крытычных і літаратуразнаўчых артыкулаў «Залаты ключык духоўнасці» (2010).*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2009), прэміі Міністра абароны Рэспублікі Беларусь ў галіне літаратуры і мастацтва (2013).*

леныя панікай, немцы выскокваюць з аўтамашын і разбягаюцца. Другім заходам нашы лётчыкі нанеслі ўдар па хвасце калоны. Там запалыхала некалькі адзінак варожай тэхнікі. Не чакаўшы такога рашучага і трапнага нападу нашай авіяцыі, фашысцкія ваякі не ведалі, што рабіць. Некаторыя танкі і аўтамашыны паспрабавалі вырвацца ў поле, але магутныя дрэвы абапал дарогі і забалочаная мясцовасць не дазволілі ім гэтага. Трэцім заходам нашы бамбардзіроўшчыкі прайшліся па ўсёй калоне, якая праз некалькі хвілін нагадвала доўгую, вогненную змяю.

— Малайцы, хлопцы! — крыкнуў камандзір. — Яшчэ разок для пэўнасці «пачастуем» як мае быць крыжастую свалату! — Ён бачыў, што яго стралок Іван Караваеў, здавалася, зліўся з кулямётам, паліваючы фашыстаў трапнымі кулямётнымі чэргамі.

Следам за імі таксама трапнымі ўдарамі прасавалі фашыстаў экіпажы старшых лейтэнантаў Віктара Савельева і Мікалая Ганчарова.

— Злева над намі нямецкія знішчальнікі, капітан! Фашысцкія знішчальнікі ў небе! — раздаўся ў навушніках трывожны голас радыста Ігара Палянскага.

— Справа зроблена! Курс на аэрадром! Адыходзім, сябры! — скамандаваў Васіль Зыкаў.

Але не паспеў ён развярнуць на сто восемдзесят градусаў свой самалёт, як яго хвост і паліўны бак прашылі шматлікія варожыя кулі. Радыст замоўк, не чуваць было і стралка. Ахопленая полымем, лятаючая крэпасць не паддавалася кіраванню і з кожнай секундай губляла вышыню.

— Падбілі, гады… — вылаяўся камандзір. Ён пакратаў радыста рукой. — Ігар, пакінуць самалёт! — Але радыст быў мёртвы, з левага віска, заліваючы малады прыгожы твар, струменілася кроў. Стралок таксама ляжаў нерухомы.

— Бывайце, дарагія сябры! Я адпомшчу за вас, — прамовіў капітан і скокнуў уніз з ахопленага полымем бамбардзіроўшчыка.

Ён ужо быў амаль на зямлі, калі нямецкі знішчальнік пранёсся над купалам парашута і сакануў доўгай кулямётнай чаргой. Некалькі куль прашылі парашут, а дзве балюча апяклі правую нагу.

Прызямліўшыся, Васіль хутка вызваліўся ад парашута і, сціснуўшы ад рэзкага болю зубы, пачаў адкочвацца ўбок, падалей ад месца прызямлення. Фашысцкі сцярвятнік, зрабіўшы разварот, зноў набліжаўся, гатовы, здавалася, змяшаць з зямлёй нашага лётчыка. Але капітану Зыкаву пашанцавала. Ён зваліўся ў неглыбокую траншэю, і кулі градам праляцелі над ім, абсыпаўшы пяском і травою. Васіль ляжаў на ўзгорку ў былой траншэі на спіне і бачыў, як два цяжкія бамбардзіроўшчыкі яго звяна спрабавалі адбівацца ад чатырох хуткіх нямецкіх знішчальнікаў. Ён разумеў, што надзей на выратаванне ў яго сяброў амаль не было, і яны маглі спадзявацца толькі на цуд. І ён спачатку ўсміхнуўся ім: адзін з «месершмітаў» успыхнуў яркім полымем і, пакідаючы густы шлейф дыму, знік з поля зроку. Але на гэтым радасць нашых лётчыкаў скончылася. Іх кулямёты, якія расстралялі ўвесь боезапас, неўзабаве перасталі агрызацца нават кароткімі чэргамі. Кінуўшыся ў розныя бакі, нашы крылатыя машыны на момант збілі з панталыку ворагаў. Але большага дамагчыся ім не ўдалося. Больш хуткія нямецкія знішчальнікі праз некалькі хвілін амаль ва ўпор расстралялі нашы самалёты.

Гібель таварышаў балюча адгукнулася ў сэрцы камандзіра. Слёзы затуманілі яму вочы. Ды ўсё ж праз боль і горыч прабівалася і радасць, што яны выканалі баявую задачу, разграміўшы ўшчэнт нямецкую танкавую калону, няхай сабе і дарагой цаной. Затое колькі жыццяў чырвонаармейцаў і бежанцаў яны выратавалі сваім подзвігам!..

## 2

Капітан Зыкаў агледзеў параненую нагу. Адна куля прайшла навылёт, не зачапіўшы косць, другая чырканула па ступні, пакінуўшы неглыбокую драпіну. Дастаў перавязачны пакет, як мог апрацаваў раны і перавязаў. Затым пакульгаў у лес, што віднеўся непадалёку. Патрэбна было хутчэй схавацца, каб не патрапіць на вочы ворагу. Яго маглі і шукаць. Хоць лес быў і блізка, але ён узмакрэў, пакуль дашкандыбаў да першай невялічкай паляны. Прымасціўся каля высокай яліны, паправіў павязку, на якой чырванела крывавая пляма. Задумаўся, што рабіць далей, куды накіроўвацца. Разумеў, што галоўнае для яго цяпер — не патрапіць у варожыя лапы і рухацца як мага хутчэй услед за адыходзячымі часцямі Чырвонай Арміі. І прабірацца толькі глухімі дарогамі, абмінаючы населеныя пункты і бальшакі, дзе заўсёды можна нарвацца на чужынцаў ці здраднікаў. Іншай думкі, апрача як дагнаць сваіх, у капітана Зыкава і не было. Адпачыўшы, ён падняўся, прайшоў некалькі дзясяткаў метраў, робячы ўпор на здаровую левую нагу і адчуў востры боль у параненай. «Так далёка не зойдзеш», — падумаў замаркочаны Васіль і стаў шукаць моцную палку, на якую можна было б абаперціся пры хадзьбе. Выхапіў позіркам высокі арэшнік, дастаў з тужуркі сцізорык і выразаў даволі тоўстую арэшыну. «З такой добрай “памочніцай” будзе весялей і шпарчэй крочыць», — супакоіў ён сябе ў думках. І сапраўды, рэзкага болю Зыкаў ужо не адчуваў, хоць і крочыць было не надта лёгка.

Яшчэ не пачынала змяркацца, і Васіль павольна, але настойліва пасоўваўся на ўсход, толькі зрэдку даючы кароткі спачын параненай назе. Рухаўся больш лесам ці кустоўем, абмінаючы вёскі. Недзе там, наперадзе, глуха раваліся снарады, ішоў бой. Позна вечарам спыніўся каля невялікай рэчкі, намацаў палкай брод і перабраўся на супрацьлеглы бераг. Збоку булькала, клікала крынічка. Расчысціў яе, пачакаў, пакуль адстоіцца вада, і доўга піў, наталяючы смагу. Вада была такой смачнаю, што пашкадаваў аб тым, што няма ў яго ніякай пасудзіны, каб набраць у запас. На небе густа высыпалі зоркі, з-за хмаркі выплывала бледнатварая поўня. І Зыкаў вырашыў крочыць далей. Ішоў лугам, адурманены водарам прывяленай травы, якая, напэўна, была скошаная кімсьці раніцай і ляжала ў пракосах. Затым прысеў каля свежай капы і, стомлены, неўзабаве праваліўся ў моцны, салодкі сон. Прачнуўся на золку. Прыхоплены халадком, паспяшаўся зашыцца ў цёплае сена і агледзецца. Навакол стаяла дзіўная цішыня, якая спачатку падалася яму працягам сну. Так не верылася сярод ранішняй прыгажосці, што дзесьці страляюць гарматы, ліецца кроў, гінуць людзі…

Усход ужо ружавеўся, ноч саступала месца раніцы, заспявалі птушкі, загудзелі цвыркуны… Капітан Зыкаў перавязаў нагу, апрацаваўшы як мог раны і прыклаўшы да іх халаднаватыя зялёныя лісточкі падарожніку. І зноў пакульгаў на ўсход, кіруючыся да лесу, што выступаў цёмнай сцяною за лугам. Крок за крокам ён рухаўся і рухаўся наперад, абмінуў дзве вёскі, згрыз апошні кавалачак цукру, які ляжаў у кішэні. І толькі ў другой палове дня, калі моцна захацелася піць і есці, вырашыў не абыходзіць невялічкае лясное паселішча. Нічога падазронага не прыкмеціў. Спыніўся на ўскрайку каля студні, дастаў цэбрык сцюдзёнай вады, напіўся і памыў твар. Тут і напаткаў мясцовага лесніка, які запрасіў у хату, прапанаваў падсілкавацца. Але ў хату Васіль не пайшоў, пачакаў, пакуль ляснік прынясе харчы, і, падзякаваўшы добраму чалавеку, адразу прадоўжыў свой шлях. На развітанне ляснік паспачуваў Зыкаву, падказаў дарогу і параіў не заходзіць у суседнюю вёску, бо там ужо размясціліся

захопнікі. Перакусіўшы ў лесе, Васіль ішоў вечарам і ноччу. Але на світанні сон так размарыў яго, што ён зваліўся пад куст і праспаў гадзіны чатыры, пакуль яго не разбудзілі дзікія, жудасныя крыкі і страляніна. Капітан дастаў з кабуры пісталет і пасунуўся ў той бок, адкуль даносіліся гэтыя жахлівыя крыкі. Аказваецца, ён прылёг непадалёку ад бойкай дарогі, абапал якой раскінулася немалая вёска. Там ва ўсю «гаспадарылі» нямецкія ваякі. Васіль застыў у прыдарожным лазняку. Крыкі і плач не сціхалі. Прагучалі новыя стрэлы. Раптам убачыў маладую дзяўчыну, якая адбівалася ад назойлівага фашыста. Ёй удалося выслізнуць з яго лап і кінуцца наўцёкі ў лес. Якраз туды, дзе затаіўся капітан Зыкаў. Раз'ятраны немец бег за ёю следам. Яму перашкаджала вінтоўка, што вісела на плячы. Але вораг дагнаў бы дзяўчыну, калі б Зыкаў не выцяў яго з усяе сілы арэхавым кіем па галаве. Фашыст зваліўся ў непрытомнасці, так і не зразумеўшы, відаць, што здарылася.

Убачыўшы чырвонаармейскага афіцэра, дзяўчына спынілася, нясмела пазіраючы на капітана. Ён падышоў да яе, і яна расказала, што ў вёску заехалі на матацыклах фашысты і кінуліся рабаваць сялян, а гэты пачаў прыставаць да яе.

— Ён можа хутка ачухацца, таму давай схаваемся. Ды і хаўруснікі спахопяцца, пачнуць шукаць, — сказаў Васіль.

Яны адышлі ўбок, дзе іх не маглі пачуць, і Зыкаў спакойным голасам прадоўжыў:

— Ты дадому пакуль не ідзі, схавайся дзе-небудзь да вечара. І пра мяне нікому ні слова.

— Пра гэта маглі б і не гаварыць. Я — камсамолка! — з гонарам прашаптала дзяўчына. — Першага Мая прынялі…

— Малайчына, — усміхнуўся Зыкаў. — Але будзь асцярожнай, камсамольскі білет і значок схавай у надзейным месцы. Часова, пакуль фашыстаў не прагонім. Хутка наша армія паверне іх назад.

— Хутчэй бы! А то ўсё адступаем. Кажуць, немцы ўжо Магілёў узялі. Але і нашы іх там добра пакалашмацілі.

— Адступаем часова. Вер і вяскоўцам скажы, што рана ці позна будуць драпаць фрыцы пад нашымі ўдарамі хутчэй за французаў у 1812 годзе. Нас, славян, перамагчы немагчыма.

Праз хвіліну яны разышліся ў розныя бакі. Капітан Зыкаў падаўся далей на ўсход, а дзяўчына схавалася ў прыдарожным хмызняку. Прайшоўшы з кіламетр, Васіль схамянуўся, што не запытаў нават, як яе завуць. Затым падумаў: «А якая розніца?..»

Яшчэ двое сутак прабіраўся капітан Зыкаў глухімі дарогамі і сцежкамі. І нарэшце выйшаў да вёскі Глухская Сяліба, што ў Быхаўскім раёне, на шашы Бабруйск — Магілёў. Гэта ж быў яго родны раён. Да Магілёва заставалася трыццаць сем кіламетраў, амаль столькі ж да маці і сясцёр у вёску Ямнае. «Як яны там?.. Вядома, нялёгка. Напэўна, і там фашысты ўжо атабарыліся…» Васіль вычакаў, пакуль добра сцямнее, затым асцярожна падышоў да знаёмай хаты і ціха пастукаў у шыбу. Тут жылі бацькі яго сябра, з якім разам паступалі і вучыліся ў лётным вучылішчы.

Адчыніў гаспадар. Пазнаўшы Васіля, ні пра што не стаў пытаць — запрасіў у хату. Святла не запальвалі. У вёсцы размяшчаліся фашысты. Па шашы ў напрамку на Магілёў часта ішла іх тэхніка, праязджалі матацыклісты.

Дзядзька Павел, так звалі гаспадара, расказаў, што немцы прарвалі нашу абарону пад Магілёвам. Але на Буйніцкім полі іх нашы байцы так шкуматнулі, столькі танкаў спалілі, што ворагі доўга не маглі ачомацца. Да таго ж дай-

шла вестка, што нашы лётчыкі разбамбілі вялізную гітлераўскую калону, што рвалася на Магілёў па мінскай шашы.

— Ого! — заўсміхаўся Васіль, — ды вы як сапраўдны разведчык, пра ўсё ведаеце.

— Сусед мой часта бывае ў Магілёве, ад яго і ведаю тое-сёе, — працягваў дзядзька Павел.

Памаўчаўшы крыху, ён прадоўжыў:

— Пераапрануцца табе, хлопец, патрэбна… Афіцэраў, камісараў, камуністаў, яўрэяў немцы расстрэльваюць…

Разам з гаспадыняй яны апрацавалі Васілю раны, перавязалі свежымі бінтамі. Накармілі і далі трохі харчоў з сабою. Падабралі вопратку. Параілі таксама не ісці на Магілёў, бо фронт адкаціўся далёка, і яму з параненай нагой не дагнаць яго. Да таго ж, маўляў, адна рана не загойваецца…

— Прабірайся лепей дадому, — сказаў на развітанне дзядзька Павел, — залечыш рану, а там будзе відаць… Кажуць, групы нашых байцоў і афіцэраў у лясах застаюцца і партызанскую вайну распачынаюць. Яшчэ наваюешся, хлопец. Многа тэхнікі гоніць фашыст, самалёты, бывае, ляцяць і ляцяць… Вайна будзе працяглай і жорсткай… Але Расію ім не ўзяць, не на тых напалі… І тут народ сядзець не будзе склаўшы рукі… Паўстане за сваю ўладу.

— Можа, нашага Кольку дзе бачыў? — падышла да капітана замаркочаная гаспадыня.

— Не, цётка Наста, не бачыў… Апошняе пісьмо ад яго было ў пачатку чэрвеня… Яшчэ з Далёкага Усходу, — адказаў Васіль.

— Не гаруй, маці, — умяшаўся ў іх размову гаспадар, — сыну пакуль нішто не пагражае... Японія пабойваецца нападаць. Але і нашым варта быць напагатове.

— Шчасліва табе, Васілёк, дабрацца да сваіх родных, — перахрысціла капітана Зыкава цётка Наста. — Ой-ёй-ёй, — усплакнула яна, — колькі гора, колькі няшчасцяў прынесла нам гэтая праклятая вайна…

— Не разводзь макрэчы, — суцішыў жонку дзядзька Павел. — Падумай лепш, куды Васілёву форму прыхаваць надзейна. Яна яшчэ яму спатрэбіцца…

## 3

Пакінуўшы добрых і надзейных людзей яшчэ да наступлення раніцы, капітан Зыкаў дайшоў да рэчкі Грэзы і спыніўся ў роздумах — куды падацца далей. Разумеў, што фронт яму сапраўды з параненай нагой не дагнаць, яна патрабуе лячэння. Дома зрабіць гэта будзе больш бяспечна. А пасля можна і партызан шукаць. І Васіль вырашыў прабірацца ў роднае Ямнае. Там — маці, сёстры… А ў суседняй вёсцы — каханая дзяўчына Валюша… Левым берагам ракі, якая вілася па забалочанай мясцовасці, ён і пасунуўся ў патрэбным кірунку. Грэза ціхамірна бруіла свае пакуль яшчэ неглыбокія воды наперад, нібы падбадзёрваючы яго, у той бок, дзе і знаходзілася родная вёска. Раніца выдалася амаль бязветраная, хоць і даволі прахалодная. Хутка Васіль зразумеў, што абраны ім шлях дадому не такі ўжо і зручны. Золкія росы, высокія травы, кустоўе і балоцісты бераг не дазвалялі ісці хутчэй. За дзень ён пераадолеў не больш як пятнаццаць кіламетраў і настолькі выбіўся з сіл, што позна вечарам зваліўся пад першым жа прыдатным для адпачынку кустом. Прамоклы амаль з ног да галавы, пачаў азірацца па баках, ці не знойдзецца які сушняк, каб раз-

весці вогнішча і абсушыцца. Крыху адпачыўшы, наламаў сухога голля, сабраў бярэмца мінулагодняй пажухлай травы, дастаў з кішэні запалкі. Яны, на яго шчасце, не адсырэлі. І неўзабаве ён расклаў невялікі агонь, распрануўся, развесіў побач на ральцы вопратку і абутак. Яшчэ раз цёплымі словамі ўспомніў дзядзьку Паўла і цётку Насту, якія зладавалі яму багатую торбу, дзе, апрача харчоў і запасных цёплых шкарпэтак, быў упакаваны і лёгкі плашч-дажджавік. З'еў кавалачак сала з хлебам і салёным агурком, паправіў вогнішча, перавесіў вопратку і чаравікі. Затым накрыўся дажджавіком і прылёг на сабранае голле. Зморaны цяжкім пераходам, праз некалькі хвілін моцна заснуў.

Яго разбудзілі, груба і балюча ткнуўшы прыкладам вінтоўкі ў жывот.

— Пад'ём! Хопіць дрыхнуць!

Васіль з цяжкасцю расплюшчыў вочы, не цямячы пэўны час, дзе ён і што з ім адбываецца.

— Хто такі? Што тут робіш? — злосна вылаяўся незнаёмец і таўхануў яго прыкладам вінтоўкі. Яшчэ двое стаялі збоку, таксама ўзброеныя вінтоўкамі. Апрануты ўсе трое былі па-рознаму, але не па-вайсковаму.

— Багдан, абшукай валацугу, — загадаў той, які разбудзіў Васіля, і клацнуў затворам, адступіўшы назад.

Той, каго назвалі Багданам, падскочыў да Зыкава, схапіў яго торбу і лапсердак.

— Ого! Глядзі, пан стараста, — пісталет! Відаць, важная птушка. За такую немцы адваляць нядрэнную ўзнагароду.

— Хто такі? Адкуль? — зноў злосна вылаяўся стараста, свідруючы капітана панурым позіркам.

— Ды мясцовы я, хлопцы. А пісталет на дарозе знайшоў, цяпер такога дабра можна воз назбіраць, — паспрабаваў змякчыць сітуацыю Зыкаў. — Дадому іду.

— Вось і разбяромся, які ты мясцовы! — строга, але больш прымірэнча заўважыў трэці незнаёмец.

— Збірайся! — загадаў той, якога Багдан назваў старастам.

Калі Васіль нацягнуў вопратку і абуў чаравікі, яму загадалі ісці ўслед за Багданам. Астатнія двое крочылі за ім следам з вінтоўкамі напагатове.

Толькі цяпер Зыкаў убачыў, што заначаваў ён побач з дарогай. Каля моста стаяла павозка. Лейцы трымаў паліцай, пра што сведчыла павязка на яго рукаве.

«Фашысцкія прыхвасні, — здагадаўся Васіль, — галоўнае цяпер не панікаваць, мае дакументы яны не знайшлі. Дзядзька Павел зашыў надзейна... Значыць, ёсць шанцы выблытацца...»

Зыкава прывезлі ў Гарадзецкую гарнізонную камендатуру, якая месцілася ў будынку былой школы. Ён бываў тут да вайны ў сваіх сяброў, з якімі разам вучыўся ў Быхаўскай дзесяцігодцы. Нават аднаго разу ў клубе сутыкнуўся з мясцовым п'янтосам, заступіўшыся за свайго аднакласніка. Тыдні два «ліхтар» пад вокам насіў, але і дэбашыру дасталося таксама не менш. Галоўнае, пасля бойкі той пабойваўся грубіяніць і задзірацца.

Васіля пасадзілі ў склеп. Але прасядзеў ён не больш за гадзіну. Павялі на допыт да каменданта. Нямецкі афіцэр, які сядзеў за сталом, акінуў Зыкава пільным позіркам і праз перакладчыка запытаў:

— Дзе, пры якіх абставінах вы атрымалі раненне?

— У час бамбёжкі і кулямётнага абстрэлу вашых самалётаў, калі ехаў цягніком дадому... Каля вёскі Семукачы, — удакладніў ён. — Адтуль іду пехатой у Ямнае да маці.

— Адкуль пісталет?.. — павысіў голас камендант. — І ведайце, што за хлусню мы расстрэльваем.

— Знайшоў на дарозе, узяў, каб адбівацца ад ваўкоў… Мясцовыя людзі мяне памятаюць.

— Праверым, — ужо больш лаяльна працягваў фашыст.

Васіль з палёгкай уздыхнуў. Ды праз некалькі хвілін на парозе з’явіўся паліцай, у якім ён пазнаў былога п’янтоса і дэбашыра.

— Вось дык сустрэча! — лыбіўся той. — А я думаю, якога гэта земляка апазнаць клічуць… Аж тут пташка да нас заляцела не простая.

І ён выдаў Зыкава, зларадна назваўшы яго чырвоным камандзірам і камісарам адначасова.

— Цяпер мой час надышоў, — бубнеў здраднік, калі Васіля выводзілі з камендатуры. — А ты думаў, я цябе не пазнаю? Не адпомшчу?..

— Дурны ты як бот, — адказаў Васіль, — фашыстам служыш. Прыйдзе час, людзі праклянуць цябе.

— Гэта мы яшчэ паглядзім, чыя возьме, — сіпеў той. — Цябе, каб і хацеў, немцы не возьмуць на службу.

— Дык ім жа розная шваль і гніль патрэбна, — здзекліва і даволі смела зазначыў Васіль, за што атрымаў прыкладам вінтоўкі па спіне ад старасты.

Яго зноў упіхнулі ў халодны склеп. Але холаду ён не адчуваў, балела, пякло ўсё цела. Ды больш за ўсё было балюча, што трапіў у варожыя лапы амаль каля самага дому.

## 4

Назаўтра Зыкава адвезлі ў Быхаў, дзе пагрузілі ў вагон разам з дзясяткамі іншых палонных і арыштаваных падчас аблаў. Пратрымалі на станцыі цэлыя суткі, вывернуўшы ў халодны вагон два кашы бручкі. Затым цягнік рушыў на захад. З кароткімі прыпынкамі ён дайшоў да Маладзечна. Там зняволеных высадзілі і пад узмоцненай аховай загналі на поле, агароджанае калючым дротам. Гэта быў часовы канцлагер. Ніякіх пабудоў на яго тэрыторыі не было. Ён уяўляў сабой участак плошчай не больш за тры гектары голай зямлі, па вуглах якога былі спехам узведзены вартавыя вышкі. На вышках пагрозна вытыркаліся кулямёты. Там жа немцы ўстанавілі пражэктары, якія асвятлялі тэрыторыю ў цёмны час сутак. На зямлі сядзелі ці ляжалі не меней за тысячу змучаных, хворых і галодных мужчын. На ўваходзе новых вязняў сустракалі немцы з аўчаркамі, якія, здавалася, вось-вось вырвуцца ад сваіх гаспадароў і, злюцелыя, накінуцца на бездапаможных ахвяр.

Васіль нагледзеў вольнае месца, прысеў і пачаў прыглядвацца вакол. Да яго падышоў і апусціўся побач танкіст, старшы лейтэнант Андрэй Іваноў, з якім ён пазнаёміўся ў вагоне яшчэ ў Быхаве.

— Давай і тут будзем трымацца разам, — сказаў ён Зыкаву. — Бачу, што доўга нас тут не пратрымаюць.

— Або мы самі тут доўга не пратрымаемся, — уздыхнуў Васіль.

— З вагона не ўдалося збегчы, ды і нерэальна было, а тут патрэбна пакумекаць, — зазначыў Андрэй.

— Днём выключана, — матлянуў галавой Васіль, — а вось уночы паглядзім… Іншага выбару ў нас няма.

— Відаць, варта некалькі надзейных хлопцаў падабраць, — працягваў Іваноў.

— Добра было б, — пагадзіўся Зыкаў, — але не спяшайся з гэтым, каб не нарвацца на здрадніка. Як кажуць, пераначуем — болей пачуем. Згодны?

— Безумоўна, — пагадзіўся былы танкіст.

Да іх падышоў чырвонаармеец у падзёртай гімнасцёрцы і, акінуўшы зласлівым позіркам, запытаў:

— Хлопцы, можа, сухар які ў кішэнях захаваўся? Падзяліцца трэба!..

— Мы і самі даўно нічога не елі, — спакойна адказаў Васіль.

— Ну, глядзіце, — недаверліва пазіраў той, — каб без падману, не то — пашкадуеце.

У гэты час вароты адчыніліся і на тэрыторыю ўехала павозка з вялікай бочкай баланды і горкай нейкага печыва, падобнага крыху на хлеб. Да яе хутка выстраілася чарга.

Уночы Васіль не мог заснуць. Было холадна. З усіх бакоў патыхала туалетам. Вартавыя на вышках прасвечвалі ўсю тэрыторыю яркімі пражэктарамі. А ўздоўж нацягнутага калючага дроту пахаджвалі ахоўнікі з аўчаркамі.

Раніцай немцы ўсіх пастроілі ў калону па тры чалавекі. Некалькі бедалаг, што памерлі ўначы, загадалі зняволеным пагрузіць на падводу. Іх вывезлі, як пасля даведаўся Васіль, на могільнік, пад які немцы выкарыстоўвалі глыбокі роў бліз лесу. Зняволеных групамі па 50—60 чалавек пад пільным канвоем адвялі ў прыгарад на будоўлю.

Узводзілі драўляныя баракі для новага канцлагера. Андрэй трымаўся Васіля, працавалі разам. Зрэдку можна было перакінуцца словам, але нядоўга, бо наглядчыкі спынялі ўсялякія размовы, маглі нават агрэць прыкладам або застрэліць.

Вечарам, калі іх прыгналі назад за калючы дрот, пайшоў працяглы і халодны дождж. Змораныя і галодныя людзі ляжалі амаль што ў лужынах. Там-сям нават успыхвалі бойкі за найбольш высокае месца. Тады паверх галоў палонных страчылі кулямётчыкі. Пасля таго як бойкі сціхалі і змаўкалі кулямёты, вартавыя хаваліся на вышках, толькі дзве пары з сабакамі па-ранейшаму хадзілі ўздоўж лагера.

Васіль і Андрэй дамовіліся рыхтавацца да ўцёкаў. Лепш за ўсё ажыццявіць гэта можна было ўночы, падчас моцнага дажджу.

Наступныя дні выдаліся пагодлівымі, хоць і прыкметна халадала. Людзі ў лагеры паміралі як мухі. Па-ранейшаму кармілі рэдка і абы-чым. А за дрот прыбывалі ўсё новыя вязні. Мясцовых жанчын, якія спрабавалі адшукаць і выкупіць у немцаў за добрыя харчы і каштоўныя вырабы сваіх мужоў, братоў ці сыноў або проста прынесці гаротнікам трохі паранай бульбы ці хлеба, ахоўнікі люта разганялі. Асабліва жорстка з імі абыходзіліся паліцаі. Мясцовыя жыхары баяліся іх больш за немцаў.

Набліжаліся вялікія халады, а баракі ўсё яшчэ не былі дабудаваныя, не хапала будаўнічых матэрыялаў, а ворагі не асабліва стараліся, не клапаціліся пра вязняў.

Неяк раніцай перад адпраўкай на работу ў лагер завітала група нямецкіх афіцэраў. Праз перакладчыка паведамілі пра хуткае заканчэнне вайны і аб'явілі, што набіраюць добраахвотнікаў у рускі батальён для службы Вермахту. Абяцалі добрае харчаванне, цёплае абмундзіраванне, прыдатныя ўмовы пражывання ў казармах, службу ў тыле. Жадаючых папрасілі выйсці з калоны. Васіль убачыў, што некалькі чалавек адразу заспяшаліся пакінуць калону, за імі праз некалькі хвілін пацягнуліся яшчэ дзясяткі два. Нямецкія афіцэры пайшлі ўздоўж тых, хто згадзіўся з іх прапановай, на невялікай адлегласці аглядаючы зняволеных з ног да галавы. Некаторых, напэўна, хваравітых, прымусілі

зноў вярнуцца ў агульную калону. Астатніх шукальнікаў лепшага жыцця на службе ў ворагаў павялі асобна за тэрыторыю лагера. Сярод іх Васіль і Андрэй пазналі чырвонаармейца ў падзёртай гімнасцёрцы, які патрабаваў у іх хлеба.

— І гэты туды ж, — абурана шапнуў Васілю Андрэй.

— Не сумнявайся нават, — адказаў капітан. — У яго на твары напісана, што прыстасаванец і прайдоха. А такія ў цяжкую хвіліну здрэйфяць, прададуць і маці родную…

— Згаладаліся людзі, холад даняў, — нібы пашкадаваў палонных чырвонаармейцаў Андрэй.

— Выйсце заўсёды ёсць, танкіст! — сурова адрэагаваў Васіль. — Нават з самых безвыходных сітуацый. Выйсце, якое пацвердзіць, што ты чалавек гонару, годнасці, мужнасці…

— А можа, ён хоча выжыць, выбрацца з дрыгвы, а затым пачаць дзейнічаць, змагацца?..

— Не веру!.. Зрабіўшы адзін здрадлівы крок, потым лёгка зрабіць і другі, трэці… А жыццё ў здрадзе, у подласці значна горшае за адважную смерць, Андруха… Куды горш!..

Праз два дні групу палонных, сярод якіх былі і Васіль з Андрэем, прыгналі на станцыю разгружаць вагоны. Сябры дамовіліся ўцякаць, бо адчувалі, што больш зручнага моманту можа і не надарыцца.

## 5

Разгружаючы каменны вугаль, Зыкаў з Івановым час ад часу пазіралі на цягнік, які стаяў на суседняй платформе. Відаць было, што яго рыхтавалі да адпраўкі. Паравоз ужо пыхкаў парай, састаў таргануўся крыху і зноў застыў на месцы. Андрэй падаў знак Васілю падрыхтавацца, а сам падышоў да канваіра, паказваючы таму рукой уверх. Немец задзёр галаву, пільна ўзіраючыся ў неба. Гэтага хапіла Зыкаву, каб шмыгнуць пад вагон цягніка, што стаяў на суседняй платформе.

— Was ist das?![1] — гаркнуў немец і выцяў Андрэя прыкладам карабіна па спіне. — Arbeiten![2]

Васіль у гэты час адпаўзаў пад вагонам падалей ад канваіра. Цягнік у любы момант мог крануцца з месца, і капітан ліхаманкава шукаў вачыма, за што б учапіцца, куды б схавацца. На яго шчасце наступны вагон быў стары, днішча прадзіравілася. Ухапіўся рукой, каб пашырыць дзірку, але дошка не паддавалася. У гэты момант цягнік тузануўся, прагудзеў паравоз, і колы зрушыліся з месца. Зыкаў падцягнуў ногі і моцна ўпёрся імі ў нешта металічнае. Цягнік паступова рухаўся наперад, а Васіль вісеў пад вагонам, рызыкуючы сарвацца, калі здранцвеюць рукі і ногі. Але яму пашанцавала. Хвілін праз дзесяць цягнік супыніўся, відаць, каб прапусціць сустрэчны, і Васіль выбраўся з небяспечнай схованкі, ускараскаўся ў наступны адкрыты вагон, загружаны драўнінай. Надыходзіў вечар, змрок ахутваў наваколле, і ўцякач мог перавесці дух, сабрацца з думкамі.

Успомніў пра Андрэя, які аказаўся надзейным таварышам і дапамог яму ажыццявіць уцёкі.

---

[1] Што гэта?!

[2] Працаваць!

«Як ён там? Фашысты, вядома, заўважылі, што адзін палонны знік… Будуць дапытваць Андрэя. А можа, і яму ўдалося ўцячы?.. Ён рашучы, знаходлівы і павінен вырвацца на волю… Дзякуй табе, танкіст Іваноў, мы яшчэ паваюем! Магчыма, і сустрэнемся…»

Затым Васіль задумаўся, куды яго вязе гэты цягнік? Адно ён ведаў, што недзе наперадзе Мінск, і патрэбна было знайсці больш надзейнае месца схованішча. Добра, што трапіўся звычайны таварняк, без аховы… Уночы Зыкаў узабраўся наверх і пачаў асцярожна прабірацца далей, да галавы цягніка, спадзеючыся натрапіць на такі адкрыты вагон, у якім змог бы схавацца не толькі ад холаду і дажджу, але і ад ворагаў, калі цягнік прыбудзе на ажыўленую мінскую станцыю. Праз два закрытыя вагоны ён убачыў адкрыты, застаўлены нейкімі скрынямі, прыкрытымі зверху брызентам. Васіль перабраўся туды і адчуў прыемны густы пах садавіны, які абвастрыў пачуццё голаду. Ён праціснуўся ў самую сярэдзіну, туды, дзе паміж скрынямі знайшлося даволі свабоднае месца, прыдатнае для таго, каб прысесці і выцягнуць ногі. Але перад тым як зрабіць гэта, Зыкаў дастаў некалькі яблыкаў. Гэта была антонаўка, якую ён любіў змалку. Прысеў і ўпершыню за апошнія некалькі месяцаў адчуў сапраўдную асалоду, нібы вярнуўся ў дзяцінства. З'еў яблыкі і задрамаў. Яму прысніўся раскошны бацькаў сад, пад раскідзістай пладавітай антонаўкай у якім сядзелі шчаслівыя маці і тата, а яны, дзеці, здымалі і клалі ў кошыкі вялікія духмяныя яблыкі…

Цягнік спыніўся ў Мінску, пры тармажэнні ён здрыгануўся, скрыні ў вагоне зарыпелі, і Васіль прачнуўся. На станцыі вагон адчапілі і перагналі пад разгрузку. Работай займаліся звычайныя рабочыя. Калі грузчыкі наблізіліся да Зыкава, ён знакам паказаў ім маўчаць. Адзін з рабочых паведаміў, што побач з вагонам знаходзяцца два паліцаі, яшчэ некалькі і нямецкі патруль пахаджваюць на станцыі. Моўчкі ён зняў сваю фуфайку і накінуў на Васілёвы плечы:

— Бяры скрыню і нясі на склад, працуй, як свой. Мне хлопцы прынясуць запасную ватоўку.

Было пахмурна, а на складзе і ўвогуле цемнавата, таму ні паліцаі, ні кладаўшчык не звярнулі на Васіля ніякай увагі.

— Куды табе патрэбна? — пацікавіўся рабочы, калі разгрузілі вагон.

— На Магілёў, — ціха адказаў Васіль.

— На трэцім пуці стаіць таварняк, недзе праз гадзіну адправіцца. Я правяду цябе. Вазьмі ў рукі вось гэта на ўсякі выпадак, — і ён падаў Зыкаву пустую скрыню.

Неўзабаве Васіль быў у вагоне цягніка, што стаяў на трэцім пуці. Ён прымасціўся за нейкімі цюкамі і з палёгкай уздыхнуў, калі састаў крануўся з месца і паволі пачаў набіраць ход. У Магілёў цягнік прыбыў сярод ночы. І тут Зыкаву таксама пашчасціла. Немцы, якія яшчэ не сутыкнуліся з актыўным супраціўленнем мясцовага насельніцтва, асабліва не прыдзіраліся і давяралі мясцовым чыгуначнікам. Таму, калі ў вагон зазірнулі рабочыя, Васіль патлумачыў, што прабіраецца да маці на Быхаўшчыну. Тыя правялі і пасадзілі яго ў вагон патрэбнага цягніка. Адзін з рабочых, мужчына сталага веку з пшанічнымі вусамі, падзяліўся нават сваім абедам:

— Падсілкуешся крыху ў дарозе… На прыпынках не вытыркайся, ды і Быхаў не праспі…

— Дзякуй, баця, — паціснуў яму Васіль руку.

— Няма за што, хлопец… Мае два сыны таксама немаведама дзе цяпер… Можа, галовы склалі, а можа, вось так, як і ты, да сваіх прабіраюцца. Удачы табе. Адчуваю, што ты проста так сядзець не будзеш. Немчуру паганую зні-

шчаць трэба. Нашы вернуцца… Быць такога не можа, каб такую магутную і вялікую краіну адолелі… Дудкі! Не на тых напалі, — даверліва пазіраў ён на Зыкава. — Мы таксама кумекаем, як вайсковыя эшалоны затрымліваць… Пруць, гады, на Маскву… А там ім кажуць, добрага прачуханцу далі…

— Не ўдасца ім Маскву ўзяць! Рукі кароткія! — падтрымаў чыгуначніка Васіль. — Гэта напачатку ім знянацку ўдалося дамагчыся перавагі. Але наступіць час расплаты! Абавязкова наступіць…

Яны развіталіся.

Недзе праз паўгадзіны цягнік рушыў у дарогу. Ішоў ён не вельмі хутка, некалькі разоў спыняўся на перагонах. І тады міма праносіліся саставы, па гуку колаў якіх Васіль здагадваўся, што ішлі эшалоны, гружаныя цяжкой тэхнікай, гаруча-змазачнымі матэрыяламі. «Ды іх узрываць трэба, а я бяздзейнічаю, — мучыўся ён у думках. — Хутчэй бы дадому, а там звязацца з партызанамі…»

Гадзіны праз дзве, калі цягнік прыбыў на станцыю Быхаў, Зыкаў праз дзірку выбраўся са старога халоднага вагона. Прыслухаўся, узіраючыся ў наваколле. Затым, не заўважыўшы нічога небяспечнага, ціхенька патупаў у цемру, трымаючыся правага боку. Адышоўшы ад станцыі крокаў трыста, спыніўся ў кустоўі.

«Вось амаль што і дома, — пранеслася ў галаве першая за доўгі час шчаслівая думка. — Адсюль ужо рукой падаць… Вось узрадуюцца дома!..»

На дарогу не выходзіў свядома. Пайшоў полем, робячы крук, каб не наткнуцца на нямецкіх вартавых або патруль. За дарогай справа гудзеў, свяціўся агнямі ваенны аэрадром. На ўсходзе пачынала ружавецца неба, бралася на раніцу, і Васіль паспяшаўся да лесу. Узлескам дайшоў да лясной дарогі, што вяла ў Ямнае, і ўпэўнена пашыбаваў дадому.

## 6

Праз нейкую гадзіну Зыкаў нарэшце быў каля матчынай хаты. Вёска яшчэ спала. Ціхенька пастукаў у шыбіну. Яго адразу пазнала сястра Маша, якая вызірнула з-за фіранкі.

— Вася вярнуўся! — усклікнула яна і пабегла адчыняць дзверы.

Маці таксама ўжо не спала, завіхаючыся каля печы.

— Сынок, саколік мой родны, — расплакалася яна, абдымаючы і цалуючы сына. — Вярнуўся… Ой, паранены! — загаласіла яна.

— Цішэй, цішэй, мама, — зашыкалі на яе Васілёвы сёстры. Яны стаялі вакол, пазіраючы на брата радаснымі вачыма. — Дзеці яшчэ няхай паспяць, — прашаптала Маша.

— Як вы тут без мужчын, дарагія мае? — абдымаючы і цалуючы сясцёр, запытаў Васіль.

— Ой, цяжка вельмі… Схавалі ў ямах крыху жыта, бульбы, агародніны… Можа, неяк перазімуем, калі немцы ды паліцаі не абрабуюць.

— Ці чулі што пра маю Валюшу? Як яна там?.. — не вытрымаў каб не пацікавіцца Васіль.

— Месяцы два не бачыліся, — адказала яму Анюта. А так, здаецца, усё ў іх там было добра. Паліцаі толькі надта да дзяўчат чапляюцца, праходу не даюць. А твая Валька вельмі кідкая, прыгожая, дык бацькі ад сябе яе не адпускаюць…

— Ой, што ж гэта мы валэндаемся?! Нямыты, галодны, стомлены, паранены, — зноў расплакалася маці. — Давайце, дзеўкі, за работу. Маша і Ліда,

рыхтуйце лазню… Маня, завары чыстацелу — рану прамыць, бінты пракіпяці… Паша і Анюта, стол накрывайце… Здарожыўся, змарнеў, а схудаў як! Сыночак дарагі мой! — зноў абняла яна Васіля. — А Пецьку як забралі на фронт, так пра яго нічога не ведаем, ні слыху, ні дыху. І ад зяцёў ніякіх вестачак. Беражы іх Божанька…

Са свайго пакоя выбеглі Машыны сыны Сярожа і Толік, кінуліся да дзядзькі:

— Ну, цяпер паліцаі і немцы будуць баяцца нас! А дзе твой пісталет? А чаму няма пілоткі з чырвонай зоркай?.. — закідалі пляменнікі яго сваімі наіўнымі пытаннямі.

— Гэта — ваенная тайна, — шэптам адказаў дзядзька. — Зразумелі мяне?

Хлопчыкі заварожана пазіралі на яго.

— А ты на самалёце прыляцеў? — ціхім голасам запытаў Сярожа.

— Гэта таксама, хлопчыкі, ваенная тайна. Я не павінен адкрываць яе нават вам. Дамовіліся?

— Ідзіце, жэўжыкі, паспіце яшчэ, — падышла да сыноў Маша, — няхай дзядзька Васіль памыецца і адпачне з дарогі.

Хлапчукі пабеглі ў ложак. Чутно было, як яны там шапталіся. Потым Сярожка сур’ёзна загадаў Толіку:

— Чуў пра ваенную тайну? Ні Віталіку, ні Жэньку і пра пісталет, і пра самалёт — ні слова! Нікому! І пра тое, што наш дзядзька Вася паранены, — таксама.

— І сам ведаю, не маленькі, — адказаў брат. — Цяпер нашым камандзірам будзе дзядзька Вася, а Віталік — разведчыкам.

На другі дзень да Зыкавых завітаў мясцовы стараста. Вестка пра тое, што дамоў вярнуўся Васіль, паспела абляцець вёску.

— Здарова, зямляк! Адваяваўся?! Даўно пара было. Малайчына, што дамоў уцёк… Не бядуй. Падлечышся, работу знойдзем… А можа, старшым паліцаем да нас пойдзеш?.. Аўсвайс, паёк, дойчмаркі і ўсё такое… Сям’ю падтрымаеш, не дасі ад голаду памерці… — ён замаўчаў раптам, убачыўшы абураны і злосны Васілёў позірк.

— Я клятву даваў і Радзіму не прадаю, як некаторыя, свайму працоўнаму народу не здраджваю, — абарваў няпрошанага госця капітан.

— Ну-ну, паглядзім! Адлятаў сваё… Немцы афіцэраў надта не любяць… Дзе нагу зачапіла?.. Пра ўсё запытаюць, усё прыпомняць… У цябе толькі дзве дарогі. Адна — да нас, на службу новым уладам, а другая — на той свет…

— Не палохай! Палоханы ўжо, — агрызнуўся Васіль. — Нашы вернуцца абавязкова. Вось тады і запытаюць, як гэта ты фашысцкім прыхваснем стаў?..

— Заўтра ж стаць на ўлік, зброю, калі прынёс, здаць! Іначай немцы нікога не пашкадуюць. Без дазволу нікуды не сноўдаць. Тыдні праз два на службу! Іначай — не паздаровіцца… А старастам мяне пад пагрозамі прызначылі. Сам не напрошваўся…

— Калі б не хацеў — не згадзіўся б, паслугач нямецкі.

— Гляджу, надта смелы ты. Вучыся трымаць язык за зубамі, зубы цэлымі будуць, — неяк задаволена зарагатаў стараста. — Новая ўлада — не абы-што! Парадак жалезны наводзіць. Глядзі, хлопец, — не наламай дроў… — прамовіў ён, пакідаючы хату.

Удзень Васіль вырашыў прагуляцца па Ямнаму. І не пазнаў ні вёскі, ні людзей, быццам змрочная, жахлівая сіла накінула ярмо, прыгнула ўсіх, развучыла ўсміхацца, хадзіць на поўны рост. Затое як вальготна пачуваліся новыя гаспадары.

На дзвярах былога сельсавета віселі паперкі: на кожнай — нямецкія пагрозы і распараджэнні. За непадпарадкаванне, несвоечасовую здачу падатку, за сабатаж, за супраціўленне, за няздачу зброі і радыёпрыёмнікаў — расстрэл на месцы.

«Патрэбна хутчэй далечваць нагу і шукаць партызан», — гэтая думка цяпер непакоіла Васіля кожную хвіліну.

А неўзабаве дайшла чутка, што ў клятнянскіх лясах з'явіліся народныя мсціўцы, якія разграмілі ў Чырвонай Слабадзе торфабрыкетны завод і падарвалі на лясной дарозе нямецкую аўтамашыну.

У вёсцы адразу ж вывесілі новы загад германскіх акупацыйных уладаў аб тым, што кожнага, хто дапамагае партызанам, чакае немінучая смерць. Калі ж нехта далучыцца да іх, то будзе спалена яго хата, а сваякоў расстраляюць.

Васіль занепакоіўся: «Як цяпер ісці ў лес, калі такая жорсткая пагроза павісла над усёй сям'ёй?..»

Але пасля пакутлівых разважанняў супакоіўся. «Нешта прыдумаем, быць такога не можа, каб не было выйсця нават з самай складанай сітуацыі, — разважаў былы лётчык. — А заўтра трэба завітаць да Валюшы. Напэўна, ужо ведае, што я дома, перажывае, чакае сустрэчы…»

## 7

Раніцай, якраз была субота, Васіль запрог каня. Ускінуў на калёсы два ахапкі сена і разам з сястрой Анютай выехаў у Клетнае. Па дарозе заехаў да старасты, каб, ад граху падалей, адзначыцца і паведаміць, што едзе наведаць сваю абранніцу.

Валюша з сястрой і бацькамі корпалася на агародзе, калі Васіль запыніў каня ля іхняй хаты. Не паспеў хлопец наблізіцца да веснічак, як дзяўчына выбегла яму насустрач. Рэзка спынілася перад ім, акідваючы позіркам постаць каханага, зазіраючы ў яго вочы. Ён рыўком памкнуўся да яе, моцна абняў, затым пачаў цалаваць у шчокі, лоб, вусны, прытуліў да сябе:

— Каханая мая!.. Як я марыў пра такую хвіліну!.. Якая ж ты ў мяне прыгожая, слаўная!..

Анюта пайшла на агарод, каб не замінаць шчаслівым закаханым. Насустрач ёй ужо спяшаліся дзядзька Іван, цётка Васіліна і Ганначка. Твары іх свяціліся радасцю.

— А мне сёння добры сон прысніўся, думаю, што б гэта значыла, — прывітаўся з Анютай, сыпаў скорагаворкай гаспадар, — а гэта да прыезду зяця, аказваецца.

— Ой, дзяўчаткі, хадземце ў хату, стол дапаможаце накрыць, — расхвалявалася гаспадыня.

Васіль цёпла павітаўся з Валінымі бацькамі і сястрой. Цётка Васіліна засмуцілася, заўважыўшы, што Васіль крыху накульгвае:

— Ой, ты паранены! Але, дзякуй Богу, жывы, здаровы… А нашы сыночкі невядома дзе… Ці жывыя хоць?.. Каб яму рукі і ногі паадсыхалі, гэтаму Гітлеру распраклятаму.

— Кажуць, Маскву ўжо абстрэльвае, шэльма, — паглядзеў запытальна ў Васілёвы вочы дзьдзька Іван.

— Рукі ў яго кароткія! Не бачыць ворагу Масквы як сваіх вушэй, — упэўнена адказаў Васіль. — Прыйдзе час, і пагонім шэльму паганай мятлой. Будзе ўцякаць, ажно пыл слупом.

Валянціна не зводзіла шчаслівых вачэй са свайго суджанага, гарнулася да яго…

Калі яны перакусілі, Васіль падняўся і звярнуўся да гаспадароў:

— Дарагія дзядзька Іван і цётка Васіліна, я прыехаў прасіць рукі вашай дачкі. Ведаеце, што мы даўно кахаем адно аднаго… А ў такую суровую часіну тым больш павінны быць разам…

— А дзетачкі мае, — зноў усхліпнула цётка Васіліна, — перашкодзіла вам гэтая вайна праклятушчая, а то б ужо ўнучыка няньчылі… Мы ж бачылі, як яна па табе сохла ўвесь гэты час, чакала цябе, Васілёк. Давайце па-людску ўсё зробім, вяселле справім, каб людзі пасля языкамі лухту не малолі…

— Беражы яе, Васіль! Мы вельмі рады за вас, — дадаў дзядзька Іван. — Час надта ж пагрозлівы…

Дамовіліся, што сціплае вяселле згуляюць у наступную суботу ў Клетным, а жыць будуць у Ямным.

Перад ад'ездам дамоў Васіль паспеў яшчэ перааараць бульбяны ўчастак у будучых цешчы і цесця. Затым яны з Анютай пасяшаліся ў Ямнае, каб да цемры дабрацца дадому.

## 8

У наступную суботу раніцай, як і было дамоўлена, Васіль са сваякамі і гарманістам дзедам Петраком на дзвюх падводах, упрыгожаных каляровымі стужкамі і званочкамі, адправіліся ў Клетнае. Нешматлюднае, але шчырае вяселле ішло па звычных тут правілах. Побач з маладымі сядзелі іх хросныя. Завіхаліся сват, шафер і шаферка. Гучалі тосты, воклічы «горка!», заліваліся два гармонікі (да ямніцкага далучыўся і свой — мясцовы). Ліліся вясёлыя гукі дзівоснай музыкі, якія вялі гасцей у скокі, даносіліся вясельныя песні. Сярод усіх галасоў асабліва вылучаўся гучны голас цёткі Зосі.

— Ух ты! — дзівіліся госці, якія ўжо крыху адтаялі душой, радыя шчасцю маладых. — Ну і малайчына цётка Зося, які зычны голас!..

А тая, падбадзёраная воплескамі вясельнікаў, скакала, і яшчэ больш гучна спявала.

«Малайцы землякі, — радаваўся ў думках Васіль, — такі народ не перамагчы. Ён будзе біцца за сваю ўладу, не здасца на міласць гітлераўцаў».

Вечарам, забраўшы маладую, ямнічане пакіравалі дамоў. Усю дарогу маўчалі. Маленькае свята закончылася. Людзей зноў апанавалі маркотныя думкі: суровая рэчаіснасць не давала супакою ні на хвіліну…

Перад самай вёскай дарогу ім перакрылі нямецкія матацыклісты. Дзед Пятрок раптам зайграў на сваім гармоніку, а цётка Зося заспявала народную вясельную песню.

— Was ist das? — лупіў вочы белабрысы обер-лейтэнант.

— Вяселле ў нас! — тлумачылі яму вяскоўцы, паказваючы на маладых.

Аднак фашыст ніяк не мог уцяміць, з чаго гэта ў мясцовых людзей такая смелая і непадробная радасць і, размахваючы пісталетам, патрабаваў тлумачэнняў.

Праз некалькі хвілін з двума паліцаямі з'явіўся стараста, пачаў гаварыць пану афіцэру пра загадкавую славянскую душу. Заступіўся за землякоў. І матацыклісты неўзабаве паехалі далей.

— Не зразумець заваёўнікам, што мы на сваёй роднай зямлі, — зазначыў дзед Пятрок, — і жывём так, як хочам. Працуем у ахвоту і весялімся да поту.

А яны думаюць, што заваявалі нас, запалохалі. Дудкі!.. Прыйдзе час, і пабягуць да сваёй Нямеччыны без аглядкі…

У нядзелю ў Ямнае завіталі на падводзе клятняне — бацькі і сваякі маладой. Прыйшла і пявуння цётка Зося. Сядзелі, гаварылі, як быць далей. Васіль быў сумны.

— Што ты такі, Васечка? — прыціскалася да яго маладая і шчаслівая жонка. — Толькі што вяселле скончылася, а ты ўжо такі самотны. Што цябе турбуе? Вайна?

— Любая мая! Я ж баявы лётчык, чырвоны афіцэр… Не маю я права, не магу жыць толькі сваімі асабістымі клопатамі, калі вакол столькі гора, калі вораг топча нашу зямлю…

— Разумею цябе, мой каханы, толькі ты не спяшайся ў лес, далячы нагу… Да таго ж зіма суровая насоўваецца.

— Дзякуй, Валюша, — я і не сумняваўся, што ты мяне зразумееш. Ты ж у мяне камсамолка. Памятаю, якім цудоўным арганізатарам і агітатарам ты была ў школе. Шкада, фронт далёка… Буду шукаць сувязь з партызанамі…

— Разумею… Толькі вось баюся за цябе. Ды і расставацца з табой мне вельмі цяжка…

— Не перажывай, родная… Траплю ў атрад — цябе забяру, — моцна абняў жонку Васіль. — Усё будзе добра…

## 9

Неяк хутка адмяцеліла, адгула завірухамі, адрыпела куслівымі маразамі першая ваенная зіма. Удзень сакавіцкае сонца бадзёрыла настрой, весялей зачырыкалі на падворку вераб’і. Са стрэх закапалі ледзяшы. Васіль паспеў за гэты час перарабіць нямала работы: падрамантаваць хлеўчукі, нарыхтаваць дроў, прывесці да ладу ўсім хатнім падношаны абутак, пашыў пляменнікам са старых аўчын цёплыя кажушкі. А душой адчуваў, што з прыходам вясны пакіне ўтульную хату, прадумваў, як гэта лепш зрабіць. Вечарамі выходзіў у сенцы, чакаючы жаданых гасцей з лесу. Маці, сёстры і жонка здагадваліся, чым занятыя яго думкі, але перажывалі кожная па-свойму. Асабліва моцна хвалявалася маці. Ёй так не хацелася, каб сын, які цудам застаўся жывым, зноў пакінуў яе. Не менш задумвалася і Валянціна, якая ўжо ведала, што цяжарная.

Рана на назе зажыла і зусім не турбавала. Начных гасцей Васіль чакаў зусім не выпадкова. Яшчэ месяц таму праз сястру Маню яму перадалі, каб быў гатовы для сур’ёзнай сустрэчы. І вось нарэшце той час настаў. Маня паведаміла яму, што вечарам неабходна быць у клубе. Маўляў, так патрэбна, каб не выклікаць ніякіх падазрэнняў. У клуб пайшлі ўтраіх: ён, Валянціна і Маня. Размяшчаўся ён у цэнтры вялікай вёскі. Васіль здалёку пачуў зазыўныя гукі гармоніка. Ля ганка тоўпілася некалькі падлеткаў, відаць, саромеліся дзяўчат, якія танчылі ў клубе.

— Здарова, хлопцы! — прывітаўся Васіль. — А вы чаму тут? Не пускаюць?

— Ды не, — адказаў адзін з падлеткаў, трымаючы ў руках цыгарку, — мы яшчэ танцаваць не навучыліся. Музыку паслухаем і тут.

У хаце, якая была клубам, сабралася нямала дзяўчат. З мужчын, апрача гарманіста — аднаногага Лявона Карыцькі, сядзеў у кутку стараваты Сцяпан

Галуза, у якога была пакалечаная левая рука. Казалі, што яшчэ з дзяцінства. І хоць ён даўно быў жанаты, але часцяком заходзіў у клуб, каб «паглядзець на танцулькі», як сам казаў жонцы, калі выпраўляўся з хаты. Было тут і некалькі падлеткаў, якія моўчкі стаялі каля вакна.

Павіталіся. Гарманіст на момант перастаў граць.

— Ой, хто да нас прыйшоў! — падбегла да Васіля суседка Каця. — Дазвольце, Васіль Еўдакімавіч, запрасіць вас на танец.

Музыка зайграў вальс, і Васіль з Кацяй выйшлі на сярэдзіну хаты. Да іх далучылася яшчэ некалькі пар, у тым ліку і Валянціна з Маняй.

— Сягоння да вас завітаюць адтуль, з лесу, — шапнула Каця. — Прасілі звесці з вамі…

— Чаго гэта ты завыкала, Кацюша? — усміхнуўся Васіль. — Падрасла…

— Так патрэбна, — для канспірацыі… Ды і з жонкай вы…

Паведамленне ўзрадавала Васіля. Ён зразумеў, што набліжаецца час адказу на тыя пытанні, якія ўсю зіму не давалі яму спакою.

Танцы былі ў разгары, калі ў хату зайшлі двое ў цывільнай вопратцы, з вінтоўкамі за плячыма. Зброю яны па-свойску паставілі ў кут каля парога, прыкрылі вопраткай і адразу падышлі да знаёмых дзяўчат. Гарманіст якраз зайграў польку. Тыя запрасілі хлопцаў танцаваць.

Пасля танца, разагрэтыя, выйшлі на ганак аддыхацца. Каця шапнула Васілю, каб выйшаў следам за імі.

На двары больш нікога не было. Толькі недзе на другім баку вуліцы стаяў на варце яшчэ адзін чалавек, што прыйшоў разам з гэтымі хлопцамі.

— Ну, здарова, Васіль Еўдакімавіч, — загаварыў з ім старэйшы, падаючы руку. — Як здароўе? Доўга яшчэ збіраешся сядзець дома?..

— А што, ёсць размова? Шчыра кажучы, рукі даўно свярбяць, да важнай справы просяцца. А нага — зажыла…

— Мы маем заданне камандзіра партызанскага атрада перагаварыць з табой. Ведаем пра тваё жаданне змагацца з ворагам. Ты ж афіцэр, баявы лётчык, нам такія вельмі патрэбны.

— Я гатовы, хоць зараз. Даўно мару, — захваляваўся ад радасці Зыкаў.

— Гэта добра. Мы падумаем, як зрабіць, каб не пацярпелі твае родныя… Ты ж, вядома, ведаеш пра фашысцкі загад… Але ж і мы не лыкам шытыя… Усё табе паведамім праз нашу сувязную Кацю… Рыхтуйся, пацяплее крыху, і мы завітаем… Дома ні слова, пасля ўсё патлумачыш…

Яны зноў вярнуліся ў хату. Карыцька, нібы чакаў іх, адразу зайграў вальс. Васіль запрасіў Валянціну, і яны павольна паплылі ў танцы. Партызаны таксама запрасілі дзяўчат на танец. Па ўсім было відаць, што яны добра знаёмыя з гэтымі дзяўчатамі. А магчыма, іх звязвалі ўжо маладыя прыгожыя пачуцці.

Праз некалькі дзён Каця паведаміла Васілю: уночы да яго завітае пасыльны з партызанскага атрада.

## 10

Была ўжо сярэдзіна ночы, а ніхто яшчэ не аб'явіўся. Васіль выйшаў на падворак, праверыў веснічкі ў сад і на двор, каб яны лёгка адчыняліся. Вярнуўся ў хату і задрамаў. У гэты час якраз у акно лёгенька пастукалі — падалі ўмоўны сігнал. Першай яго пачула Маша, якую перад гэтым разбудзілі дзеці. Яна тузанула брата за плячо:

— Падымайся, да цябе прыйшлі…

Госць у хату не пайшоў, мужчыны размаўлялі ў садзе. Маша дзяжурыла каля веснічак на вуліцу, каб у выпадку небяспекі паведаміць ім.

— Я прадстаўнік камандавання партызанскага атрада Аляксей Сасноўскі, — ціха прадставіўся начны госць.

— Капітан Чырвонай Арміі Васіль Зыкаў, — шэптам адказаў былы лётчык. — Быў збіты ў паветраным баі і паранены.

— Як нага? Не турбуе?

— Рана загоена, усё ў норме.

— Ведаеш, што пагражае тваім родным, калі немцы даведаюцца?

— Ведаю, таму і шукаю выйсця. Патрэбна абхітрыць неяк немцаў…

— Слухай і запамінай, Васіль. Паслязаўтра ў 15:00 дня партызаны налятуць нечакана ў Ямнае на трох павозках. Пастраляюць уверх каля вашай хаты, нібыта сілком, забяруць цябе і пад аховай павязуць у лес, каб гэта бачылі вяскоўцы. Яны пацвердзяць затым, што цябе забралі прымусам…

— Выдатна! Буду чакаць.

— Дома пакуль што нічога не гавары… Ну, бывай, капітан! Да сустрэчы ў атрадзе, — падаў на развітанне руку Аляксей, калі яны скончылі размову.

Ва ўмоўлены час сапраўды партызаны на трох падводах нечакана з'явіліся ў вёсцы. Стараста і два паліцаі ад перапуду разбегліся. Народныя мсціўцы зайшлі ў адну хату, потым у другую, для прыліку пацікавіліся, дзе знаходзіцца хата Зыкавых. Пасля пад'ехалі да іх, убеглі ў двор, стрэлілі некалькі разоў у паветра. Вывелі Васіля на вуліцу, ён зрабіў выгляд, што супраціўляецца, заламалі яго, скруцілі рукі, кінулі на падводу, на вочы завязалі павязку. Затым пакіравалі ў лес. Следам беглі маці, сёстры і жонка, просячы адпусціць дарагога ім чалавека. Больш за ўсіх плакала маці, сёстры здагадваліся, што да чаго, а цяжарную жонку Валянціну раніцай Васіль папрасіў, каб яна не хвалявалася, калі з'явяцца ўзброеныя людзі. Паабяцаў у бліжэйшы час наведацца. Зрабіў ён намёк і маці, але тая, напэўна, прыняла партызанскі спектакль за рэальную карціну, а можа, старалася, каб усё было праўдападобна.

Такімі ж заплаканымі ўбачылі іх немцы з паліцаямі, якія прыбылі назаўтра на аўтамабілі з Быхава. Нямецкі афіцэр паспрабаваў учыніць бедным жанчынам строгі допыт, але тыя так натуральна абліваліся слязьмі, што ён падняўся і выйшаў з хаты...

Як толькі ўехалі ў лес, партызаны развязалі Васілю рукі, знялі з вачэй павязку.

— Здаецца, спектакль удаўся на славу, — засмяяўся камандзір групы, падаючы Васілю руку. — Будзем знаёмы, старшы лейтэнант Аляксей Іванцоў, — назваўся ён. — Упэўнены, што немцы і бобікі не прыдзяруцца да тваіх родных. Усё прайшло як мае быць.

— Будзем спадзявацца, — усміхнуўся Васіль. — Здаецца, усё як па нотах прайшло.

Неўзабаве яны звярнулі на лясную травяністую дарогу. А хвілін праз трыццаць пярэдняя падвода спынілася. Да іх падышлі двое з вінтоўкамі. Гэта быў першы партызанскі дазор. Хвілін праз пятнаццаць, калі дарога зрабілася ледзь прыкметнаю, парослая высокай травой, нізкарослымі кусцікамі і маленькімі елачкамі, іх аклікнулі вартавыя другога дазору. Далей Васіль і Аляксей рушылі пешшу, астатнія ж партызаны пагналі падводы на гаспадарчую базу. Лес стаў больш густым і непраглядным. Ціха і ўдумліва шапацелі махнатыя высокія елкі, за якімі метраў праз сто адкрылася ўзгорыстая паляна. Вакол яе Васіль угледзеў некалькі зямлянак і буданоў. Да адной з зямлянак, перад дзвярыма якой стаяў аўтаматчык, яны і накіраваліся.

— Далажы, Пятро, камандзіру, што Аляксей Іванцоў вярнуўся з задання, — звярнуўся камандзір групы да вартавога. Той на хвіліну знік за дзвярыма. Затым выйшаў і запрасіў усіх зайсці.

За сталом, што стаяў пасярэдзіне зямлянкі, сядзеў вайсковец сярэдніх гадоў. Перад ім ляжала карта, якую асвятляла лямпа, падвешаная да столі.

— Таварыш маёр, дазвольце далажыць, — выцягнуўся ў струнку Аляксей Іванцоў.

— Дакладвайце, — падняўся з-за стала вайсковец.

— Ваша заданне выканана. Капітан Зыкаў дастаўлены. Усё прайшло даволі гладка.

— Добра, добра, старшы лейтэнант, — камандзір атрада наблізіўся да Зыкава, пільна зазірнуў яму ў вочы, падаў руку:

— Ну, здарова, капітан! З прыбыццём у партызанскі лагер! Я — Фёдар Сухаў.

Потым звярнуўся да Іванцова:

— У пятай зямлянцы камісар праводзіць палітзаняткі, пакліч яго.

— Ёсць! Таварыш маёр!

«Нічога сабе! — моўчкі дзівіўся Зыкаў. — Тут як у армейскай часці. Гэта і добра, расслабляцца нельга».

— Вельмі рады, капітан, што далучыліся да нас. Сягоння афіцэру Чырвонай Арміі патрэбна дзейнічаць, а не сядзець на цёплай печы. Будзем ваяваць тут, дапамагаць фронту. Па ўсёй акупаванай тэрыторыі разгортваецца партызанскі рух. Будзем знішчаць масты, стратэгічныя дарогі, узрываць склады з боепрыпасамі, пускаць пад адхон варожыя эшалоны з жывой сілай і тэхнікай, весці работу з насельніцтвам, збіраць каштоўныя звесткі…

Дзверы ў зямлянку адчыніліся, і да іх далучыўся невысокі, каржакаваты мужчына гадоў сарака, падаў Васілю руку:

— Капітан Мікалай Званароў. А вы і ёсць капітан Зыкаў, Васіль Еўдакімавіч?

— Так і ёсць, таварыш камісар.

— Ну, вось і пазнаёміліся, — сказаў камандзір і запрасіў садзіцца. Ён зноў пільна паглядзеў на Васіля і прадоўжыў:

— Атрад наш пакуль толькі фарміруецца. Абсталёўваем лагер, вядзём разведку. Мясцовых людзей у нас мала. Таму мы з камісарам вырашылі, таварыш Зыкаў, што вы ўзначаліце нашу партызанскую разведку. Ведаеце раён, мясцовых людзей, валодаеце, як нас інфармавалі, нямецкай мовай, баявы лётчык. Праўда, самалётаў у нас пакуль няма, давядзецца лётаць па вёсках на кані. Але з прыходам фронту зноў асядлаеце крылатага жалезнага каня. А цяпер ваша задача — сфарміраваць моцную, вопытную разведгрупу. Патрэбна, каб большасць разведчыкаў была з тутэйшых байцоў. Гэта, па-першае. Па-другое, у кожным населеным пункце неабходна займець надзейных памочнікаў. Сувязных, праз якіх можна атрымліваць каштоўную інфармацыю. Па-трэцяе, прадумаць шляхі і метады работы з насельніцтвам, распаўсюджвання газет і лістовак. Адным словам, наша разведка павінна стаць вушамі і вачыма партызанскага атрада.

— Не менш важна — падключыць да нашай справы людзей правераных, надзейных, — далучыўся да размовы камісар. — Мы ўжо ведаем і пазначылі на карце, дзе немцы размясцілі свае гарнізоны. Неабходна сабраць дакладную інфармацыю пра кожны з іх.

— Асабліва звярніце ўвагу на вёскі Гарадзец, Грудзінаўка, Баркалабава, Студзёнка, Холстава, — пачаў пералічаць камандзір атрада, — а таксама Залатва, Глухская Сяліба, Глухі і Зарэчча…

— Дарэчы, у Ямным у нас надзейныя людзі ўжо ёсць. Кацярыну ты ведаеш. Стараста таксама наш чалавек. Гэта ён цябе правяраў і падказаў нам. Так што ты на яго асабліва не злуй, — усміхнуўся камісар…

— Ну і, вядома, Быхаў, — працягваў маёр Сухаў. — Тут патрэбна выходзіць на мясцовых патрыётаў, ствараць падпольныя групы… На сягоння, мяркую, хопіць… Час падкажа новыя задачы. А пакуль за работу… Камісар пакажа зямлянку разведгрупы. Яна часовая. За лета варта пабудаваць яшчэ некалькі… Дарэчы, нямецкую форму, нават афіцэрскую, маем. Магчыма, спатрэбіцца ў разведцы… Праз два дні чакаю з дакладам аб планах дзейнасці на бліжэйшы час, — закончыў камандзір атрада.

— Дзякую за давер, таварышы! — падняўся Зыкаў. — Пастараюся апраўдаць яго.

## 11

На выхадзе са штабной зямлянкі сутыкнуліся з высокім барадачом, які спяшаўся да камандзіра і падаўся Васілю крыху знаёмым.

— Старшы лейтэнант Аляксандр Новікаў, — прадставіў таго камісар, — камандзір гаспадарчай групы.

Калі яны ішлі па лагеры, Зыкаў пацікавіўся, ці даўно ў атрадзе Новікаў і адкуль ён.

— Месяц таму адбілі ў немцаў, яго везлі на расстрэл. А сам ён з-пад Баранавіч. Да вайны служыў у Быхаве. Ды і мы ўсе тут трэці месяц, хаця некалькі сур’ёзных аперацый і правялі ўжо. Стараемся дзейнічаць далей ад вёсак. Немцы люцеюць, пагражаюць расправай мірным жыхарам. І такія выпадкі ўжо ёсць. Нам неабходна яшчэ ствараць у немцаў уражанне, што прыйшлі здалёк сюды. Не ставіць пад удар насельніцтва! Нашых паплечнікаў строга канспіраваць. Табе, Васіль, таксама варта змяніць выгляд. Магчыма, бараду адпусціць…

— Як старшы лейтэнант Новікаў? Недзе я сустракаў яго, ніяк не прыгадаю толькі дзе…

— Будзе яшчэ час пазнаёміцца бліжэй, — усміхнуўся камісар. — Вы ж амаль землякі…

Не паспеў Васіль асвоіцца ў лагеры, накідаць дакладны план дзеянняў і сфарміраваць групу разведчыкаў з тых, хто ўжо знаходзіўся ў атрадзе, як яго паклікалі ў штабную зямлянку да камандзіра. Задача была канкрэтная: разведаць подступы да моста на перагоне чыгункі Быхаў — Жлобін. Па дарозе завітаць у Ямнае і забраць сабраныя сувязнымі медыкаменты і звесткі аб перамяшчэнні ворагаў.

— Таварыш маёр, дазвольце наведаць сваіх, — папрасіў падчас размовы Зыкаў.

— Дазваляю, капітан. Аднак на выкананне ўсяго задання вашай групе адводзіцца двое сутак. Група падрыўнікоў праз суткі будзе гатова да выканання баявой задачы і чакаць вас у квадраце «зэт», дзе вы і перадасце ім схему аховы моста. Прашу да карты, запомніце месца сустрэчы. Па прыбыцці ў лагер адразу далажыце мне аб усім.

Так Васіль атрымаў першую магчымасць сустрэцца са сваімі роднымі пасля таго, як трапіў да партызан.

Заданне па разведванні подступаў да моста і яго ахове было выканана своечасова, і ў Васіля заставалася некалькі гадзін, каб пабыць са сваімі. Частку

групы ён накіраваў на сустрэчу з сувязнымі, а сам з двума разведчыкамі прабраўся да роднай хаты. Якраз пачало змяркацца. Хлопцы засталіся ў кустоўі, каб сачыць за тым, што робіцца навокал, а ён падышоў да акна. Прыслухаўся. У хаце нікога з чужых не было, і Васіль ціха пастукаў у шыбу. Яму адчыніла Маша. Затым падляцелі пляменнікі. Маці зноў праслязілася ад радасці, што жывы і здаровы. Сёстры здзівіліся, што брат адпусціў бародку. Жонка Валянціна папрасілася пайсці з ім у атрад.

— Хоць бялізну мыць, хоць кухаркай, але хачу быць побач.

— Нельга, любая мая, — адгаворваў яе Васіль. — Табе пра дзіця трэба думаць, жывот ужо вялікі. Там умоў для гэтага няма. А тут маці, сёстры дапамогуць. Ды і я пастаянна буду ў разведцы…

Валянціна не аспрэчвала яго довадаў, толькі не зводзіла шчаслівых і крыху занепакоеных вачэй.

Зыкаў паклікаў у хату сваіх разведчыкаў. Перакусілі і пачалі развітвацца.

Васіль падышоў да пляменнікаў, якія яшчэ не спалі ў ложку, пацалаваў іх і па-змоўніцку дадаў:

— Хлопчыкі, тое, што мы тут былі, — ваенная тайна. Не выдавайце яе нікому, зразумелі?

Тыя моўчкі, але вельмі радасна заківалі галовамі ў знак цвёрдай згоды.

Разведчыкі сустрэліся на ўмоўленым месцы з той часткай групы, якая наведвала сувязных. Усе разам пакіравалі ў напрамку да лагера.

Менш чым праз суткі мост разам з варожым эшалонам узляцеў у паветра. Падрыўная група таксама вярнулася з задання без страт.

У штабной зямлянцы, куды Зыкаў зазірнуў, каб далажыць аб выкананні задання, было чацвёра: камандзір атрада Сухаў, камісар Званароў, начальнік штаба Палазкоў і старшы лейтэнант Новікаў. Васіль далажыў пра паспяховае выкананне баявога задання.

— Часу на адпачынак, капітан, на вялікі жаль, у цябе няма, — прадоўжыў размову Сухаў. — У вёсцы Зарэчча, што побач з Глухамі, умацоўваецца варожы гарнізон. Фашысты рабуюць навакольныя вёскі, прымушаюць пагрозамі моладзь да супрацоўніцтва. Твая задача — разведаць абстаноўку, вызначыць надзейных людзей у Студзёнцы, Язвах, Галькоўцы, Глухах і Зарэччы. Калі над некім там навісла пагроза расправы — запрашайце ў атрад…

— Мяркую, што мне варта апрануць мундзір нямецкага афіцэра. А двое маіх хлопцаў будуць пры мне ў ролі паліцаяў, — падзяліўся сваімі думкамі Зыкаў. — Так мы зможам на падводзе за два-тры дні аб’ехаць гэтыя населеныя пункты.

— Ідэя добрая. Мундзір даўно вісіць без патрэбы… Толькі ці не выкліча варожая форма недавер сярод насельніцтва? — засумняваўся камісар.

— Ручаюся, што мне ўдасца пазбегнуць гэтага.

— Што ж, дзейнічай, капітан. Дзве гадзіны ў цябе на зборы.

## 12

Неўзабаве разведгрупа пакінула лагер. У Студзёнцы, куды яны заехалі на падводзе, даведаліся, што немцы сабралі ў гумно ўсё, што толькі змаглі нарабаваць у жыхароў: бульбу, жыта, мёд, яблыкі, моркву, аўчыны… Разведчыкі абяззброілі вартавых і загадалі вяскоўцам разабраць нарабаванае.

Спыніліся ў хаце мясцовага настаўніка, якога Васіль добра ведаў па камсамольскай рабоце яшчэ да таго часу, калі паступіў у лётнае вучылішча.

Настаўнік падказаў, каму можна давяраць. Трое вясковых хлопцаў, якія страцілі бацькоў, і два вайскоўцы-акружэнцы, якія раней аселі тут, папрасіліся ў партызанскі атрад. У іх нават зброя была прыхаваная ў лесе. Зыкаў даручыў аднаму са сваіх разведчыкаў адвесці іх у лагер. А сам з другім разведчыкам, Іванам Лазавым, накіраваўся ў вёску Язвы. Там меркавалі заначаваць. Завіталі да старасты. Перапалоханы нечаканым візітам нямецкага обер-лейтэнанта, той ажно заікаўся. Але на стале з'явіліся міскі з пачастункамі і бутэлька самагону. Пасля смачнай вячэры разведчык з фурманкай размясціўся ў пуні, а Васіль у стараставай хаце.

— Ну, як служба ідзе? — пацікавіўся ў старасты пераадзеты камандзір партызанскай разведкі. — Ці ёсць у вёсцы тыя, што вельмі ненавідзяць новую ўладу?

— Ёсць, паночку! Ёсць! Зброю збіраюць. Ведаю нават, дзе схавалі яе. У мяне вока пільнае, пан афіцэр, — рагатнуў здраднік. — Я нават спіс склаў. Хачу сам, уласнаручна, каменданту аддаць: карова і конь у гаспадарцы лішнімі не будуць, абяцаюць новыя ўлады даць іх таму, хто пакажа на партызан, або іхніх памагатых. Я пры вас, гер афіцэр, зажыву цяпер. А пры саветах не давалі разгарнуцца…

Васілю доўга не спалася. Не спалі і стараста з жонкай, шапталіся доўга на другой палавіне хаты.

— Ой, сціхні, дурань, дзяцей разбудзіш. Вернуцца чырвоныя, бокам усім нам вылезе тваё багацце, нутром чую, — даводзіла гаспадыня.

— Ну, як яны вернуцца?! Куды ім супроць такой сілішчы!.. — ледзь не злаваў гаспадар.

— А пра дзяцей ты падумаў?.. Як ім пасля тваё выслужванне адгукнецца? — не здавалася жанчына.

— Вось пра іх будучыню якраз думаю, для іх і стараюся, — не адступаў стараста…

Раніцай, паснедаўшы, Зыкаў загадаў старасту паказаць складзены ім спіс тых, хто быў супраць новай улады.

— Я сам перадам у камендатуру, падпішы гэты ліст, каб ведалі, каго ўзнагародзіць. — Васіль яшчэ раз учытаўся ў пазначаныя прозвішчы. — О, ды тут ёсць і нашы тайныя агенты! — усклікнуў разведчык. — Ты што, на шыбеніцу захацеў? А можа, ты партызанам служыш? — насядаў на здрадніка Васіль і дастаў з кабуры пісталет.

— Пан афіцэр, даруйце! — узмаліўся стараста. — Я не ведаў…

— Я буду час ад часу наведвацца сюды, выконваючы высокую тайную місію, ускладзеную на мяне гаўляйтэрам Беларусі Вільгельмам Кубэ. Будзеш мне асабіста дакладваць аб усім. Зразумеў?!

— А як жа, пан афіцэр! Ды я нічога супраць не маю, як загадаеце, так і будзе…

— Цяпер ты завербаваны ваеннай разведкай вялікай Германіі. Думаю, ты ведаеш, як паводзіць сябе ў далейшым. Мы не толькі вам, але сваім не давяраем! І сярод нашых ёсць размазні і тугадумы! Твая першачарговая задача фіксаваць усё пра гарнізон у Зарэччы: колькі і ці дастаткова салдат і ўзбраення, якое яно, дзе і ці правільна размешчаны агнявыя кропкі і гэтак далей. Асабліва важная інфармацыя як пра тых, хто выступае супраць нас, так і пра тых, хто згодны супрацоўнічаць і супрацоўнічае з прадстаўнікамі ўладаў доблеснай Германіі… За актыўнае служэнне германскай разведцы мы шчодра ўзнагародзім цябе і тваю сям'ю. А дзеці ў будучым атрымаюць замак і землі ў Баварыі… За адмову супрацоўнічаць, гэтак жа, як і за раскрыццё нашай

тайнай дамоўленасці — смяротная кара. Мае тайныя агенты будуць наведваць цябе кожны аўторак у 20:00. А заўтра вечарам завітаю сам, каб забраць твае першыя звесткі.

— Не падвяду, пан афіцэр. Даруйце мне маю недарэчнасць. Усё зраблю… — маліў аб літасці здраднік.

Так Зыкаў завербаваў старасту і атрымаў каштоўны спіс людзей, з якімі можна было ісці на кантакт. Пазней частка гэтых патрыётаў прыйшла ў атрад, а некалькі чалавек, застаўшыся дома, актыўна садзейнічалі партызанам... Крыху пазней капітан Зыкаў атрымаў ад язаўскага старасты каштоўныя звесткі пра нямецкі гарнізон у Зарэччы, а таксама спісы тых, хто супрацоўнічаў з ворагамі, і тых, хто спачуваў партызанам.

Цяпер жа яны з Іванам і старастам непрыкметна пагрузілі зброю з лясной схованкі на сваю падводу. Старасту адпусцілі, а самі ад'ехалі ў глыб лесу. Васіль распрог каня, сеў на яго і паскакаў у Галькоўку, каб сустрэцца з сувязным. Івана Лазавога пакінуў вартаваць павозку са зброяй да свайго вяртання.

## 13

Праз гадзіну Васіль смела ўехаў у вёску, спешыўся, паправіў мундзір. Да яго падышлі трое паліцаяў. Але замест таго, каб выцягнуцца па струнцы перад чалавекам у форме нямецкага афіцэра, раптоўна збілі Зыкава з ног, звязалі рукі. Да іх падбеглі яшчэ двое з белымі павязкамі на рукавах.

— Здаецца, гэта ён, — задаволена зарагатаў мажны вусач. — Папаўся, партызанскі валацуга!

— Вы затрымалі і зняважылі нямецкага афіцэра! Вас павесяць, калі зараз жа не вызваліце мяне, — спакойна заявіў капітан Зыкаў і вылаяўся па-нямецку.

— У нас загад, — збянтэжыліся паліцаі.

— Тых, хто аддаў такі загад, таксама чакае расстрэл, — настойваў разведчык.

— А вось здадзім у камендатуру, няхай там і высвятляюць, які ты нямецкі афіцэр, — заявіў вусач.

— Давайце ў маю лазню яго пасадзім, пакуль немцы прыедуць, — прапанаваў высокі паліцай у пінжаку яўна не па яго плячах.

Васіля прывялі і зачынілі ў лазні. Чутно было, як старанна падпіралі нечым цяжкім дзверы. Паставілі вартавога, які тупацеў за сцяной, ціха спяваючы песню на незразумелай мове.

«Яўна не з мясцовых, — падумаў Васіль. — І трэба ж было так уліпнуць… І мундзір не дапамог… Значыць, ведалі, чакалі… Хто ж мог выдаць яго?.. З Язваў не маглі, ды і не паспелі б… Сувязныя не маглі таксама выдаць, бо не чакалі якраз… Хтосьці з атрада? Ведалі чацвёра: камандзір, камісар, начальнік штаба і старшы лейтэнант Новікаў… Усё ж такі, дзе я бачыў апошняга?.. І ці Новікаў ён на самай справе?..»

Зыкаў пачаў абмацваць сцены, шукаючы звязанымі рукамі вакенца. Нарэшце намацаў яго, выцягнуў зубамі анучу, якою яно было прыткнута. Пашкадаваў, што маленькае. Зруб лазні быў новы — не выбрацца. Васіль прыгледзеўся і заўважыў пад палком вялікі чыгун. Пачаў прадумваць план уцёкаў. Затым забарабаніў нагой у дзверы, закрычаў у вакенца:

— Пакліч гаспадара! Мне на двор тэрмінова трэба, не то загаджу яму ўсю лазню!

Нагамі перавярнуў чыгун, падкаціў яго да дзвярэй. Разумеў, што часу на выратаванне ў яго зусім мала.

Прыбег гаспадар, пацікавіўся, што здарылася.

— Хутчэй адчыняй, іначай лазня твая адхожым месцам стане, панос у мяне, не магу больш цярпець.

Гаспадар лазні пачаў валтузіцца, вызваляючы дзверы.

Васіль стаў да выхаду спінай, прыгнуўся, падстаўляючы звязаныя рукі.

— Хутчэй развяжы, не то загаджу табе лазню… — паўтарыў ён.

Паліцай заспяшаўся выслабаніць Васілю рукі. Адчуўшы, што вяроўка саслізнула на падлогу, Зыкаў правай рукой ухапіў чыгун і выскачыў у прылазнік. У адно імгненне з усяе сілы агрэў ім гаспадара лазні. Той асеў на падлогу без адзінага гуку. Не марудзячы ні секунды, выбег з прылазніка і з усяго размаху стукнуў чыгуном другога здрадніка. Трэці паліцай, які кінуўся на дапамогу сваім, ускінуў вінтоўку, але выстраліць не паспеў. Цяжкі чыгун, які запусціў у яго разведчык, зваліў таго на зямлю. Падхапіўшы вінтоўку, Зыкаў трапнай куляй спыніў яшчэ аднаго ворага, што выбег з хаты. Пяты паліцай, які знаходзіўся на вуліцы, ацаніўшы сітуацыю, кінуўся наўцёкі. Васіль не стаў праследаваць таго, а забраў каня, заспяшаўся агародамі да сувязнога. Той сустрэў яго на двары, перадаў сабраныя звесткі і паведаміў, што паліцаі цэлыя суткі сядзелі ў засадзе.

Развітаўшыся з сувязным, Зыкаў прайшоў крыху агародамі, выбраўся на дарогу, сеў на каня і паскакаў прэч. Хвілін праз дваццаць ён быў каля павозкі са зброяй. Іван Лазавы хуценька запрог каня, і разведчыкі накіраваліся ў лагер. Перад апошнім паваротам да лагера сустрэліся з гружанай падводай, поруч з якой ішлі двое. Адным з іх быў старшы лейтэнант Новікаў. Зыкаў улавіў яго разгублены позірк, нібы той не чакаў такой сустрэчы.

— Што чуваць? — знарок весела пацікавіўся Васіль.

— Вяртаемся з Холстава і Званцоўкі. Вязем пуд сала, тры кашы бульбы, два мяхі жыта, — яўна не ў настроі адказаў Новікаў. — А ў вас якія поспехі?

— Выдатна, без якіх-небудзь прыгод, — спакойна адказаў разведчык.

Пасля дакладу камандаванню атрада і вячэры Зыкаў паклікаў Івана Лазавога на прагулку. Ён вельмі цаніў гэтага вопытнага разведчыка і давяраў яму. Таму пачаў размову напрамую:

— Табе, Ваня, асаблівае заданне, пра якое, ты здагадваешся, пакуль ніхто не павінен ведаць. Здаецца мне, што наш намеснік камандзіра па гаспадарцы не той, за каго сябе выдае. Нешта я не давяраю яму. Інтуіцыя падказвае нядобрае…. Прасачы за ім некалькі дзён: куды ходзіць, што робіць, з кім сакрэтнічае… Але будзь асцярожны… Беражонага Бог беражэ…

— Будзе выканана, таварыш камандзір! — коратка адказаў Лазавы.

— Калі нешта падазронае заўважыш, адразу да мяне… Ніякай самадзейнасці…

Праз тры дні, вярнуўшыся з чарговага задання, Зыкаў даведаўся, што разведчык Іван Лазавы раптоўна знік, а хтосьці пусціў чутку, што ён самавольна пакінуў лагер…

Васіль зразумеў, што яго падазрэнні, якія тычыліся галоўнага гаспадарніка, не выпадковыя. Перагаварыўшы з разведчыкамі, якія знаходзіліся ў лагеры разам з Іванам, а таксама з партызанамі, якія былі ў дазорах, высветліў, што Лазавы з лагера не адлучаўся.

І Зыкаў накіраваўся да камандзіра атрада. Той якраз быў адзін, рыхтаваў тэкст радыёграмы ў Цэнтральны штаб партызанскага руху. Затым выклікаў радыста і, даўшы яму даручэнне, падняў стомленыя вочы на камандзіра партызанскай разведкі.

— Таварыш маёр, — ціхім голасам пачаў Зыкаў, — апошнія здарэнні са мной і нашым разведчыкам Іванам Лазавым падказваюць, што ў атрадзе завёўся варожы інфарматар. Магчыма, ён дзейнічае не адзін.

— Я і сам маю такія падазрэнні, — падышоў да яго камандзір атрада. — І камісар выказваў такую думку. Да таго ж арыштаваны нашы сувязныя ў Холаставе і Замошшы. Дыверсійная група нечакана наткнулася на засаду там, дзе яе не магло быць… Якія ў цябе меркаванні, падазрэнні, таварыш Зыкаў?..

— Таварыш маёр, Лазавы атрымаў тры дні таму заданне ад мяне — прасачыць колькі часу за старшым лейтэнантам Новікавым. Інтуіцыя падказвае, што ён не той, за каго сябе выдае… Да таго ж, дзесьці раней, здаецца, я сустракаў яго… Бараду адпусціў, не прызнаць…

— Няўжо ён?.. Не верыцца штосьці… Мы ж яго адбілі ў немцаў, яны яго расстрэльваць збіраліся…

— Магчыма, гэты «расстрэл» быў спецыяльна імі прыдуманы… Стопрацэнтна сцвярджаць не магу, але нутром адчуваю, што ў правалах без яго не абышлося…

— Пачакай, а як ён мог паведаміць немцам пра тваё заданне, крылаў жа ў яго няма?..

— А па рацыі?..

— Ну, што ты, Васіль, — радысту я давяраю, правераны неаднойчы…

— А калі ў яго свая рацыя недзе прыхаваная?.. — выказаў меркаванне Зыкаў.

— Дамовімся так, — пасля кароткага роздуму сказаў камандзір атрада, — я склічу тэрміновую нараду, а пасля яе твае хлопцы няхай не выпускаюць Новікава з поля зроку. Толькі пастаў іх вакол лагера, задзейнічай усіх… А я распараджуся ўзмацніць пасты. Калі твае падазрэнні правільныя, мы яго выявім, — падсумаваў размову маёр Сухаў.

— Таварыш камандзір, — затрымаўся на выхадзе Зыкаў, — калі мае падазрэнні пацвердзяцца, давядзецца мяняць месцазнаходжанне нашага лагера. Не выключана, што немцы ўжо ведаюць усё пра нас…

—Ты маеш рацыю, Васіль. Рыхтуй прапановы на гэты конт. На ўсялякі выпадак. Ты ж добра ведаеш навакольныя лясы… Думаю, і гаспадарчую групу, усю, апрача камандзіра, трэба накіраваць на заданні. А пасля праверым кожнага… Я займуся гэтым…

## 14

Праз дзве гадзіны маёр Сухаў сабраў камандзіраў на тэрміновую нараду. Прысутнічалі, апрача яго, камісар, начальнік штаба, камандзір разведкі, камандзір групы падрыўнікоў і камандзір гаспадарчай групы. Распачалі, як заўсёды, з агульнай абстаноўкі ў іх зоне дзеяння. Затым абмеркавалі пытанне партызанскага лазарэта. Пасля гэтага камандзір атрада ўрачыстым тонам абвясціў, што на ўзлеску каля вёскі Падклённе раніцай адбудзецца нарада камандзіраў партызанскіх атрадаў чатырох раёнаў: Быхаўскага, Кіраўскага, Бялыніцкага і Рагачоўскага. На нарадзе будзе выпрацавана рашэнне аб сумесных ударах па ворагу.

— Даўно пара! Трэба даць захопнікам добрага прачуханца, — неяк роблена заявіў старшы лейтэнант Новікаў. — Буду рады, таварыш камандзір, суправаджаць вас.

— Не, Новікаў, ты будзеш тут сустракаць сваіх з гаспадарчых рэйдаў. А са мной, акрамя аховы, адправіцца толькі камісар. Такім было распараджэнне Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Дарэчы, яго прадстаўнік таксама прыбыў з Масквы і прыме ўдзел у нарадзе. Так што, таварышы, хутка паўсюль пад нагамі фашыстаў зямля запалыхае… Астатнія, пакуль мы з камісарам будзем адсутнічаць, дзейнічайце па вызначаных раней планах. Заўтра вечарам мы праінфарміруем вас пра гэтую, падкрэслю, вельмі важную падзею. А цяпер за справы, таварышы.

Васіль назіральным позіркам разведчыка ўлавіў, як занерваваўся Новікаў. Пакінуўшы штабную зямлянку, гаспадарнік выкурыў каля сваёй зямлянкі цыгарэту, ловячы кожны рух навокал, затым зазірнуў на кухню, дзе пацікавіўся, вядома, дзеля прыліку, ці патрэбна якая істотная дапамога. Потым закружляў вакол гаспадарчай зямлянкі. Мабыць, ён вырашыў, што яму пашанцавала прысутнічаць на сягонняшняй нарадзе ў камандзіра атрада, бо даведаўся пра такую важную інфармацыю, якая можа істотна змяніць яго статус. Пэўна, Новікаў абдумваў, як непрыкметна выбрацца з лагера і перадаць пачутае ў Быхаўскую камендатуру. Не заўважыўшы нічога падазронага, накіраваўся павольна ў гушчар. Прайшоў не больш за трыста метраў, спыніўся каля маладзенькай елачкі і прысеў на кукішкі. Папраўляючы абутак, пaглядзеў па баках, вакол было ціха. Ён акуратна ссунуў елачку ўбок і слізгануў некуды ўніз, елачка, быццам сама, зноў перамясцілася на сваё ранейшае месца.

Вопытны франтавы разведчык Мікалай Глушакоў, які непрыкметна назіраў за Новікавым, не выпусціў з поля зроку нічога. Падаў ўмоўны сігнал, і праз хвіліны тры да яго падышлі капітан Зыкаў і яшчэ трое разведчыкаў.

— Таварыш камандзір, аб’ект знік пад елачкай… Відаць, тут у яго тайны схоў.

— Значыць, мы не памыліліся, — ціха прамовіў Зыкаў. — Хлопцы, не выключана, што ў яго ёсць і запасны выхад з падземнага сховішча. Мы з Віктарам пашукаем яго. Ты, Лявон, застаешся тут, а ты, Пятрок, — звярнуўся ён да сваіх падначаленых, — ідзі прывядзі астатніх разведчыкаў. Мы павінныя не ўпусціць гада… І браць яго будзем жывым…

Капітан з Віктарам пачалі асцярожна кружыць вакол ялінкі, паступова павялічваючы радыус абследавання мясцовасці.

— Таварыш камандзір, — раптам зашаптаў Віктар, — нейкі провад па яліне віецца ўверх…

— Ага! — здагадаўся Зыкаў, — у яго рацыя там у сховішчы… А гэта антэна.

— Можа, перарэзаць? — запытаў разведчык.

— Не, провад зараз нам падкажа запасны выхад, — адказаў капітан. Ён узяў у рукі провад і пачаў, прыпадымаючы яго з травы, пасоўвацца ўбок. Провад праз нейкі дзясятак крокаў прывёў іх пад разгалісты арэхавы куст.

— Вось і другі выхад… Віктар, заставайся тут і будзь напагатове… Страляць толькі па нагах… Шпіён нам патрэбны жывым…

Васіль ведаў, што нарада камандзіраў партызанскіх атрадаў адбудзецца праз тры дні і зусім у іншым месцы. Таму не спяшаўся перашкаджаць Новікаву перадаваць дэзінфармацыю. Ён паслаў да Віктара яшчэ дваіх разведчыкаў, а з астатнімі залёг за «рухомай» елачкай.

Доўга чакаць партызанам не давялося. Неўзабаве елачка зрушылася з месца, і на паверхні паказалася галава старшага лейтэнанта Новікава. Не паспеў ён атрэсціся ад пяску і хваінак, як дужыя рукі разведчыкаў павалілі яго на дол. Убачыўшы капітана Зыкава, здраднік абмяк і заенчыў:

— Я не мог інакш!.. У мяне не было выйсця!.. Мяне прымусілі!.. Жыць, жыць вельмі хацелася, — затросся ён ад плачу. — Пашкадуйце, таварышы! Крывёю змыю ганьбу…

У штабной зямлянцы, куды прывялі здрадніка на допыт, камандзір атрада сурова запытаў:

— Сувязных таксама не мог не выдаць фашыстам?!

— Немцы патрабавалі пацвердзіць маю лаяльнасць, пагражалі мне…

— А Лазавога куды падзеў, гад? — падступіўся да Новікава капітан Зыкаў.

— Ён сам вінаваты… Не трэба было шпіёніць за мной… — зарумзаў фашысцкі паслугач. — Вось і давялося яго… Каля балотца закапаў… А ты мяне так і не пазнаў, капітан… Мы ж з табой у адным канцлагеры былі… Думаў — нам хана на тым голым полі будзе. А тут немцы пачалі вербаваць на службу. Я і пайшоў… Іншага выйсця не бачыў…

— Нутром адчуваў, што ты не наш… Цяпер успомніў… Хлеба патрабаваў… Барада твая перашкодзіла мне выкрыць цябе раней, — адказаў Васіль. — Ды і адкарміўся на нямецкіх харчах… Ведай аднак, што выйсце заўсёды ёсць з любой сітуацыі, але толькі для мужнага і сапраўднага чалавека. Проста душа ў цябе гнілая, подлая, здрадніцкая…

У час допыту высветлілася, што Новікаў прайшоў спецыяльную дыверсійную падрыхтоўку ў нямецкай школе пад Барысавам. І «расстрэл» яго немцы прыдумалі, каб перакінуць да партызан. Быў у яго ў гаспадарчай групе і пасобнік, якога партызаны пасля арыштавалі. Паведаміў ён і пра тое, што немцы рыхтуюць аперацыю па знішчэнні партызанскага лагера, якая пачнецца праз два дні на світанні, дзеля чаго сцягваюць дадатковыя сілы. Вядома, перадаў і дэзінфармацыю, падкінутую камандзірам атрада. Назваў і тых сувязных, якія былі ўжо выдадзены ім і за якімі немцы яго стараннямі ўстанавілі назіранне.

У замаскіраваным падземным сховішчы знайшлі рацыю, кансервы, сухары, аўтамат, гранаты…

Здраднікі атрымалі па заслугах...

А цела разведчыка Івана Лазавога партызаны перазахавалі ў той жа дзень на паляне ў суседнім лесе, куды перабазіраваліся літаральна за суткі.

…Трапіўшы ў засаду на ўзлеску каля вёскі Падклённе, фашысты страцілі нямала жывой сілы і тэхнікі. Таму, раззлаваныя, кінулі амаль усё, што маглі сабраць, на знішчэнне партызанскага атрада. Але і тут, безумоўна, ім дасталася так, што выратавалася менш за палову. Разгубленых і перапалоханых ад нечаканых разрываў партызанскіх мін, якімі сустрэў пусты лагер, народныя мсціўцы з удала падабраных і замаскіраваных пазіцый палівалі ворагаў трапным кулямётным агнём.

Доўгі час пасля гэтага фашысты не асмельваліся сунуцца ў партызанскія лясы.

Заканчвалася лета 1942 года. А наперадзе ў Васіля Зыкава было яшчэ 15 месяцаў суровага партызанскага жыцця, мужнага і самаадданага змагання, цяжкіх выпрабаванняў, балючых страт, удалых аперацый і радасных перамог. Яму так і не ўдалося болей падняцца ў неба, сесці за штурвал баявога самалёта. 15 снежня 1943 года ён загінуў у баі з карнікамі каля вёскі Лапша роднага Быхаўскага раёна. Фашысты ў тым баі былі ўжо амаль разбітыя, перастрэлка заціхала. Частка ворагаў здалася ў палон, частка кінулася наўцёкі. Зыкаў заўважыў двух нямецкіх афіцэраў, якія ўцякалі па лясной сцяжыне, і кінуўся наўздагон. Адстрэльваючыся, тыя выбеглі на паляну, дзе

ратаваліся вяскоўцы: старыя, жанчыны і дзеці. Імі і прыкрыліся недабітыя фашысты.

Выскачыўшы на паляну і ўбачыўшы мірных жыхароў, Зыкаў апусціў свой аўтамат… У гэты момант варожыя кулі і скасілі напавал камандзіра партызанскай разведкі…

Уночы яго цела партызаны тайна прывезлі ў Ямнае. У тую ж ноч адважнага камандзіра разведкі, свайго сына, брата і мужа родныя пахавалі на мясцовых могілках. А праз два дні ў вёску наляцелі карнікі, сагналі жыхароў да могілак, нацэлілі на іх кулямёты. Амаль гадзіну фашысты пратрымалі людзей, дапытваючыся, каго яны нядаўна пахавалі тут. Час ад часу палохаючы кулямётнымі чэргамі, што праносіліся над іх галовамі. Але натоўп маўчаў, хаця многія ўжо ведалі або здагадваліся, хто нядаўна знайшоў свой апошні прытулак у роднай зямлі. Так нічога і не дабіўшыся, немцы кінулі на магілу героя гранату і паехалі.

## Замест эпілога

Галоўныя персанажы аповесці не прыдуманыя мной.

Жонка Валянціна, маці і родныя сёстры Васіля Зыкава падтрымлівалі сувязь з партызанамі. Выпякалі для іх хлеб, збіралі медыкаменты і каштоўныя звесткі. Яшчэ да гібелі мужа Валянціна нарадзіла сына Кольку. Але ў адну з блакад ён прастудзіўся ў халодным лесе і неўзабаве памёр. Васіль Еўдакімавіч нярэдка ўначы наведваў сваіх родных. Ужо праз некалькі месяцаў пасля яго гібелі, у ліпені 1944 года Валянціна нарадзіла дачку Галіну. Пасля вайны яна зноў выйшла замуж, жыла ў роднай вёсцы, нарадзіла шасцёра дзяцей. Памерла ў 1997 годзе.

Дачка галоўнага героя аповесці Зыкава Галіна Васільеўна (па мужу — Ларуціна) доўгі час жыла і працавала ў ваенным гарадку ў Быхаве. Цяпер — у горадзе Мінску. У яе двое дзяцей: сын Анатоль і дачка Вольга. Анатоль — палкоўнік Узброеных Сіл Расіі, Вольга — ваеннаслужачая Беларусі. Упэўнены, што на іх выбар прафесіі паўплываў не толькі бацька Яўген Ларуцін, які служыў прапаршчыкам на былым ваенным аэрадроме ў Быхаве, але і дзед Васіль — адважны лётчык і камандзір партызанскай разведкі. Дарэчы, Галіна Васільеўна — мая дваюрадная сястра. Родная сястра Васіля Зыкава — Маша — стала пасля вайны маёй матуляй. Яе першы муж загінуў на фронце. У 1945 годзе яна выйшла замуж за майго будучага тату і нарадзіла яшчэ шасцярых дзяцей. Памерла ў 1996 годзе ў вёсцы Ямнае, дзе і пахавана на мясцовых могілках.





**Соф'я ШАХ**

# У ТЫМ ЖЫЦЦІ

*З дыптыха вянкоў санетаў*

**1**

У тым жыцці, якога не мінуць,
якое нас заведама чакае,
даўно бацькі ўжо нашыя жывуць, —
ніхто назад вярнуцца не спяшае.

А ці магчымасці такой не мае?..
Адкуль нам ведаць?! Мы там не былі.
І быць — даруй, Гасподзь наш! — не жадаем,
нам разам вельмі добра на зямлі.

Сярод карцін і кніжак у жыллі,
сярод дажджоў, вятроў у наваколлі…
Уявіць без нас лугі, лясы, палі —
усё адно што век не бачыць волі.

А новае жыццё — як за туманам.
Якое нам ужо наканавана?..

**2**

Якое нам ужо наканавана?..
Не дадзена і гэтае ўявіць,

---

*__Шах Соф'я Мікалаеўна__ нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне» (1989), «Пад высокай лагодай нябёс» (1995), кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне» (2000), «Прысвячэнне» (2001), «Прызначэнне» (2002), «Увасабленне» (2003), «Спасціжэнне» (2004), «Азарычы» (2007), зборнікаў вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» (2003), «Кругаспеў» (2006), «Малітваспеў» (2010) і інш.*

ці ўбачыць па-за плоскасцю люстранай,
ці хоць бы прыкладна яго сасніць.

Як і таго не дадзена адкрыць,
хто — першы з нас… Гасподзь святы, пра што я?!
Маё ўжо сэрца, сэрцайка баліць
ад гэтай думкі, нейкай бы дурное.

І ўвогуле, ну што гэта такое?!
Ды гэта ж тэма існа не мая!
А мушу ўсё ж, а мушу і пра тое, —
за нас дваіх пераживаю я.

Хто скажа тут, хто зможа хоць шапнуць:
нас не разлучаць, нас не развядуць?

**3**

Нас не разлучаць, нас не развядуць
ні гэтыя, што ўжо адсюль адправяць,
ні тыя, што туды ўсё ж пазавуць
жыццё сваё нябеснае паказваць.

Нас лучнасці ніколі не пазбавяць,
бо гэта ж не па-боскі — так рабіць.
(Вось толькі б зараз, зараз не заплакаць,
вось толькі б зараз нейк спакойнай быць…)

Яны ж не могуць Божае змяніць, —
адно ж у аднаго нас не аднімуць,
як, можа быць, каму ні закарціць
такую недарэчнасць раптам вымкнуць.

Не, не пасмеюць аніякім зманам,
ніякім чынам, яўна або тайна.

**4**

Ніякім чынам, яўна або тайна...
Каму я гэтае амаль крычу?!
Рука не можа без рукі адданай,
ніяк не можна без пляча плячу!

Каму давесці гэтае хачу?!
Слых перастане быць без слыху слыхам,
не будзе зрокам зрок, калі ўваччу
вачэй не стане па-за нейкім мігам…

А дыхаць як, калі на хвілі ціхай
дыхання да дыхання не гарнуць?!
А мы ж трымаемся ўзаемным дыхам,
ўзаемна толькі можам бачыць, чуць.

Мы з'явімся — душа з душой каханай —
у тым жыцці прад Богам паслухмяна.

**5**

У тым жыцці прад Богам паслухмяна
мы станем, дачакаўшыся чаргі,
і споведна, і шчыра-пакаянна
раскажам пра якіясьці грахі,

пра ўсе зямныя нашыя шляхі,
якія Ён жа Сам нам і прызначыў,
пра нашы абавязкі і даўгі,
якія Сам, напэўна, і прадбачыў.

Ну а паколькі кожны з нас аддзячыў,
як мог, і за цяпло, і за святло,
Гасподзь даруе нам наіў дзіцячы
і ўсё, што з ім звязанае было.

І вось тады прад Яснасцю святой
мы схілімся ў патрэбе звышадной.

**6**

Мы схілімся ў патрэбе звышадной —
адной-адненькай, існасна свядомай,
увесь сканцэнтраваны сэнс якой
даўно, канечне, Госпаду вядомы.

Ён ведае, Ён з ёй ужо знаёмы,
Ён неаднойчы колісь чуў яе, —
маліліся мы ёю без утомы,
ладкуючы зямное жыціе.

Але наколькі палкасці стае,
ізноў, ізноў узрушана паўторым:
калі Гасподзь нам новы свет дае,
мы лучнасці і ў ім адчайна молім.

Нам трэба ўсім духоўна-спеўным станам
застацца разам — неабмежавана.

**7**

Застацца разам — неабмежавана,
не расставацца ў тым жыцці ані, —
яно ж так лёгка жыць, калі старанна
душа душу трымае ў чысціні.

Яно ж так дзіўна жыць, калі ўсе дні,
і ўсе гады, і час увесь кранальна
праходзіць на духоўнай вышыні,
на вышыні амаль ужо астральнай.

Яно ж так жыць бясконца захапляльна,
калі само жыццё як песня-сказ,
калі яно само невычарпальна
палоніць, развівае, поўніць нас.

Нам разам трэба ў долі незямной,
адно ў адным знаходзячы спакой.

**8**

Адно ў адным знаходзячы спакой,
адно ў адным натхняючы патолю,
мы гэткі спеўны вылучым настрой,
мы так сваю там расшчыруем долю!..

Не забываючы Гасподню волю
і ўсе адметнасці таго быцця,
мы і таму заземнаму ваколлю
адкрыемся да самазабыцця.

У шчодрасці ўзаемапачуцця,
у шчырасці-трываласці адносін
ані тады, ні нават спагадзя
нічога больш сабе мы не папросім, —

адданыя кранальнасці любой
у тым жыцці, у праведнасці той.

**9**

У тым жыцці, у праведнасці той,
мы, узаемным жывучы дыханнем,
турботай узаемна-трапяткой
і вечным узаемахваляваннем,

яшчэ мацней спазнаем чараванне
сумесных тых азораных гадоў,
а мо вякоў, ну так, вякоў-спрыянняў,
вякоў-адхланняў, таінстваў-вякоў.

Для долі той не маю пэўных слоў,
не маю правільных абазначэнняў,
адно я ведаю, скажу я зноў
нязменна без ваганняў і сумненняў:

дасць Бог быць разам — гэта не забудзем, —
мы лучнасць яшчэ большую набудзем.

**10**

Мы лучнасць яшчэ большую набудзем,
таму што там, куды пакліча Бог,
мы ўжо самім, самім каханнем будзем,
пазбаўленым усіх зямных аблог.

Прадоўжым наш пачаты дыялог,
працягнем наша спеванаталенне,
але не словамі, не імі, — ох,
ад іх амаль і так было скажэнне.

Мы будзем размаўляць святым сумленнем,
таму што ўрэшце самі станем ім.
Мы будзем прамяніць адухаўленне,
таму што духам станем там самім.

Вось так — і не інакш! — само сабой
адкрыўшыся душа перад душой.

**11**

Адкрыўшыся душа перад душой,
ды так, як не маглі раней адкрыцца, —
сярод будзённай мітусні людской
на незабыўнай любаснай зямліцы.

Якія мы спазнаем таямніцы?
Якую сутнасць вызначым тады,
калі ўжо нашы душы-шчыраўніцы
пазбавяцца цялеснай цеснаты?

Калі патрапяць споведна туды,
дзе Сам Хрыстос, ахоўнікі-анёлы,
дзе Госпад-Бог ва ўлонні яснаты
аднойчы прыме нас як навасёлаў…

Дзе стрэнуцца нам душы, а не людзі,
у яшчэ большым харастве і цудзе.

**12**

У яшчэ большым харастве і цудзе
мы стрэнем там і нашых родных мам,
бацькоў — і не ў знямозе, не ў пакуце, —
ужо, напэўна, шчаслівейшых там.

Яны сустрэнуцца аднойчы нам,
і мы пазнаем іх абавязкова, —
маіх і Вашых… Не, пакуль няўцям,
як гэта будзе ў той стыхіі новай.

Але мы ўспомнім з імі дэталёва
радзімыя дарогі і двары, —
усё, што засталося пад аховай
у памяці, нібы на алтары.

Каб назаўжды быць едным лёс наш мог,
у тым жыцці нас не пакрыўдзіць Бог.

**13**

У тым жыцці нас не пакрыўдзіць Бог, —
сваіх дзяцей, што напачатку слепа,
нібы праз нейкі стоены спалох,
у векавое пазіралі неба.

Даруе Ён, што вышняя патрэба
Яму паверыць спела мо наўгад,
што глініста-пясчаная нас глеба
кранала болей, чым Яго пагляд.

Што вусцішна страшыў глыбокі спрат,
што жахам паўставала невядомасць,
што непрыкаяна крычала гвалт
у безвыходдзі бедная свядомасць.

І там Госпадзь пазбавіць ад трывог,
калі сустрэцца на зямлі памог.

## 14

Калі сустрэцца на зямлі памог,
калі правёў праз жарало іспытаў
і ад брыды пачварнай засцярог,
прыняўшы сутнасць нашых жа малітваў;

калі Ён даў планіду нам з планідаў,
злучыў нас не на жарт, не на паспех
у той ужо і сапраўды нібыта
зімы далёкай святаносны снег;

калі Ён нас узняў на гэткі верх
у свеце супярэчлівым і белым, —
то будзе і Яму вялікі грэх
(няхай даруе, што я так пасмела…)

калі там нашу еднасць разарвуць —
у тым жыцці, якога не мінуць.

## 15

У тым жыцці, якога не мінуць,
якое нам ужо наканавана,
нас не разлучаць, нас не развядуць
ніякім чынам, яўна або тайна.

У тым жыцці прад Богам паслухмяна
мы схілімся ў патрэбе звышадной:
застацца разам — неабмежавана,
адно ў адным знаходзячы спакой.

У тым жыцці, у праведнасці той
мы лучнасць яшчэ большую набудзем,
адкрыўшыся душа перад душой
у яшчэ большым харастве і цудзе.

У тым жыцці нас не пакрыўдзіць Бог,
калі сустрэцца на зямлі памог.





Ірына ЛЯВОНАВА

# ЦІХІ АДПАЧЫНАК У «ЛАГУНЕ БІЧ»

*Апавяданне*

Міла Іванаўна Дзімітрава, маёр міліцыі ў адстаўцы, а цяпер адвакат у адной са шматлікіх юрыдычных кантор сталіцы, заплюшчыўшы вочы і сціскаючы рукамі маленькую жаночую сумачку, сядзела ў крэсле самалёта, які ажыццяўляў чартарны рэйс «Масква — Бургас» — яна, мабыць, як і большасць людзей, баялася лятаць.

Пасля ўзлёту і набору вышыні самалёт напоўніўся дзіцячым рознагалоссем, і жанчына адразу ж адчула, як нечыя ногі забарабанілі па спінцы яе крэсла, што зусім сапсавала ёй настрой.

Міла Іванаўна павярнулася і, надаўшы голасу як мага большай строгасці, сказала ў шчыліну паміж крэсламі:

— Яшчэ раз стукнеш — выкіну з самалёта.

Хлапчук гадоў дзесяці спалохана апусціў ногі на падлогу. Яго маці, маладая жанчына, ад такога жахнулася, але нічога не сказала.

Міла Іванаўна не любіла дзяцей, яны раздражнялі яе. Яна рана страціла бацькоў, у сямнаццаць гадоў, здарылася так, што памерлі ў адзін год, спачатку бацька, а потым маці, і ў свае сорак з невялікім Міла Іванаўна была адзінокая. Дазволіць жа сабе стаць маці-адзіночкай яна лічыла амаральным у адносінах да будучага дзіцяці.

Дзеці, паводле яе перакanання, павінны выхоўвацца ў поўнай сям'і, інакш з іх вырастаюць людзі з парушанай псіхікай і рознымі комплексамі. За сваю ж юрыдычную практыку яна нагледзелася ўсяго.

Нарэшце загарэлася табло з патрабаваннем прышпіліць рамяні.

Самалёт ляцеў над морам, якое ў сонечных промнях іскрылася зялёным колерам.

«Цікава, мора спакойнае ад таго, што мы знаходзімся на такой вышыні, або цішыня сышла на ваду ад выдатнага надвор'я?» — думала жанчына, гледзячы ў ілюмінатар.

---

***Ірына Віктараўна Лявонава*** *нарадзілася 8 мая 1957 года ў горадзе Шчолкава (Расія). Скончыла Мінскі інстытут народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава і Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Працавала ў розных галінах народнай гаспадаркі.*

*Піша на рускай і беларускай мовах. Аўтар кніг прозы «Тонкий психолог» (2005), «Друзья из дома буквы “Г”» (2008), «Одаренные натуры» (2013).*

Шасі кранулася зямлі, маторы яшчэ раз нясцерпна гучна зараўлі, і пад гукі апладысментаў удзячных пасажыраў самалёт здзейсніў «мяккую» пасадку.

Неўзабаве падалі трап, і, не паспеўшы ўзмокнуць ад нясцерпнай гарачыні, Міла Іванаўна ўжо праходзіла пашпартны кантроль. А ў фае аэравакзала яна ўбачыла далёкага сваяка па бацькавай лініі, Георгія Дзімітрава. У час, калі камуністычнай партыяй Балгарыі кіраваў Дзімітраў, сваяк Мілы Іванаўны вельмі ганарыўся сваім імем і прозвішчам, можа, ганарыцца ім і цяпер. І нікому нават у галаву не прыходзіць пацікавіцца: ці не даводзіцца Георгій сваяком таму Дзімітраву.

Цяпер гэтага Дзімітрава, яе сваяка, ведаюць многія, а таго амаль забыліся.

— Як даляцела? — спытаў сваяк і нясмела цмокнуў яе ў шчаку.

— Ды так, як заўсёды. Напалохалася.

Георгій хмыкнуў і падхапіў яе сумкі.

У Мілы Іванаўны кожны раз пры сустрэчах з родзічамі ўзнікала адно і тое ж пытанне: у каго яна ўдалася, гэткая «прыгажуня»?

Росту Міла Іванаўна была невысокага, яе фігура з узростам стала паўнаватай. Прамыя русыя валасы яна стрыгла коратка, выразнымі былі невялікія шэрыя вочы, але з-за блізарукасці Міла Іванаўна прыжмурвалася, таму здавалася нейкай вельмі напышлівай і пагардлівай. А вось яе сваякі па балгарскай лініі ўдаліся на славу. Усе як адзін высокія і зграбныя, з чорнымі кучаравымі валасамі і з дзіўным колерам вачэй на смуглявых тварах — цёмна-сінім, лавандавым...

Калісьці балгарын Іван Дзімітраў на адным са з’ездаў інтэрнацыянальнай моладзі ў Сафіі пазнаёміўся з рускай дзяўчынай і так закахаўся ў бялявую савецкую камсамолку, будучую маці Мілы, што, не зважаючы на ўсе перашкоды і межы, ажаніўся і пераехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Маскву.

Маці Мілы была прыгожая, таму засталося загадкай, чаму дачка Івана Дзімітрава не была падобная ні да яго, ні да жонкі...

Вузкая шаша вілася ўздоўж мора. Жанчына не-не дый пазірала краёчкам вока на спідометр.

— Зараз ты ўбачыш свой гатэль і пашкадуеш, што адмовілася спыніцца ў нас, — папярэдзіў Георгій, гледзячы на шашу і моцна трымаючы руль.

— Ехаць з аднаго горада, дзе ты жывеш, у другі, дзе збіраюся адпачываць, які сэнс? А яшчэ хачу любавацца прыродай, — адказала Міла.

Неўзабаве машына звярнула з дарогі, і перад позіркам Мілы Іванаўны паўстаў невялікі гатэль з ганарлівай назвай «Лагуна Біч». Адразу ж уразіла зямля вакол яго: выпаленая і патрэсканая ад сонца, яна набыла белае адценне. Праўда, высаджаныя каля ўваходу ў гатэль густыя кусты руж трохі прыхарошвалі гэтую пустыню. І яшчэ Міла Іванаўна заўважыла, што каля ўезда на тэрыторыю, перад шлагбаумам, у цяні дамка аховы, разлегліся некалькі вялізных беспародных сабак — брудных і нячэсаных, паўз якіх спакойна хадзілі людзі: сабакі на іх не зважалі.

Яна перавяла позірк улева і ўбачыла, што там узвышаўся недабудаваны шасціпавярховы «саркафаг» з велізарным ярка-жоўтым плакатам, прымацаваным на адной са сцен. Плакат заклікаў купляць апартаменты толькі тут, як самыя лепшыя і самыя танныя на ўсім узбярэжжы.

Калі ж паглядзела направа, то ўбачыла невялікі гаёк, дзе над галінамі дрэў цудам трымаўся агромністы плакат з надпісам «Кемпінг». Якраз адтуль паказаўся конь, запрэжаны ў павозку, нагружаную розным смеццем. А на смецці напаўляжаў смуглы мужчына, відаць, цыган, у падранай майцы. Ён, не звяр-

таючы ўвагі на спёку, ажыўлена і весела нешта гаварыў па вялізным, старым мабільным тэлефоне. Сабакі, пачуўшы, што набліжаецца павозка, падбеглі да шлагбаума і, віляючы хвастамі, пачалі лянiва гаўкаць, чакаючы нейкага пачастунку.

Ад усяго ўбачанага Міле Іванаўне стала не па сабе, і калі б раней яна самаўпэўнена не казала стрыечнаму брату, што ёй тут будзе добра, то не раздумваючы ні хвіліны, кінулася б яму на шыю з крыкам: «Забяры мяне адсюль!» Хацелася неадкладна ўцякаць, уцякаць адсюль куды заўгодна, і ў Варну таксама… Але ж за ўсё заплачана наперад — нікуды не пабяжыш... Запатрабуеш, каб вярнулі грошы? Дык тут, канечне, будуць стаяць на смерць, каб толькі не вярнуць іх. Таму яна з роспачным выглядам падышла да рэгістрацыйнай стойкі, ледзь стрымліваючы сябе, павіталася на рускай мове.

Маладзенькая дзяўчына ветліва адказала таксама па-руску, пацікавілася:

— Вам вокны з відам на мора ці на процілеглы бок?

— На дарогу, — не змагла не пакпіць Міла Іванаўна.

Дзяўчына сумелася:

— Па дарозе не так часта праязджае транспарт, а вокны, якія выходзяць на мора, выходзяць і на басейн, дзе бывае шумнавата.

— Не, мне, калі ласка, на мора. Хачу любавацца захадамі сонца, — сказала Міла Іванаўна.

Крыху пазней Міла Іванаўна нарэшце супакоілася: нічога не зробіш, як ёсць, так ёсць... У холе гатэля было прахалодна і чыста, пахла кавай, а зручныя мяккія крэслы вакол столікаў з газетамі надавалі памяшканню ўтульны выгляд. Георгій, заўважыўшы, што сваячка сяк-так супакоілася, палічыў сваю місію выкананай, развітаўся і заспяшаўся да машыны, паабяцаўшы, як будзе час, наведаць Мілу Іванаўну...

Георгій, які скончыў Сафійскі ўніверсітэт (юрыспрудэнцыя ў іх родзе была ў пашане), праслужыў больш за дзесяць гадоў у народнай міліцыі тагачаснай Балгарыі, але, калі ў краіне змяніўся лад, усталяваліся рынкавыя законы, хуценька зарыентаваўся, сышоў працаваць у адно ахоўнае агенцтва. Новая эліта, з адкормленымі, ільснянымі тварамі і круглымі жыватамі, абвешаная масіўнымі залатымі ланцугамі і крыжамі, мела патрэбу ў спакоі і любіла сябе ахоўваць, між іншым, як і паўсюль, дзе памянялася ўлада...

Георгій паехаў, а Міла Іванаўна заспяшалася да мора, якое было амаль побач.

Калі яна падышла бліжэй да вады і адчула пах багавіння і свежасць ветрыку, у яе палагоднела на душы: можа, усё не так ужо і дрэнна, як ёй падалося спачатку?.. Але ўсё ж, хоць ля мора было свежа, адчувалася стома, даваў знаць пра сябе не такі ўжо і маленькі пералёт, тое велізарнае нервовае напружанне, якое яна адчула, пакуль самалёт быў у паветры, а бліжэй да вечара нават захацелася спаць.

Ля мора Міла Іванаўна была нядоўга, нават не пакупаўшыся, вярнулася ў гатэль, павячэрала, зайшла ў свой пакой, уладкавалася зручна на ложку і задрамала. І раптам спахапілася: у адчыненыя дзверы балкона ўварваўся нейкі рэзкі гук, ад якога не толькі зазвінелі шклянкі на начным століку, але, здаецца, і ложак скалануўся, на якім яна ляжала.

Міла Іванаўна ўскочыла, накінула на сябе халат, выбегла на балкон, і... на імгненне адхіснулася: уся пляцоўка перад басейнам была залітая яркім белым святлом, на ёй за накрытымі сталамі размясціліся салідныя мужчыны з юнымі дзяўчатамі, а ўздоўж басейна з крыкамі бегала дзятва, на якую, здаецца, ніхто не звяртаў увагі.

Міла Іванаўна таксама заўважыла, што крыху воддаль ад пляцоўкі, на памосце накшталт сцэны ўзвышаліся масіўныя чорныя калонкі апаратуры, каля іх крыўляўся бялявы мужчына ў пералівіста-чырвоным касцюме.

Мужчына нешта лямантаваў у мікрафон і, імкнучыся прыцягнуць да сябе ўвагу, ці то спрабаваў спяваць, ці то запрашаў гасцей прадэманстраваць свае вакальныя дадзеныя.

Міла Іванаўна рэзка зачыніла балконныя шкляныя дзверы, але бязладныя гукі не давалі ёй спакою да паўночы. А калі сціхлі, яна доўга не магла заснуць, прыснула, можа, на якія паўгадзіны, прачнулася ж стомленай.

Раніцай яна даведалася, што гэтыя «спевы» ёй давядзецца слухаць з пятніцы па нядзелю і яшчэ адзін раз на тыдзень, але, калі адбудзецца гэткая «радасная» падзея, адміністрацыя гатэля не ведала. Маўляў, усё залежыць ад натхнення творчай натуры выканаўцы Красена Пламенава і патрабаванняў гасцей, якія любяць наведваць гаспадара, калі ім толькі ўздумаецца.

Міла Іванаўна зразумела, што адпачынак яе будзе не такім ужо і простым. Але што зробіш… Раніцой яна ўставала ў пачатку сёмай і ішла да мора, нейкі час з асалодай плавала ў яго аксамітна-пяшчотных хвалях, затым «прымала» сонечныя ванны, ішла ў гатэль. Там, прыняўшы душ, спускалася ў рэстаран на сняданак (меню якога за ўсе чатырнаццаць дзён, колькі доўжыўся яе адпачынак, не мянялася).

Пасля сняданку яна зноў ішла на мора — купалася і загарала ажно да поўдня.

Гадзін да дванаццаці асноўная маса пастаяльцаў з «Лагуны Біч» перамяшчалася бліжэй да гатэля. Тлумачылася гэта тым, што ў гэты час ля берага з'яўлялася неймаверная колькасць медуз, якія ўтваралі ў вадзе слізкае суцэльнае месіва.

Палуднавала Міла Іванаўна ў гатэлі. Афіцыянты накрывалі столікі ля басейна, дзе госці маглі выпіць келіх з ахаладжальнымі напоямі, паабедаць і павячэраць.

У першыя дні Міла Іванаўна заказвала таксі і адпраўлялася на прагулку ў бліжэйшы гарадок.

Агледзеўшы ўсе знакавыя славутасці курортнага месца: напаўразбураныя сцены старадаўняй крэпасці і сувенірныя лавачкі, — вырашыла, што не варта дарэмна марнаваць сонечныя дні на наведванне гэтага горада.

Ад нуды яна нават пачала чытаць модных жаночых аўтараў, іхнія лёгкія «шэдэўры» ні пра што і ні пра каго, хоць дома не заўважала за сабой такой дзіўнай звычкі. Але ёй усё адно было самотна і сумна.

Часам Міла Іванаўна назірала за пастаяльцамі. У асноўным гэта былі сем'і і пары, маладыя і немаладыя. Хоць гатэль быў заяўлены як сямейны, але ён больш нагадваў прыёмнік для транзітных пасажыраў. Кожны дзень нехта ад'язджаў, нехта прыязджаў. З «доўгажыхароў», акрамя Мілы Іванаўны, тут пражывалі два маладыя шведы, якія пастаянна былі на моцным падпітку, пажылая сямейная пара з Польшчы і тры маладзенькія дзяўчыны з Германіі, а таксама маладая жанчына з мясцовых, з двума хлопчыкамі гадоў трохчатырох.

Неяк адзін з іх падышоў да Мілы Іванаўны і, гледзячы ў яе шэрыя, з густымі вейкамі вочы, торкнуў ёй пальцам у нагу, чамусьці закрычаў: «Оле, оле, оле, оле!» — і павольна накіраваўся да свайго брацiка, які знаходзіўся непадалёк.

Чаму ён так зрабіў, Міла Іванаўна не зразумела: можа, малы нечаму здзівіўся, не пакрыўдзілася на яго. Вельмі ж прыгожы быў хлопчык у сваёй бела-

снежнай кашулі і адпрасаваных шэрых штоніках з чырвонымі падцяжкамі на маленькім жывоціку.

Пазней яна амаль з замілаваннем назірала, як мама гэтых хлопчыкаў штохвілінна бегала то за адным, то за другім па пляжы ці па гатэлі, мабыць, баючыся, каб яны чаго не ўтварылі або не згубіліся. Бачыла, што малыя супакойваліся толькі ў прысутнасці бацькі, які наведваўся да іх у выхадныя дні. Бачыла, як дзеці, калі ён сядзеў у шэзлонгу, засыналі на яго вялікім жываце.

Рускамоўных курортнікаў было мала. У асноўным тыя грамадзяне, якія набылі ва ўласнасць апартаменты, што прылягалі да гатэля. Яны ні ад каго не залежалі і, мабыць, не мелі патрэбы ў чыёй-небудзь кампаніі: купаліся ў любы час сутак, ігнаруючы таблічкі, што папярэджвалі пра работу басейна да 19:00, смажылі на балконах шашлыкі і наладжвалі на пляжы танцы з крыкамі і феерверкамі.

Сярод іх асабліва вылучаўся малады мужчына з вялікім жыватом, тлусты, непрыемны на выгляд. Ён з разбегу ўсім цяжкім целам плюхаўся ў басейн, апырскваючы адпачывальнікаў на лежаках і афіцыянтаў, якія сноўдалі між столікаў.

— Бр-р-р — як добра! — выныраючы, голасна заяўляў ён усім пра сваю прысутнасць.

— Мікола, чаго ты так крычыш? — махала на яго жонка, разлягаючыся на прыступках басейна. Яе буйнагабарытнае, абвешанае залатымі ўпрыгожваннямі цела тлуста ільснілася.

— Заткніся, лепш за доняй глядзі. Бач, зноў зараза на сярэдзіну басейна паперлася, — асаджваў той жонку.

Міла Іванаўна любіла назіраць за людзьмі і ў думках маляваць на іх шаржы.

У першы ж дзень яна звярнула ўвагу на высокага мужчыну гадоў шасцідзесяці. Ён цэлымі днямі сядзеў у шэзлонгу ля басейна і ціхім уладным голасам аддаваў распараджэнні персаналу — слухалі яго з трапятаннем і павагай.

У мужчыны быў вялікі кручкаваты нос і міндалепадобныя лупатыя вочы. Яго нерухомы твар усмешка кранала толькі ў тых выпадках, калі позірк спыняўся на бялявым хлопчыку гадоў пяці, як зразумела Міла Іванаўна, унучку, з дзіўным імем Райн.

Жонка мужчыны, мажная жанчына з застылымі вачыма на некалі, як уяўляла Міла Іванаўна, прывабным твары, амаль нерухома сядзела крыху воддаль, склаўшы на жываце рукі. Ажыўлялася яна толькі тады, калі надыходзіў час абеду ці вячэры. Тады ўставала з плеценага крэсла і спяшалася на кухню, адкуль выносіла і ставіла на стол немудрагелістыя закускі: агуркі, памідоры, сыр.

Дачка іх, паважная і павольная дама гадоў трыццаці, нягледзячы на вялікае падабенства з бацькам, карысталася ўвагай у мужчын. Відаць, таму, што багатая, гэтым і прываблівала іх да сябе, адзначыла Міла Іванаўна.

А яе муж, старэючы плейбой, паводзіў сябе па-панібрацку з абслугай, стараючыся стварыць вобраз зычлівага гаваруна. За гэта ён часта лавіў на сабе строгі позірк свёкра і запытальны погляд жонкі. Тады ён на нейкі час хмурнеў, а потым, калі тыя пераставалі звяртаць на яго ўвагу, зноў браўся за сваё, хаця тут, у гатэлі, меў абавязкі. Першы — гуляў з сынам. Другі — вучыў пастаяльцаў правільна карыстацца аквалангам, апускаючыся пад ваду.

Заняткі праводзіліся ў абедзенны час. Самай дапытлівай і шматлікай аўдыторыяй, гатовай спасцігнуць таямніцы марскіх глыбінь, былі, як ні дзіўна,

маладзенькія дзяўчаты. Міла Іванаўна з задавальненнем назірала за тым, як праходзіць гэтае «мерапрыемства».

Дзяўчаты смяяліся, калі «плейбой», дэманструючы сваё яшчэ зухаватае цела, рабіў каля іх разнастайныя кульбіты ў вадзе. Пры кожным зручным выпадку ён стараўся пакласці руку на сцягно або на грудзі якой з вучаніц. Смех, крык, віск стаялі над гатэлем, пагружаным у дзённы сон, і Міла Іванаўна ўсё часцей успаміналa паслужлівых работніц турфірмы, у якую яна звярнулася, шукаючы месца, дзе б адпачыць летам. Тады тыя, каб прывабіць яе сюды, распісвалі ўсю прывабнасць яе будучага адпачынку — рай дый годзе...

Тураператары абяцалі цішыню, а замест яе — гучныя спевы пафарбаванага, у кудзерах, бландзіна не давалі заснуць да паўночы. Запэўнівалі, што ў гатэлі не будзе дзяцей, а аказалася, што тыя натоўпамі шнарылі каля басейна і блыталіся пад нагамі ў калідорах.

Асабліва дапякаў «бялявы анёл» Райн. У бацькоў ён быў адзіным дзіцем і, мабыць, доўгачаканым і вельмі жаданым, таму адчайна любімым і неймаверна распешчаным. Яму дазвалялася ўсё! З раніцы да вечара Райн насіўся па гатэлі з крыкамі, не зважаючы ні на кога. Часта ён узначальваў натоўп гэткіх жа няўрымслівых дзетак, якія таксама з бязладнымі крыкамі бегалі за ім. Мала таго, хлопчык з задавальненнем біў па нагах афіцыянтаў палкай, кідаў цацкі або смецце ў басейн, часта трапляючы ў тых, хто там знаходзіўся, і яго ніхто не спыняў, яму ўсё дазвалялася... А калі да іх заехаў дзіцячы фальклорны ансамбль і даваў канцэрт, Райн, прытанцоўваючы, пачаў бегаць паміж танцорамі, знарок балюча наступаючы тым на ногі.

Абслуговы персанал, гледзячы на гэта, паблажліва ўсміхаўся і паддобрываўся да маленькага барчука, частаваў яго садавінай, цукеркамі, насіў на руках…

Міла Іванаўна, назіраючы за ўсім, што робіцца ў гатэлі, прыйшла да высновы, што гаспадар і яго сям’я ўтрымліваюць «Лагуну Біч» выключна для свайго задавальнення: пастаянныя крыкі хлопчыка, яго паводзіны і ўсё іншае дзікунства, што панавала тут, былі неад’емным антуражам гатэля.

І раптам яна, думаючы пра гэта, злавіла сябе на думцы, што яе паступова пачынае па-свойму замілоўваць такая форма цынізму. Яшчэ б, гаспадар, як гэта прынята ў «цывілізаваным свеце», нават не збіраецца хаваць, што пастаяльцы для яго з’яўляюцца сродкам існавання і забавы, не больш. Яшчэ б! Гэта ён валодае кавалкам сушы ля берага цёплага мора... У цябе, турыста, які прыехаў сюды на адпачынак, што ёсць свайго?.. Ды нічога... Вечны шэры дождж. Так што, калі хочаш хоць на нейкі час святла і цяпла, тым больш на чужой зямлі, падпарадкоўвайся гаспадару і жыві па тым распарадку, які тут усталяваўся…

Аднойчы раніцай пасля тлумнай ночы — у гатэлі ўсё гуло, крычала, звінела — Міла Іванаўна раптам зразумела значэнне фразы «свет раздзялілі на да і пасля», толькі ў яе выпадку гэта гучала так: адпачынак «да» і «пасля».

У тую раніцу ў перадсвітальнай цішыні з боку басейна нечакана пачуўся прарэзлівы жаночы крык, які раптам аглушыў гатэль.

Міла Іванаўна падхапілася з ложка і выйшла на балкон, паглядзела ўніз.

Пад вокнамі сабралася шмат народу. Дзве маладзенькія дзяўчыны з рэгістратуры стаялі каля лаўкі, на якой сядзела маці Райна, і трымалі ў руках па шклянцы вады. Цікаўныя ўсё падыходзілі і падыходзілі. Раптам маці хлопчыка змоўкла — каля яе з’явіўся бацька. Ён нешта ціха сказаў цікаўным, і тыя адразу ж пачалі разыходзіцца.

Міле Іванаўне стала няёмка, быццам падглядвае ў замочную шчыліну. Яна вырашыла легчы ў ложак, заснуць, адмежавацца ад усяго гэтага, але сон не ішоў.

«Што за гатэль, — думала Міла Іванаўна, — то спяваюць, то гарлапаняць, ды ўсе свае сямейныя праблемы выносяць на людзі…»

Так і не самкнуўшы вачэй, яна праз нейкі час паднялася і накіравалася да мора. Наўздзіў, на пляжы, нягледзячы на ранні час, ужо было даволі людна — у асноўным пастаяльцы з «Лагуны Біч». Хто плаваў у моры, а хто ўжо сядзеў у кавярні (якая мела неафіцыйную назву «Тры печкуры»: тут падавалася адна страва — смажаная маленькая рыбка, падобная на нашу цюльку) і папіваў піва.

Кавярня была нейкай дзіўнай: ляжалі тоўстыя дошкі, на іх стаялі груба пазбіваныя сталы і лавы. І ўсё гэта было пад павеццю з грубай тканіны.

Міла Іванаўна нетаропка ўвайшла ў прахалодную ваду і паплыла. Плавала доўга, нібы старалася ачысціцца ад гатэльнага тлуму, а калі выйшла на бераг, то заўважыла, што на пляжы, здаецца, нечага не хапае… Агледзелася і зразумела чаго: вялікага чорнага сабакі, сумесь аўчаркі з невядома якой калматай пародай... Кожную раніцу гэты сабака прыходзіў на пляж, садзіўся на мокры пясок і, не варушачыся, глядзеў у марскую далеч.

Міле Іванаўне заўсёды, калі яна бачыла яго тут, здавалася, што сабака некага чакае… І чакае таго, хто абавязкова павінен з’явіцца з мора, чакае таго, хто, мабыць, аднойчы прывёў яго сюды...

Сабака сыходзіў толькі тады, калі пляж пачыналі запаўняць адпачывальнікі, бліжэй да поўдня.

Тады сабака не спяшаючыся ішоў да рэстарана, стаяў ля ўвахода, чакаючы, пакуль маладзенькая дзяўчына вынесе яму міску з вадой і міску з ежай. Тады ён, паглядзеўшы ёй у вочы, еў, хлябтаў ваду, а потым знікаў у бліжэйшых кустах і не выходзіў адтуль да наступнай раніцы.

«Што ж такога магло здарыцца, — падумала Міла Іванаўна, — дачакаўся, ці…»

Тым часам яе разважанні перапыніў знаёмы голас, які клікаў: «Міла Іванаўна, а, Міла Іванаўна!»

Кіра Валянцінаўна, пазнала яна, і павярнулася на голас.

І сапраўды, да яе ішла Кіра Валянцінаўна, жанчына прыкладна яе ўзросту.

Пазнаёміліся яны ў гатэлі, як толькі прыехалі. Здараецца, проста ад няма чаго рабіць знаёмяцца людзі на адпачынку. Так было і з імі. Звычайна, калі сустракаліся, больш гаварыла новая знаёмая Мілы Іванаўны. Кіра Валянцінаўна была настаўніцай, выкладала гісторыю, і, як ведала Міла Іванаўна, яе хвалявала пытанне маральнасці людзей, якія любяць нажывацца за чужы кошт…

Тады, як пазнаёміліся, размова пачалася спантанна, пра адпачынак. Кіра Валянцінаўна сказала, што ўсё жыццё марыла пра маленькі дачны домік дзенебудзь у Падмаскоўі і, пакуль яго не прыдбала, вырашыла адпачыць тут. Звярнулася ў тую ж турфірму, што і Міла Іванаўна, прывабілі сюды: танна, за мяжой, на беразе мора!..

— Добрай раніцы, — павіталася Міла Іванаўна.

— Добры дзень, — адгукнулася Кіра Валянцінаўна, — а я гляджу, вы свой распарадак не парушаеце, плаваеце кожную раніцу.

Міла Іванаўна паціснула плячыма.

— І правільна робіце, — працягвала Кіра Валянцінаўна. — Гэта я, эмацыянальная асоба, усё блізка да сэрца прымаю. Вы не паверыце, я нават сёння

з асцярогай абыходзіла басейн. Можаце прымаць мяне за вар'ятку, але мне здавалася, што вось-вось з яго выскачыць рука, схопіць мяне за нагу і пацягне ў ваду.

— А што адбылося? — пацікавілася Міла Іванаўна.

— А вы што, нічога не ведаеце?

— Ну, я чула страшныя крыкі дачкі нашага гаспадара...

— Прапаў Райн! — аб'явіла ледзь не з пафасам Кіра Валянцінаўна. — Навошта маленькаму дзіцяці ноччу ўцякаць з дому? Значыць, завабілі і забілі. Цяпер вычварэнцаў усюды хапае, дый далёка не трэба хадзіць, такіх асобін у нас у гатэлі яшчэ столькі... Паліцыі з сабакамі панаехала, ды і яшчэ з нейкімі жалезнымі штукамі ўсюды ходзяць да гэтага часу і ўсё правяраюць. Ваду з басейна спусцілі, дно даследуюць.

Кіра Валянцінаўна ішла размашыстым крокам. Ёй давалася гэта лёгка, яна была высокая і кашчавая, а маленькая Міла Іванаўна ледзь паспявала за ёй.

— А куды гэта мы так нясёмся? — не вытрымаўшы тэмпу, спынілася яна, ледзь пераводзячы дыханне.

— Ой, прабачце! Я знаходжуся ў такім нервовым напружанні. Мне як настаўніцы трагедыя, звязаная з дзецьмі, удвая страшнейшая, чым каму!..

— Можа, усё добра скончыцца, — вырашыла супакоіць знаёмую Міла Іванаўна, — хоць гадасці рабіць гэты хлапчук майстар.

Яны накіраваліся ў рэстаран і больш пра Райна не гаварылі. Пасля снеданку жанчыны развіталіся і разышліся па сваіх пакоях.

Міла Іванаўна выйшла на балкон, паглядзела ўніз. Там, на сваім месцы, нібы нічога не здарылася, сядзеў гаспадар «Лагуны Біч» і чытаў газету. Афіцыянты сноўдалі, накрываючы сталы белымі абрусамі, рабочыя раскрывалі парасоны над лежакамі. Вада з шумам напаўняла чашу басейна, і сонечныя блікі пераліваліся ў яе сініх бурбалках.

«Стварае ілюзію для адпачываючых, што нічога не адбылося», — падумала жанчына пра гаспадара і раптам пачула стук у дзверы.

— Заходзьце, — крыкнула яна.

Гэта была пакаёўка Люба. З першых дзён Люба спадабалася Міле Іванаўне ўсмешлівасцю і ненадакучлівай услужлівасцю. Да таго ж балгарка няблага ведала рускую мову. Часам яны размаўлялі пра ўсякія дробязі, часам Люба дапамагала Міле Іванаўне ўспамінаць балгарскую мову, якой некалі яе вучыў бацька і якую яна прызабыла. І заўсёды на Любіным твары блукала ўсмешка.

Але сёння твар пакаёўкі быў заплаканы і стомлены, а яе фігура быццам згорбілася і сціснулася за ноч.

— Дзень добры, вы дазволіце мне прыбраць у нумары? — спытала Люба.

— Што з вамі? Якая можа быць уборка? Пасядзіце, адпачніце.

— Дзякую вам, — Люба прысела на краёчак крэсла.

Міла Іванаўна прымасцілася побач.

— Любачка, я разумею, такое гора, але што зробіш? Яшчэ нічога не вядома, можа, Райн уцёк і хаваецца дзе-небудзь у зацішным кутку.

Сказала і падумала: «Ад гэтага хлопчыка можна чакаць чаго заўгодна».

— Можа, — уздыхнула Люба і заплакала. — Але я бядую не толькі з-за Райна.

Міла Іванаўна, былы следчы, насцярожылася:

— А што яшчэ?

— Гаспадара нашага клічуць Война Жэлеў, — нечакана пачала свой аповед пакаёўка, — больш хітрага чалавека свет не бачыў. А ў мяне быў брат Вязенка Дабрэеў, гэта я па мужу — Енкава, а так мы Дабрэевы. Наш гаспадар і мой

брат вельмі сябравалі. Нават свае вяселлі аб'ядналі і ў адзін дзень згулялі. У нас жа вяселле, ведаеце, якое? Кожны стараецца, каб у яго было лепш, чым у суседа або сябра: і па колькасці гасцей, і па літрах выпітага віна. На гэтае вяселле ажно з самой Сафіі важныя госці прыехалі, у асноўным з-за павагі да Вязенкі. Вельмі ж ён быў душэўны, усе яго любілі. У яго ў сябрах палову Балгарыі хадзіла. І ўсе яму паўтаралі, што ён знайшоў у гэтым хітруне («1—0 на маю карысць, — падумала Міла Іванаўна, — гаспадар — хітрун, ды яшчэ які, гэта я даўно вызначыла для сябе»).

Люба на хвіліну змоўкла, выцерла хусцінкай вочы, потым працягвала:

— Ну вось, жылі, сябравалі. І тут пачаўся ў нас будаўнічы бум. Вязенка куды трэба схадзіў, з кім трэба перагаварыў. Вылучылі яму ўчастак, але ён паклікаў у кампаньёны Война. Узялі яны крэдыт пад даручэнне брата і разгарнулі тут будаўніцтва. Спачатку пабудавалі «Лагуну Біч» з апартаментамі, затым і на другі корпус замахнуліся. Ужо ўнутраныя работы падыходзілі да канца, як здарылася бяда: Вязенка пайшоў у мора і не вярнуўся… Любіў ён плаваць на самым досвітку, каб вада была чыстая і людзей мала. Дык вось, пайшоў — і знік. Пазней на беразе знайшлі толькі яго рэчы, у тым месцы, дзе ён любіў плаваць.

Доўга нас следчыя дапытвалі, доўга шукалі, але дарэмна. Прайшоў год, стаў Война паўнаўладным гаспадаром усяго, што збудавалі з братам. У брата майго спадчыннікаў не было, жонка яго, Іва, гадоў дзесяць як памерла, а дзяцей яны не нажылі. Засталіся толькі я ды яшчэ пляменнік, сын нашай старэйшай сястры. Але мы хто?.. Ніхто. Хоць людзі нам зайздросцяць, бо з працай у нашых месцах цяжка, кажуць, які добры сябар: не пакінуў вас у бядзе. Мяне ўзяў пакаёўкай, а Красена — публіку забаўляць… Мяне Война бокам абыходзіць, а з Красена здзекуецца, абзывае лайдаком. Можа, яно і так, не стаў бы іншы дарослы мужчына падачкі чакаць, але Красен вырас распешчаным. Яго толькі дзяўчаткі ды віно цікавяць. А зараз могуць намякнуць Войну, што Красен, каб яму адпомсціць, узяў ды з ягоным унукам што дрэннае ўчыніў. Ды яшчэ згадаюць, як наша маці, калі афіцыйна аб'явілі, што Везенка мёртвы, крычала Войну на вуліцы, што не бачыць яму радасці… Ад крыўды крычала, але…

Прайшоў час, сябры Вязенкі сталі сябрамі Войны. Пра брата, мабыць, ніхто ўжо і не ўспамінае, апроч нас. Два гады ўжо прайшло з яго смерці… Адзіная істота засталася, якая яшчэ чакае, гэта Бой. Брат сабаку падабраў яшчэ шчанюком і выгадаваў. Той за ім як хвост хадзіў («2—0 на маю карысць, — зноў падумала Міла Іванаўна. — Бедны Бой прыходзіць кожную раніцу і глядзіць на мора, чакае гаспадара»). Месца гэтае — дзе піва прадаюць, мая дачка там працуе — Бязера, яна ж сабаку і падкормлівае.

— Я яе бачыла. Дзяўчына прыгожая, і імя ў яе дзіўнае.

Люба ўсміхнулася.

— Бязера — значыць жамчужына. Вязенка вельмі яе любіў і мне казаў, калі яна вырасце, знойдзе ёй добрага жаніха і дасць варты пасаг. Хто ж не захоча багатую прыгажуню замуж узяць? Прыгажосць засталася, а пасагу няма. Але гэта нічога, мая Бязера і так добрага хлопца знойдзе. Не тое што яго састарэлая Ніколіна («3—0, разумніца я», — падумала Міла Іванаўна) займела гэтага гульца Здраўку, які ўсіх жанчын без разбору любіць. Мне здаецца, Война майго брата і загубіў, — перайшла на шэпт Люба, — а таму і думаць будзе, што мы яму так адпомсцілі, нешта зрабіўшы з Райнам. Ды хто ж на дзіця руку падыме? Толькі нехрысць які! Калі хлопчыка не знойдуць, баюся, што Война сваімі падазрэннямі нас са свету зжыве.

— Люба, не кажыце глупства, выдумкі і здагадкі — гэта не доказы. А потым, прабачце за цынізм, але ў пэўных колах ёсць такая прымаўка: няма цела — няма справы. Ды і яшчэ, — Міла Іванаўна ўсміхнулася, — можа, вы і на самай справе параіце Красену знайсці якую-небудзь іншую працу? Голас у яго ўжо вельмі своеасаблівы.

— Ды куды там! Дзе ён яшчэ за нішто будзе грошы атрымліваць? — сказала Люба, не адчуўшы іроніі ў апошняй фразе. — Гультай нечуваны...

Калі Люба пайшла, Міла Іванаўна, былы следчы, вырашыла патэлефанаваць стрыечнаму брату...

Георгій ужо ведаў пра здарэнне ў гатэлі.

— Хутка да вас навіны даходзяць, — здзівілася Міла Іванаўна.

— Не забывай, што пан Жэлеў не просты чалавек, таму да вышуку хлопчыка прыцягнутыя ўсе сілы. А што ты хочаш даведацца? Вырашыла згадаць старое, уласным расследаваннем заняцца?

— Ды не, навошта? Проста цікава, — сказала Міла Іванаўна.

Георгій засмяяўся, мабыць, не паверыўшы ёй, затым сказаў:

— Ну, тады слухай. Пан Война Жэлеў — уладальнік усёй нерухомасці на тэрыторыі, дзе знаходзіцца твой гатэль. У сябрах у яго ходзяць не толькі добрапрыстойныя, але і па-свойму аўтарытэтныя людзі — крымінальнікі. Крэдытаў за ім не лічыцца, падаткі ён плаціць спраўна, так што відавочных ворагаў у яго няма.

— А што гэта за гісторыя адбылася з яго сябрам Вязенкам Дабрэевым?

— Афіцыйнае заключэнне — няшчасны выпадак. Прызналі, што мёртвы, праўда, цела не знайшлі, але мора ёсць мора.

— А ў Балгарыі кіднепінг не квітнее?

— Гэта немагчыма, Балгарыя — краіна невялікая, і таму мы тут усе ў нейкім сэнсе сваякі. Калі пачнеш капацца ў сваім радаводзе, абавязкова акажашся шваграм ці яшчэ кім нават суседу па пляцоўцы. А пра сёлы і казаць няма чаго: там усе як сваякі.

— А я не кажу пра балгараў, тут, ты ведаеш, побач знаходзіцца кемпінг, люд розны з усёй Еўропы панаехаў, а гатэль не ахоўваецца. Яго ад стаянкі машын аддзяляе маленькая рачулка ды горы будаўнічага смецця, прыходзяць усе, хто не лянуецца, так што ўсялякае можа быць...

— Міла, дарма ты з органаў сышла, ты ўжо столькі версій назвала, згодна з якімі мог знікнуць хлопчык, так што магла б дапамагчы следчым.

— Дзякую, абыдуцца і без мяне, — пакрыўджана адказала Міла Іванаўна.

— Ды ты не злуй. Не забівай сабе галаву, адпачывай, разбяруцца без цябе. Будзь упэўнена, пан Жэлеў усіх на вушы паставіў.

«Добра сказаць — не думай, — зазлавала пасля размовы Міла Іванаўна, — а калі ўсе ў гатэлі толькі і гавораць пра знікненне хлопчыка, што загадаеце рабіць? Я ж яшчэ не зусім счарсцвела, каб быць абыякавай да лёсу дзіцяці, хай і чужога».

Прайшло пару дзён, і каля басейна зноў сталі з'яўляцца людзі. Персаналу было загадана: пад страхам звальнення маўчаць пра здарэнне. У гатэлі запанавала мёртвая цішыня. Красен нічога не рабіў. Ён сядзеў каля басейна і з раніцы да вечара піў піва.

Курортнікі пачалі раз'язджацца, сабралася і Кіра Валянцінаўна. Міла Іванаўна праводзіла яе да аўтобуса. Яны развіталіся, абмяняліся нумарамі тэлефонаў, дамовіўшыся тэлефанаваць адна адной.

Міле Іванаўне надакучыла гнятлівая атмасфера гатэля, і раніцай наступнага дня яна паехала на экскурсію ў манастыр Аладжа, які даўно марыла наведаць...

— Манастыр Аладжа, — расказвала сімпатычная маладзенькая дзяўчына-гід, — быў заснаваны ў канцы чацвёртага — пачатку пятага стагоддзя. Пра гэта гавораць іконы, датаваныя згаданым перыядам. Звярніце ўвагу на малюнкі: простыя формы адлюстравання кажуць самі за сябе.

Міла Іванаўна падышла бліжэй і застыла: на фрэсцы быў намаляваны анёл з чорным тварам і ў чырвоным адзенні. Погляд яго вачэй быў такі люты, што яна адчула трывогу ад нянавісці, якая зыходзіла ад малюнка.

«Няўжо такія анёлы павінныя нас атачаць, берагчы ад памылак? Я са страху б памерла, калі б перада мной з'явілася такое... Мабыць, на працягу стагоддзяў паняцце веры змянілася, а можа, мы ўвесь час нешта не так разумееем у ёй, у веры?..»

— Усе памяшканні і келлі, у якіх сяліліся пустэльнікі, былі высечаныя ў белым пясчаніку на вышыні 300—400 метраў ад зямлі, — адцягнуў яе ад філасофскіх разваг голас дзяўчыны. — Цяпер мы падымаемся па лесвіцы, а ў даўнія часы ўзыходжанне ажыццяўлялася выключна на вяроўках. Заўсёды заставаўся дзяжурны, які падтрымліваў вогнішча. Хоць манастыр знаходзіўся ў непраходным лесе і прымаліся ўсе меры засцярогі ад нападу ворагаў, ён апусцеў у XIV стагоддзі, калі балгараў заваявала Асманская імперыя. Ці то ўсіх манахаў забілі, ці то яны разбегліся з-за забароны хрысціянскай веры, але манастыр спыніў сваё існаванне. Да гэтага часу навукоўцы так і не ўстанавілі дакладную прычыну.

Наш народ памятае і шануе святыя месцы. Бачыце, колькі тут запісачак, уторкнутых у адтуліны ў сцяне? — спытала экскурсавод. — Гэта таму, што людзі прыходзяць сюды і просяць у Бога, хто абароны, хто заступніцтва. І вы можаце звярнуцца да яго з просьбай.

Міла Іванаўна не ведала, што прасіць, хіба што ў думках, каб хутчэй знайшоўся Райн, таму адышла ад экскурсантаў і стала любавацца морам, якое ў белым марыве пералівалася жамчужным святлом. І яшчэ ў яе з'явілася адчуванне, што яна пагружаная ў звонкую цішыню, напоўненую пахам іглiцы, кветак і траў. Гэта было дзіўна! Нічога падобнага яна не адчувала, калі іх група падыходзіла да сучаснай брамы акультуранага комплексу, дзе чуліся і спевы птушак, і пошчак цыкад.

«Што мог Бог паабяцаць у гэтым таямнічым і святым месцы?..»

Экскурсія скончылася. Хто пайшоў купляць сувеніры, хто фатаграфавацца.

А Міла Іванаўна ў чаканні прысела на лаўку і адчула, як стамілася ад сённяшніх уражанняў, а можа, ад адпачынку ў гатэлі «Лагуна Біч», што адразу не спадабаўся. Сядзела і думала: што ж з хлопчыкам, дзе ён... У тым, што ён жывы, не сумнявалася. Але дзе?..

Калі познім вечарам яна вярталася ў гатэль, яшчэ з акна аўтобуса ўсе заўважылі, як неба над ім перакрэсліваецца і расквечваецца аглушальным феерверкам. Экскурсанты пачалі выказваць здагадкі, з-за чаго гэта.

Але Міла Іванаўна, убачыўшы феерверк, ведала: хлопчык знайшоўся...

Не паспела яна ўвайсці ў хол гатэля, як туды ўляцеў, размахваючы падпаленым неонавым мячом, жывы і здаровы, нібы нічога не здарылася, Райн. За ім беглі хлапчукі з такімі ж застрашальнымі палкамі ў руках.

Патлумачыла сітуацыю радасная і па-святочнаму апранутая Люба, якая накіроўвалася праз хол да рэстарана, трымаючы ў руках кошык з вінаградам.

— Радасць такая, Міла Іванаўна, хлопчык наш вярнуўся! Што вытварыў, гарэза!.. Памятаеце, у нас два турысты са Швецыі адпачывалі, якія вельмі піва любілі?

«Як жа не памятаць!» — Міла Іванаўна кіўнула галавой.

— Дык вось, яны напярэдадні ад’езду прапанавалі Райну паехаць з імі, пагасцяваць у Швецыі, так, дзеля жарту, а хлопчык успрыняў запрашэнне ўсур’ёз. А тут яшчэ яго дзед пакрыўдзіў, не паспеў яму купіць меч, які свеціцца. Ну Райн і залез у машыну і схаваўся пад пледам на заднім сядзенні. Калі шведы яго выявілі, то ўжо далёка ад’ехалі. Спачатку яны спалохаліся, але Райн ім сказаў, што яго адпусцілі падарожнічаць. Хлопцы не паверылі, ну а потым вырашылі, што будзе, як цяпер моладзь кажа, «прыкольна» з хлапчуком пакатацца. У першым жа вялікім горадзе іх паліцыя і затрымала. Гаспадар на іх не злуе, запрасіў нават кожны год адпачываць тут бясплатна. Я так рада, што хлопчык жывы і здаровы! У мяне адразу лёгка на душы стала, і Красен ажыў. Чуеце, як спявае? Хадзем са мной, гаспадар сёння ўсіх частуе за свой кошт і півам, і віном.

— Не, Люба, дзякуй. Я стамілася, пайду да сябе, — падзякавала Міла Іванаўна пакаёўцы, але не стрымалася і спытала: — А што з Боем?

— Не ведаем, — Люба паціснула плячыма, — можа, здох, стары быў. Ды вы не хвалюйцеся, сабака — гэта не чалавек. Усяго вам добрага, а я пабегла...

На наступны дзень Міла Іванаўна з заміраючым сэрцам сядзела ў крэсле самалёта, думала, як добра, што гарэза Райн знайшоўся да яе адлёту, а то хвалявалася б, не ведаючы, што з ім. І яшчэ ўспаміналa, як, калі ляцела сюды, прыгразіла хлапчуку, што стукаў нагамі ў спінку яе крэсла, выкінуць з самалёта, і на сэрцы яе нешта шчымліва здрыганулася. Але раней яна не любіла дзяцей і яны раздражнялі яе...

Думкі Мілы Іванаўны перапыніў мужчына ў шортах і з голым торсам, які быў на добрым падпітку, але настойліва паўтараў перад тым як прыкласціся да рыльца пачатай бутэлькі з каньяком:

— Мадам, можа, глынеце? Весялей ляцець будзе!



**Фрыдрых ШЫЛЕР**

# ПРЫПАВЕСЦІ ДЫ ЗАГАДКІ

**1**

Узняўся вокамгненна ў моры
Жамчужны каляровы мост;
Вышэйшы за любыя горы
Ягоны велізарны рост.

Пад аркай моста праплывалі
На крылах ветру караблі,
Але ніколі не бывалі
Наверсе жыхары Зямлі.

Ідзеш бліжэй — ён уцякае,
Хоць нібы ўкопаны стаіць.
Дык што за мост? Хто адгадае?
Дзе ён? Хто змог яго зрабіць?

**2**

Вядзе цябе за мноства міляў,
Ды не кранецца ні на крок.
Не мае для палёту крылаў,
Ды праз паветра робіць скок.
Хутчэйшае за ўсе паромы,
Што перавозяць мінакоў,
І па паветры, і па моры
Яно нясе цябе ізноў
Па волі думак-перуноў!

**3**

Вандруе па вялікай пашы
Сярэбраная чарада.
Нядоўгія часіны нашы,
Яе ж адвечная хада.

У ёй ніхто не памірае.
Яна ваду з крыніцы п’е.
Крынічная вада жывая
Ёй вечнае жыццё дае.

У рог сярэбраны ёй грае,
Да брамы гоніць залатой
Пастух і зноўку правярае,
Ці ўвесь на пашы статак той.

Пёс верны — вартаўнік у статку.
Наперадзе Авен ідзе.
Дык хто адкажа на загадку
Аб пастуху ды чарадзе?

**4**

Вялікі ды прасторны дом
Стаў на слупах нябачных.
Хто ў доме тым гаспадаром?
Яго ніхто не бачыў.
Ніхто той дом не пакідаў
І ўнутр не заходзіў.
Ды той, хто дом пабудаваў,
Умелец быў, дый годзе.
Дом, запаліўшы лямпу сам,
Заліўся скрозь праменнем.
Дах крышталёва-чысты там
З каштоўнага камення.
Вялікі ды прасторны дом.
Хто ў доме тым гаспадаром?
Яго ніхто навокал
Не ўгледзеў пільным вокам.

**5**

Глядзі, у студні два вядры
Не ведаюць спакою.
Як толькі поўнае ўгары,
Імкнецца ўніз пустое.
Яны мяняюцца заўжды.
Ніхто не спыніць іх хады.
Звіс да зямлі вялізны рот
І п’е ваду з іх без турбот.
Але нікому не пашчасціць
Пабачыць вёдры адначасна.

**6**

Ці ты не ведаеш карціны
На мяккім і пяшчотным тле,

Якая кожнае гадзіны
У новым паўстае святле?
Яе на палатне вузенькім
Змяшчае рамачка ў сабе.
Ёсць на карціне той маленькай
Усё патрэбнае табе.

Ці мне крышталь не назавеш ты,
Які ніколі не палаў?
За ўсё каменне даражэйшы,
Увесь сусвет ён увабраў.
Адбілася самое неба
Ў дзівосным кольцы крышталя,
Што прыгажэйшым сам яшчэ быў
Заўжды за ўсё, што ён прыняў.

**7**

Збудаванне ад сівых вякоў паўстала.
Не царква яно, ды і не дом.
Каб яго аб'ехаць, не хапала
На кані нікому й сотні дзён.

Па-над ім лятуць стагоддзі шпарка.
Не баіцца яно часу й бур.
Вольнае стаіць пад неба аркай,
Мокне ў моры й цягнецца да зор.

Ды яго паставіла не пыха
Бараніць і засланяць ад ліха.
Небывалым дзівам на Зямлі
Яго рукі чалавечыя ўзнялі.

**8**

Між змей Зямлі яна адная
Народжана не тут,
Ніхто не параўнае
З астатнімі той цуд.

Яна са спрытам небывалым
Нясецца ўніз з агнём,
Знішчае з дзікім шалам
На'т вершніка з канём.

Высокія вяршыні любіць
Яна абвіць клубком.
Яе змаганне вабіць
З бранёю ды замком.

Нібы саломінкі, ламала
Вялізныя дубы

І на муку малола
Яна пласты руды.

Ды двойчы гэтая пачвара
Не можа нападаць.
Як мёртвая ахвяра —
Час ёй самой сканаць.

**9**

Шэсць дзетак мы ў адной сямейкі.
У нас — цудоўныя бацькі.
Заўжды ў матулі — твар хмурненькі,
А бацька — радасны такі.

Ад іх у спадчыну ўзялі мы
Матулі мяккасць, бацькі бляск;
І танец вечны завялі мы,
Бо не ўладар над намі час.

Мы без ваганняў пазбягаем
Мясцін, дзе лёг пануры цень;
Чароўным бляскам мы натхняем
Свет навакольны ў ясны дзень.

Перад вясной заўжды вядзём мы
Вясёлы й жвавы карагод;
Цураемся мы мёртвых дому —
Навокал нас жыцця палёт.

Без нас не хоча быць шчаслівы,
Мы там, дзе радуецца ўсё.
І імператар сам пачцівы
Да нас, бо бляск яму нясём.

**10**

Яго не кожны паважае.
Ды наймагутнейшы ўладар
Сваю руку ім аздабляе;
Ён рэжа, нібы меч, абшар.

Не праліваў крыві ён, хоць і раніў,
Не рабаваў, ды ўзбагачаў;
Свет перамог, ды не тыраніў,
Жыццё раўняў ён і змякчаў.

Ён шмат імперыяў засноўваў,
Заклаў старыя гарады;
Ніколі не распальваў войнаў
І дабрабыт любіў заўжды!

**11**

У камяніцы я жыву,
Ціхутка ляжу тут і сплю я;
Заўважаны, я прэч бягу,
З жалезнаю зброяй ваюю.
Малы ды кволы я спярша,
Нават подых мяне забівае
І губіць дробная імжа;
Але я спакваля вырастаю,
Як дапамагаць ляціць сястра,
У Зямлі ліхога ўладара.

**12**

Кручуся я заўжды па коле,
Хаджу нястомна ўжо вякі.
Апісваю малое поле,
Яго прыкрыюць дзве рукі.
Прайду шмат тысячаў я міляў,
Пакуль вакол яго кручуся,
Дый адлячу, нібы на крылах,
Хутчэйшы за стралу памчуся.

**13**

Ён — птах, што ў хуткасці палёту
Спаборнічае на’т з арлом;
Ён — рыба, што сячэ з налёту
На часткі хвалі, як лязом;
Ён — слон, насільшчык веж цудоўны,
На спіне моцнай іх нясе;
Павук, да чарвякоў падобны,
Калі ён рух свой распачне;
Кусае моцна ён і ўдала
Жалезным востранькім зубком
І на нагах стаіць трывала,
Нягледзячы на дождж і гром.

## Тлумачэнні да «Прыпавесцей ды загадак»

Нагодаю для напісання гэтых вершаў была пастаноўка 30 студзеня 1802 г. у Веймары ў вольным перакладзе Шылера драмы Карла Гоцы «Турандот», у якой герой павінен разгадаць тры загадкі. Для таго, каб зрабіць сюрпрыз для гледачоў пры яе новай пастаноўцы, у наступныя гады да складзеных яшчэ ў 1801 г. дадалі астатнія вершаваныя загадкі, якія потым былі ўстаўленыя замест ранейшых. Зразумела, што праз гэта таксама змяніўся тэкст дадзеных прынцам Калафам разгадак. Некаторыя з іх былі знойдзеныя ў архіве паэта і атрыманыя такім чынам.

**Першая** загадка азначае вясёлку ды пеннае мора пад вясёлкай.

**Другая** (як і шостая) — вока. Фантазіяй, як тлумачаць некаторыя, яна не можа быць дзеля другога радка.

**Трэцяя** — найболей вытанчаная алегорыя, у якой зорнае неба з'яўляецца ў выглядзе чарады. Прыгожы сярэбраны рог — серп месяца, залатая брама — вячэрняя зара, а Пёс і Авен — вядомыя сузор'і.

**Чацвёртая** азначае небасхіл, асвечаны сонцам.

**Пятая,** якой дадзеныя вельмі розныя тлумачэнні, верагодна, азначае дзень і ноч.

**Шостая,** адна з найпрыгажэйшых, азначае вока з адлюстраваннем, узніклым на сятчатцы ці, магчыма, на рагавіцы.

**Сёмая** — Вялікі Кітайскі мур, што пачаў будавацца па загадзе імператара Цынь Шы-хуандзі ў 221 г. да н. э. для абароны ад паўночных вандроўных плямёнаў.

**Восьмая** азначае маланку.

**Дзявятая** доўгі час заставалася неразгаданай, пакуль на запыт да сваякоў Шылера не былі атрыманыя ад іх пакінутыя ім у спадчыну паперы, што пад маці маецца на ўвазе ноч, пад бацькам — святло і пад дзецьмі — колеры. Сем колераў дапускае, як вядома, тэорыя Ньютана; Шылер, які раней таксама ўхваляў гэтую тэорыю, пазней усё ж схіляўся да гётэўскага вучэння аб колерах, паводле якога павінны існаваць толькі тры асноўныя колеры: чырвоны, жоўты ды сіні — і тры змяшаныя колеры: аранжавы, зялёны ды фіялетавы. Пад простымі колерамі маюцца на ўвазе цяпер тыя, што не могуць раскладацца далей праз прызму, і гэта — сем колераў вясёлкі.

**Дзясятая** азначае плуг, што мае асаблівае дачыненне да кітайскага імператара, які ў першы дзень Новага Года сам араў кавалак зямлі, і рэлігійныя цырымоніі, у якіх імператара падтрымлівалі міністры, што ўсё ж працавалі не як ён, пад балдахінам, а пад адкрытым небам. Далейшы змест гэтай загадкі знаходзіць тлумачэнне ў элеўсінскіх містэрыях.

**Адзінаццатая** — агонь у печы, які з дапамогаю сястры — паветранай цягі, ператвараецца з маленькай іскаркі ў велізарнае полымя.

**Дванаццатая** азначае час, які паказвае стрэлка-цень сонечнага гадзінніка.

**Трынаццатая** — карабель. Ветразь, востры нос, моцныя мачты, стырно ды якар далі паэту нагоду для створаных параўнанняў.

Хто мае схільнасць неабгрунтавана наракаць на некаторыя дэталі ў гэтых загадках, мусіць улічыць, што паэт уклаў іх у вусны кітайскай прынцэсы, ад якой нельга патрабаваць грунтоўнага ведання астраноміі ды фізікі. Гётэ казаў пра гэтыя загадкі: «Іх тэмы ўтрымліваюць прыгожыя памылкі ды цудоўныя думкі, чым можна заснаваць амаль што новы паэтычны жанр». І яны, вядома, адрозніваюцца ад звычайных загадак, чые тэмы часцей за ўсё невялікія і нязначныя, тым, што маюць справу з агульнавядомаю значнаю тэмай, якая дапускае багата ўзаемасувязяў. Для Шылера ў гэтым жанры паэзіі было не важна заблытаць слухача таямнічай формай выкладу; бо разгадка, што часцей за ўсё сама выдае сакрэт, для яго не галоўнае. Затое ён працуе, каб выкласці свае тэмы ва ўлюбёных вобразах, што прыемна займаюць уяўленне, так што мы прысвячаем паэту пасля чарговай разгадкі свае роздумы разам са шчырым захапленнем. Светапогляд паэта знайшоў сваё яскравае адлюстраванне ў «Прыпавесцях ды загадках».

***Пераклад з нямецкай і тлумачэнні Андрэя КАСЦЮКЕВІЧА.***

# ДАРОГА ДА НОВАГА ЗНАЁМСТВА

*Бягуль Анабаева — зусім невядомае імя для беларускага чытача. Туркменская пісьменніца, якая працуе ў часопісе «Каракум» адказным сакратаром, як празаік уважліва даследуе характар, норавы свайго народа. І тэматычна, і стылістычна яе проза вызначаецца новымі адметнасцямі, адметнасцямі сённяшняга часу. Але ўгадваюцца і традыцыі. Угадваецца той мастацкі вопыт, які быў засвоены Берды Кербабаевым, Ата Каушутавым, Нурмурадам Сарыханавым, Хаджанепесам Меляевым, Ташлі Курбанавым, Бердыназарам Худайназаравым, Хыдырам Дзер'яевым, Чары Ашыравым, Клыч Куліевым... Шмат хто з гэтых пісьменнікаў знаёмы ў Беларусі па публікацыях на беларускай мове. Быў час, калі ў нас вельмі актыўна перакладалі як і ўсе літаратуры народаў сённяшняй постсавецкай прасторы, так і туркменскіх пісьменнікаў у прыватнасці.*

*У памяці — кнігі Берды Кебабаева, Каюма Тангрыкуліева, Ана Кавусава, Курбана Чаліева, Агагельды Аланазарава (у Мінску выйшлі тры яго кнігі!), Нуры Байрамава, калектыўныя зборнікі прозы і паэзіі, кнігі туркменскіх народных казак... Былі выразныя спробы перакладаць нават і з мовы арыгінала. Гэтым засведчыла сябе паэтэса Любоў Філімонава, якая неаднойчы бывала ў Туркменістане. А хто толькі з беларусаў, уражаны прыгажосцю, загадкавасцю пустыні, Каракумаў, не пісаў пра Туркменістан!.. Згадаю хаця б некаторыя імёны — Барыс Мікуліч, Аркадзь Марціновіч, Максім Танк, Алег Лойка, Павел Марціновіч, Браніслаў Спрынчан, Генадзь Пашкоў, Рыгор Барадулін, Міхась Карпенка, Васіль Ткачоў...*

*У апошнія гады, ужо пасля развалу Савецкага Саюза, шмат хто з беларускіх пісьменнікаў і перакладчыкаў наведаў Ашхабад. Гэта — і Алесь Бадак, Генадзь Пашкоў, Алена Масла, Ігар Лапцёнак, Казімір Камейша, Ганад Чарказян... Канечне ж, Туркменістан так ці іначай адклаўся ў іх свядомасці. Напрыклад, у Алеся Бадака — апавяданнем «Ідэальны чытач».*

*Вось і туркменская пісьменніца Бягуль Анабаева не чужы для Беларусі чалавек. Яна была госцем адной з мінскіх кніжных выстаў. Удзельнічала ў мінскім міжнародным сімпозіуме літаратараў «Пісьменнік і час» у лютым 2015 года. Дарэчы, выступала на ім. Была госцем Выдавецкага дома «Звязда». А цяпер, дзякуючы Бягуль Анабаевай, рыхтуецца «беларускі выпуск» часопіса «Каракум».*

*Прадстаўляючы апавяданне спадарыні Бягуль у перакладзе актыўнага прапагандыста постсавецкіх літаратур у Беларусі Ірыны Качатковай, хацелася б выказаць надзею, што гэтая публікацыя стане добрым пачаткам вяртання туркменскай літаратуры ў Беларусь, да беларускага чытача. Інтэрнэт-прастора дазваляе сачыць за тым, што нацыянальная літаратура ў Туркменістане цяпер развіваецца досыць цікава. Працягваюць плённа працаваць пісьменнікі старэйшага пакалення — Атаджан Таган, Агагельды Аланазараў, Набаткулі Рэджэпаў, Камек Куліеў, Какабай Курбанумрадаў, Касым Нурбадаў, Газель Шакуліева... З'яўляюцца творы і зусім маладых аўтараў. Адным словам, да новых сустрэч з туркменскай літаратурай у беларускай мастацкай прасторы!..*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

Бягуль АНАБАЕВА

# ПОРЦЫЯ ДЛЯ ГАСЦЕЙ[1]

*Апавяданне*

Яна была худзенькая, невысокага росту, да таго ж надта жвавая. Яе непрыгожыя зубы прыкрываў яшмак[2], што ўвесь час матляўся ў паветры. Калі б не ўсё гэта, яна была б вельмі падобная да дзяўчынкі з коскамі. Завіхалася-круцілася ў сваім двары, быццам пераапранутая лялька, — захутаная ў яшмак маленькая жанчына. Але яе называлі крыху па-іншаму. Для жыхароў сяла Дурун яна была маленькай дайзой — гэта значыць цётухнай. Праз маленькі рост голас яе, калі яна размаўляла з людзьмі, здаваўся сіпатым, рэзка гучаў сярод іншых галасоў, ніколі не змешваючыся з імі. Да таго ж яна надта хацела мець дзяцей, ёй немагчыма было растлумачыць, што рост і здароўе не дазваляюць ёй зрабіцца маці. Часам яна гаварыла:

— Я нарадзілася хваравітай, а пасля як след і не паздаравела. Бацька маліў Бога, каб я не памерла, таму мяне і назвалі Алмэз, што значыць — не памрэ.

Але яе так ніхто не зваў. Яна Солтан — султанша! Валадарка сэрцаў і свайго дома. «Мне давалі піць тлушч цюленя», — час ад часу прыгадвала яна, і людзі цішком пасміхаліся, слухаючы гэта. А яна не супакоіцца: «Я многа глытала курынай жоўці. Вой, колькі было з'едзена мяса забароненай жывёлы — мне казалі, што гэта лекі. Хай даруе нам Бог!» Гаварыла яна гэта ўсё з сумам, імкнучыся падзяліцца набалелым.

Яна з усяе сілы намагалася быць падобнай да ўсіх астатніх, але жыццё яе не мянялася. Вось ужо колькі гадоў яна замужам за высокім, як гара, падобным да велікана Кічы агой. Калі ён ішоў на працу, яна заставалася адна. Уласна кажучы, усё жыццё яна была адзінокая. Ён сыходзіў у пяскі, і ёй рабілася вельмі сумна. Тады яна, нікога не саромеючыся, магла спяваць песню: «Мой каханы не з'явіўся, не прыйшоў!» Акрамя таго, жыхары сяла Дурун кпілі з таго, што саракагадовая кабета незадаволена тым фактам, што муж яе спіць адзін. Часам Солтан і сама смяялася разам з імі. Але варта было Кічы агу вярнуцца дамоў, як яна не магла стрываць і кідалася да яго са слязьмі на вачах.

Мая бабуля казала мне, што Солтан не мела блізкіх сваякоў — ніводнай роднай душы — і не было каму выслухоўваць яе нараканні на жыццё. Таму кожны імкнуўся хоць неяк супакоіць яе.

— Я яго так даглядаю! А ён толькі злуецца і ад злосці кажа прыкрае і нядобрае! — яна не магла супакоіцца, крыўда на Кічы агу не пакідала яе. У слязах хадзіла па дамах суседзяў, каб паплакаць, здаралася, там і засынала. Але заставалася там толькі да вечара, бо Кічы ага прыходзіў па яе са словамі: «Тут наша згуба?» Яго голас яна магла пачуць першая — раней за гаспадароў.

— Я пайду! Відаць, пра мяне пытае! — казала яна і ішла следам за мужам, не звяртаючы аніякай увагі на гаспадароў дома, якія весела пасміхаліся.

Яшчэ доўга на дарозе чуліся іх галасы. І так — нібы ўпершыню — паўтаралася шмат разоў.

Солтан шмат для каго была быццам маці. Але шмат для каго была і цёткай. Людзі часцяком яе і за нявестку прымалі. Але для Солтан гэта не мела значэння: яна для кожнага магла стаць блізкім і родным чалавекам. Калі ў каго ў доме ладзілася нейкая ўрачыстасць ці было свята, яна першая пра гэта

---

[1] Згодна з туркменскім звычаем, калі гатуюць стравы, заўсёды бяруць больш, чым патрэбна, прадуктаў, разлічваючы на візіт гасцей. Лічыцца, што ў такім выпадку яны абавязкова прыйдуць.

[2] Хустка мусульманскай жанчыны, якая прыкрывае ніжнюю частку твару, вусны.

дазнавалася. Дзеці лічылі яе сваёй «кітжык эджэ»[1]. Яны сустракалі яе словамі: «Вось ідзе кітжык эджэ, наша маленькая матулька».

Калі Солтан была ў добрым настроі, яна абдымала дзяцей і моцна прыціскала іх да сябе. Калі ж яна была не ў гуморы, слова «маленькая» злавала яе, і тады яна сварылася на дзяцей. Калі ж злосць зусім апаноўвала яе сэрца, яна, як неразумнае дзіця, пачынала з імі спрэчкі. Тады дзятва з нашай вуліцы, праходзячы паўз яе дом, спецыяльна, каб яшчэ больш раззлаваць яе, гучна крычала: «Кітжык эджэ!» Яны чакалі, што яна кінецца ў пагоню. Але здаралася, што яна і на гэта не звяртала ўвагі. І так паўтаралася дзень пры дні — ніхто не мог праслізнуць незаўважаным. Яна хоць і здавалася знешне капрызуляй, але дагэтуль ніхто не бачыў, каб яна адна харчавалася. У штодзённае яе існаванне заўсёды дадавалася «порцыя для гасцей». Нават калі ўсе жыхары селішча былі ў полі — займаліся земляробчымі работамі, — заўсёды знаходзіўся хтосьці, каго яна магла пачаставаць і хто разам з ёю мог сесці за стол. У рэшце рэшт, яна магла паклікаць у госці хлапчукоў, якія праходзілі па вуліцы міма яе дома. Кожны, хто хоць аднойчы пакаштаваў прыгатаваныя ёю салату ці іншыя стравы, пасля не меў сілы ад іх адмовіцца. Кітжык эджэ надта ж клапацілася пра сваіх гасцей. Хто б ні прыходзіў да яе — малады ці стары, быў задаволены яе гасціннасцю. Нават сусед яе Курбан не браў у рот ежы, згатаванай жонкай, пакуль Солтан не прыносіла свае прысмакі. Здаралася, кітжык эджэ затрымлівалася на якім-небудзь тое[2]. Тады Курбан пытаў у сваёй жонкі: «А што, сёння не будзе яе пачастункаў?» Яго жонка Сачлі ўжо даўно прызвычаілася да гэтага і ціха чакала, пакуль яе муж, добра згаладнеўшы, не папросіць прынесці яму ежы.

У гарачыя летнія дні з кожнага дома выносілі сушыць шэрсць, каб пасля зрабіць з яе кашму[3]. Кітжык эджэ не адставала ад усіх іншых. Яна імкнулася на сваёй кашме зрабіць незвычайныя малюнкі-ўзоры, якіх ні ў каго больш не было. Некаторыя гаспадыні, незадаволеныя сваімі кветкамі на кашме, пачыналі ўсё хуценька перарабляць. Пазней кашмы ўтваралі невялікі грудок у глыбіні пакоя. Кітжык эджэ заўсёды засцілала для гасцей самую прыгожую кашму. Жонка ж яе суседа Курбана Сачлі, наадварот, засцілала для гасцей кашму, якая была прасцей. Некаторым гасцям было нязручна сядзець на кашме, таму зверху Солтан клала невялікі матрац, зроблены з рэшткаў тканіны. Яна лёгка ўваходзіла ў кантакт з госцем, знаходзіла з ім агульную мову, адчувала кожнае яго жаданне.

Насупраць селішча Дурун знаходзілася крэпасць Цяк гала[4], а зусім побач была вадзяная лякарня Йылы сув[5]. Туды на адпачынак на працягу ўсяго года прыязджалі людзі з розных мясцін, але жыхары селішча і не думалі пра тое, каб пабудаваць для іх гатэль — штодзень да іх дабрабыту дадавалася і порцыя для гасцей.

Што б ні варыла кітжык эджэ, усё ў яе атрымлівалася вельмі смачным. Яна ўвесь час расказвала, чаго і колькі трэба пакласці. І гэта заўсёды ўспрымалася як належнае, і тыя размовы заўсёды былі да месца. І завяршаліся яны звычайна тым, што кожны з прысутных гаварыў, колькі ён дадаў порцыі для гасцей для прыгатавання ежы. У кітжык эджэ былі свае меркі. Яна гатавала плоў і гаварыла:

— Я паклала для госця дадатковую жменю рысу.

---

[1] Маленькая маці (*туркм*).

[2] Вялікае шматлюднае свята.

[3] Лямцавы дыванок з авечай ці вярблюджай поўсці.

[4] Сонца *(туркм)*. Згодна з паданнямі, сонца з’яўлялася татэмам для туркменаў у старажытнасці, таму свой адміністрацыйны цэнтр яны назвалі Цяк гала.

[5] Цёплыя крыніцы, якія б’юць ля падножжа Капетдага.

Курбанава жонка Сачлі як магла намагалася дагадзіць мужу і смачна прыгатаваць для яго ежу, але ў яе нічога не атрымлівалася.

— А я дадала вялікую жменю, але, колькі б ні дадавала, так смачна, як у вас, у мяне не атрымліваецца! — з крыўдай гаварыла яна і заўсёды ўспамінала незадаволены твар свайго мужа.

Калі ж трэба было прыгатаваць стравы са свежага мяса, Курбан заўсёды прасіў Солтан, каб тая дапамагла Сачлі.

У такія дні кітжык эджэ, стоячы на двары, камандавала жонкай і дзецьмі Курбана, загадваючы, каму, што, адкуль прынесці і што зрабіць. Загадвала ласкава: «Вярблюдзяня маё», «чарнавокі жэўжык», «разумнічак ты мой». І адгукалася ласкава. Яе голас гучаў тонка і звонка. І ўсе, хто прыходзіў на той, а таксама сям'я Курбана, былі задаволеныя яе ўвагай і клопатамі. Старыя людзі, бачачы гэта, звычайна гаварылі ёй: «Досыць! Цяпер адпачывайце!» Але не сціхала гамана да позняга вечара. Ад кітжык эджэ патрабавалася толькі адно — яе кіраўніцтва. Яна была маленькая і слабенькая, таму ёй не дазвалялі рабіць занадта цяжкую працу.

Яе муж Кічы ага быў ростам амаль два метры, яна была яму па пояс. І ўсіх дзяцей селішча яна лічыла за сваіх. Час ад часу Кічы агу наведваў сын — прыязджаў з горада, — у якога таксама ўжо былі дарослыя дзеці. Нікога не цікавіла, якім чынам Кічы ага ажаніўся з гэтай маленькай і кволай жанчынай. Кожны чалавек ведаў, што кітжык эджэ была гаспадыняй у яго двухпакаёвым доме. З цяжкасцю верылася, што яго сын таксама нарадзіўся і выгадаваўся ў гэтым доме — лягчэй было ўявіць, што менавіта яна там нарадзілася і жыла, да таго ж сама і пабудавала гэты дом. Яна вельмі гасцінна сустракала кожнага, хто б ні зазірнуў да яе на агеньчык. Можна было падумаць, што агмень у яе доме ніколі не згасаў — заўсёды ў казане кіпела чэкдзірмэ[1]. Калі да яе ў госці прыходзіла жанчына, гаспадыня адразу пачынала частаваць яе і пры гэтым гаварыла: «Добрае чэкдзірмэ атрымалася!» Шмат хто з жанчын пераймаў яе, а пасля выхваляўся сваімі стравамі. Калі ж да яе прыходзіў мужчына і сыходзіў, не пакаштаваўшы згатаванай ежы, яна крыўдзілася і з засмучэннем расказвала, як яна, дадаючы порцыю для гасцей, доўга чакала, калі ён прыйдзе.

Зусім кепска было, калі да яе не прыходзілі ўвогуле.

— Маглі б завітаць і да мяне таксама! Чаму так робіце? Да кагосьці заходзіце, а да кагосьці — не. Пасля суседзі доўга плявузгаюць.

Аднойчы ўвесну, калі Кічы ага быў у стэпах і стрыг авечак, да іх у дом прыйшоў незнаёмы хлопец.

— Дзень добры! — проста з парога павітаўся ён. — А дзядзькі няма?!

Кітжык эджэ адразу ж гукнула суседа Курбана:

— Пляменнік мужа ў госці прыехаў!

Курбан адразу ж прыйшоў і запрасіў госця ў пакоі.

— Чый сын? Бібі? — запытаў ён у хлопца.

Той нічога не адказаў, толькі хітнуў галавою. Курбан задаваў многа пытанняў, а госць, згаджаючыся, з павагайківаў.

— У вашых краях добрыя садаводы, — прамовіў Курбан.

Юнак зноў хітнуў галавой. Курбан увесь час распытваў пра ягоных землякоў, а госць, слухаючы яго, пагаджаўся.

— Так і ёсць! Прамінула ўжо амаль трыццаць гадоў з таго часу, як мы з імі бачыліся ў апошні раз, — нібыта размаўляючы сам з сабою, гаварыў Курбан.

Хлопец, саромеючыся і паціскаючы плячыма, адказваў няўцямна. Але Курбан смяяўся і гаварыў: «Ды ты, я бачу, надта ж сарамлівы! На дзядзьку зусім не падобны!» Госць пачырванеў. Ён сёрбаў гарбату, завараную яго цёткай кітжык эджэ, — рукі ў яго чамусьці дрыжалі.

[1] Варанае мяса.

— Калі я да іх трапіла, яны былі яшчэ зусім малыя. Бач ты, як пасталеў! Я б не пазнала яго, калі б ён не сказаў, — у захапленні прамовіла кітжык эджэ, завіхаючыся ля свайго госця. А калі Курбан пайшоў, яна незадаволена адзначыла:

— Ён сваімі роспытамі зусім цябе збянтэжыў. Не даў табе спакойна паесці. Еш, пляменнічак, на добрае здароўечка!

Юнак сказаў усім, што мэта яго візіту ў селішча Дурун — лякарня «Цёплыя воды». Ніхто ў гэтым не сумняваўся, наадварот, усе радаваліся, што порцыя для гасцей, дадаая ў стравы, дастанецца пляменніку. Суседзі па чарзе пачалі клікаць яе разам з пляменнікам у госці: «Прыходзь да нас разам з ім! Яго нашы хлопцы чакаюць». І хоць госць не надта імкнуўся наведваць суседзяў, яго ўсё ж такі ўгаварылі зазірнуць, бо кожны ў селішчы хацеў бачыць яго ў сваім двары. Ён ішоў ад пачатку і да канца вуліцы і заходзіў у кожны дом. На яго звярнулі ўвагу нават тыя кабеты, якія вачэй не ўзнімалі ад вышывання. Юнак больш за ўсё цікавіўся дывановай фабрыкай ды тэкстыльным цэхам — там працавала многа дзяўчат. На цёплыя воды ездзіў ён рэдка, але на гэта ніхто не зважаў. За тры-чатыры дні, што пражыў ён у Дуруне, знайшліся і людзі, якія пазналі яго: павітацца з ім прыходзілі калегі і аднакурснікі па сярэдняй прафесійнай школе. Кітжык эджэ была проста ў захапленні. З радасці яна зварыла ў вялікім казане барана, якога Кічы ага прывалок з атары, і ў гонар госця паклікала да сябе суседзяў. Адзін з хлопцаў граў на дутары, жанчыны спявалі — было весела. Усю ноч не змаўкалі песні. Штораз для кітжык эджэ гучала яе любімая мелодыя «Мой каханы не з'явіўся, не прыйшоў».

— Гэта песня для цябе, цётухна! — гаварыў спявак.

Апошнім часам кітжык эджэ мела столькі клопатаў, што нават да суседзяў хадзіць перастала — не было ніводнай вольнай хвілінкі.

— Нават не заўважаю, як пралятаюць дні, імкнуся згатаваць ежу як мага лепей, — гаварыла яна, радуючыся, калі яе хто-небудзь наведваў.

— Твой дабрабыт яшчэ больш умацуецца, — гаварылі ёй суседзі і знаёмыя, якія падзялялі яе радасць.

Курбанава жонка таксама не забывала клікаць да сябе гасцей, але людзі да яе чамусьці не ішлі.

Курбан, засмучаны гэтым, часцяком гаварыў сваёй жонцы, цяжка ўздыхаючы:

— Была б ты добрым чалавекам, дык і госці ў нас былі б! І сяброў у нас не засталося. Паглядзі, у Кічы агі дом заўсёды поўны гасцей, хоць няма ў іх ні сваякоў, ні аднагодкаў. А ўсё таму, што кітжык эджэ вельмі добрая жанчына. А ты не тое што пра чужых, ты хоць пра сваіх сямейнікаў паклапацілася б.

Голас яго пры гэтым быў надта ж незадаволены і стомлены. Яго жонка Сачлі, хоць і ўмела гатаваць, усё роўна звярталася да кітжык эджэ па дапамогу, парады і загады яе выконвала няўхільна — пераймала кулінарную навуку. Але кітжык эджэ, у сваю чаргу, таксама часта злавалася і неаднойчы наракала:

— Вашу ўвагу адцягвае то тэлевізар, то дзіця, і вы забываецеся пра прыгатаванне ежы! А трэба думаць пра задавальненне і асалоду, з якімі будуць есці вашы стравы. Трэба ўвесь час сачыць за працэсам, а не пакідаць без дагляду. Жанчына народжана для таго, каб быць прыгожай. І жаданні ў яе павінны таксама быць прыгожымі. Гатуючы ежу, трэба марыць пра добрае, тады стравы зробяцца смачнейшымі, за вушы не адцягнуць.

Гэтыя словы Сачлі вывучыла на памяць. Пра гэта яна расказвала іншым жанчынам, але так смачна, як кітжык эджэ, гатаваць яна так і не навучылася. І колькі ні пакідала порцыю для гасцей ад сваіх страў, колькі ні выходзіла паглядзець, а ці не прыйшлі раптам госці, у дом да яе ніхто не зазіраў. Адна-

вяскоўцы пра кітжык эджэ гаварылі: «Шчодрая, чулая, добрая, таму і шчаслівая». А пра сям'ю Курбана некаторыя аматары-плеткары пускалі чуткі: «Самі сквапныя, таму і госці не ідуць».

Пляменнік Кічы агі даволі хутка прызвычаіўся да страў, якія гатавала кітжык эджэ, і адразу сядаў за яе дастархан[1]. Яму цалкам хапала той порцыі, якую для яго пакідала гаспадыня. Аднойчы ён з'ездзіў на цёплыя воды, пасля наведаў усе «фабрыкі» і «цэхі», пагаманіў з дзяўчатамі і раптам з'ехаў, нікога не папярэджваючы, — відаць, з'явіліся праблемы. Адно толькі перадаў падзяку праз свайго калегу, які якраз вяртаўся з суседняга селішча: «Я мушу тэрмінова з'явіцца на працы, дзякуй за шчырасць і гасціннасць!» Так і паехаў. З яго ад'ездам дабрабыт Солтан не змяніўся. Ды і яна доўгі час будзе памятаць пра гэтыя дні! Таму што ўсе госці, якія прыязджалі ў Дурун, з часам рабіліся роднымі людзьмі і падтрымлівалі адносіны — жыхары селішча надта ж гасцінныя. Але госць не павінен быў гаварыць з мясцовымі прыгажунямі, якія, здавалася, пакаштавалі чароўнай вады з патаемных крыніц і таму зрабіліся такімі прыгожымі. Пра заляцанні нават і гаворкі быць не магло — хіба што смяльчак які мог адважыцца на такі ўчынак! Не любілі вяскоўцы аддаваць замуж сваіх дачок у іншыя селішчы. Іх дзяўчыны, апранаючы вясельны халат, далёка ад дому не ехалі. Паміж двума дамамі завязваліся роднасныя стасункі. Таму размовы і жарты з дзяўчатамі маладога хлопца, які прыехаў у госці да кітжык эджэ, нікому не падабаліся, але, захоўваючы правілы прыстойнасці, ніхто яму пра тое не гаварыў. Ніхто і не сумаваў асабліва, калі ён паехаў. «Ну і добра, што ён нарэшце паехаў дамоў, бо там, відаць, трэба яго дапамога. Каб ён толькі не захварэў!» — гаманілі паміж сабой жыхары селішча.

Не паспелі распаўсюдзіцца чуткі пра тое, што юнак паехаў, як пайшла пагалоска, што Сачлі накіравалася ў суседняе селішча на вяселле да дзядзькі і пакінула там сваю дачку. Дачка і на наступны дзень не вярнулася, што выклікала нейкія цьмяныя падазрэнні ў жыхароў. Па тэлефоне Сачлі не змагла як след пагаварыць і высветліць, дзе яе ўлюбёнка. Яна моцна хвалявалася.

— Як жа я магла пакінуць у незнаёмым селішчы сваю дарослую дачку? — плакала і лямантавала яна.

Імгненна гэтая навіна распаўсюдзілася па ўсім селішчы Дурун. Пастухі з Готур дэпе пачулі пра гэта і паспяшаліся да Курбана.

— Госці, госці, усё паўтараеце вы, кожнаму раскрываеце абдымкі! Ну што, цяпер атрымалі сваё? Толькі і застаецца, што сядзець і галасіць.

— З'ездзілі да яе дзядзькі?

— Так, з'ездзілі!

— Там яна?

— Не.

— Ды што вы кажаце!

Хтосьці прапанаваў паехаць следам за тым хлопцам.

— Як я яе выхавала?! Як?! — крычала Курбанава жонка ў адказ на дакоры. — Хіба ж можа маё дзіця так зрабіць?! Ва ўсім вінаваты гэты пляменнік! — Вочы Сачлі былі мокрымі ад слёз. Ад дачкі не было ніякіх вестак.

Кітжык эджэ прытулілася на самым краёчку канапы.

— Вось не сёння, дык заўтра Кічы прыедзе з пяскоў. Разам з ім паедзем да Бібішы! Гэта не цяжка! Але вы памыляецеся, — прамовіла яна і змоўкла.

Большасць старых у селішчы была на баку кітжык эджэ. Калі ў госця былі нядобрыя намеры, дык ён атрымае па заслугах. Гэта запавет продкаў, якія добра ведалі пра бязводныя пустыні і травы, што растуць на камянях. Гасцей сустракалі з радасцю, і порцыя для іх дадавалася ў казаны з найлепшымі наме-

[1] Абрус.

рамі. Калі б хто спакусіў дзяўчыну, ён абразіў і зняважыў бы ўсіх жыхароў селішча — такі ўчынак лічыўся б нізкім і подлым.

— Вось яшчэ адзін госць ідзе! — гукнуў раптам маленькі хлопчык.

— Калі ласка! Стравы прыгатаваны, сустрэнем належным чынам! — сказала кітжык эджэ, каб неяк супакоіць людзей.

— А калі ўвойдзе да вас у давер, а пасля зняважыць? — запытаў хтосьці.

— Не хвалюйцеся так! Выйсце знойдзецца! — кітжык эджэ хацела заставацца спакойнай, але ўсё ж такі яна хвалявалася. «Няўжо справы нашы зусім кепскія?» — пытала яна сама ў сябе.

Прыезд Бібішы і яе старэйшага сына ўсіх збянтэжыў і, можна сказаць, напалохаў, людзі паставіліся да іх насцярожана. Бібі была ў разгубленасці — мінула многа часу з той пары, як яна пакінула роднае селішча, і яна ніяк не магла зразумець, у чым яе віна. Позна ўвечары яна нарэшце змагла пагаварыць са сваёй нявесткай, кітжык эджэ.

— Няўжо праз тое, што я пайшла замуж у далёкае сяло, вы на мяне крыўдуеце? А я ж без вас усіх так сумую! Здаецца, ніколі вашы сэрцы не былі каменнымі! — сказала яна і заплакала.

— Я таксама хачу бачыць цябе і гаварыць з табой, — усхвалявана адгукнулася кітжык эджэ. — Але каму патрэбны словы, Бібі джан? Нашы людзі вельмі сціплыя і стрыманыя, але не дазваляюць зневажаць свой дастархан.

З гэтымі словамі яна адвярнулася, даючы зразумець, што не хоча больш размаўляць з госцяй. Але Бібі ў гневе запярэчыла:

— Хто зняважыў ваш дастархан?! Не вешайце чужую віну на мяне!

— Але ж ты з-за гэтай дзяўчыны прыйшла?

— Так, а як ты дазналася?

— А што тут дазнавацца? Я гэта зразумела па першых жа тваіх словах. Але такой ганьбы я не дапушчу.

— Якой ганьбы, нявестка?

— Нашы не любяць, калі дзяўчына ўцякае замуж. Надта ганарлівыя!

— Хто ўцёк? Тая дзяўчына?

— Так, не прыкідвайся толькі, што нічога не ведаеш!

— Учора на вяселлі я яе бачыла.

— На якім вяселлі?

— Адзін з нашых сваякоў ажаніўся з дзяўчынай — родзічкай Курбанавых сватоў. На вяселле прыйшла і Гаўхер джан. Сын мой Ахмет паказаў нам яе, і больш мы не ведаем спакою. Як высветлілася, яны і раней бачыліся — моладзь часцей за нас наведвае такія мерапрыемствы. Але ж я ведаю вашых, таму і кажу сыну: «Супакойся, дарагі, не бяры да сэрца. Тую дзяўчыну нам не аддадуць». А ён зноў за сваё, нават брата не паслухаў: «Мы таксама любім сваё селішча. Калі адна дзяўчына ў нас будзе з Дуруна, думаю, гэта нікому не зашкодзіць і нікога не абразіць? Прыгожых дзяўчат там багата. Сам бачыў!» — палка даводзіў ён. Вось і выправіў ён мяне сюды. Я прыйшла прасіць, каб аддалі нам тую дзяўчыну.

— Дзе ж тады яна можа быць?

— Учора была на вяселлі, а сёння, відаць, у дзядзькі.

— Чаго тады Сачлі спалохалася сама і напалохала ўсіх астатніх?

— А я адкуль ведаю? Відаць, адбылося нейкае непаразуменне!

— Уласна кажучы, так: сапраўды, хіба ж мог так кепска зрабіць чалавек, які еў з табой з адной талеркі?

— Нявестка, скажы ім пра гэта!

Кітжык эджэ павярнулася да Курбанаў і раптам убачыла заплаканую Гаўхер.

— Ды хіба ж магла б такая дзяўчына пайсці замуж без дазволу бацькоў! — усклікнула Солтан, каб супакоіць Гаўхер.

Брат Сачлі зразумеў нарэшце сваю віну і сказаў:

— Курбан, прабач, я вінаваты. Я забыў вас папярэдзіць, што Гаўхер затрымаецца ў нас.

— Дзяўчынка не адмовілася ад запрашэння і разам з іншымі дзяўчатамі паехала на вяселле. А вы абвінавацілі ва ўсім майго пляменніка. Як вы маглі так дрэнна падумаць пра майго госця? — прамовіла кітжык эджэ, якая цяпер зусім па-іншаму зразумела сітуацыю. — Ат, гэта я ва ўсім вінаватая! Няма чаго прымаць гасцей, калі гаспадара няма дома, — дадала яна і засмяялася.

— Калі ты не хочаш прымаць, дык мы з задавальненнем прымем, — гаварылі, разыходзячыся па дамах, супакоеныя жыхары.

— Лепш не ў госці ездзіць, а роднасныя адносіны ўсталяваць і падтрымліваць, — кітжык эджэ абрала зручны момант, каб распачаць гаворку пра сватаўство і будучае вяселле.

Курбан і Сачлі ўбачылі дачку жывой і здаровай, з палёгкай уздыхнулі, твары іхнія пасвятлелі. Сачлі зрабілася сорамна, што яна не разабралася ў сітуацыі і пляткарыла, быццам бы яе дачка «ўцякла замуж». Яна вырашыла зрабіць хоць якую добрую справу — падышла да тандыра[1] і пачала даводзіць яго да ладу — рыхтаваць для выпякання хлеба.

Кітжык эджэ заўважыла Курбана і прамовіла:

— Я пакінула порцыю для гасцей. Цяпер можам частаваць людзей.

— У нашым селішчы ў кожным доме пакідаюць порцыю для гасцей. Пляменнік Ахмет як прыехаў, дык і не хацеў назад вяртацца, — звярнулася яна да Бібі.

— Вы ўсіх прыезджых прымаеце як гасцей. А хіба нельга сустракаць іх як сваіх?! — у сваю чаргу папікнула яе Бібі.

— А вось парадднімся з вамі, тады можа здарыцца, што ўвесь Чанур будзе нашым, — адказала кітжык эджэ.

У доме панавалі радасць і чаканне чагосьці незвычайнага і шчаслівага.

Гаўхер сядзела ў аддаленым пакоі і марыла пра тое, як яна пойдзе замуж, будзе частаваць людзей і таксама навучыцца дадаваць у стравы порцыю для гасцей. Гасціннасць жыхароў Чанура ні ў чым не саступае гасціннасці дурунаўскай.

Пэўна, знойдзецца ў кожным туркменскім селішчы свая маленькая мама. І хоць знешні выгляд і постаці розныя, але сардэчнасць і гасціннасць аднолькавыя. Хіба ж можа замяніць высокі рост і пекная пастава вялікае палымянае сэрца? І квітнеюць туркменскія селішчы дзякуючы менавіта гэтым лагодным жанчынам. Яны радуюцца кожнаму госцю, дастархан іхні заўсёды разасланы, смачныя стравы і добрая порцыя заўсёды чакаюць госця.

Гасцінны дом — дом заможны. Туркмены госця лічаць за шчасце і знак дабрабыту. Вунь ідзе госць — шчасце ў дом нясе!

У кітжык эджэ клопатаў хапае. Кожны раз яна пасміхаецца, калі ў госці прыходзяць пляменнікі. Яна ведае, што за спакоем і прыстойнасцю заўсёды хаваецца дабрабыт. Праўду кажуць людзі: «Кожны госць прыносіць сваё шчасце». Дастархан кітжык эджэ ніколі не будзе пустым, бо кожнае дзіця ў селішчы яна лічыць сваім.

Вунь на гарызонце з'явіўся адзін з іх, збочыў з вялікай дарогі, што вядзе да сяла ля падножжа Капетдага. Ён крочыў упэўнена, з добрымі намерамі ў сэрцы і са светлымі марамі пра будучыню. Так людзі, якія з'явіліся з пустыні, са сваёй адкрытай душой, нясуць з сабой святло і радасць. І гэта сапраўды так.

---

[1] Печка-жароўня.

***Пераклад з туркменскай Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***

Наталля ЯКАВЕНКА

# АНАЛІЗ МАСТАЦКАГА ПЕРАКЛАДУ «АПОКРЫФА» МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў АДПАВЕДНАСЦІ З ПРЫНЦЫПАМІ РЭЦЭПТЫЎНАЙ ЭСТЭТЫКІ

Пераклад — адзін з найбольш старажытных і складаных відаў моўнай камунікацыі, а прафесія перакладчыка — адна з самых даўніх. У сусветнай літаратуры сярод першых перакладных мастацкіх твораў з'яўляецца асірыйская аповесць «Павучанне Ахікара» VII—VI стст. да н. э., напісаная на арамейскай мове і ўзноўленая на старажытнагрэчаскай, старажытнарускай (пад назвай «Аповесць аб Акіры Прамудрым»), на ўсходніх і еўрапейскіх мовах (у перыяд Сярэднявечча) [5, с. 14].

У беларускай літаратуры першы перакладны твор — «Біблія», 23 кнігі якой перастварыў на старабеларускай мове і надрукаваў Ф. Скарына ў 1517—1519 гг. Традыцыі Скарыны працягвалі С. Будны і В. Цяпінскі, затым з'явіліся пераклады жыційнай, рэлігійнай літаратуры, рыцарскіх раманаў і гістарычных аповесцей, створаныя ананімнымі перакладчыкамі. З наступленнем паланізацыі беларускіх зямель перакладчыцкая дзейнасць была спыненая і адноўленая толькі ў XIX ст. В. Дуніным-Марцінкевічам, які ў 1859 г. узнавіў па-беларуску паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У гэтым стагоддзі мастацкім перакладам займаліся А. Вярыга-Дарэўскі, А. Абуховіч, А. Гурыновіч, Я. Лучына, М. Косіч, А. Ельскі і інш. [8, с. 241].

Беларускі мастацкі пераклад многім абавязаны Максіму Багдановічу, які на пачатку XX ст. упершыню перастварыў лепшыя ўзоры антычнай лірыкі — творы Гарацыя і Авідзія, а таксама французскай, нямецкай, бельгійскай класікі — вершы Верлена, Гейнэ і Верхарна. Разам з тым М. Багдановіч пераклаў з беларускай на рускую мову ўласны рукапісны зборнік «Зеленя», які складаецца з 22 вершаў (датуецца ўмоўна 1909—1913 гг.) і апавяданне «Апокрыф» («Притча о васильках», 1913 г. напісання, першая публікацыя — у «Северной газете», Яраслаўль, 1914, 2 студз., № 1). Але перш чым перайсці да аналізу перакладу «Апокрыфа», трэба акрэсліць некаторыя тэарэтычныя пазіцыі.

Пануючыя ў пэўны час традыцыі перакладу, літаратурныя каноны і эстэтычныя прынцыпы фарміруюць разам з літаратурна-мастацкім густам перакладчыцкі метад кожнага перакладчыка, які заключаецца ў падборы мастацкіх сродкаў і стылістычнай інтэрпрэтацыі арыгінальнага тэксту ў перакладзе. «Асноўнае поле, на якім разгортваюцца аперацыі перакладчыка, — гэта мікрастылістыка. Перакладчык імкнецца авалодаць вобразнай структурай арыгінала. Тэма, герой, як і іншыя элементы макраструктуры, так званай макрастылістыкі, існуюць для яго толькі як абавязковыя факты тэкста, з якімі ён не павінен “маніпуліраваць”» [6, с. 99].

Захаванне нацыянальнай спецыфікі твора з'яўляецца адной з найважнейшых задач і праблем мастацкага перакладу. Нацыянальная літаратура — як частка нацыянальнай культуры — нясе ў сабе галоўныя яе адметнасці. Перакладчыкі звычайна вельмі ўважліва ставяцца да перадачы асаблівасцей нацыянальнай культуры арыгінала і захавання гэтых асаблівасцей у перакладзе. Таму з мэтай вылучыць і падкрэсліць спецыфічны нацыянальны каларыт арыгінала часта дапускаюць у перакладах крэалізацыю, калі не перакладаюць асобныя словы ці выразы і ўводзяць іх у рускі лад мовы, або калькаванне. Такім чынам у мастацкім тэксце ўзнікае сітуацыя двухмоўя — «наяўнасці ў структуры мастацкага твора іншанацыянальных моўных сродкаў адлюстравання аб'ектыўнай рэчаіснасці. Прычым размова ідзе пра іншамоўныя сродкі, якія ў момант стварэння твора не

з'яўляюцца прыналежнасцю дадзенай моўнай сістэмы, г. зн. не з'яўляюцца запазычаннямі» [3, с. 9]. Звыклыя для мовы арыгінала, такія словы часам аказваюцца штучнымі ў мове перакладу і больш чым трэба звяртаюць на сябе ўвагу, што аўтаматычна выклікае адмоўную рэакцыю, названую Вячаславам Рагойшам чытацкім кантролем: «Існуючыя моўныя ўмовы перакладу ва ўсходніх славян, у прыватнасці ў беларусаў і ўкраінцаў (двухмоўе чытача), абумоўліваюць наяўнасць некалькіх праблем, звязаных не толькі з тэорыяй, але і з практыкай перакладу.

У беларуска-рускага і ўкраінска-рускага мастацкага перакладу… незвычайна павышаны кантроль чытачоў, якія ўважліва сочаць за якасцю перакладу, а тым самым і ўплываюць на гэту якасць…

Радкі арыгінала, знаёмыя з дзяцінства, успамінаюцца адразу, як толькі пачуюцца яны ў “рэха” — украінскім ці беларускім перакладзе. І калі “рэха” сфальшывіць, зменіць тон і чысціню арыгінальнага гучання, — гэта ўмомант будзе заўважана і патрэбным чынам ацэнена» [7, с. 41—43].

Між тым, каб пашырыць і ўдакладніць паняцце чытацкага кантролю, варта звярнуцца да некаторых тэрмінаў рэцэптыўнай эстэтыкі, асноўныя ідэі якой базіруюцца на тэзісе йенскіх рамантыкаў пра «жывога» чытача, што ідзе насустрач пісьменніку і актыўна «ўдзельнічае» ў творчасці.

«Сярод крыніц рэцэптыўнай эстэтыкі… — герменеўтыка, якая абапіраецца на “філасофію жыцця” В. Дзільтэя і фенаменалогію Э. Гусерля, пражскі структуралізм, руская фармальная школа 10—20-х гадоў XX ст., сацыялогія літаратуры, што вывучае ўздзеянне літаратуры на чытацкую аўдыторыю. Імкнучыся да дакладна выражанага функцыянальнага вывучэння твора, рэцэптыўная эстэтыка развівалася ў рэчышчы агульнага для заходняй і рускай навукі аб мове і літаратуры працэсу, які вёў даследчыкаў ад успрыняцця мастацтва як аўтаномнага, самадастатковага феномена да праблемы яго “разумення” і “прачытання” (гэта лінія, напоўніўшыся ідэямі В. Дзільтэя, дала пачатак сённяшнім герменеўтычным падыходам), і далей да асэнсавання працэсу ўзаемадзеяння і камунікацыі сацыяльна-эстэтычных структур, што ўтвараюць дыялектычна супрацьлеглую і адкрытую сістэму “мастацтва — грамадства”» [13, с. 118—119].

Паводле рэцэптыўнай эстэтыкі, літаратурна-мастацкі твор «узнікае» і «рэалізуецца» толькі ў працэсе «сустрэчы», кантакту тэксту з чытачом, які, дзякуючы «зваротнай сувязі», у сваю чаргу, уздзейнічае на твор і вызначае тым самым канкрэтна-гістарычны характар яго ўспрымання і бытавання. Такім чынам, асноўным прадметам вывучэння рэцэптыўнай эстэтыкі з'яўляецца рэцэпцыя — успрыманне літаратурнага твора чытачом [13, с. 118—128].

У дачыненні да чытацкага кантролю над перакладным творам мэтазгодна выкарыстоўваць такія тэрміны рэцэптыўнай эстэтыкі, як «гарызонт чакання» і «эстэтычная дыстанцыя».

Пад гарызонтам чакання разумеецца комплекс эстэтычных, сацыяльна-гістарычных, псіхалагічных ды іншых уяўленняў, што фарміруюць адносіны аўтара і яго твора да грамадства, найперш да чытача, а таксама стаўленне чытача да твора, якое рэалізуецца адпаведна ў выглядзе яго асабістага эстэтычнага і жыццёва-практычнага досведу [13, с. 27—29].

Мастацкая (эстэтычная) каштоўнасць твора (перакладу) грунтуецца на той рознасці, што існуе паміж гарызонтам чакання твора і гарызонтам чакання чытача. І менавіта гэтая рознасць даволі часта становіцца кропкай сутыкнення, а часам выклікае непрымірымую барацьбу дзвюх эстэтычных канцэпцый, дзвюх суб'ектыўнасцей, бо гарызонт чакання — з'ява глыбока асабістая, а значыць, суб'ектыўная.

Пры сутыкненні чытацкага і аўтарскага (або ў нашым выпадку перакладчыцкага) гарызонтаў чакання ўзнікае эстэтычная дыстанцыя, што вызначае ступень нечаканасці твора для чытача і яго мастацкую каштоўнасць. Дыстанцыя паміж гарызонтам чакання чытача і гарызонтам чакання твора — гэта дыстанцыя паміж даўно вядомым, знаёмым, звыклым і неабходнасцю новага ўспрымання, прасцей кажучы, гэта дыстанцыя паміж старым і новым эстэтычным досведам [13, с. 157—158]. І, як ні дзіўна, эстэтычная дыстанцыя можа ўзнікаць пры адэкватным

перакладзе, бо адэкватнасці мала для перакладу, станоўча ўспрынятага эстэтычна адукаваным чытачом, — павінна яшчэ мець месца рэлевантнасць.

Адэкватнасць перастварэння арыгінала — галоўная праблема перакладу. Часта пры ўспрыманні перакладу чытачамі зыходная культурная інфармацыя, якая знаходзіцца ў тэксце арыгінала, не поўнасцю адпавядае інфармацыі, заключанай у перакладзе, — становіцца неадэкватнай, калі адбываецца «супастаўленне дзвюх культур — культуры зыходнай мовы і культуры мовы перакладу» [4, с. 79].

Адэкватнасць (адпаведнасць) або, паводле вызначэння аднаго з родапачынальнікаў перакладазнаўчай навукі славацкага вучонага Антона Паповіча, стылістычная і сэнсавая эквівалентнасць перакладу, гэта «функцыянальная раўназначнасць элементаў арыгінала і перакладу. Замена элементаў арыгінала пры перакладзе такім спосабам, каб інварыянтнае падабенства значэнняў і іх стылістычная каштоўнасць былі ідэнтычныя» [6, с. 197].

Паняцце рэлевантнасці (ад лац. *relevo* — падымаць, аблягчаць) найчасцей выкарыстоўваецца ў інфармацыйным інтэрнэт-пошуку і абазначае семантычную адпаведнаць пошукавага запыту і пошукавага вобраза дакумента.

У навуковай літаратуры рэлевантнасць — здольнасць адпавядаць чамунебудзь, быць істотным, значным, важным, быць да месца.

У мовазнаўстве рэлевантнасць вызначаецца як ступень змянення значэння адной марфемы (перш за ўсё кораня) пад уздзеяннем значэння другой марфемы (перш за ўсё афікса).

У агульным сэнсе адно з найбольш блізкіх паняццю рэлевантнасці — адэкватнасць, прычым гэта не толькі ступень адпаведнасці, але і ступень практычнай прымяняльнасці выніку, а таксама ступень сацыяльнай прымяняльнасці варыянта рашэння пэўнай задачы [9, 10].

Такім чынам, рэлевантнасць перакладу — гэта адпаведнасць перакладнога тэксту арыгінальнаму, якая разам са стылістычнай і сэнсавай эквівалентнасцю дае практычную і сацыяльную прымяняльнасць перакладу ў іншамоўным і іншакультурным асяроддзі.

Рэлевантнасць (або наадварот — ірэлевантнасць) перастварэння можа быць фармальнай — выяўляцца на мікрастылістычным узроўні — на ўзроўні слова, змястоўнай — закранаць макрастылістыку (змест, ідэю твора) і мастацкай — уплываць на мастацкія асаблівасці перакладу (аўтарскі стыль, вобразнавыяўленчыя сродкі).

Рэлевантнасць перакладу напрамую залежыць ад чытацкага кантролю, які бывае яўным, пры якім чытач нейкім чынам выказвае перакладчыку свае заўвагі і пажаданні, і меркаваным, які перакладчык можа прадугледжваць як магчымы і ў адпаведнасці з гэтым працаваць над тэкстам.

Меркаваны чытацкі кантроль — з’ява частая, заканамерная, неабходная, але даволі суб’ектыўная. Суб’ектыўнасць можа прыводзіць да памылковасці ў выбары сродкаў перастварэння, а каб яе пазбегнуць перакладчык павінен не толькі па-майстэрску валодаць мовай арыгінала і перакладу, але і выдатна ведаць сацыяльна-культурныя і гістарычныя ўмовы існавання таго грамадства, на мову якога ён перакладае.

Такі спосаб перастварэння, калі перакладчык імкнецца ўлічыць магчымае чытацкае ўспрыманне і ўносіць у тэкст адпаведныя карэктывы, у перакладазнаўстве называецца канфрантацыяй камунікатыўных пазіцый. Як паказвае практыка мастацкага перакладу, яна часам прыводзіць да скажэння зместу або ідэйнай задумы твора ці шкодзіць мастацкаму ўзроўню перакладнога твора, што здараецца даволі часта, бо «пераклад мастацкіх твораў рэзка адрозніваецца ад іншых відаў перакладу. Ён прадугледжвае творчасць. Каб абысці ўсе падводныя камяні мастацкага перакладу, перакладчык павінен быць надзелены не менш яркім талентам, чым сам пісьменнік, і гэты талент не можа замяніць ні самая лепшая школа, ні самыя лепшыя педагогі. Мастацкі пераклад супрацьстаіць навуковатэхнічнаму і грамадска-палітычнаму як мастацтва навуцы» [5, с. 19—20].

Разглядаючы спецыфіку мастацкага перакладу, варта мець на ўвазе яго рэле-

вантнасць (ірэлевантнасць) і звяртацца да асноўных пастулатаў рэцэптыўнай эстэтыкі, што праілюстравана наступным прыкладам аналізу перакладу на рускую мову апавядання Максіма Багдановіча «Апокрыф».

Пераклад «Апокрыфа» дэманструе варыябельнасць пэўных элементаў апавядання, змены як у яго мікра-, так і макраструктуры (іншая назва, перакампаноўка абзацаў, дадаванне аўтарскіх тлумачэнняў у зносках, парушэнне лексіка-семантычнай адпаведнасці асобных слоў і выразаў), а значыць, фармальную, змястоўную і мастацкую ірэлевантнасць. Прытым у рускамоўным варыянце апавядання выразна відаць перакладчыцкая пазіцыя пісьменніка: адэкватна перадаваць нацыянальна-культурную спецыфіку першакрыніцы. Каб вылучыць і падкрэсліць спецыфічны нацыянальны каларыт твора, аўтар рабіў зноскі з тлумачэннямі беларускіх рэалій, дапускаў калькаванне, калі не перакладаў асобныя словы, а ствараў рускамоўныя падабенствы беларускім («година», «зажинки», «дожинки»). М. Багдановіч імкнуўся як мага шырэй паказаць рускамоўным чытачам багацце беларускай культуры, якое ў першую чаргу захоўваецца ў мове [16].

Асноўныя цяжкасці перакладчыцкай працы М. Багдановіча пры перадачы нацыянальных рэалій і адаптацыі арыгінальнага тэксту ў іншакультурным асяроддзі бачацца ў адсутнасці эквівалентаў і неабходнасці перадаваць канатацыю некаторых слоў. Зыходная культурная інфармацыя, што знаходзіцца ў тэксце арыгінала, не зусім адэкватная інфармацыі, заключанай у перакладзе:

*Толькі музыка, катораму цяпер не было чаго рабіць, падышоў да іх і сказаў…* [1, т. 2, с. 50]

*Только лишь человек, ходивший по селам со скрипкой, не имел сегодня работы* [1, т. 2, с. 57].

Яшчэ адзін урывак:

*…пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вяселлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і ў маскалі йдучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе* [1, т. 2, с. 51].

*…поют в хороводах и на посиделках, поют на свадьбах и похоронах, и при всякой работе* [1, т. 2, с. 58].

Тут у першым выпадку, як бачым, Максім Багдановіч не стаў дакладна перакладаць слова «музыка» (па-руску «музыкант»), напэўна, адчуваючы залішнюю абагуленасць гэтага слова ў рускай мове — «музыкантом» можна назваць і вясковага музыку, і таго, хто грае ў аркестры, — а даў адразу «тлумачэнне», ускладніўшы тым самым і перабудаваўшы сказ. У другім выпадку, наадварот, відавочная спрошчанасць фразы, ад чаго пераклад выглядае збеднена.

Такім жа чынам праз пераклад М. Багдановіч імкнуўся данесці раскрытую ў арыгінале філасофскую думку:

*…няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы* [1, т. 2, с. 51].

*…нет бесполезной красоты, ибо сама красота и есть то, от чего растет душа человека* [1, т. 2, с. 59].

Іншы ўрывак:

*Я ж кажу вам: добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?* [1, т. 2, с. 52]

*Я же говорю вам: хорошо быть колосом; но счастлив тот, кому пришлось стать васильком. Потому что к чему колосья, когда нет васильков?* [1, т. 2, с. 59]

Першы выпадак дэманструе не толькі спрошчанасць фразы ў перакладзе, але і сэнсавую неадпаведнасць: «спажытак дзеля душы» — гэта зусім не «то, от чего растет душа человека», да таго ж слова «растет» падабрана вельмі няўдала. Падобнае і ў другім выпадку: «той, каму дадзена быць васільком» і «тот, кому пришлось стать васильком» — абсалютна рознае.

«Васілёк і каласы, прыгожае і карыснае, узрошчаны на адной ніве. Такая выпакутаваная, а таму простая Багдановічава выснова. “Радзімай васілька”назаве Багдановіч сваю старонку — Беларусь. Ён хацеў сказаць, што гэта тая зямля, якая нараджае паэтаў» [14, с. 108]. «Нашто каласы, калі няма васількоў?» — значыць навошта матэрыяльнае, карыснае, калі няма прыгожага, высокадухоўнага,

навошта Сейбіт, калі няма Мастака. А вось Мастаком (васільком) сапраўды толькі «дадзена быць», а той, каму «давялося стаць», — не Мастак.

На жаль, сам Максім Багдановіч не заўважыў гэтай сэнсавай страты ў перакладзе, і таму рускамоўны чытач не зможа належна ацаніць усю глыбіню і вобразнасць філасофскай думкі, закладзенай у «Апокрыфе», а двухмоўны чытач адразу адчуе эстэтычную дыстанцыю, калі, ведаючы «Апокрыф», прачытае «Притчу о васильках», дзе існуюць усе віды ірэлевантнасці перакладнога твора арыгінальнаму.

Арыгінальны твор заўсёды фарміруе ў чытача пэўны гарызонт чакання, несупадзенне якога з гарызонтам чакання перакладчыка (нават калі гэта сам аўтар, як у дадзеным прыкладзе) стварае эстэтычную дыстанцыю паміж чытачом і перакладным творам.

Пры ўсім тым, калі мець на ўвазе рэлевантнасць мастацкага перакладу, неабходна закрануць яшчэ адно важнае пытанне, якое абавязкова прадугледжвае чытацкі кантроль, асабліва ў сітуацыі блізкароднаснага двухмоўя. Гэта пытанне функцый перакладу.

У беларускім бікультурным грамадстве мастацкі пераклад з рускай або любой іншай мовы на беларускую разлічаны ў першую чаргу на «эрудзіраванага чытача» [6, с. 196], які ведае арыгінал, здольны супастаўляць тэксты і сачыць за стратэгіяй перакладчыка на аснове арыгінала, г. зн. на чытача, для якога пераклад з'яўляецца метатэкстам.

Пераклад з беларускай на любую іншую, у тым ліку блізкароднасную мову, разлічаны перш за ўсё на «неэрудзіраванага чытача» [6, с. 196], які, не ведаючы беларускай мовы, вымушаны мець справу толькі з перакладам на сваю нацыянальную мову, г.зн. на чытача, для якога пераклад з'яўляецца прататэкстам.

Так, зыходзячы менавіта з «неэрудзіраванасці чытача», сучасная перакладчыца з рускай на французскую мову прафесар Сарбоны Анн Кальдэфі-Факар, вызначыла галоўную, на яе думку, функцыю перакладу: «…навошта патрэбны пераклад? Каб дазволіць людзям, якія не разумеюць чужую мову, чытаць кнігу, мець пэўнае, правільнае ці няправільнае, уяўленне пра пісьменніка, творчасць аўтара, недаступную ім на мове арыгінала» [2, с. 9].

Нягледзячы на ступень «эрудзіраванасці» чытача, функцыі мастацкага перакладу застаюцца нязменнымі, змяняецца толькі ступень іх значнасці для пэўнай чытацкай аўдыторыі. Гэтыя функцыі паводле спосабу рэалізацыі перакладу А. Паповіч вызначыў наступным чынам:

— пераклад як адукацыйны фактар — замена, якая дае ўяўленне пра арыгінал у прымаючым асяродку (адукацыйная, або азнаямляльная, функцыя. — *Н. Я.*);

— пераклад як рэцэптурнае ўказанне (рэцэпцыйная функцыя, або функцыя ўспрымання. — *Н. Я.*);

— пераклад як фактар літаратурнай адукаванасці (культурна-эстэтычная функцыя. — *Н. Я.*);

— пераклад як літаратурная рэклама арыгінала (прапагандысцкая функцыя. — *Н. Я.*);

— пераклад як фактар камунікацыі паміж球 рознымі краінамі (грамадска-культурная функцыя);

— пераклад як праяўленне міжлітаратурных стасункаў з улікам запатрабаванняў прымаючай літаратуры (літаратурная функцыя) [5, с. 196].

Разам з тым відавочна, што вылучэнне асноўнай функцыі пэўнага перакладу залежыць ад пастаўленых перакладчыкам мэт і задач, бо «ўсялякае ўзаемадзеянне паміж людзьмі (у тым ліку і пераклад) вызначаецца яго мэтай…» [12]. Гэта базавы тэзіс распрацаванай у 1970—80-х гадах амерыканскім лінгвістам Катарынай Райс і нямецкім перакладазнаўцам Хансам Фермеерам тэорыі скопасу (ад грэч. *skopos* — мэта, задача).

Сутнасць тэорыі скопасу ў тым, што пры перакладзе асноўная ўвага павінна надавацца функцыі як зыходнага (арыгінальнага), так і мэтавага (перакладзенага) тэксту. Галоўны прадмет увагі тэорыі скопасу — пераклад як від дзейнасці, які

мае сваю мэту (задачу) і меркаваную чытацкую аўдыторыю, чым і вызначаецца выбар стратэгіі і метадаў перакладу.

Перакладаць, паводле К. Райс і Х. Фермеера, значыць ствараць мэтавы тэкст у мэтавай абстаноўцы для вырашэння мэтавай задачы ў мэтавых абставінах. У тэорыі скопасу арыгінальны тэкст мае больш нізкі статус, чым у тэорыях перакладу, заснаваных на эквівалентнасці (адэкватнасці). Арыгінал ўяўляе з сябе своеасаблівую «інфармацыйную прапанову», якую перакладчык адаптуе пад запыты мэтавай аўдыторыі.

Любы від перакладу можа разглядацца як «мэтанакіраваная дзейнасць», якая падпарадкоўваецца «правілу скопасу»: форма мэтавага тэксту, уключаючы выбраныя стратэгіі і метады перакладу, у першую чаргу павінна вызначацца мэтай (скопасам), якую перакладзены тэкст павінен выконваць у мэтавым кантэксце.

Адметна, што аўтары тэорыі скопасу абмяжоўваліся немастацкімі тэкстамі, бо лічылі мастацкія творы занадта складанымі з функцыянальнага і стылістычнага пунктаў гледжання [15].

Паводле меркавання К. Райс, пры перакладзе твораў мастацкай літаратуры задача перакладчыка заключаецца ў першую чаргу ў перадачы іх эстэтычнага ўздзеяння. Такія тэксты паведамляюць пэўны змест, але яны губляюць свой спецыфічны характар, калі ў перакладзе не захоўваецца іх знешняя і ўнутраная форма, вызначаная нормамі паэтыкі, стылем або мастацкімі памкненнямі аўтара. Інварыянтнасць зместу саступае галоўнае месца аналогіі формы, якая патрабуе эквівалентнасці эстэтычнага ўздзеяння.

Аднак «асабліва важна тое, што мастацкі пераклад узбагачае літаратуру, у якую ўваходзіць, садзейнічае развіццю нацыянальнай мовы, яе разнастайных стылістычных сродкаў… Таму што наўрад ці трэба зводзіць усё значэнне таленавітага перакладу… толькі да вырашэння сацыякультурных і пазнавальных задач… Што ж датычыць чытача (а менавіта дзеля яго ў першую чаргу і робіцца пераклад), то ў не меншай ступені выйграе і ён. Як дакладна заўважыў англійскі вучоны Тэадор Савары, “два пераклады аднаго і таго ж твора даюць для яго разумення нават не ўдвая, а ўчацвёра болей”» [7, с. 47—49].

## Літаратура

1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. / М. Багдановіч. — Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. — Мінск: Навука і тэхніка, 1992. — 725 с.; Т. 2. Мастацкая проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 600 с.

2. Весялуха, М. З рускай — на французскую / М. Весялуха // ЛіМ. — 11 крас. 2014. — С. 9.

3. Гируцкий, А. А. Белорусско-русский художественный билингвизм: Типология и история, языковые процессы / А. А. Гируцкий; ред. П. П. Шуба. — Минск: Университетское, 1990. — 175 с.

4. Микулина, Л. Д. Национально-культурная специфика и перевод / Л. Д. Микулина // Мастерство перевода: сб. статей / Редкол.: Э. Ананиашвили [и др.]. — М.: Сов. писатель, 1981. — С. 75—81.

5. Новикова, М. Г. Мера смысла, актуальное членение и адекватность перевода / М. Г. Новикова. — М.: ФЛИНТА: Наука, 2012. — 208 с.

6. Попович, А. Проблемы художественного перевода / А. Попович; под ред П. М. Топера. — М.: Высш. шк., 1980. — 198 с.

7. Рагойша, В. П. Проблемы перевода с близкородственных языков: Белорусско-русско-украинский поэтический взаимоперевод / В. П. Рагойша. — Минск: БГУ, 1980. — 183 с.

8. Рагойша, В. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах / В. Рагойша. — Мінск: Беларус. энцыкл., 2001. — 384 с.

9. Релевантность. Материал из Википедии — свободной энциклопедии // ru.wikipedia.org [Электронный ресурс]. — 2014. — Режим доступа: https://ru.wikipedia.org/wiki/Релевантность. — Дата доступа: 09.09.2014.

10. Релевантность. Викисловарь — многоязычный открытый словарь // ru.wiktionary.org [Электронный ресурс]. — 2014. — Режим доступа: http://ru.wiktionary.org/wiki/релевантность. — Дата доступа: 09.09.2014.
11. Розенцвейг, В. Ю. Языковые контакты: лингвистическая проблематика / В. Ю. Розенцвейг. — Л.: Наука. Ленингр. отд-ние, 1972. — 80 с.
12. Самков, М. Влияние коммуникативной функции перевода на реализацию переводческой стратегии / М. Самков // Богослов.ru: научный богословский портал [Электронный ресурс]. — 2015. — Режим доступа: http://www.bogoslov.ru/text/44181-56.html —2015. — Дата доступа: 17.02.2015.
13. Современное зарубежное литературоведение: энциклопедич. справ. // РАН, Ин-т науч. информ. по обществ. наукам. — М.: Intrada, 1999. — 319 с.
14. Стральцоў, М. Загадка Багдановіча / М. Стральцоў. — Мінск: Выд-ва «Беларусь», 1969. — 120 с.
15. Теория скопоса. — Trans Europe: бюро переводов [Электронный ресурс]. — 2015. — Режим доступа: http://transeurope.ru/publications/teoriya-skoposa.html — 2015. — Дата доступа: 17.02.2015.
16. Якавенка, Н. В. Притча о васильках / Н. В. Якавенка // Максім Багдановіч: энцыклапедыя. — Мінск: Беларус. энцыкл., 2011. — С. 430.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 25 мая 2015 г.

## Рэзюмэ

**Наталля ЯКАВЕНКА**

### Аналіз мастацкага перакладу «Апокрыфа» Максіма Багдановіча ў адпаведнасці з прынцыпамі рэцэптыўнай эстэтыкі

Праблемы, якім прысвечаны артыкул, прадыктаваны практыкай сучаснага літаратурнага развіцця і перакладазнаўчай навукі. Аналізуючы ў адпаведнасці з прынцыпамі рэцэптыўнай эстэтыкі, распрацаванай заходнееўрапейскім літаратуразнаўствам яшчэ на пачатку XX ст., арыгінал апавядання М. Багдановіча «Апокрыф» і яго пераклад на рускую мову пад назвай «Притча о васильках», аўтар паказвае фарміраванне эстэтычнай дыстанцыі паміж творам і чытачом праз ірэлевантнае перастварэнне.

**Ключавыя словы:** мастацкі пераклад, рэлевантнасць, ірэлевантнасць, рэцэптыўная эстэтыка, эстэтычная дыстанцыя, гарызонт чакання, М. Багдановіч, «Апокрыф».

## Summary

**Natallya YAKAVENKA**

### Analysis of literary translation «Apocryph» by Maxim Bagdanovich in accordance with the principles of the receptive aesthetics

The problems addressed by the article are dictated by the modern practice of literary development and translation science. Analyzing the principles of the receptive aesthetics developed by Western European literary criticism in the early twentieth century, the original story by M. Bagdanovich «Apocryph» and its translation into Russian entitled «The Parable of the Cornflower» the author shows the formation of the aesthetic distance between the work and the reader through irrelevance of rebuilding.

**Keywords:** literary translation, relevance, irrelevance, the receptive aesthetics, aesthetic distance, the horizon of expectations, M. Bagdanovich, «Apocryph».

# ПАДЗЕІ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў РАМАННАЙ ХРОНІЦЫ УЛАДЗІМІРА ГНІЛАМЁДАВА*

Вольга РУСІЛКА

### Беларус на Першай сусветнай вайне ў раманнай хроніцы Уладзіміра Гніламёдава

Гістарычная хроніка У. Гніламёдава «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Валошкі на мяжы» (2011), «Ліхалецце» (2013) — высокамастацкае вырашэнне маштабнай эпічнай задачы, якую паставіў перад сабой аўтар: стварыць у раманах гісторыю беларускага народа праз гісторыю сваёй сям'і, паказаць, як гаворыць сам пісьменнік, «чалавека ХХ стагоддзя, ці, дакладней, чалавека ў плыні часу мінулага стагоддзя» [1]. З'яўленне хронікі стала годным адказам на заканамернае пытанне пра наяўнасць у сучаснай беларускай літаратуры твораў, якія можна было б паставіць у адзін шэраг з неаспрэчнай класікай — раманамі Я. Коласа, К. Чорнага, І. Мележа. Гэтую думку можна падмацаваць спасылкамі на актыўнае асэнсаванне і аднадушна высокую ацэнку твораў пісьменніка ў перыядычным друку (грунтоўныя даследаванні В. Локун, Я. Гарадніцкага, М. Мішчанчука, З. Драздовай, Т. Студзенкі, інтэрв'ю з пісьменнікам М. Мікуліча, В. Паклонскай, У. Давыдава, ацэнка твораў у артыкулах В. Жураўлёва «Дыялог лаканізму і панарамнасці» і А. Раманчука «Сапраўднасць таленту» і, нарэшце, выхад грунтоўнай кнігі «Уладзімір Гніламедаў: "Заставацца сабой..."»).

Асноўнае мастацкае дасягненне У. Гніламёдава — стварэнне маштабнага нацыянальнага характару беларуса праз вобраз Лявона Кужаля, які годна праходзіць праз усе няпростыя і часам трагічныя выпрабаванні ХХ стагоддзя і захоўвае памяркоўнасць, чалавечую прыстойнасць, дабрыню, справядлівасць і сялянскую ўкаранёнасць у родную зямлю, бязмерную любоў да яе і да родных людзей. Дадатковую эмацыянальную «падсветку» надае вобразу яго аўтабіяграфічны характар (прататыпам Кужаля стаў дзед пісьменніка Лявонцій Міхайлавіч Сцепанюк). Лёс беларуса на Першай сусветнай вайне грунтоўна асэнсоўваецца У. Гніламёдавым у рамане «Расія».

З вобразам галоўнага героя непарыўна звязаны топас дарогі, спачатку блізкай, апісанай з такой падрабязнасцю, што ствараецца ўражанне, нібы і сам едзеш з Лявонкам і дзедам на возе ў Камянецкае народнае вучылішча, якое дало веды і пазнаёміла з нелегальнай літаратурай; затым далёкай, пра якую таксама гаворыцца з выключным багаццем дэталяў, — у Амерыку, якая канчаткова сфарміравала характар, і з трывогай і няпэўнасцю — назад у родную вёску Пруску. Гэта ў першай кнізе. У другім рамане, «Расія», канцэпт дарогі набывае асаблівае значэнне і больш трагічны, змрочны сэнс (ён нечым нагадвае шлях купалаўскіх «Паязджан») — гэта горкі шлях бежанцаў з Прускі ў далёкую Самарскую губер-

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 8, 2015 г.

ню, жахлівыя і бессэнсоўныя дарогі салдата Першай сусветнай вайны і, нарэшце, зноў пакутлівае вяртанне да парога бацькоўскай хаты.

Раман «Расія» ў часопісным варыянце публікаваўся з падзагалоўкам «Сямейная хроніка ў духу барока» (дух барока для аўтара — перш за ўсё ў атмасферы няпэўнасці, таямнічасці) і меў дакладныя межы адлюстраванага часу: 1915—1922 гады (магія лічбы «сем» — столькі часу быў Лявон у Амерыцы, столькі Адысей быў у палоне німфы Каліпса). Аўтар расказвае пра чалавека ў віры лёсавызначальных для славянскіх народаў падзей — Першай сусветнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, калектывізацыі і грамадзянскай вайны. Наватарства У. Гніламёдава ў тым, што ён узнаўляе як добравядомыя, так і недастаткова апісаныя ў літаратуры падзеі з пункту гледжання сучаснага лёсу двух братніх народаў — рускага і беларускага: прускаўскія бежанцы перажываюць цяжкія ваенныя часы ў патрыярхальным самарскім сяле Запалонне, дзе іх «прынялі як братоў» (такую «агульную думку» выказвае ў час першай сустрэчы прускавец Пятро Ламака).

Ідэя «агульнасці славянскага дому» (В. Локун) знаходзіць сваё канкрэтнае ўвасабленне ў тым, што сям'я Кужалёў жыве ў хаце «буйнога стэпавага гаспадара» Ільі Аляксандравіча Платонава, які ўмеў выдатна весці гаспадарку. Прыглядаючыся да новай рэчаіснасці, Лявон параўноўвае яе ўжо не толькі з прускаўскай, але і з амерыканскай (і загоны, і пейзажы, і сельскагаспадарчую тэхніку, якой у Платонава не менш, чым у амерыканскага фермера). Параўноўваюцца і такія «смачныя» дэталі, як стравы (што да святочнага стала Платонавых, дык гэта сапраўднае раблезіянства) і традыцыйныя святы, якое ў Запалонным адрознівалася большым размахам («на Пакроў тры дні пілі, чатыры — апахмяляліся» [1, с. 225]).

Аўтарская ўстаноўка на сцвярджэнне еднасці рускага і беларускага народаў увасабляецца і праз тое, што запалонаўская Фёкла, нявестка Ільі Аляксандравіча, становіцца лёсам і адзіным каханнем Лявона. Вобраз Фёклы, прататыпам якой стала бабуля пісьменніка, створаны з асаблівай любоўю і павагай: партрэт, у якім падкрэслена «блакітнае свячэнне» аўры; характар, у якім адчуваецца «шырыня душы і рашучасць», дзелавітасць і энергія; шчырасць і самаадданасць у адносінах да Лявона і яго сям'і, і клопат пра сына Васю; умелыя, працавітыя рукі. Непадобная, як піша У. Гніламёдаў, ні да прускаўскай Ганны, ні да амерыканскай Анет, Фёкла нагадвае шолахаўскую Аксінню. Лявона цягнула да яе, «як тую збажыну ў барабан». Фёклу, хоць яна і адчувала сябе грэшніцай, вабіла да Лявона тое, «што ён быў жывой, цэльнай натурай — без схільнасці да занудлівага самакапання» [1, с. 273].

Самыя трагічныя старонкі рамана прысвечаныя падзеям Першай сусветнай вайны і рэвалюцыі, надыход якіх успрымаецца як страшнае насланнё, выпрабаванне чалавечнасці. Безумоўна, У. Гніламёдаў абапіраецца на досвед сусветнай літаратуры, якая асуджае вайну (Э. М. Рэмарк, А. Барбюс, Э. Хэмінгуэй, М. Горкі), працягвае традыцыі М. Гарэцкага («На імперыялістычнай вайне»). «Вайна перакрэсліла ўсе ўяўленні аб жыцці. Яна была вялікім прыніжэннем для чалавека» [1, с. 273]. Асабістае «я» зноў адыходзіць на другі план, на першым — калектыўнае «пачуццё страху і жахлівасці ад таго, што адбывалася навокал» [1, с. 256], асабліва ў рэалістычных апісаннях бою: «Азвярэлыя ад крыві людзі арудавалі штыкамі і прыкладамі, рвалі рукамі і зубамі, крышылі і знішчалі адзін другога» [1, с. 268—269]. Аўтар нават не дзеліць людзей на супрацьлеглыя лагеры, гаворачы, што Лявон не адчуваў нянавісці да таго рыжага немца, якога прыйшлося забіць. І пейзажныя замалёўкі, якія перадаюць стан параненага Лявона, вызначаюцца ўніверсальнасцю: «Зверху ўсё цяжэй навісалі хмары, з якіх церусіліся мяккія сняжынкі. Знізу, пад параненым, снег умінаўся, падтаваў, і чалавек апускаўся ўсё глыбей і глыбей, усёй істотай адчуваючы, як нешта невымерна цяжкае і неадольна моцнае памалу цягне яго ўніз, углыб гэтай халоднай і непрыветнай зямлі» [1, с. 294].

Разам з тым у пейзажы і дэталях выяўляецца і сялянская сутнасць герояў: «Салдаты, як бязгучныя аўтаматы, выконвалі каманду. Ад упрэлых спінаў і плячэй узнімалася пара і лёгкім воблачкам стаяла над квадрацікам роты. "Быццам жыта красуе — пылок стаіць", — падумаў Лявон і сказаў пра гэта Міхалю. Той ажыўлена заківаў галавою...» [1, с. 247]. Параўнанне з жытам, спрадвечным славянскім сімвалам жыцця, характарызуе Лявона, які востра адчувае абсурднасць сітуацыі. Разам з тым ён не панікуе і годна выконвае свае салдацкія абавязкі.

Перадаючы перажыванні і думкі салдата на вайне, У. Гніламёдаў выяўляе сябе глыбокім псіхолагам: «Гнёт страху, які так глыбока авалодаў усёй яго істотай у першыя часы знаходжання на фронце, паступова пачаў прападаць, змяняючыся раўнадушшам і няўважлівасцю да таго, што адбывалася навокал. Разам з тым ён адчуваў у сабе наспяванне нейкага напаўсвядомага пачуцця непрыняцця таго, што тварылася ў свеце. Але што ён мог зрабіць? У свеце, здавалася яму, дзейнічаюць нейкія неспазнаныя сілы, якія кіруюць чалавечымі ўчынкамі і самім чалавекам, вызначаючы яго лёс» [1, с. 247]. Разважанні Лявона непасрэдна перад боем істотна розняцца ад гэтых няспешных думак, ён успамінае перажытае і задумваецца пра нетрываласць чалавечага жыцця: «Жыў чалавек і... няма» [1, с. 290].

Як і ў дачыненні да адлюстравання любой гістарычнай падзеі, У. Гніламёдаў выкарыстоўвае багатыя мастацкія магчымасці для стварэння праўдападобнасці і заахвочвання чытацкай увагі: пастаянны зварот да гістарычных крыніц, у прыватнасці да газеты «Окопная правда» і лістовак, цытаванне тэкстаў салдацкіх песень і лістоў з фронту і з далёкага дому (прасякнутыя любоўю і клопатам пра блізкіх людзей, гэтыя лісты былі жыватворнай крыніцай сілы для салдата і ярка характарызавалі лепшыя рысы як асобы адрасата, так і аўтара).

Атрымаўшы Георгіеўскі ордэн і ледзь не страціўшы параненую руку, Лявон вяртаецца ў Запалонне іншым чалавекам: «Узмацніўся скепсіс і прыгнечанасць. Жыццё здавалася суцэльным ланцугом драм і трагедый» [1, с. 306]. Ратуе яго сялянская ўстойлівасць характару і каханне Фёклы, «безагляднае і непахіснае».

Аднак жыццё ў некалі спакойным Запалонні віруе рэвалюцыйнымі падзеямі, якія падаюцца праз хранікальна-дакладнае аўтарскае апісанне палітычнага становішча, уключэнне рэальных дакументаў часу, якія У. Гніламёдаў вывучаў у самарскіх архівах, і іншых пазасюжэтных элементаў (дзённік бальшавіка Мішы Касякіна, брата Фёклы, апісанне падзей прафесійным рэвалюцыянерам Андрэем Кляновікам). У дачыненні да той часткі рамана, якая расказвае пра падзеі рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, як і ў дачыненні да наступнага рамана «Вяртанне», робіцца асабліва відавочнай выснова В. Локун пра падзел раманнага поля на дзве стылёва адрозныя апавядальныя лініі, якія ствараюць вобраз гістарычнага часу і псіхалагічна дакладныя малюнкі жыцця народа, «вобразна-псіхалагічную і хранікальна-падзейную» плыні. Гэтыя плыні ўдала дапаўняюць адна адну. Пры ўсім даверы да дакументаў абсурднасць падзей успрымаецца мацней, калі чытаем сцэну расстрэлу бальшавікоў казакамі: яны перадаюць карабін васьмігадоваму Саньку, і ён расстрэльвае камбедаўца Фролку, які некалі забіў яго дзеда Мілягіна. Эпізод працягваецца зусім ужо жудасным малюнкам: абезгалоўленае цела старшыні камбеда Фёдарава робіць некалькі крокаў па залітай крывёй зямлі...

«...Белыя, чырвоныя, яшчэ нейкія... Нічым яны фактычна паміж сабой не розняцца» [1, с. 461], — разважае Лявон. Ён не прымае рэвалюцыю, як і Фёкла: «Рэвалюцыя — памрока, як зацьменне сонца». А Ілья Аляксандравіч і ўвогуле лічыць бальшавізм «прыпадкам, які здарыўся з нашым вопчаствам».

Падзеі Грамадзянскай вайны, «тыф, халера, галадамор» узмацняюць прыцягненне роднай Прускі, жаданне займацца звычайнымі сялянскімі справамі. Сялянская сутнасць характара Кужаля добра падкрэсліваецца ў параўнанні з

вобразам бальшавіка Андрэя Кляновіка. Хоць аўтар неаднаразова называе Кляновіка і Кужаля сябрамі, адзінства поглядаў у іх няма: у спрэчцы пра класавую барацьбу Лявон гаворыць, што беларусаў выратуе працавітасць, ён адчувае, што ў праграме Кляновіка «было нешта штучнае і вельмі рызыкоўнае». Часцей жа Лявон у такіх размовах проста маўчыць. Увага да вобраза Кляновіка невыпадковая: гэта калі і не галоўны герой, то адзін з асноўных у раманах хронікі, і знаёмімся мы з ім яшчэ на старонках, прысвечаных юнацтву Лявона Кужаля і яго амерыканскай адысеі. Сюжэтная лінія Кляновіка ва ўсіх раманах хронікі ідзе паралельна з лініяй Кужаля, часам, асабліва ў «Вяртанні», пісьменнік выкарыстоўвае «шахматны» прынцып пабудовы сюжэту, пераключаючыся на падзеі жыцця прафесійнага рэвалюцыянера. Кляновік, нібы містычная істота, заўсёды аказваецца дзесьці побач з Лявонам і дапамагае яму вырашаць жыццёвыя цяжкасці; Кужаль пастаянна цікавіцца лёсам сябра, а калі яго след па нейкіх прычынах (найчасцей — знаходжанне ў турме) губляецца, то мы — у лепшых традыцыях мадэрнізму — знаходзімся «ў чаканні Кляновіка» ці ў кампаніі яго двайніка Косці Хлябіча. Вялікая ўвага надаецца ўнутраным маналогам і няўласна-простай мове Кляновіка. З дапамогай гэтых сродкаў малюецца вобраз апантанага ідэяй «апостала навукі Карла Маркса», які беларусаў лічыў «дрымучым народам» і сялян «не любіў і ў душы нават не паважаў». Недастаткова свядомым, на яго думку, з'яўляецца Лявон Кужаль: «Звычайнага ў табе многа, сялянскага... Такія для рэвалюцыі не гадзяцца...»

Стварыць маштабны нацыянальны характар, асэнсаваць лёс народа на пераломных паваротах гісторыі У. Гніламёдаву дазваляе эпічная глыбіня мыслення і высокі ідэйна-эстэтычны ўзровень пісьма. Вядома, для доктара філалагічных навук не існуе сакрэтаў мастацкага майстэрства, аднак іх увасабленне не было б магчымым без арганічнага прыроднага таленту пісьменніка, які дадзены Уладзіміру Васільевічу. Арыентуючыся на класічную эпічную традыцыю, пісьменік узбагачае яе «з улікам найноўшых дасягненняў сучаснай апавядальнай паэтыкі» (Я. Гарадніцкі). Так, будуючы сюжэт, аўтар выкарыстоўвае побач з традыцыйным лінейным апавяданнем прыёмы вяртання, забягання наперад, «шахматнага» размяшчэння фабульнага часу, вядзе нарацыю ад імя розных асоб (у тым ліку і праз дзённікі, ліставанні). Гэта, безумоўна, ажыўляе чытацкую ўвагу, як і прыём загадкі, які па-майстэрску выкарыстоўвае аўтар. Увядзенне аўтарскіх разваг, цытаванне гістарычных дакументаў, апісанне побыту ўдала спалучаецца з дынамічнымі, лёгкімі, неабцяжаранымі аўтарскай мовай дыялогамі. Асаблівым майстэрствам вызначаюцца разнастайныя адпаведныя аўтарскай ідэйнай устаноўцы паэтычныя пейзажы, насычаныя вобразна-выяўленчымі сродкамі і мясцовай канкрэтыкай. Сапраўднай удачай аўтара стала сістэма выдатных вобразаў-персанажаў, прычым і героі галоўныя, і другарадныя, і дапаможныя, і нават выпадковыя персанажы падаюцца праз разнастайныя спосабы экспазіцыі і характарыстыкі (у прыватнасці, праз яркія дэталі партрэта, моўную індывідуалізацыю, унутраныя маналогі).

Моўнае майстэрства У. Гніламёдава відавочнае і з прыведзеных цытат, заключаецца ў яго зайздросным лексічным багацці, ва ўмелым стварэнні мясцовага каларыту, у мэтазгодным увядзенні іншамоўнай лексікі (рускай, англійскай, польскай, яўрэйскай, украінскай).

Эпічныя творы У. Гніламёдава, у якіх глыбока асэнсоўваецца беларускі нацыянальны характар у пераломныя моманты гісторыі, ужо сталі значнай з'явай сучаснага літаратурнага працэсу і сведчаннем таго, што імкненне да эпічнай маштабнасці — істотная тэндэнцыя развіцця сучаснай беларускай прозы.

## Літаратура

1. Гніламёдаў, У. В. Расія / У. В. Гніламёдаў. — Мінск, 2007. — 672 с.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# Асаблівасці мастацкага адлюстравання падзей і асоб Першай сусветнай вайны ў рамане «Расія»

У другім рамане гістарычнай эпапеі Уладзіміра Гніламёдава расказваецца пра сямігадовае знаходжанне ў бежанстве ў Расіі сялян, выхадцаў з Брэстчыны, у ракавыя для яе гады — Першай сусветнай вайны, рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, шматлікіх мяцяжоў і змен улад. Названы раман ахоплівае час з 1914 па 1922 год — вельмі цікавы перыяд айчыннай гісторыі, у якім шмат прыцемненага, загадкавага, яшчэ не да канца зразумелага, пра што сёння гавораць гісторыкі і ўсе, хто цікавіцца мінулым свайго народа.

Пачатак вайны, нагадваецца ў рамане Гніламёдава, суправаджаецца страшнай прыроднай з'явай, народнай прыкметай нядобрага — поўным зацьменнем сонца: «У тую нядзелю 8 жніўня 1914 года, у сярэдзіне дня, — паведамляе аўтар рамана, — адбылася яшчэ адна падзея — поўнае зацьменне сонца, якое напалохала ўсіх. Гэта быў дрэнны знак. "Канец свету, мусіць, — такую думку выказвалі многія, кідаючыся ў паняверку" [2, с. 87]. Прырода, як вядома з Бібліі, рэагуе на маральнасць або амаральнасць людзей. Прыгадаем, што апошнія гадзіны зямнога жыцця Госпада Ісуса Хрыста, яго бязмерныя пакуты на крыжы, адзначаныя зацьменнем сонца, «цемрай па ўсёй зямлі». Персанажы рамана «Расія» правільна разумеюць гэты нябесны знак, які сімвалізуе будучыя вялікія бедствы. Масавы гіпноз, зацьменне свядомасці людзей, адыход іх ад Бога і яго запаведзей, уступленне ў дзеянне страшнай злой дэманічнай сілы, развязванне крывавай бойні… Трагічная атмасфера рамана ўзмацняецца.

Галоўны герой хронікі Лявон Кужаль быў прызваны ў армію ў канцы восені 1916 года. Разам з ім чытач і будзе ўдзельнічаць у падзеях Першай сусветнай, даваць ім ацэнку, слухаць салдат вайны.

У сваёй гістарычнай эпапеі беларускі пісьменнік здолеў ярка выказацца па самых надзённых пытаннях эпохі, у тым ліку і па праблемах Першай сусветнай вайны. І робіць ён гэта не праз назойлівыя аўтарскія адступленні, у якіх дае ўласную ацэнку гэтай страшнай з'явы, а праз выказванні розных персанажаў. І перш за ўсё, праз стаўленне да вайны галоўнага героя рамана Лявона Кужаля, вечнага працаўніка, які ўстойліва трымаецца свайго земляробчага занятку і сваіх перакананняў пра непатрэбнасць бунтаў, рэвалюцый і войнаў, у аснове якіх ляжаць нянавісць і злапомнасць.

Канечне, у Гніламёдава былі таленавітыя папярэднікі ў нацыянальнай і сусветнай літаратуры ў раскрыцці тэмы Першай сусветнай вайны, этычны і эстэтычны пафас твораў якіх быў сугучны яму, — М. Гарэцкі, Э.-М. Рэмарк, А. Барбюс, Э. Хэмінгуэй і інш. Беларускі раманіст таксама малюе вайну як справу антычалавечую, як бессэнсоўную бойню, якая з'яўляецца «вялікім прыніжэннем для чалавека» [2, с. 273]. «Нашто вайна? Нашто смерць? Не ведаюць людзі, куды сілу падзець, — от і б'юцца» [2, с. 272]. Мастацкая тканіна рамана «Расія» напоўненая непаўторнымі галасамі і думкамі, ацэнкамі герояў, прадстаўленымі нярэдка ў выглядзе дыялогаў, няўласна-простай мовы. У творы шмат вызначэнняў вайны, дадзеных людзьмі розных узростаў, заняткаў, прафесій, духоўнасці: «Гэта за грахі нашы» [2, с. 101], — так тлумачыць развязванне вайны простая сялянка Марыля, маці Лявона. «Вайна — гэта іскупленне віны нашае» [2, с. 299], — як бы ў тон ёй гаворыць і святар.

«Вайна — гэта чыясьці забава, нейкі вялікі падман, змова сатанінскіх сіл, пра якую ніхто не ведае, але яна, змова гэтая, існуе…» [2, с. 349], — пасля доўгіх роздумаў прыходзіць да высновы Лявон.

Аднак у вялікім дыялогу-спрэчцы пра вайну, які вядзецца ў творы, ёсць думкі і пра карысць вайны, якія агучвае фельдфебель:

«— Вайна, братцы, як ні круці, рэч патрэбная, — сказаў фельдфебель.

— Што ж тут патрэбнага? — здзівіўся Міхаль.

— Ачышчае, — патлумачыў фельдфебель, — ад бруду ачышчае» [2, с. 265].

Гэтага не могуць зразумець простыя салдаты, сэрцы якіх бунтуюць супраць вайны і яе жахаў, супраць забойства. У той плоскасці, у якой шукаюць разгадку гэтай думкі салдаты, адказу, вядома ж, няма. Але з пункту гледжання хрысціянства яна зразумелая: у пакутах, бедствах грахі чалавека згараюць, і ён ачышчаецца.

Раман «Расія» — твор вельмі дыялагічны. І ў сэнсе наяўнасці ў ім вялікай колькасці непасрэдных знешніх гутарак герояў. І ў сэнсе бясконцых спрэчак пра вечныя праблемы жыцця і смерці, духоўнасці і маральнай прыгажосці чалавека, сістэмы яго каштоўнасцей, якія пісьменнік нябачна вядзе з чытачом, а таксама з іншымі пісьменнікамі, часам, вечнасцю. Дыялог у рамане «Расія» — адзін з галоўных сродкаў псіхалагічнага аналізу, выяўлення адметнасці чалавечага характару. А на старонках, прысвечаных Першай сусветнай вайне, герой амаль цалкам раскрываецца праз асаблівасці яго гаворкі, яго манеры выказваць свае думкі. Але дыялог у Гніламёдава таксама вельмі цесна звязаны з сюжэтам, выконвае інфармацыйную ролю. З яго чытач даведваецца пра цяжкія будні салдат, як яны харчуюцца, як мерзнуць у акопах і г. д. У творы арганічна сплаўлена «многоглазие» з аўтарскай суб'ектыўнасцю. Дыялогі, якія часам уключаюць у сябе маналогі-ўспаміны, дапамагаюць аўтару запоўніць «прагалы» ў жыцці сваіх герояў.

Дыялагічнасць — адна з найважнейшых асаблівасцей мастацкага адлюстравання падзей і асоб Першай сусветнай вайны ў рамане «Расія». Калі мы супаставім яго з блізкім па тэматыцы і праблематыцы творам Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне», то ўбачым, што ў праўдзівай, шчырай, добрасумленнай споведзі аўтара «Запісак…», за якой стаіць Гарэцкі, адным з асноўных псіхалагічных сродкаў з'яўляецца аўтарскі псіхааналіз, а таксама партрэт персанажа. Хоць і не заўсёды грунтоўна і ўсебакова выпісаны, але цікавы і запамінальны. Агаворымся адразу, што ў рамане «Расія» таксама створана мноства яркіх, выразных партрэтаў. Чытача таксама здзівіць багацце прыёмаў і сродкаў стварэння партрэтных характарыстык, але на «ваенных» старонках партрэтнасць твора адступае на другі план, уступаючы сваю характаралагічную ролю дыялогу. Тое ж самае можна сказаць і пра прыроду. У рамане «Расія» шмат палілогаў — размоў з удзелам не двух, а некалькіх чалавек. Палілогамі з'яўляюцца і асобныя дыялогі людзей, пры якіх прысутнічаюць іншыя героі, зацікаўлена слухаюць гаворку і даюць ацэнку (нярэдка гэта ўнутраны каментарый, хоць часам і знешні, агучаны). Рупарам аўтарскіх ідэй у Гніламёдава з'яўляецца селянін Лявон Кужаль, а таксама мудрыя жанчыны — яго маці Марыля і будучая жонка Фёкла, якія жывуць сэрцам, вераю, і гэта дае ім магчымасць глядзець на вайну праз прызму хрысціянскіх этычных уяўленняў.

Аўтар дакументальна-мастацкага дзённіка «На імперыялістычнай вайне» Лявон Задума паўстае перад чытачом трохі скептычным у веры чалавекам, халаднаватым да Бога (хоць гэтае пачуццё да Бога шмат у чым напускное), нярэдка песімістычным. Галоўны герой рамана «Расія» куды больш аптымістычна глядзіць на свет, паджартоўвае ў нялёгкіх сітуацыях, бачыць жыццё ў больш светлых фарбах. Узяць хоць бы апісанне шпітальнага жыцця ў гэтых двух творах. Прывядзём урывак з Гарэцкага:

«Прыходзяць нейкія дамы-дабрадзейкі, прыносяць гасцінцаў: яблычка, цукерачку, Евангелле. Не, дайце газету! Сумна ў газетах. Дзе ты цяпер, дарагая батарэя? Дзе вы, мілыя таварышы? Не тут, не тут, не з гэтымі дамамі-дабрадзейкамі і сястрыцамі мая душа, а там, там, у акопах. І мімаволі выступаюць слёзы. Трэба схавацца з гэтымі слязьмі. Тут, спаміж гэтых ваяўніча настроеных жыхароў тылу, ніхто не можа ўявіць сабе, што перажывае батарэя. Яны пытаюцца і пытаюцца, як

там нашым бедненькім салдацікам у акопах, але брыдка гаварыць з імі пра гэта. Адчапіцеся, адчапіцеся!» [1, с. 419].

Лявон Кужаль з удзячнасцю ўспрымае наведванні «дам-дабрадзеек», сясцёр міласэрнасці. Нягледзячы на ўласныя праблемы са здароўем (ёсць небяспека згубіць руку), ён спачувае ім, высока цэнячы іх нялёгкі подзвіг. Вось яго размова з сястрой міласэрнасці:

«— Хадзіць за раненымі — гэта ж цяжка, — паспачуваў ёй прускавец.

— Чаму ж? Вунь сама царыца з царэўнамі за раненымі ходзіць, а нам і Бог вялеў.

— Царыца?

— Яна самая! У Царскім Сяле, кажуць, стоячы каля хірурга, як звычайная сястра, падае стэрылізаваныя інструменты, вату, бінты, адносіць ампутаваныя рукі і ногі, перавязвае раны. Усё робіць, аб чым не папросяць!

Такое цяжка было ўявіць» [2, с. 300].

У адрозненне ад твораў савецкага часу асобы цара, царыцы і царэўнаў, як вынікае з дыялогаў эпапеі, паўстаюць у досыць прывабным асвятленні, намаляваны з сімпатыяй. Шмат увагі ўдзелена ў рамане «Расія» абмеркаванню асобы Распуціна, якога адны лічылі за старца, а іншыя бачылі ў ім цёмную сілу. У эпапеі Гніламёдава згадваецца шмат вядомых гісторыі людзей, якія непасрэдна не ўключаны ў сюжэтнае дзеянне, але якім даюцца ацэнкі, пра якіх вядуцца часам гарачыя спрэчкі, пра якіх проста гутараць — цар Мікалай II, царыца з дзецьмі, Распуцін, Іаан Кранштацкі і многія іншыя.

Дыялог, канечне ж, не адзіны сродак, які раскрывае душу чалавека, расказвае пра франтавое жыццё салдат. Магутнымі псіхалагічнымі сродкамі выступаюць у рамане Гніламёдава аўтарскі псіхааналіз, унутраны маналог, сны героя, партрэт, пейзаж, лісты дадому. Варта ўспомніць цудоўна выпісаную сцэну ранення галоўнага героя, яго ляжанне пад непрытульным небам на халодным снежным полі, яго думкі пра жыццё і смерць, яго адчуванні і перажыванні.

Такіх момантаў, пазначаных іскрынкамі вялікага таленту, таленту псіхолага-чалавеказнаўцы, у раманах сучаснага беларускага аўтара вельмі многа. Цікава было б паказаць адметнае і агульнае ў паказе Першай сусветнай вайны Гніламёдава і Гарэцкага, зрабіўшы разгорнутае параўнанне адлюстравання падзей і асоб у падобных сцэнах і сітуацыях. Але гэта тэма асобнага даследавання.

Карціна ўнутранага жыцця чалавека ў Гніламёдава, пісьменніка эпічнага складу таленту, ствараецца ў ваенных сцэнах часцей за ўсё з дапамогай ускоснай формы псіхалагічнага адлюстравання — праз фіксацыю знешніх праяўленняў унутранага стану, з дапамогай сумарна-вызначальнай формы псіхалагічнага аналізу. Глыбокай распрацоўцы ўнутранага свету герояў, як мы ўжо адзначалі, у асноўным служаць дыялогі.

Леў Талстой адзначаў, што галоўную цікавасць складае характар аўтара, які выражаецца ў сачыненні. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што ў мастацкім творы самым важным і каштоўным з’яўляецца выразнасць і вызначанасць аўтарскай пазіцыі, яго ўласныя адносіны да жыцця. У аўтара гістарычнай эпапеі пра жыццё «заходнікаў» Уладзіміра Гніламёдава свая гістарычная канцэпцыя, сваё разуменне асноўнага сэнсу і пафасу першай трэці XX стагоддзя, псіхалогіі эпохі.

## Літаратура

1. Гарэцкі, М. Творы / М. Гарэцкі. — Мінск: Маст. літ., 1995. — 446 с.
2. Гніламёдаў, У. В. Расія / У. В. Гніламёдаў. — Мінск, 2007. — 672 с.

Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# Мастацкая інтэрпрэтацыя гістарычных рэалій Першай сусветнай вайны ў рамане Уладзіміра Гніламёдава «Расія»

У сучаснай беларускай прозе запатрабаванай выступае ваенная тэма. Напрыканцы XX стагоддзя мастацкае пераасэнсаванне атрымалі падзеі і з'явы Вялікай Айчыннай вайны. Думаецца, апавяданні Алеся Кажадуба «Даўгі нашы», «Пастаялец», Ірыны Жарнасек «Стэпка», Хрысціны Лялько «Цыба», Сцяпана Сяргея «Хутар», «Першая ахвяра» з'яўляюцца ўжо не столькі ваеннай, колькі гістарычнай прозай. Аўтары выкарыстоўваюць сведчанні ўдзельнікаў ваенных падзей, але непасрэдна для іх ужо існуе дыстанцыя ў часе, яны не належаць да прадстаўнікоў тых пакаленняў, якія або ўдзельнічалі ў вайне, або перажылі яе ў падлеткавым ці дзіцячым узросце. Такім чынам новая проза пра Вялікую Айчынную вайну арганічна ўваходзіць у рэчышча гістарычнага прыгожага пісьменства і адкрывае новыя эстэтычныя варыянты для мастацкага асэнсавання мінулага. Тэма Першай сусветнай вайны прадстаўлена ў беларускай літаратуры колькасна нешматлікімі творамі. Максім Гарэцкі і Кузьма Чорны выступілі аўтарамі знакамітых твораў ваеннай тэматыкі ў іх традыцыйным разуменні. Мастацкая інтэрпрэтацыя Першай сусветнай вайны з пазіцыі аддаленасці часу дазваляе па-новаму раскрыць змест гэтай значнай гістарычнай падзеі на палатне нацыянальнага мінулага беларусаў.

У рамане «Расія» Уладзіміра Гніламёдава асэнсоўваюцца шматлікія гістарычныя падзеі напярэдадні і падчас Першай сусветнай вайны, разглядаецца нацыянальны і еўрапейскі гістарычны працэс у сукупнасці яго шматгранных складнікаў. Пісьменнік працягвае на фоне значных гістарычных зрухаў таго часу ўвасабленне сямейнай гісторыі, якую распачаў у творы «Уліс з Прускі». Прадставіўшы мастацкую інтэрпрэтацыю такой значнай у мінулым беларусаў з'явы, як эміграцыя ў ЗША на памежжы XIX—XX стагоддзяў, ён звяртаецца да асэнсавання лёсавырашальных для нацыі падзей першай трэці XX стагоддзя.

Увасабляючы бежанства як тыповую з'яву для Першай сусветнай вайны, пісьменнік у цэлым паказвае яе страты і цяжкія наступствы на прыкладзе сямейнай гісторыі. Так, у нялёгкай дарозе да новага месца жыхарства памірае дзед Кірыла, займаючыся нязвыклай для вяскоўцаў працай на чыгунцы, трагічна гіне сястра Лявона — Тоня, у нястачах і голадзе, так і не дачакаўшыся вяртання дадому, памірае маці. Сам жа галоўны герой спазнаў цяжкую долю салдата, быў паранены і доўга вяртаўся да пакінутай сям'і. Пісьменнік выкарыстоўвае сюжэтаўтваральны, як і ў папярэднім рамане, матыў падарожжа, і праз сузіранне Лявона — сапраўднага Уліса з Прускі — шырокамаштабна адлюстроўвае тагачасную рэчаіснасць. Такім чынам гранічна выразна выяўлены антыгуманістычны змест ваенных дзеянняў, цяжкія наступствы якіх закранулі і вёску Запалоннае ў рускай глыбінцы, дзе сям'я Кужалёў разам з іншымі пruskаўцамі знаходзіцца ў бежанстве. Пісьменнік праводзіць мэтаскіраванае мастацкае даследаванне праяў нацыянальнага характару ў надзвычайных грамадска-сацыяльных абставінах. У найбольш складаных жыццёвых перыпетыях выхадцы з-пад Брэста дэманструюць такія адметныя рысы, як спагадлівасць, цярплівасць, гатоўнасць дапамагчы іншым.

У рамане выкарыстоўваецца шэраг мастацкіх сродкаў, уласцівых жанру гістарычнай прозы. Аўтар на працягу твора прасочвае змены і ў грамадска-палітычным жыцці Еўропы, якія хоць і не становяцца ідэйна-мастацкім цэнтрам аповеду, аднак паслядоўна перадаюць атмасферу таго часу: «Сапраўды, як аказалася, саюзная Францыя апынулася ў цяжкім становішчы. Немцы кінуліся на яе праз Бельгію. Бельгійцы аказалі, трэба адзначыць, гераічнае супраціўленне, але ўстаяць супраць такой аграмаднай і добра ўзброенай арміі не маглі. Не ўстаялі і французскія войскі — вымушаны былі адступіць у глыб краіны — фронт набли-

зіўся амаль што пад самы Парыж» [1, с. 89]. Па-мастацку выяўляецца аўтарам каларытнае ўспрыманне прускаўцамі вядомых дзяржаўных асоб, іх учынкаў. Так, разважаючы, якія прычыны спарадзілі вайну, вяскоўцы не могуць знайсці адказу: «Не было адказу і ў Кастантага — прускаўскага ўрадніка, чалавека бывалага, пісьменнага, дасведчанага, які не роўня простым вяскоўцам, знаўся з вялікім начальствам воласці і нават губерні.

— Ніколі б не падумаў, — прызнаўся ён, — нядаўна ж зусім Вільгельм з нашым царом у Белавежскай пушчы на зуброў палявалі разам, а цяпер… — Кастанты трос сваім ёмкім целам і лыпаў вачыма» [1, с. 86]. Аўтар не звяртаецца да непасрэднага ўвасаблення вядомых гістарычных асоб, аднак па-мастацку аналізуе іх вобразы, створаныя народным уяўленнем.

Дэталёва раскрываецца гістарычны фон, на якім пісьменнік прасочвае самыя значныя ў жыцці вяскоўцаў падзеі. Калі ў сярэдзіне ліпеня 1915 года пачынаецца агульная падрыхтоўка да эвакуацыі, прускаўцам здаецца, што яны пакідаюць цэнтр свету і адпраўляюцца на яго ўскраіну: «Свет пазбаўляўся пэўнасці і пастаянства, раптоўна парушаўся заведзены трыб жыцця. З'явілася новае слова — бежанцы. Яно адлюстроўвала новы стан людзей. Чалавек не заўважае таго, як ён становіцца іншым» [1, с. 93]. Падарожнікаў не пакідаюць трывожныя хваляванні, за адступаючай рускай арміяй рухаецца нямецкая, а наперадзе ўсіх аказваюцца бежанцы.

Праз сузіранне Лявона Кужаля паказваюцца і непасрэдна ваенныя дзеянні, перадаецца іх настрой: «Гэта і была перадавая — уся перакапаная траншэямі, хадамі зносін, бліндажамі. У траншэях праз кожныя дзесяць сажняў выемкі для камандзіраў. Перад акопамі — скруткі калючага дроту. Некалькі ліній. У немцаў — таксама. Праціўніка тут называлі: "ён". "Ён" таксама акапаўся» [1, с. 257]. Пісьменнік псіхалагічна глыбока раскрывае стан чалавека на так званай пазіцыйнай вайне, калі доўга не распачынаецца агульнае наступленне, а варагуючыя бакі пераважна страляюць і зрэдку ходзяць у атакі. Смерць чакае салдата паўсюль, ад чаго «людзі зашыліся ў зямлю, у снег, у бліндажы, пакінуўшы наверсе толькі варту. Даймала не столькі фізічная, колькі нейкая больш глыбокая, нутраная стомленасць, якая напаўняла чалавека нерухомасцю і раўнадушшам да ўсяго навакольнага» [1, с. 271]. Праўда ваеннага жыцця выяўляе ідэйна-мастацкі змест аповеду. Аўтар такім чынам пераканаўча сцвярджае, што вайна з'яўляецца вялікім прыніжэннем для чалавека.

Спецыфічным мастацкім прыёмам выступае прадстаўленне ў творы дакументаў і дзённікавых запісаў. Гэта так званыя «прашэнні», якія пішуць бежанцы, загады мясцовай улады, што ў цэлым паказваюць тэндэнцыі таго часу. Дзённікавыя сведчанні раскрываюць характар чалавека той эпохі. Вядзе ўласны дзённік запалонавец Міша Касякін, які пастаянна чытае газету «Правда». Ён імкнецца ўзяць на ўзбраенне вопыт вядомых рэвалюцыянераў, захапляецца Леніным і Троцкім, з недаверам ставіцца да Максіма Горкага, паколькі пісьменнік крытычна ацэньвае заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Як вынікае з разважанняў героя, прыходзіць час не толькі для новых ідэалагічных, але і для маральна-этычных прынцыпаў. Паказам рэвалюцыйна свядомых асоб, створаных аўтарскім уяўленнем на аснове тыпізацыі, Уладзімір Гніламёдаў працягвае мастацкую традыцыю рамана Івана Шамякіна «Петраград — Брэст». Творы тыпалагічна збліжае аб'яднанне дакументальнага і мастацкага планаў, устаноўкі пісьменнікаў на перадачу складанай палітры гістарычнай рэчаіснасці. Аднак сацыякультурная атмасфера часу не дазволіла Івану Шамякіну ўзнавіць падзеі ў поўным аб'ёме, пераадолець «інерцыю жанравай формы» (тэрмін Н. Л. Лейдэрмана) [2, с. 12].

Багатае адлюстраванне побытавых дэталяў узбагачае мастацкі гістарызм твора. У патрыярхальнай рускай вёсцы жывуць далёкія нашчадкі беглых разінцаў і пугачоўцаў, якіх вызначае непакорлівы характар. Яны «шырока гуляюць» народныя святы, у тым ліку Масленіцу: «У буднія дні запалонаўцы жылі чакан-

нем свят і любілі, трэба сказаць, пагуляць. Патрэба расслабіцца жыла ў іх душы, у самой чалавечай прыродзе <…>. Прускаўцы ажно здзіўляліся, назіраючы за тым, як запалонаўцы пяклі цэлыя стопкі бліноў, аблівалі іх маслам, смятанай, кіслым малаком — хто чым мог. Па Запалоннаму лунаў блінны дух» [1, с. 154]. Этнаграфічны план завострана выяўляе ідэю «паязджанства»: імкненне вярнуцца да роднай хаты з цягам часу становіцца вызначальным для прускаўцаў, якія ўсведамляюць пэўную адрознасць запалонаўскіх звычаяў ад сваіх уласных.

Такім чынам, Уладзімір Гніламёдаў прадставіў паглыбленую мастацкую інтэрпрэтацыю падзей Першай сусветнай вайны і яе наступстваў для гістарычнага лёсу беларусаў, раскрыў праявы нацыянальнага характару ў надзвычайных умовах. Арыгінальнае жанрава-стылёвае спалучэнне гістарычнай прозы і сямейнай хронікі абумоўлівае адметнасць твора.

### Літаратура

1. Гніламёдаў, У. В. Расія / У. В. Гніламёдаў. — Мінск, 2007. — 672 с.

2. Навасельцава, Г. В. Мастацкая інтэрпрэтацыя гісторыі ў творчасці беларускіх празаікаў XX стагоддзя : аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.01.01 / Г. В. Навасельцава; Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. — Мінск, 2012. — 24 с.

Тамара ТАРАСАВА

## Вобраз беларуса-бежанца Першай сусветнай вайны ў творах Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Гніламёдава

Сучасная гістарычная думка прызнае той факт, што тэма бежанства пры вялікай колькасці дакументальных крыніц не атрымала ўсебаковага і грунтоўнага вывучэння, а многія яе аспекты ўвогуле не закраналіся. Праблема не знайшла належнага адлюстравання і ў мастацкай літаратуры, бо падзеі рэвалюцыі 1917 г. і сацыялістычнага будаўніцтва сталі больш прыярытэтнымі для савецкага пісьменніка, чым лёс бежанца царскай Расіі. Беларускія пісьменнікі таксама не адважваліся шырока асвятляць гэтую тэму: гісторыя выдання твораў Якуба Коласа і Максіма Гарэцкага засведчыла небяспечнасць такога звароту. Але тым не менш праблема застаецца надзвычай актуальнай для беларускага народа, які, апынуўшыся ў прыфрантавой зоне, паспытаў на сабе трагічны лёс бежанца.

Безумоўна, прыгожае пісьменства найперш цікавяць чалавеказнаўчыя аспекты акрэсленай тэмы, і ў трактоўцы паняцця *вобраз* мы будзем абапірацца на эстэтычную прыроду мастацтва, у цэнтры якога заўсёды знаходзіцца чалавек з яго клопатамі і турботамі.

Якуб Колас і Максім Гарэцкі былі сведкамі катастрафічных падзей, выкліканых Першай сусветнай вайной у лёсе беларусаў. Пісьменнікі звярнуліся да найбольш трагічных старонак жыцця бежанцаў на чужыне, якія сталі сапраўдным выпрабаваннем на чалавечнасць, хрысціянскасць, духоўнасць.

Коласава апавяданне «Туды, на захад!» (1926) перадае светаадчуванне беларусаў-бежанцаў у паслярэвалюцыйны час на Куршчыне, дзе зусім нядаўна ішлі баі паміж дзянікінцамі і чырвонаармейцамі. Гістарычныя дакументы, мемуарныя ўспаміны саміх бежанцаў сведчаць, што «…в связи с обременительностью постоя и ростом расходов по “содержанию” подселенных людей местные жители стали относиться к беженцам как к тяжелой обузе, стараясь избавиться от них любыми способами. <...> Ослабление власти после Февраля 1917 г. привело к нарастанию подобных конфликтов. Летом 1917 г. местные беженские органы докладывали в

Особое совещание по устройству беженцев, например, что в сельской местности Самарской губернии, где сосредоточивалось свыше 142 тыс. беженцев, случился “значительный недород хлебов.., отчего повсеместно наблюдается стремление местного населения избавиться от беженцев и на этой почве происходят даже эксцессы”» [5].

Якуб Колас падрабязна апісвае незайздроснае матэрыяльнае становішча як мясцовага люду на Куршчыне, так і перасяленцаў з Беларусі. Галеча, разруха, запусценне пануюць у наваколлі, што не спрыяе шчырым, добразычлівым, адкрытым чалавечым узаемаадносінам. Сям’я Марысі з Гародзеншчыны болей за пяць гадоў пакутуе на чужыне. На жаночых плячах (муж памёр на Куршчыне) нямоглыя старыя і дзеці, на дзяржаўную дапамогу бежанцам яна не спадзяецца, марыць хутчэй вярнуцца дадому, дзе пакінула добрую гаспадарку і ўтульную хату.

Не ў лепшым становішчы аказалася і сям’я беларускага настаўніка Астапа Лугавіка. Якуб Колас падкрэслівае самаадданасць Лугавікоў настаўніцкай справе, іх вынаходніцкую працаздольнасць у самых неспрыяльных умовах: «Холадна і сыра ў школе. …Няма як разгарнуць работу ў школе: ні кніг, ні паперы, ні алоўка. <…> Але Ірына Данілаўна не падае духам. Класная дошка — на шчасце, яна ёсць тут — крыніца навукі і мудрасці. Друкуе і піша на дошцы Ірына. Вершы па памяці запісвае, а апавяданні ў прозе сама з дзяцьмі складае. Цікавая, новая, творчая работа!» [4, с. 150]. Астап Лугавік хоча «залацінцам школу адбудаваць, ды так адбудаваць, каб яны помнілі нас» [4, с. 159].

Атмасфера недаверу, падазронасці з боку мясцовых улады і жыхароў да бежанцаў не спрыяе душэўнаму камфорту, цеплыні, аддаляе людзей: «…Недаверлівыя залацінцы другое мелі ў думках: каб не прыбраў часамі гэты інструктар і сад, і агарод, і сенакос, што ў садзе і за садам аж пад самае возера ідзе» [4, с. 148]. Невыпадкова Марыся ў роспачы прамаўляе: «— Хіба ж гэта людзі? — з гарчэчаю ў голасе кажа Марыся. <…> — Ой, жорсткі народ! Каб такі народ і на свет не радзіўся, — крыўда Марысю забірае» [4, с. 157].

Канфрантацыя паміж бежанцамі і залацінцамі ўзмацняецца, калі апошнія бачаць дагледжаны агарод настаўніка, што выклікае непрыхаваную злую зайздрасць мясцовых. Няўтульнасць, голад і холад, прыродны і найперш чалавечы, гоніць думкі беларусаў дадому, на захад, на Гродзеншчыну. Якуб Колас у апавяданні «Туды, на захад!» намаляваў праўдзівую карціну гаротнага жыцця беларусаў-бежанцаў у паслярэвалюцыйнай Расіі. Праблемы бежанства, бяздомнасці, разгубленасці, цьмяных перспектыў становяцца вострай сацыяльна-псіхалагічнай праблемай тагачаснага грамадства.

Бежанец Алесь Пісарэвіч Максіма Гарэцкага (п’еса «Жартаўлівы Пісарэвіч», 1925) моцны духам, трывушчы пакутнік. Яго сям’я гнана вайной далёка на ўсход, дзе пакутуе ад голаду, холаду, здзекаў мясцовых мяшчан, якія спрабуюць забраць у гаротнікаў апошні кавалак хлеба. Пісарэвіч не губляе аптымізму нават у самых жорсткіх умовах: хворы бадзяецца па чужых каморках, дзеці-хлопчыкі ў прытулку, жонка па восем гадзін стаіць у чарзе па паўфунта хлеба. Карцінам пакутніцкага існавання бежанцаў Пісарэвічаў дысанансам выступаюць жарты Алеся, дасціпныя, іранічна-камічныя, з’едлівыя і часам нават бязлітасныя. На адмову папа́ здаць пакойчык інтэлігентнай асобе Пісарэвіч заўважае: «Э, бацюшка, якая там у жонкі з мужам матэматыка: адно цела і адзін дух. Лічыце за адну інтэлігентную асобу маю жонку, а я буду як прэмія, бацюшка…» [1, с. 138].

Тонкі розум Алеся Пісарэвіча натуральна ўспрымае сябе ў ролі штукара-камедыянта:

«Мяшчанка. Вы ж мяне павесяліце, пан Пісарэвіч. Як гэта вы казалі, што ў вас не так, як у нас — не на дрэве, а на зямлі ігрушкі растуць… Хі-хі!

Пісарэвіч. А так, так, у нас там і зімы ніколі не бывае.

Мяшчанка. А матачкі! Ото няшчасце! А як жа ў вас маслянка? — без каўзяля?

Пісарэвіч. Чаму — без каўзяля? Го-го! Мы сабе з Масквы снег выпісваем, а з Варшавы саначкі. Так і пакатаемся, і паваляемся… го-го!» [1, с. 140—141]. Герой драмы М. Гарэцкага, нават прадчуваючы свой канец, да апошняга застаецца мужчынам, гаспадаром, бацькам, адказным за тых, хто побач: «Не плач, Стася. Ну паедзем… Будзем гадаваць… Адзін Пісарэвіч памрэ, два Пісарэвічы вырастуць. Эт, нічога! Добра… усё добра будзе…» [1, с. 154].

Дадому сям'я бежанцаў Пісарэвічаў вяртаецца без бацькі, дзе яе, як і многіх іншых уцекачоў, чакаюць новыя выпрабаванні ўладай бальшавікоў, акупантаў немцаў, чэрствасцю суайчыннікаў, для якіх чалавек часам проста «чарвяк і блыха». Песімістычны аповед М. Гарэцкага пра жартаўлівага Пісарэвіча адэкватны маштабу трагедыі беларускага народа, гнанага Першай сусветнай вайной, выпрабаванага рэвалюцыяй, грамадзянскай вайной.

У мастацкім асэнсаванні Якуба Коласа і Максіма Гарэцкага праблема бежанства паказаная на самым трагічным яго этапе, пра які гісторыкі, мемуарысты пішуць: «В послеоктябрьской России враждебность местных жителей к эвакуированным усилилась, причем нередко при поощрении советских властей» [5].

Раман У. Гніламёдава «Расія» (2007) найперш акцэнтуе ўвагу чытача на ладзе жыцця вялікай старой патрыярхальнай заволжскай вёскі Запалонне Самарскай губерні: «…Людзі тут жылі буяныя, непакорлівыя — далёкія нашчадкі беглых разінцаў і пугачоўцаў. (Казалі нават, што тут, ля Запалоннага, ён, Сценька Разін, і клады свае пахаваў.) <…> У Запалонным некаторыя, не без падстаў, пачувалі сябе заможнымі, але большасць складалі серадглякі, хапала таксама і беднякоў» [2, с. 124].

Побыт мясцовых жыхароў, іх норавы, звычкі, традыцыі выклікаюць і здзіўленне, захапленне і павагу ў бежанцаў-прускаўцаў. Перасяленцы ўважліва да ўсяго прыглядаюцца, прыслухоўваюцца, ім даспадобы душэўная шчырасць мясцовага люду, што здзіўляе і глыбока кранае іх: «Увечары сышоўся народ — поўны астрог, і кожны нешта з сабою прынёс, — боханы белага пшанічнага хлеба, дабрэнныя кавалкі мяса і сала, муку, крупы. Гэта было вельмі дарэчы: прыпасы ў прускаўцаў амаль скончыліся, і ўжо добра смактала пад лыжачкай» [2, с. 120]. Новыя ўражанні міжволі прымушаюць беларусаў суадносіць сваё прускаўскае жыццё з заволжскім, часам нават складваецца ўражанне, што жменька разгубленых беларусаў-бежанцаў вось-вось згубіцца на прасторах вялікай краіны: «Затым пачаўся стэп, які дзівіў і насцярожваў сваёй снежнай бязмежнасцю і бязлюддзем. Здавалася, гэтай роўнядзі канца-краю не будзе. У Прусцы далягляд з усіх бакоў замыкаў лес, а тут стэпавы прастор. Стэп — як вокам акінуць» [2, с. 116]. Але падрабязна паказаны аўтарам рамана лад жыцця сям'і Кужалёў сведчыць, як бежанцы мяняюць норавы дому Ільі Платонава, якому вельмі падабаюцца адносіны да працы маладога Лявона, яго стрыманая годнасць, нешматслоўнасць, цягавітасць. Маці Марыля з дочкамі занятыя хатнімі справамі, якіх у заможным доме Платонава досыць.

Вобраз Лявона Кужаля пісьменнік падае аб'ёмна: ён і ў працы, на святах, і ў лазні, не абмінае аўтар і душэўных пакут хлопца (трагічна ў росквіце сіл загінула любімая жанчына Ганна, каханне да замужняй Фёклы). Канцэптуальна паказаны У. Гніламёдавым не па ўзросце глыбокі духоўны роздум Лявона, які сем гадоў працаваў у Амерыцы, ваяваў на фронце, выжываў з сям'ёй у бежанстве. «…Колькі ён жыве, увесь час знаходзіцца ў дарозе. <…> А што такое, зрэшты, жыццё як не дарога?» [2, с. 347] — разважае хлопец.

Раманны жанр твора дае магчымасць У. Гніламёдаву эпічна паказаць розныя перыяды жыцця беларусаў-бежанцаў у царскай Расіі: панарамна раскрытыя першасныя ўражанні прускаўцаў у Запалонні. Гісторыкі пра гэты перыяд пішуць як пра сацыяльна ўладкаваны: «…Россия оказала большое впечатление на белорусских крестьян. Удивляла их в первую очередь приветливость и щед-

рость россиян. Беженцев одаривали они едой, одеждой, принимали на квартиры. Белорусских крестьян удивлял также уклад и быт тамошних людей, урожайность полей. Много кто решил тогда искать там постоянное местожительство. Большинство белорусов нашло себе работу, а их дети стали учиться в местных школах» [3].

Гасціннасць мясцовых жыхароў кранала беларусаў, але не пазбаўляла трывожных думак пра родны край: «У Запалонным прыхільна паставіліся да бежанцаў, якія спакваля асвойваліся на новым месцы. Патроху прыжываліся тут і Кужалі. Трэба сказаць, што ў адносінах да прыбышоў хапала цеплыні і ўвагі. Пачалі атрымліваць дапамогу ад бежанскага камітэта. Адпускалі хлеб, крупы, цукар. Але сваё, прускаўскае, не выходзіла з галавы. Што там дома? Ці хутка пагоняць таго немца?» [2, с. 130].

У рамане У. Гніламёдава спалучаны коласаўскі эпічны размах у паказе жыццёвых рэалій вёскі Запалонне з напружаным душэўным і духоўным роздумам Гарэцкага-аналітыка ў абмалёўцы франтавога побыту Лявона Кужаля, трагічных старонак (смерць Тоні і маці) жыцця яго сям'і ў бежанстве і падчас вяртання дадому: «Калі? Калі? Калі нарэшце паедзем? Неўсвядомлена, але ўсё мацней адчувалі яны ў сабе гэты атавістычны поклiч крыві, які жыў у іх, нягледзячы ні на што. Пусціць карэнні на новым месцы было звыш іх сіл. Экзістэнцыяльная сутнасць светаўспрымання прускаўцаў па-ранейшаму вызначалася нетрываласцю іх існавання, безабароннасцю перад небяспекай, прагай спакою і парадку» [2, с. 555].

Такім чынам, мастацкі вобраз беларуса-бежанца Першай сусветнай вайны ў творах Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Гніламёдава прадстаўлены як жывы і цэласны арганізм, здольны ўвасабляць поўную, абагуленую карціну быцця нацыі: гэта і сацыяльна-псіхалагічны партрэт бежанства, маштаб народнай трагедыі, ахвярамі якой найперш станавіліся жанчыны, дзеці і нямоглыя старыя, і праблема нацыянальнай адметнасці, асноўнай прыкметай якой найперш станавіліся мова і нацыянальныя традыцыі.

## Літаратура

1. Гарэцкі, М. Творы : Дзве душы : аповесць ; Апавяданні ; Жартаўлівы Пісарэвіч : п'еса ; Літаратурная крытыка і публіцыстыка ; Лісты / М. Гарэцкі ; уклад. і камент. Т. С. Голуб. — Мінск : Маст. літ., 1990. — 629 с.

2. Гніламёдаў, У. В. Расія / У. В. Гніламёдаў. — Мінск, 2007. — 672 с.

3. Заневский, С. В. Белорусские беженцы 1915 г. (по данным мемуарных источников) / С. В. Заневский. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.confcontact.com/2012_06_14/is2_zanevsky.htm. — Дата доступа: 01.10.2014.

4. Колас, Я. Збор твораў : у 20 т. / Я. Колас ; рэдкал.: М. У. Мясніковіч [і інш.] ; прадм. М. Мушынскага ; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск : Беларус. навука, 2007—2012. — Т. 6 : Апавяданні ; Раннія празаічныя творы ; Пераклады / рэд.: С. А. Андраюк, Т. С. Голуб ; падрыхт. тэкстаў і камент.: К. А. Казыра, В. У. Карачун, А. І. Шамякінай. — 2009. — 574 с.

5. Курцев, А. Н. Беженцы Первой мировой войны в России / А. Н. Курцев. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://historystudies.org /2012/07/kurcev-a-n-bezhency-pervoj-mirovoj-vojny-v-rossii/. — Дата доступа: 01.10.2014.



# МАЯ АКАДЭМІЯ

*Напярэдадні свайго юбілею Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў здзівіла ўсіх аматараў культуры адразу некалькімі вельмі арыгінальнымі творчымі праектамі. Адзін з іх аўтары часткова прадстаўляюць на старонках «Полымя». Калі мы сёння гаворым пра віртуальнасць вобразаў, маем на ўвазе найперш прасторавую віртуальнасць. Але ж існуе і віртуальнасць у часе. Будучыя мастацтвазнаўцы пад кіраўніцтвам кандыдата мастацтвазнаўства загадчыцы кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Марыі Карпянковай запісалі ўспаміны былых выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў розных гадоў. А будучыя мастакі вобразна «агучылі», увасобілі гэтыя ўспаміны ў сваіх творах.*

*Ні для каго не сакрэт, што нашыя сучаснікі лягчэй успрымаюць не вербальную, а візуальную інфармацыю. Але ў дадзеным выпадку вобразы, якія прэзентавалі ў сваіх творах маладыя мастакі, зрабіліся адметным ключом да запісаных і змешчаных побач успамінаў. На выставе «Дыярушы» можна было не толькі глядзець, але і чытаць... Вельмі крэатыўны і сучасны падыход да падачы інфармацыі.*

*Пытанні, якія задавалі студэнты I, II, IV курсаў мастацкага і тэатральнага факультэтаў, будучыя мастацтвазнаўцы Алена Русакевіч, Ксенія Куніца, Тарас Кучынскі-Паравы, Ганна Біжык, Кацярына Крамарэнка, Настасся Фанарыкава, Марына Бабко, Юлія Пешына, Аляксандра Сацукевіч, Настасся Васілевіч, Таццяна Януковіч, Настасся Сямёнава, Вераніка Шапашнікава, былі самыя розныя, часам нечаканыя. Напрыклад: з якім пахам і колерам асацыіруецца Акадэмія? Адказы на іх толькі ўзмацнялі адчуванне рэальнасці. Учытайцеся. Праз маналогі, праз вобразы-ключы да ўспамінаў, прапанаваныя сённяшнімі студэнтамі-мастакамі, час набывае прастору, набывае колер, водар, пачынае гучаць, паўстае, як жывы...*

***Галіна БАГДАНАВА***

Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў заснаваная ў 1945 годзе ў Мінску як Беларускі тэатральны інстытут. З 1953 г. — Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. З 1991 г. — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў. Сёння ў структуру Акадэміі ўваходзяць пяць факультэтаў: тэатральны, мастацкі, дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, экранных мастацтваў, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў.

## Саракавыя

# ГАЛОЎНАЕ — ЛЮБІЦЬ ЛЮДЗЕЙ

**_Эльвіра ГЕРАСІМОВІЧ,_**

*тэатразнаўца, выпускніца Беларускага тэатральнага інстытута (1949 г.), спецыяльнасць «акцёр драматычнага тэатра», рэктар Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў 1968—1984 гг., прафесар-кансультант кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.*

Акадэмія і водар… Цікавае пытанне. Значыць так: калі ў галоўным корпусе направа пойдзеш, там змешаны водар касметыкі — тэатральны факультэт: там студэнткі, яны амаль усе карыстаюцца парфумай. А калі налева пойдзеш, то водар фарбаў — ні з чым не зблытаеш — мастакі.

Што ж датычыць колераў… Направа — нешта актыўнае, але не вельмі яркае, а налева — мяккія таны. І яшчэ мне згадваюцца гукі. З правага боку — шум. З левага — цішыня.

Гэта як два крылы — з правага боку — тэатральны факультэт, з левага — мастацкі.

Вы пытаецеся, з якою геаметрычнай фігурай асацыіруецца ў мяне Акадэмія… Трохкутнік. Бадай, і тэатралы, і мастакі — трохкутнікі. Чаму? Таму што шмат вуглоў і загадак і ў адных, і ў другіх. Не знойдзеш падыходу — уколешся.



*Дар’я Раманенка. «Мара ў позірку». Дыптых (фрагмент).*

Калі б я не паступіла ў тэатральны інстытут, я б, напэўна, займалася медыцынай. Але тут я набыла любімую спецыяльнасць. Усё маё далейшае жыццё было найперш аддадзена тэатральнай педагогіцы, а потым ужо даследаванням і навуцы. Я шаснаццаць гадоў была рэктарам, але ніколі не кідала педагагічную працу, майстэрства акцёра.

Мы вучыліся адразу пасля вайны. Але сказаць, што нам тады складана было вучыцца, — не скажаш. Хлеб быў, алей быў, бульба была (яе саджалі паўсюль, дзе толькі можна пасадзіць), цыбуля зялёная была. Гэта самая галоўная ежа. Да таго ж, мы сістэматычна атрымлівалі ад прафсаюзаў талоны на... галёшы. І прадавалі іх на таўкучцы. На гэтыя грошы нешта куплялі. Мы часцей харчаваліся ўсе разам, усім курсам.

Курс у нас быў вельмі дружны. Заўсёды адно пра аднаго ўсё ведалі, імкнуліся падтрымліваць. Нам цяжка было б вучыцца, каб мы не сябравалі. У нашай справе шмат што залежыць ад партнёра. Вядома, спрачаліся, здаралася, што і не размаўлялі нейкі час. А пасля ўсё наладжвалася.

Зранку я любіла паспаць, таму што клаліся мы вельмі позна. А любімы час — гэта дзень і вечар, калі мы ўсе былі разам. Калі мы займаліся. Але не тады, калі мы сядзелі на лекцыях і глядзелі лектару ў рот, гэтага мы таксама не любілі, як і сённяшнія студэнты. Я кажу пра акцёрскае майстэрства. І потым у нас былі шыкоўныя капуснікі! У тыя дні, калі былі нашыя капуснікі, міліцэйскі нарад стаяў каля інстытута, таму што ўвесь горад імкнуўся прыйсці.

Не памятаю такога часу, каб у нашай навучальнай установы не было праблем з памяшканнем. Хіба што адразу пасля таго, як скончылася рэканструкцыя цяперашняга галоўнага корпуса ў 1977 годзе, ды і тое нядоўга: інстытут разрастаўся. А ў тыя далёкія гады, калі толькі адчыніўся інстытут, мы займаліся ў памяшканні Тэатра оперы і балета. Унізе былі буфет і кухня. Калі была вольная зала, мы



*Дар'я Раманенка. «Мара ў позірку». Дыптых (фрагмент).*

беглі ў залу. Калі была вольная кухня — беглі на кухню.

Вельмі любілі розныя розыгрышы. На вуліцы Янкі Купалы быў драўляны мост. І аднойчы Ілля Курган і адна наша студэнтка пайшлі туды ды разыгралі сцэнку, як сварацца муж і жонка. А мы ўсе пачалі ім падыгрываць — угаворвалі дзяўчыну, каб яна не кідалася з моста ў раку. Людзі вакол сабраліся. Паверылі. Яшчэ адзін выпадак. Домік цёткі адной са студэнтак стаяў у парку Горкага. Там у яе былі градкі з цыбуляй. І вось аднойчы мы нешта там адзначалі і на закуску парвалі ўсю гэтую цыбулю. А ў скверы, што каля Опернага тэатра (ён пасаджаны пасля вайны), ёсць і нашыя дрэвы…

Запомніліся выезды на бульбу ў верасні. Гаспадаркі прымалі нас з задавальненнем, нават спрачаліся з-за таго, куды паедуць нашыя. Бо і працавалі мы добра. І канцэрты давалі. Усё ўмелі. Усё ўмець у нашай прафесіі — гэта быць вельмі назіральным і па-добраму цікаўным. І любіць людзей. Гэта самае галоўнае і самае цяжкае. І ад людзей усё чэрпаць. Мы ж не нараджаемся геніямі, гэта ўсё размовы. Галоўнае — любіць людзей, з увагаю ставіцца адно да аднаго. І памятаць, што ў жыцці за ўсё трэба плаціць. Атрымаў добрае — аддай добрае.

А як не згадаць дыпломныя спектаклі! Па-першае, нам далі пляцоўку тэатра імя Янкі Купалы. Былі сапраўдныя афішы, прадаваліся білеты, нам дарылі кветкі… Праўда, частку букетаў свае ж сябры прыносілі. А на спектаклях чаго ў нас толькі ні бывала! На адным спектаклі я ніжнюю спадніцу згубіла, на другім мы перад пачаткам завязалі Віцю Карпілаву, які выконваў ролю сакратара гаркома партыі, хусцінку, каб не тырчэлі валасы з парыка, а ён, думаючы, што гледачоў яшчэ няма, рассунуў заднік і вызірнуў у залу. А там ужо былі людзі… Уяўляеце, сакратар гаркома ў хусцінцы! А яшчэ мы ездзілі на лесанарыхтоўкі, ездзілі з гастролямі. Нам далі грузавік, і мы вандравалі па ўсёй Беларусі, паказвалі свае спектаклі.

Публіка прымала нас заўжды вельмі горача. Людзі ж настолькі згаладаліся, настолькі былі радыя — гэта ж 1949 год! Усяго 4 гады прайшло з Дня Перамогі. Які настрой быў у галодных, няшчасных і ў той жа час самых шчаслівых людзей…

Галоўнае, што яднае ўсіх, хто звязаны з нашай Акадэміяй — гэта адданасць. Тут заўжды працавалі і працуюць людзі, адданыя сваёй справе. Менавіта гэта дапамагае Акадэміі выжываць і не толькі існаваць, але і развівацца. Многія нашыя выпускнікі розных гадоў цудоўна працуюць сёння ў Акадэміі, нягледзячы на тое, што, зарабляючы сваёю творчаю працай, могуць цудоўна пражыць без тых грошай, якія атрымліваюць у Акадэміі. Але ж яны працягваюць у педагогіцы справу сваіх настаўнікаў. Вось гэтай адданасцю пакаленняў сваёй alma mater і моцная нашая Акадэмія.

***Запісала Настасся ВАСІЛЕВІЧ.***

## Шасцідзясятыя

## НАШ ПЧАЛІНЫ ВУЛЕЙ

***Уладзімір МІШЧАНЧУК,***
*акцёр, выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1968 г.), спецыяльнасць «акцёр драматычнага тэатра і кіно», дэкан тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прафесар, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.*

Наша Акадэмія асацыіруецца ў мяне з пчаліным вулеем, дзе ў кожнай са спецыяльнасцей, спецыялізацый ёсць свая ніша. Як соты — усе пчолкі вылятаюць, бяруць з жыцця ўсё цікавае, збіраюць гэта ў адно.

Калі казаць пра тое, хто застаўся ў мяне ў памяці з часоў вучобы, то я не магу гаварыць пра кагосьці аднаго. Мне вельмі дарагія мае настаўнікі. Калі я паступаў першы раз, мне запомніўся, запаў у душу Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў, народны артыст Беларусі. Ён даў мне надзею на маю будучыню. Вядома ж, я не магу не згадаць Веру Паўлаўну Рэдліх, вучаніцу Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага, якая мяне таксама прыняла і стала «маёй першай настаўніцай». А яшчэ маім настаўнікам быў Аляксандр Іванавіч Бутакоў, выпускнік Акадэміі, у якога быў студэнцкі білет № 1. Яны мяне ўзялі на свой курс. Вера Паўлаўна Рэдліх і Аляксандр Іванавіч Бутакоў, гэтыя два чалавекі — мае мама і тата, што прыгрэлі, узялі да сябе і вялі чатыры гады да выпуску. Не магу не згадаць і Тамару Сяргееўну Узунаву, адну з вядучых балерын Вялікага тэатра, якая вучыла мяне танцу, Арона Маркавіча Першыца, які вучыў сцэнічнаму бою. Я нават дасюль памятаю пах поту, пах спартыўнай залы, у якой мы займаліся і танцамі, і сцэнічным рухам. А яшчэ памятаю нашую Нінэль Іванаўну, што выкладала французскую мову. Яна была ў нас такая… вельмі прыгожая, гэткая напраўду французская прыгажосць у яе была, незвычайная. Нінэль Іванаўна вучыла нас французскай мове, а мы ад яе выкручваліся. Яна была вельмі патрабавальнай і прынцыповай.

Многія выкладчыкі былі для студэнтаў, як кажуць, жывымі легендамі. Вось, напрыклад, Аркадзь Якаўлевіч Скір, чытае лекцыю па замежнай літаратуры: «Гамер. Іліяда. У сваім творы Гамер апісвае…» Звініць званок. Мы ідзем на перапынак. Вяртаемся, а Аркадзь Якаўлевіч працягвае: «… апісвае карціну…» і працягвае далей. І так было пастаянна. На якой літары спыніўся, з той ён і пачынае. А Няфёд Уладзімір Іванавіч — наш патрыярх. Ён чытаў нам гісторыю беларускага тэатра і беларускую тэатральную крытыку. У яго былі паперы, па якіх ён чытаў лекцыі, і ім было, напэўна, гадоў дваццаць. Яны ўжо пажаўцелі ад часу, струхнелі. А ў яго ўся гісторыя беларускага тэатра была ў гэтых паперках, якія ён напісаў у свой час і якія заўжды яму дапамагалі.

А што тычыцца тых, з кім вучыўся, аднакурснікаў, я памятаю ўсіх! Сашу Дзянісава, царства яму нябеснае, які памёр ужо… Пра яго ёсць перадача, фільм памяці Аляксандра Дзянісава. А са сваёю будучай жонкай — Людмілай Кучарэнка — я ўпершыню пазнаёміўся на ўступных экзаменах. Яна стала маёй зоркаю, што вызначае шлях, маім другім «я», маёй жонкай, маім сябрам, самым блізкім для мяне чалавекам на ўсё маё жыццё… 10 сакавіка гэтага года адзначылі 46 гадоў нашага сямейнага жыцця.



*Васіліса Хілько. «Без назвы».*

Усіх дзяўчат нашых памятаю, але многіх ужо няма, на жаль, у жывых… Як і Сашкі Дзянісава, няма ні Галі Бальчэўскай, ні Іры Гаркушы, ні Сашы Лабанка, ні Валодзі Шмакава, ні Віктара Пенкіна, ні Віталя Кастальцава… Царства ім нябеснае. Я назваў якраз тых, хто ўсё сваё жыццё аддаў нашаму тэатру, кінематографу.

Мы, калі вучыліся, працавалі цэлымі суткамі. Знаходзілі спосабы, каб застацца ў Інстытуце на ноч, — і працавалі. Самы любімы час — позні вечар і ноч. У інтэрнат нас не пускалі з-за таго, што мы затрымліваліся на рэпетыцыях. А мы праз вокны лезлі або начавалі ў тых, хто жыў у Мінску. Самы ж плённы час — ноч. А зранку ў нас, як правіла, стаялі дысцыпліны гуманітарнага цыклу. І мы, вядома ж, іх прапускалі. На нас сварыліся. Вось, усё, як і сёння! Гэта перадаецца з пакалення ў пакаленне. А на спецыяльныя дысцыпліны мы стараліся заўжды прыходзіць у час, рыхтаваліся.

Вы пытаецеся, ці пацвярджалі мы падчас вучобы выраз: «Мастак мусіць быць галодным»? Мы не пацвярджалі. Так яно было. Стыпендыі ж былі маленькія. Што да мяне, то на першым курсе я не атрымаў стыпендыю за тое, што здаў замежную літаратуру на тры балы. Наш выкладчык Аркадзь Якаўлевіч прынцыпова патрабаваў, каб мы чыталі толькі арыгіналы, а не па хрэстаматыі. А я «Гарганцюа і Пантагруэль» прачытаў у хрэстаматыі. Ён адразу гэта зразумеў і паставіў тройку. Дык вось, мае аднагрупнікі скідваліся мне па рублю. Адзінаццаць чалавек — адзінаццаць рублёў. Паўгода мяне кармілі… І яшчэ быў выпадак. Скончыліся ў мяне грошы. А да стыпендыі яшчэ далёка… Пайшоў у сталоўку (яе тады называлі «Бухенвальд») і на 15 капеек купіў сабе паесці. Хлеб быў бясплатны, гарчыца таксама. А я купіў суп без мяса, салат з капустай за тры капейкі, і гарнір — за шэсць капеек. Перакусіў я, выходжу са сталовай, і падыходзіць да мяне дзядзька, прыстойна так апрануты… Падыходзіць і кажа: «Пакажы сваю руку». Я пытаюся: «Навошта?» А ён зноў: «Пакажы сваю руку». Я працягваю яму сваю руку. А ён дастае з кішэні грошы — капейкі, рублі пакамечаныя, кладзе іх мне ў руку і зацiскае мой кулак. А пасля кажа: «А цяпер вярніся назад і паеш!» Я толькі і паспеў сказаць: «Дзякуй, але што вы робіце? Дзякуй…» Так і не ведаю, што гэта быў за чалавек. Але я тады быў самы шчаслівы на свеце…

Калі ў мяне не было стыпендыі, я хадзіў са сваімі сябрамі на вакзал цыстэрны з цэментам чысціць. Я быў самы маленькі, таму залазіў у дзірку на версе цыстэрны. Мне давалі вёдры, і я адтуль вычэрпваў цэмент і падаваў наверх сваім таварышам. Да раніцы мы чысцілі адну цыстэрну. Нам плацілі па пяць рублёў за кожную. І гэта на той час былі вялікія грошы. Мы маглі нават схадзіць у кіно, пачаставаць сваю дзяўчыну марожаным. А зранку ізноў на вучобу.

Атрымаўшы дыплом, паехаў у Гродна, куды паехала мая будучая жонка. І стаў дырэктарам тэатра. Тады — самым маладым дырэктарам тэатра ў Савецкім Саюзе. У 27 гадоў. Я выбіраўся і дэпутатам гарадскога савета.

А ўвогуле ў жыцці ў мяне склалася так, што я ўсё жыццё аддаваў, аддаю… яшчэ, думаю, Бог дасць сілы, магчымасць аддаваць… У тэатры, у якім служу, у Акадэміі. У маёй працоўнай кніжцы ўсяго два запісы. Першы — з Гродзенскага тэатра, дзе я быў артыстам і дырэктарам. І другі — мая Акадэмія, наш тэатральны факультэт, дзе я працую ўжо больш за трыццаць гадоў. Больш у мяне запісаў няма. Па сумяшчальніцтве я яшчэ працую ў Тэатры кінаакцёра, здымаюся ў кіно, на тэлебачанні, запісваюся на радыё. Увогуле, артыст жывы тым, што ён запатрабаваны. А калі супакояцца прадзюсары і рэжысёры, калі ўсё радзей і радзей будуць запрашаць, гэта значыць, што ўсё… жыццё заканчваецца.

Акцёрскае майстэрства вельмі часта выручала нас у жыцці. Калі мы былі студэнтамі, нам увесь час трэба было некуды ехаць. Тралейбусы, трамваі... А кантралёраў тады было мора. Падыходзіць да нас кантралёр, а мы робім выгляд, што не чуем. Ён нам: «Вашыя білеты!» І мы пачынаем паказваць на пальцах, што мы нямыя. Кантралёр нам: «А, вы глуханямыя! Прабачце-прабачце, праязджайце».

А яшчэ, з жонкай маёй будучай кудысьці спяшаліся, спазняліся. Галасуем, а машыны не спыняюцца. І я прапанаваў зрабіць з курткі і хусткі скрутак, быццам у нас дзіця малое. І адразу машына спынілася. Колькі ехалі, жонка мая будучая рабіла выгляд, што дзіця супакойвае. Вось вам і вера ў прапанаваныя абставіны.

Паваротным для мяне стаў момант, калі мяне хацелі выгнаць з інстытута, калі ў мяне нічога не атрымалася на другім курсе. Я стараўся, але не мог сябе знайсці. Мяне папярэдзілі, што калі я гэтую сесію не здам, то мяне адлічаць за прафнепрыдатнасць. І вось да нас прыйшоў выкладаць Віктар Паўлавіч Тарасаў, у будучым Народны артыст СССР. Раней ён вучыўся ў Аляксандра Іванавіча Бутакова. Ён сказаў: «Валодзя, паколькі ты ў маёй групе — давай будзем рабіць тое, што ты хочаш. Давай мы разам падумаем, вызначымся, і ты пойдзеш на экзамен менавіта з тым, што ты хочаш сыграць». І мы так і зрабілі. «Чычыкава хачу сыграць!» — «Давай, выдатна! Чычыкаў — характарная роля. Сцэна з Плюшкіным, сцэна з Каробачкай». Але ж яшчэ патрэбны ўрывак на беларускай мове. А мне «Альпійская балада» падабалася. Я, вядома, ніякі не Іван. Дый там ёсць сцэна з Хафтлінгам — немцам, калі ён хлеб просіць. І мы вырашылі, што я сыграю гэтага немца. Потым трэба было нешта з класікі, і мы выбралі «Атэла». Я быў Атэла, а Юра Шчуцкі — Яга. І мы сыгралі сцэну ля фантана з хусцінкай. І я, як мне казалі, узрушыў свім выступленнем усіх педагогаў. І мне паставілі цвёрдую пяцёрку. Потым Віктар Паўлавіч пайшоў, але я ўжо знайшоў сваю сцежку, вызначыў сваю творчую палітру. Чычыкаў, Хэфтлінг, Атэла. Тры кані. Тры кірункі, якія дапамаглі мне знайсці свой шлях у творчасці.

***Запісала Таццяна ЯНУКОВІЧ.***

## АСАБЛІВАЯ ДУХОЎНАЯ АЎРА...

***Уладзімір ТОЎСЦІК,***
*мастак, выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1972 г.), спецыяльнасць «станковы жывапіс», загадчык кафедры малюнка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прафесар, Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, народны мастак Беларусі.*

Калі казаць пра нейкі агульны вобраз навучальнай установы, убачыць яго даволі цяжка… Дый навошта абстрагавацца. Жыццё ж, яно складаецца з кавалачкаў… За гады быццам зрастаешся з Акадэміяй.

Больш за ўсё мяне па першым часе ўражвалі вялізныя гіпсавыя злепкі. Першы курс для мяне — нясмеласць, другі — адаптацыя. А потым былі і расчараванні. Але самае галоўнае — тут была нейкая асаблівая аўра, атмасфера дапытлівай вучобы. Малявалі штодня да позняга вечара, самі бралі натуру. Па вечарах у інстытуце было шмат руху.

Была свая аўра, свая мова. Усе імкнуліся маляваць, спасцігаць майстэрства. Між сабой сябравалі. З нашага курса выпусціліся найцікавейшыя людзі. Выкладчыкі былі патрабавальнымі, хацелі, каб мы стваралі кампазіцыі на сацыяльна значныя тэмы. Асяроддзе было вельмі цікавае. Былі дызайнеры, жывапісцы. Адны спрабавалі нешта праектаваць. Другія — пісалі станковыя працы. Я лічу, што мастацкая творчасць не ўніфікуе чалавека, яна мусіць выяўляць індывідуальнасць кожнага. Памятаю, як скульптары нават стралялі з лука. Ездзілі на веласіпедах.

Маладосць — гэта, у некаторай ступені, час расчараванняў. Калі ў мяне нешта не атрымлівалася, я павялічваў колькасць гадзін на працу. Колькасць пераходзіла ў якасць. Да канца навучання пачынаеш параўноўваць свае працы з іншым асяроддзем. Напрыклад, у Баку я пазнаёміўся з іншаю школай, з іншай

ментальнасцю, тэмпераментам. Параўноўваючы досвед, мы разумелі, чаго нам не хапае, і маглі аценіць тое, што мы атрымалі падчас вучобы.

Для мастака творчасць — не значыць адпрацаваць гадзіны за станком. Гэта ягоныя перажыванні, ягонае жыццё. Чалавек убірае веды — і нараджае новае.

Калі ў мяне пытаюцца пра тое, якія традыцыі існуюць у Акадэміі, я кажу, што самыя галоўныя ў тым, што Акадэмія «ставіць вока» чалавеку, вучыць прафесіяналізму. Гэта дае яму магчымасць паўнавартасна выказвацца. Трэба выкладаць так, каб студэнт табе паверыў, і станавіўся ўсё лепшым і лепшым.

***Запісалі Тарас КУЧЫНСКІ-ПАРАВЫ і Алена РУСАКЕВІЧ.***

## ІМКНЕННЕ ДА СОНЦА

***Валянціна БАРТЛАВА,***
*мастак па тэкстылі, выпускніца Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1973 г.), спецыяльнасць «мастацкае афармленне і мадэляванне вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці», загадчык кафедры касцюма і тэкстылю, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за распрацоўку габеленаў для інтэр'ера Палаца Рэспублікі (2004).*



*Уладзіслаў Кніга.*
*«Без назвы».*

Паступленне было для мяне вельмі рэзкім крокам — я паступіла адразу пасля сярэдняй школы. У шаснаццаць гадоў трапіць у Тэатральна-мастацкі інстытут, сустрэцца з такімі цікавымі і такімі рознымі людзьмі мастацтва… Можа, таму гэты час бачыцца мне ў яркім жоўтым колеры. Гэта быў час пераадолення, пошуку чагосьці новага, цікавага. Першы курс — час прывыкання да новай абстаноўкі, знаёмства.

Самая яркая падзея на маёй памяці — гэта, безумоўна, вандроўкі, экспедыцыі. Кіраваў усім Міхась Фёдаравіч Раманюк. Мы шмат вандравалі, шмат дазнаваліся, вывучалі народнае мастацтва, нацыянальны фальклор. Пасля гэтыя веды вельмі спатрэбіліся нам у нашай творчасці. Яшчэ вельмі добра памятаю вандроўку ў Вільнюс, якую наладзіў Павел Васільевіч Масленікаў. Мы ехалі ў аўтобусе, і ўсе — і студэнты, і педагогі — усю дарогу ўголас спявалі песні. Такія вандроўкі дапамагалі нам стаць сябрамі.

Я з радасцю згадваю акцёраў, якія тады з намі вучыліся і запрашалі нас на прэм'еры. Мы, можна лічыць, нават удзельнічалі ў стварэнні сцэнічных вобразаў. Бо давалі парады па стварэнні касцюмаў або дэкарацый. Наш светапогляд фарміраваўся ў сінтэзе ўсіх відаў мастацтва. Мы пазіравалі скульптарам, ладзілі разам капуснікі.

Тэатральна-мастацкі інстытут, Акадэмія, заўжды фарміравалі творчае асяроддзе, у якім гадаваліся творцы. Для творчага чалавека надзвычай важна, хто знаходзіцца побач. У людзей мастацтва асяроддзе асаблівае, у яго аснове атмасфера ўзаемаразумення, любові, дабрыні. Талент вельмі лёгка знішчыць кепскімі адносінамі, неразуменнем. І мы сёння імкнемся раскрыць творчы патэнцыял кожнага студэнта, падтрымаць яго.

У мяне не было жадання змяніць свой творчы шлях. Таму што ў мяне была магчымасць займацца адначасова і жывапісам, і графікай, і шмат чым яшчэ…

У нас была вельмі цікавая група. Калі мы паступалі, наш кіраўнік імкнуўся набраць студэнтаў з рэгіёнаў. І атрымалася, што паступілі людзі розныя па ўзросце, з розным жыццёвым вопытам. Падчас вучобы мне было на каго раўняцца. Усе дні падчас вучобы былі вельмі насычанымі. Трэба было вельмі шмат працаваць, асабліва мне, паколькі я прыйшла адразу пасля школы і мусіла даганяць тых, хто прыйшоў пасля вучылішча. Але я вельмі любіла жывапіс, колер для мяне быў усім, таму што я заўжды пісала нацюрморты з вялікай радасцю, у мяне было жаданне эксперыментаваць. Я працавала ў майстэрні з ранку да вечара і нават у выхадныя дні. І ўжо на трэцім курсе я выйшла на ўзровень тых, хто паступаў пасля вучылішча.

Падчас студэнцкіх навуковых канферэнцый мы маглі адначасова выступаць з дакладам і паказваць сваю творчую працу. Калі мая сястра вучылася на тэкстылі, а я на мадэляванні, мы з ёй разам рабілі якія-небудзь працы. Памятаю сваю першую творчую працу — гэта было вялікае дрэва з лёну. Яна ўсіх вельмі зацікавіла, а мой выкладчык сказаў, што гэта сапраўды значная праца, і з гэтага дня ў мяне будзе ісці творчы стаж.

Мы імкнуліся дзе-небудзь падпрацоўваць. Сумяшчаць працу і вучобу было цяжка, але гэта выпрацоўвала байцоўскі дух. Мы ўсе марылі працаваць у Цэнтры Моды. Гэта было для нас стымулам.

Я не памятаю сваіх нерэалізаваных праектаў. Мой бацька заўжды вучыў мяне: «Пачаў справу — давядзі да канца». Я бралася за тую працу, якую я напраўду ўмею рабіць. Я ніколі не бралася за тое, чаго я не адчувала. Па жыцці я вельмі асцярожны чалавек.

Дыпломная праца — гэта вынік нашага навучання. Мы ўсе тады былі на практыцы ў Цэнтры Моды, і нам усім далі канкрэтныя заданні. Я працавала над калекцыяй дзіцячага адзення. Мы распрацоўвалі мадэлі з улікам таго, што яны потым будуць пушчаныя ў вытворчасць. Я спачатку засмуцілася, бо мы ўсе марылі пра прыгожыя калекцыі жаночых убораў. Але ў мяне ўсё атрымалася. Праўда, на абароне давялося перахваляваццца, бо не прыйшоў хлопчык-мадэль.

Я вельмі шчаслівая, што скончыла менавіта Тэатральна-мастацкі інстытут, Акадэмію. Акадэмізм, які ляжыць у аснове яе традыцый, дапамагае развівацца ў будучым. Традыцыі трэба ведаць.

Акадэмія паўплывала і на фарміраванне майго характару. А характар уздзейнічае на прафесію, а прафесія — на характар. Калі чалавек таленавіты, ён мусіць выявіць характар, каб сябе паказаць. Увогуле, Акадэмія для мяне — гэта ўсё маё жыццё.

***Запісалі Ганна БІЖЫК і Алена РУСАКЕВІЧ.***

## Сямідзясятыя

## РАЗМАЎЛЯЦЬ НА МОВЕ СВАЁЙ ЗЯМЛІ

***Уладзімір САВІЧ,***
*мастак, выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1976 г.), спецыяльнасць «графіка», прафесар кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.*

Я 38 год адпрацаваў у Акадэміі мастацтваў і ўвесь час вучыў сам сябе і ўсіх студэнтаў размаўляць на мове роднай зямлі. Гэта не значыць толькі размаўляць па-беларуску! Гэта значыць — вывучаць сваю гісторыю, культуру, літаратуру, музыку… Трэба імкнуцца быць вельмі адукаваным чалавекам. Мы цікавыя менавіта як мастакі нашай Беларусі, цікавыя, калі будзем несці ноту сваёй зямлі. А вось знайсці гэтую ноту — найскладанейшая справа. Страціць яе — вельмі лёгка. І калі мы ўсе з вамі будзем імкнуцца размаўляць на мове роднай зямлі: і



*Глеб Сідарэнка. «Успаміны». Дыптых (фрагмент).*

вы — маладыя, і мы — старэйшыя, то мы пабудуем нашу піраміду, і нехта з нас стрэліць у сусветным мастацтве.

Калі я заканчваў «Ахрэмчык» (Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка. — **Г. Б.** і **А. Р.**), то вырашыў, што абавязкова павінен паступіць у інстытут, бо не вельмі хацеў ісці ў войска. Гэта была першая мая задача. Я разумеў, што калі пайду ў войска, то магу як мастак нешта страціць. Тады многія збіраліся на манументальнае аддзяленне. Я таксама туды хацеў. Але потым гляджу, што чалавекі тры ці чатыры з нашага класа ўжо дакладна вырашылі туды паступаць, а ствараць канкурэнцыю паміж сабою — гэта не разумна. Пра графіку я тады нічога не ведаў, хаця ўжо самастойна, як аматар, рэзаў гравюры. І я вырашыў паступаць на тое аддзяленне, куды больш за ўсё набіраюць студэнтаў. «Усё, — сказаў я, — паступаю на дызайн».

На абароне дыплома ў школе Васіль Пятровіч Шаранговіч пытае мяне: «А куды вы збіраецеся паступаць?» Я адказваю, што на дызайн. Ён: «Ды вы што?! Чаму?» Яму надта тады мой адказ спадабаўся, бо я шчыра прызнаўся, што мне хоць абы куды, толькі не ў войска, бо страшэнна туды не хачу ісці! І ён тады кажа: «Паступайце на графіку». Вось так вырашыўся мой лёс.

Складанасці былі з уступнымі іспытамі… Ездзіў я на іх з Койданава. Гэта трэба было а шостай гадзіне падняцца, потым тры кіламетры ісці на электрычку. Усё здаваў нармальна, і раптам перад апошнім іспытам па гісторыі КПСС моцна захварэў — такая ў мяне хворая нага была, што ісці я не мог. Раніцай будзіць мяне мама, а я гавару: «Не, мам, не паеду!» І яна кажа: «Не трэба. У цябе такая нага…» Вырашыў я далей спаць. І так добра мне было ад гэтай думкі, але раптам мяне як малатком: «Гэта ж у войска!!!» І я хутчэй у што мог заматаў нагу, добра, што штаны тады былі з клёшам. Адным словам, дакульгаў я да электрычкі і прыехаў. Не памятаю, як я тады здаваў гэтую гісторыю, але здаў і паступіў. Мой тата быў адукаваны чалавек. Калі я паступіў, а пасля прыехаў і сказаў пра гэта, то тата не паверыў. Казаў, што без блату паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову немагчыма. Я кажу: «Паступіў!» А ён: «Можа быць, ты не так паглядзеў?» Ён пазваніў майму дзядзьку, які жыў у Мінску, і папрасіў, каб той схадзіў у інстытут і дакладна паглядзеў. Той схадзіў, пасля прысылае тэлеграму: «Паступіў».

Тады паступалі людзі, якія былі нашмат старэйшыя за мяне, якія ўжо дакладна ведалі, чаго яны хочуць і навошта сюды паступаюць. Са мной разам вучыліся такія мастакі, як Мікола Селяшчук — ён быў на 5 гадоў старэйшы за мяне, Мікола Купава — гэты на 7 гадоў. Былі такія хлопцы, што і на 10. Я лічу, што ў гэтым мне пашанцавала, што я — такі малады чалавек, а са мной поруч — сталыя вопытныя людзі. Ім ужо не было часу займацца рознымі глупствамі.

Тады на графіку набіралі 5—6 чалавек, і адну дзяўчыну маглі ўзяць. Цяпер я ведаю, што ўсё наадварот! У наш год атрымалася так, што набралі групу з 10 чалавек. І ў нас было адразу тры дзяўчыны. Са мной вучыліся Ларыса Палякова,

Раіса Сіплевіч, у яе ўжо была дачка Таццяна, якая выкладае цяпер на графіцы, а я памятаю яе яшчэ маленькай. Яшчэ Антаніна Лапіцкая. Яна таксама была старэйшая па гадах і ўжо была замужам.

Калі мы вучыліся, была вялікая ўзроставая павага. Мы — першы курс — не маглі зайсці да чацвёртага-пятага курсаў паглядзець, што яны робяць… А дыпломнік — гэта зусім было нешта! У нас хлапец быў — Валодзя Каралькоў. Ён 10 год паступаў, нарэшце паступіў. Мы яму гаворым: «Валодзя, ты ўсіх ведаеш, вось і ідзі да іх». І мы, шчыра вам прызнаюся, куплялі ім бутэльку віна, а яны за гэта нам дазвалялі ў час перапынку паглядзець, як яны пішуць жывапіс. Але з умовай: праходзіць, як у маўзалеі, спыняцца нельга. Калі хочаце па другім коле — зноў бутэлька! Але пісалі яны, вядома, цудоўна! Майстэрства было, я вось на сённяшні розум гляджу, — супер!

Былі і такія выпадкі, напрыклад, Мікола Селяшчук кажа: «Давай паедзем з табой у Вільнюс (або ў Талін ці ў Рыгу)?» Тады не дазвалялася, як цяпер — можаце прапускаць да 60 гадзін у месяц. Тады дэкан за 15 хвілін вырашаў пытанне аб выключэнні. Узяў дакументы, пайшоў да рэктара, выходзіць — усё, адлічаны. І мы ішлі ў дэканат, а там была вельмі харошая сакратар, Марыя Фролаўна Назаранка, і прасілі, каб яна прыкрыла нас, бо вельмі хочацца ў Вільнюс на дзень з'ездзіць, паглядзець розныя выставы. Ноч едзеш, дзень ходзіш па горадзе — і нясешся потым назад. Але гэта было карысна — удыхнуць новае мастацтва, а тым больш яно ад нашага адрознівалася.

Быў у нас прафесар Павел Канстанцінавіч Любамудраў. Заняткі пачыналіся у 11:35, і мы ведалі — зараз адчыняюцца дзверы і: «Здравствуйте, товарищи!» Гэта значыць, што ўжо трэба стаяць і пісаць. А выкладчык ён быў ад Бога. І вось ён не дазваляў выкарыстоўваць гуаш. Акварэллю пісаць — значыць толькі акварэллю! Калі ён гуаш бачыў на рабоце — усё, ідзі і змывай! Мы ўсе мусілі змываць і пачыналі пісаць нанова. Ці так было, студэнт кажа: «Ну ўсё. Я напісаў». А ён: «Ты ведаеш, Валодзя, харошы жывапіс. Але вось калі б ты ўсю постаць на палову запалкі пасунуў управа, то было б лепей». Гэта значыла, пачынай па новай. Тады мы яго не разумелі, і, вядома, жартавалі, але з часам, калі ўжо аналізуеш, разумееш, што падрыхтоўка была вельмі сур'ёзная.

Да трэцяга курса мы вучыліся ўсе разам. А пасля трэцяга нас падзялілі на станковую і кніжную графіку. Васіль Пятровіч Шаранговіч кіраваў тады кніжнай графікай, і мы ўсе хацелі патрапіць да яго. Мацнейшыя траплялі на кнігу. Але ведаеце, гэта так умоўна — мацнейшыя і слабейшыя…

Атрымлівалася, што курс, які быў ранейшы за нас і займаўся кнігай, і мы, напрыклад, пяты курс і чацвёрты, працавалі ў адной майстэрні. Гэта спрыяла творчаму развіццю — два гады працаваць у адной майстэрні са старэйшымі.

Вельмі спрыяла нашай творчай працы тое, што мы з Міколам Селешчуком ужо падчас навучання пачалі рабіць кнігі і друкавацца. Мне летам пасля першага курса далі першы заказ. Гэта была беларуская народная казка «Разумная дачка». Заказ быў афіцыйны, і я павінен быў зрабіць ілюстрацыі і афармленне да гэтай кнігі. А летам як ідзе праца? Ну, пamalюеш, потым пойдзеш у футбол паганяеш, потым на рыбу… Але працу я зрабіў і павёз, каб здаць у выдавецтва. Дзякуй Богу, атрымалася ўсё добра. Потым ганарар атрымаў. Бацька пытае:



*Васіль Цімашоў. «Голас».*

«Ну што? Зарабіў якую-небудзь капейку?» А першы мой ганарар, я памятаю, быў 784 рублі на той час! І я адказваю: «Ну вось, тата, на табе грошы». Ён: «Баба (ён маму так называў), я не ведаю, прагуляў у футбол увесь час… Нічога не робячы, такія грошы зарабіў?»

Памятаю нашыя практыкі. На першым курсе летам мы паехалі ў цудоўнае месца — у Камень. Гэта Лепельскія азёры. І з намі тады паехаў Віктар Аляксандравіч Грамыка. Ён паехаў кіраваць намі, таму што гэта былі яго любімыя мясціны. Мясціны, вядома, цудоўныя, але была вялікая праблема — паесці! Былі грошы. Купіць нешта ў магазіне было немагчыма. І праз гэта ў нас былі розныя прыгоды…

Курс, як я ўжо казаў, у нас быў вельмі цікавы. З намі вучыўся Мікола Гуршчанкоў, які не меў спецыяльнай адукацыі. Ён быў такі вясковы чалавек, вельмі добры па характары. З яго можна было жартаваць як хочаш. Была ў вёсцы адна жанчына, а ў яе — дзве дачкі. Адна з гэтых дзяўчын працавала ў сталовай, а там піянерскі лагер сталаваўся. Мы кажам: «Коля, ты павінен Галю запрасіць у кіно! Каб Галя потым нам макаронаў ці яшчэ чаго са сталовай прыносіла». Ну а Коля, ён такі малайчынка быў: «Ну трэба — дык трэба!» Аднойчы мы нават вырашылі яго ажаніць. А ажаніць дзеля чаго: каб добра паесці. А жанчына была такая добрая, яна кажа: «Ой, хлопчыкі, маёй Галі ж пашанцавала. Мастак!» А Галя гаворыць: «Не, я не буду з ім!» А яна ёй: «Дурніца, гэта ж мастак, гэта ж такі чалавек!» Паелі мы, выпілі чарку, а Коля і Галя ўцяклі хутка, бо мы ўжо пачалі жартаваць.

Тэма маёй дыпломнай — «Пінская шляхта» Дуніна-Марцінкевіча — макет аздаблення і каляровыя ў два колеры літаграфіі. Я цэлы год рабіў дыплом і адначасова працаваў у выдавецтве «Вышэйшая школа». Я калі ўладкоўваўся на працу, прыйшоў да Шаранговіча, а ён пытае: «А як дыплом?» Я адказаў, што і дыплом буду рабіць, і на працу хадзіць. І мы з ім так дамовіліся, што раз у тыдзень я абавязкова паказваю яму, што раблю. «Калі адзін раз ты мне не паказваеш — значыцца, з работы ты звальняешся».

Усё выдатна ў мяне ішло. У выдавецтве мне дазволілі працаваць палову дня, а плацілі як за дзень, таму што пасля інстытута я павінен быў да іх размеркавацца. Аднак так атрымалася, што ў мяне з’явіліся праблемы з дыпломам. Апошнія дзесяць дзён я нават не выходзіў з інстытута. Я дзень і ноч быў у інстытуце. Мне і есці туды прыносілі. Я нават штаны спартыўныя да дзірак праседзеў… За сваю дыпломную працу я тады атрымаў дыплом Акадэміі мастацтваў СССР і меў два гады спецыяльную стыпендыю.

Што яшчэ расказаць пра вучобу? Гэты быў час, 1970-я гады, — час нацыянальнага адраджэння. Я і да гэтага размаўляў толькі на мове, вывучаў беларускую гісторыю. А тут паглыбіўся ў гэта яшчэ болей. Тым больш побач былі Пётра Свентахоўскі, Мікола Купава, які пазнаеміў нас з Яўгенам Кулікам. Поруч са мной знайшліся людзі, якія растлумачылі мне, што я павінен вывучаць нашу родную культуру і гісторыю. І вось адзін з іх, гэта Міхась Фёдаравіч Раманюк, ён выкладаў у мяне гісторыю мастацтва Беларусі. Я з ім пасябраваў і вандраваў па ўсёй Беларусі. Я вельмі ўдзячны яму за этнаграфічныя вандроўкі. Ён быў настолькі завадны чалавек. У мяне з гэтых экспедыцый вялізарныя стосы замалёвак у альбомах. А гэта ўсё ўплывала на творчасць.

Я часта задаю самому сабе і ўсім пытанне: мастак павінен весці няспынны пошук або, калі знайшоў сябе, садзіцца на канька і ехаць далей? Я па сваёй манеры не магу спыніцца на адным месцы. Я лічу, што ўвесь час павінен шукаць, шукаць, шукаць… Аднак аснова — гэта нацыянальная культура. А далей — вечны пошук. Бог даў нам вельмі многа. Самае вялікае шчасце, што мы можам маляваць, і гэтае шчасце трэба абавязкова выкарыстоўваць.

***Запісалі Ганна БІЖЫК і Алена РУСАКЕВІЧ.***

# БЯСКОНЦАСЦЬ І НЕАБДЫМНАСЦЬ

***Уладзімір ЗІНКЕВІЧ,***
*мастак, выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1977 г.), спецыяльнасць «манументальна-дэкаратыўнае мастацтва», загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.*



*Кацярына Пашкевіч. «Без назвы».*

Калі згадаць самую яркую падзею падчас вучобы, то гэта, напэўна, успамін з трэцяга курса, калі нас з Міколам Селешчуком узнагародзілі падарожжам у Балгарыю. Гэта была сенсацыя, бо на той час мала хто меў магчымасць выехаць за мяжу. Мы наведвалі музеі, сучасныя галерыі. Гэта быў незабыўны досвед.

Яшчэ адной цікавай падзеяй стаўся мой удзел у выставе «Мы будуем камунізм». У адрозненне ад іншых удзельнікаў, я не прынёс вялікага сацыялістычнага палатна, а толькі камерны партрэт Уладзіміра Караткевіча. Пра які Міхаіл Савіцкі сказаў: «Валодзя (Караткевіч) будуе камунізм».

Хто з майго тагачаснага атачэння застаўся ў памяці? Канкрэтнага чалавека вылучыць складана. Гэта быў творчы, працоўны калектыў. Хутчэй мяне суправаджалі персанажы і героі кніг, якія я чытаў у той ці іншы перыяд. Аўтары кніг дапамагалі сталець, жыццёва вызначацца. Маркес, Караткевіч — вось мае надзейныя спадарожнікі.

Згадваю летнюю практыку на Браслаўскіх азёрах. Як цяпер памятаю гэтую бясконцую прастору. Ідэі і вобразы набылі рэалістычную афарбоўку, і гэтая рэальнасць перамагла. Немагчыма перадаць тое захапленне бясконцасцю і неабдымнасцю. Форма вобраза — гэта кропля.

Вы просіце вызначыць, з якімі колерамі асацыіруецца ў мяне час навучання ў тэатральна-мастацкім інстытуце… Напачатку колер туману, размытасці. Таму што напачатку была разгубленасць, невядомасць. Мы не бачылі абрысаў будучыні, таго, што нас чакае, былі толькі здагадкі. Кафедра манументальнага мастацтва, на якую я паступіў, прапанавала нам неверагодную колькасць матэрыялаў і новых тэхнік — усяго таго, з чым мы не былі яшчэ знаёмыя. Велізарны выбар для эксперыментаў: мазаіка, энкаўстыка… Не тыя традыцыйныя жывапісныя прыёмы, якія мы ведалі, а тое, што з’яўлялася для нас таямніцай, загадкай, адсюль і разгубленасць, і гэты нявызначаны колер туману.

Пасля спазнання новага гэтае адчуванне прайшло. Калі браць сярэдзіну навучання, то гэта ўжо былі колеры экспрэсіі: актыўны чырвоны, сіні, жоўты. Колеры нямецкага экспрэсіянізму. Колеры магутнай энергетыкі, якая лунала ў нашым акадэмічным асяродку. Мы былі цікаўнымі, авантурнымі. Нягледзячы на тагачасную ідэалогію дзяржавы, мы былі па-за ёй. Мы былі дзяржавай у дзяржаве.

А калі казаць пра любімы дзень на тыдні, то гэта нядзеля. Падчас вучобы мы заўсёды мелі вельмі насычаны падзеямі і працай графік. Нядзеля для мяне была часам, у якім я мог суцішыцца, пабыць сам-насам са сваімі думкамі, прывесці ўсё да ладу. Я думаю, што такі дзень неабходны для ўсталявання гармоніі ў сабе.

Калі казаць пра любімую гадзіну, то найбольш люблю раніцы. Гэта той час, калі ў спакоі і зацішшы можна пачаць працоўны дзень, настроіцца на пэўны лад. Для мяне раніца заўжды з'яўляецца вызначальнай, і яе трэба правільна пачаць.

Не магу сказаць, што вучоба ўвогуле хоць калі-небудзь спынялася. Для мяне ўсё жыццё — гэта самаўдасканаленне. Заўжды вельмі важнай з'яўлялася самаадукацыя.

Ці быў падчас навучання нейкі паваротны момант? Так. Каханне. Сустрэча з дзяўчынай з графікі, якая ў будучыні стала маёй жонкай.

Ці паўплывала вучоба на мой характар? Вельмі паўплывала. Выхавала «эга» ў творчым разуменні. Не пыху, але пэўны творчы стрыжань, без якога немагчыма існаваць творцу. Навучыла быць бясконца шчырым, з няспынным імкненнем да самаўдасканалення, быць лепшым, цікавейшым. Для мяне Акадэмія стала падмуркам у выхаванні творчай асобы. Маладосць — час, калі віруюць жарсці, і я знаходзіўся быццам паміж двума агнямі, але Акадэмія дапамагла трымацца правільнага шляху.

Традыцыі Акадэміі — гэта повязь з мінулым пакаленнем, перайманне досведу. Традыцыі трэба захоўваць і паважна да іх ставіцца.

Акадэмія павінна быць прасторай, дзе камфортна жыць, ствараць. Гэта месца, якое збірае энергетыку. Яна стварае атмасферу для творчага пошуку. На дадзены момант, я думаю, Акадэмія ўяўляе сабой згаслы вулкан, але прыйдзе час — і адбудзецца вялікі, магутны выбух. І я вельмі чакаю гэтага ўсполыху.

***Запісала Кацярына КРАМАРЭНКА.***

## АСЭНСАВАЦЬ СВАЁ МЕСЦА Ў КОСМАСЕ

***Уладзімір ВАСЮК,***
*мастак-графік, дызайнер, выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1978 г.), спецыяльнасць «мастацкая кераміка і шкло», дацэнт кафедры графічнага дызайну.*

Самымі яркімі падзеямі падчас вучобы былі сумесныя з выкладчыкамі работы над рэальнымі праектамі. Напрыклад, для чэмпіянату свету па біятлоне ў Раўбічах (1974, 1976 гг.) мы распрацоўвалі на кафедры нагляднай агітацыі і рэкламы візуальную графіку. Для Алімпійскіх гульняў у Маскве (1980 г.) таксама стваралі розныя пластычныя формы, сувенірную прадукцыю. Гэтай жа падзеі была прысвечаная і мая дыпломная работа — камплект дэкаратыўных інтэр'ерных вазаў. Кіраўніком быў Міхаіл Веніямінавіч Бяляеў. Я стаўлюся да сваёй дыпломнай з павагаю, і нават з гонарам. Яна ўвайшла ў многія беларускія выданні (у альбом «Беларуская кераміка», 1984; «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», т. 5, 1987). Я быў у ліку першых майстроў, якія пачалі займацца стварэннем дэкаратыўных керамічных формаў для інтэр'ера.

Магчыма, менавіта работа па стварэнні візуальнай рэкламнай прадукцыі для чэмпіянату свету па біятлоне ў Раўбічах вярнула мяне да даўняй мары займацца графікай.

Атрымалася так, што яшчэ падчас вучобы ў мастацкім вучылішчы я двойчы спрабаваў паступаць у БДТМІ на станковую графіку (у мяне была такая магчымасць, бо ў вучылішча я паступіў пасля 10 класаў, у мяне была агульная сярэдняя адукацыя). Але абодва разы няўдала. Трэцім разам жонка, студэнтка кафедры керамікі і шкла Тамара Васюк, параіла паступаць на кераміку. Каб потым перавесціся на графіку. Так я стаў студэнтам мастацка-прамысловага факультэта. Гэта толькі мне дапамагло. Я пачаў мысліць больш крэатыўна, чым тыя, хто скончыў мастацкі факультэт. Пераводзіцца не стаў, бо атмасфера, што панавала ў нас у

групе і на кафедры, мяне задавальняла. І я ніколі не пашкадаваў пра сваё рашэнне.

Найбольш запомніліся выкладчыкі спецыяльных прадметаў. На кафедры керамікі і шкла — гэта Уладзімір Вікенцьевіч Угрыновіч, сапраўдны энтузіяст сваёй справы. Ён адным з першых на Беларусі адрадзіў лепшыя традыцыі нашых продкаў, пачаў праводзіць этнаграфічныя экспедыцыі па розных рэгіёнах краіны і збіраць у старажылаў рэдкія ўзоры. Мы сустракаліся з самабытнымі майстрамі, знаёміліся з асаблівасцямі ганчарнай справы.



*Юрый Сяргейчык. «Творчы шлях» (фрагмент).*

На кафедры гісторыі мастацтваў — гэта Міхась Фёдаравіч Раманюк і Ірына Міхайлаўна Елатамцава (гісторыя керамікі). Гэтыя людзі ўзрасцілі ўва мне цікавасць і любоў да народнага мастацтва, да абрадаў і традыцый, да гістарычнага мінулага Беларусі, якія зрабіліся галоўнымі тэмамі ў маёй творчасці.

Час навучання я мог бы параўнаць з дынамічнымі формамі — конусам, шарам, бо яно было напоўнена дзеяннем, падзеямі. Мы наведвалі рэспубліканскія і ўсесаюзныя выстаўкі, маглі свабодна ездзіць па ўсім Савецкім Саюзе (Вільнюс, Рыга, Талін, Кіеў, Масква, Ленінград і г.д.). Студэнты БДТМІ маглі чытаць забароненую літаратуру (напрыклад, Біблію), слухаць забароненую музыку (Акуджаву, Высоцкага), што было недаступна студэнтам іншых ВНУ.

У студэнцкія гады самым любімым часам дня для мяне быў вечар. Пасля заняткаў была магчымасць працаваць да позняга вечара ў вучэбных класах. Мы запрашалі натуршчыкаў і працавалі, працавалі, пастаянна ўдасканальвалі сваё майстэрства. Мы маглі назіраць за студэнтамі іншых факультэтаў, напрыклад, акцёрамі, рабіць з іх замалёўкі. Гэта быў такі творчы працэс, які аб'ядноўваў многія віды мастацтва. Дні тыдня мала чым адрозніваліся адзін ад аднаго, бо нават у выхадныя мне даводзілася працаваць. У мяне на той час ужо была сям'я, таму трэба было яе забяспечваць. Я падпрацоўваў на заводзе «Гарызонт», а пазней — у Ленінскай бібліятэцы.

Кажуць, мастак павінен быць галодным. Не. Гэты выраз быў і застаецца для мяне непрымальным. Толькі сыты мастак можа тварыць, а галодны пастаянна думае пра тое, як знайсці сродкі, каб пракарміцца.

Вы пытаецеся, чым бы я не займаўся падчас вучобы, каб была магчымасць? Не траціў бы час на непрыкладныя прадметы, такія, як гісторыя КПСС, палітэканомія, марксісцка-ленінская філасофія… Гэтыя прадметы не толькі не дапамагалі, але нават шкодзілі студэнтам мастацкага ВНУ, якія мусілі мысліць свабодна, без аглядкі на нейкія палітычныя ўстаноўкі. Было б лепш, калі б замест гэтага мы вывучалі гісторыю сваёй Бацькаўшчыны альбо філасофію сусветнай думкі.

Вучоба ў інстытуце і час па-за ягонымі сценамі для мяне былі непадзельныя. Гэта быў адзіны працэс пазнання. У вандроўках, нават калі яны былі не па вучобе, я імкнуўся пабачыць помнікі архітэктуры, скульптуры, жывапісу, пазнаёміцца з цікавымі творчымі людзьмі. Падчас вучобы ў мяне адбывалася асэнсаванне свайго месца ў гэтым космасе.

Паўплывала вучоба і на мой характар. У станоўчым сэнсе. Я навучыўся мысліць творча, не па шаблоне. Да кожнай новай тэмы падыходжу сур'ёзна. Вывучаю гістарычныя крыніцы і ўсё, што было зроблена да мяне, каб не паўтарыцца і ўносіць нешта асабістае, новае.

А традыцыі Акадэміі — гэта акадэмічнае, акадэмічнае і яшчэ раз акадэмічнае вывучэнне ўсіх спецыяльных прадметаў: і жывапіс, і малюнак, і кампазіцыя…

***Запісала Марына БАБКО.***

## Васьмідзясятыя

# МЫ ХАЦЕЛІ ЗМЯНІЦЬ СВЕТ

***Міхаіл БАРАЗНА,***
*мастацтвазнаўца, фотамастак, выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1985 г.), спецыяльнасць «прамысловая графіка», рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт.*



*Вікторыя Мельнікавіч. «Без назвы».*

Альтэрнатыў для паступлення ў мяне было шмат. Скончыў школу з залатым медалём, мог пайсці куды заўгодна — і на медыка, і на банкіра, і на дыпламата. Але ва ўзросце прыкладна дзесяці гадоў я вырашыў, што буду вучыцца толькі ў Акадэміі мастацтваў (на той час — Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце). Іншых варыянтаў я для сябе не бачыў, хаця займаўся спортам — скачкамі ў вышыню, баскетболам. Але, не зважаючы на гэта, сумненняў не было, што я буду тут вучыцца. Я для сябе вырашыў, што, калі не паступлю з першага разу, буду спрабаваць другі раз, і трэці, і чацвёрты.

У мяне заўжды былі нейкія асаблівыя адносіны да Мінска. Хаця я ў дзяцінстве шмат падарожнічаў, паглядзеў і Маскву, і Піцер, і Львоў, і Адэсу, і Рыгу, але мае дзіцячыя асацыяцыі з Мінскам — гэта нешта цэласнае, вялікае, са статуямі на франтонах. Мне падабаўся Мінск, ягоная атмасфера. Хаця я яго часам крытыкую, але ёсць у ім нешта неапісальнае. У іншых гарадах, напэўна, быў хутчэй проста падарожнікам, экскурсантам, а тут са мною загаварылі пра мастацтва. З’явіліся людзі, якія пачалі расказваць, а гэта вельмі важна.

Год паступлення быў вельмі няпросты і незвычайны. Гэта быў 1980 — год Алімпіяды. Уступныя экзамены праходзілі ў нязвыклы час — не ў ліпені, а ў канцы жніўня. Гэта дало дадатковы, вельмі важны месяц падрыхтоўкі. Я здолеў тады напрасіцца на выязную практыку з курсам мастакоў. Гэта былі Мікола Шулякоўскі, Ігар Бархаткоў, Жанна Башук, кіраваў тою практыкай Мікалай Залозны.

Гэты дадатковы месяц даў мне вельмі шмат, таму што я меў стасункі са студэнтамі, там быў цудоўны педагог, які даваў мне такія ўрокі, што часам і цяпер расказваю сваім студэнтам. Я зразумеў, што жывапіс — гэта асаблівы эмацыянальны стан. За некалькі ўрокаў на ўсё жыццё зразумеў каштоўнасць колеру і фарбаў. Выкладчык мне казаў: «Глядзі, якая фарба, яе ж, перш чым загнаць у цюбік, прыдумлялі вельмі сур’ёзныя людзі, спецыялісты, і перш, чым яе сапсаваць, ты павінен падумаць, ці маеш ты на гэта права».

У студэнцкія гады мы, вядома ж, вучыліся адно ў аднаго, у гэтым нават нельга сумнявацца. І гэта было самае сумленнае навучанне. Але былі і дысцыпліны,

звязаныя з вялікім лекцыйным курсам, — тут адно ў аднаго не навучышся. Шмат часу мы праводзілі ў бібліятэцы і асвойвалі велізарную колькасць матэрыялу не па праграме. Тое, што я набываю новыя веды па гісторыі мастацтва, я адчуў, калі пачалі чытаць лекцыі па гісторыі беларускага мастацтва. Лекцыі, якія я слухаў, напрыклад, у Міхася Раманюка, былі ўнікальныя. У кнігах такое знайсці было цяжка. Такое больш нідзе не прачытаеш і не пачуеш.

Была, вядома ж, канкурэнцыя. Гэта натуральны стан творчага асяроддзя. Мы перажывалі за кожную адзнаку: камусьці несправядліва ставілі «пяць», камусьці несправядліва — «тры». Некаторыя студэнты пачыналі выконваць сваю работу за дзень да прагляду, а мы працавалі метадычна, з дня ў дзень, у выніку часам атрымлівалі адзнакі ніжэйшыя. З несправядлівасцю мы сустракаліся. Але з часам разумелі, не важна — «чатыры» ці «пяць». Важна, як гэта ўспрымаюць твае сябры-аднадумцы, бо мы ведалі адно аднаго лепш, чым педагогі. Цяпер я кажу некаторым студэнтам, што магу паставіць і добрую адзнаку, але наўрад ці яны гэтым будуць ганарыцца. Таму што свет мастацтва вельмі маленькі, кампактны. І чалавек, знаходзячыся ў Акадэміі, ужо ўступае ў сістэму ўзаемадачыненняў. Нават, «выпырхнуўшы» з Акадэміі, ён не зможа далёка адляцець ад гэтай сістэмы, а можа быць, і застанецца ў ёй на ўсё жыццё.

Калі я паступаў, то прыйшоў на кафедру жывапісу са скруткам малюнкаў, і на мяне звярнуў увагу адзін выкладчык, як высветлілася потым, ён у вайну быў вопытным разведчыкам. Яму было дастаткова кінуць позірк на чалавека, каб вызначыць, хто да яго прыйшоў. Гэты чалавек — загадчык кафедры жывапісу Пётр Крохалеў, у той самы дзень, калі я прынёс малюнкі, падарыў мне эцюднік з фарбамі, з пэндзлямі. Паставіў нацюрморт і сказаў: «Пішы». Ён ведаў, што ў мастацтва не павінны прыходзіць людзі, якія могуць нанесці яму шкоду. Цяпер усё па-іншаму. Калі паступаюць мастакі, яны ўсе пад нумарамі, зашыфраваныя. У той час было вельмі моцнае пакаленне, магутнае, падабранае. І калі б не рэгламентацыя мастацкага жыцця, калі б не было гэтага палітычнага махровага налёту, адбыўся б росквіт беларускага мастацтва.

Так атрымалася, што я з першага разу паступіў на прамграфіку. Мне вельмі спадабалася атмасфера, менавіта тады я зразумеў, што дызайн — гэта мастацтва ў квадраце. Гэта значна больш, чым жывапіс. Я ні разу не расчараваўся ў сваім выбары. Было шмат цікавых педагогаў, для нас яны былі тытанамі. Вячаслаў Ламака, Леніна Міронава, Анатоль Занеўскі, Павел Семчанка — людзі, якія навучылі нас адказнасці, правільнаму стаўленню да прафесіі. Тады, магчыма, не цалкам усведамляў, што вучоба ў Акадэміі — гэта прыблізна на семдзесят адсоткаў выхаванне. Нават хутчэй не выхаванне, а перадача метадалогіі, калі чалавек можа яшчэ больш развіць у сабе атрыманы досвед, калі ў яго будзе больш магчымасцей і сіл. Такое выхаванне асобы — гэта самае важнае. Бо можна проста мець ад прыроды здольнасці, навыкі, можна мець амбіцыі і нават працалюбства, але прафесійныя адносіны да справы, дзе ты адказваеш за канчатковы вынік, — гэта можна толькі выхаваць. Толькі асоба можа замацавацца ў культуры і чагосьці дасягнуць.

Мне было васямнаццаць гадоў, і я быў, напэўна, самым малодшым на курсе. А аднакурснікі мае былі жанатыя, з дзецьмі. Таму мая сацыялізацыя праходзіла па-іншаму. Цяпер тым, хто паступае ў Акадэмію, сямнаццаць-васямнаццаць гадоў. Яны ўсе роўныя, і сацыялізацыя іх праходзіць больш складана: яны вымушаныя ў сваім узросце сутыкацца з незразумелымі для іх праблемамі. Нам было трохі прасцей: аднакурснікі, якія былі трохі старэйшыя, у канцэнтраваным выглядзе перадавалі нам свой досвед. Мы пераставалі быць дзіцячым садком праз некалькі месяцаў пасля паступлення.

Я памятаю першы капуснік. Я нават там выступаў. На жаль, мы не можам вярнуць той час. Таму што ў нас няма тэатральнай залы. Традыцыя капуснікаў была парушаная дзесьці ў 1990-я гады. У 1970—1980 гг. гэта была адна з самых

папулярных падзей у Мінску. Друкаваліся запрашальныя білеты, і напярэдадні ў інтэрнаце падрабляўся тыраж. Таму людзей прыходзіла ў два разы болей, чым было месцаў у гэтай залі. Гэта былі тэатралізаваныя нумары. Часта з пародыямі на педагогаў. І ніхто на іх не крыўдаваў, нават наадварот — ганарыліся, таму што, калі кагосьці не паказалі, было неяк крыўдна.

Мы сябравалі з тэатральным факультэтам. І больш карысці было не столькі ад правядзення нейкіх сумесных мерапрыемстваў, колькі ад суіснавання ў адзінай прасторы. Гэта давала нам разуменне псіхалогіі розных прафесій.

Самым яркім для мяне быў першы пленэр. Сама геаграфія ўражвала: Карпаты — Нёман — Мірскі замак. І ўсё гэта з заплечнікамі, з палаткамі, з эцюднікамі і пярлоўкай. У кожнага хлопца заплечнік менш за дваццаць кілаграмаў не важыў. Падняць яго ад зямлі было немагчыма. Дзяўчаты ж неслі толькі альбомы. А мы неслі ўсё — і каструлі, і сякеры. У Міры мы яшчэ накупілі керамікі. Камусьці археолагі падарылі цагліну са сцяны замка…

Магу сказаць, што ў мяне і цяпер шмат нерэалізаваных планаў, і не таму, што ў мяне нешта не атрымліваецца, усё з-за дэфіцыту часу. Гэта звязана з рознымі абставінамі. Вось тое, што было пазначана, — паступіць і скончыць Акадэмію — гэта было зроблена.

Што тычыцца маёй дыпломнай… Да тэмы дыпломных работ у савецкі час ставіліся трохі па-іншаму. Раней на дзвярах кафедры вывешваўся спіс дыпломных работ, і мы выбіралі з гэтага спісу. Толькі некаторым дазвалялася нешта зрабіць на адвольную тэму. Усе падыходзілі да выбару рацыянальна, узважвалі свае сілы. Нам важней быў наш унутраны свет. Тым больш, што да пятага курса ўсе былі ўжо жанатыя і замужам. Гэта быў свет, які патрабаваў шмат увагі, і мы разумелі, што гэта — галоўная каштоўнасць. У мяне за год да абароны нарадзіўся сын, і, па сутнасці, я рабіў дзве дыпломныя працы — за сябе і за сваю жонку. На чацвёртым курсе вырашыў, што буду займацца фатаграфіяй. Таму тэма дыпломных работ была звязаная з фотаграфікай. Па патрабаванні кафедры яна была звязаная з палітычным плакатам. Усё выконвалася сродкамі фотамантажу. Прымянялася шмат тэхнічных прыёмаў. У мяне былі два кіраўнікі, напэўна, гэта да гэтага часу застаецца выключным выпадкам у гісторыі Акадэміі. Тады быў зламаны стэрэатып, што фотаграфіка — гэта для тых, хто нічога не ўмее.

Мы праз дзень бывалі ў кнігарні «Дружба». Калі мы дазнаваліся, што прывезлі якую-небудзь дэфіцытную кнігу, — куляй ляцелі, каб купіць. Менавіта тады для нас адкрыўся савецкі авангард, які перавярнуў усё нашае ўспрыманне. Яшчэ ў кожнага была пераносная бібліятэка з часопісаў. Некаторыя кнігі ў мяне ёсць да гэтага часу. І калі я іх бяру, адразу згадваю студэнцкія гады.

Дзіўны час, мы выраслі ў шэрым колеры, але мы гарэлі. З цягам часу прыйшло адчуванне, што ўсяго і не трэба паспяваць, варта беражліва ставіцца да ўласных сілаў і не спяшацца. Усе мае аднакурснікі — гэта людзі, якія хацелі змяніць маленькую частку таго свету, якая нам дадзена. Мы не былі наіўнымі — ніхто з нас не думаў, што мы зменім увесь свет.

Для мяне фармальны вобраз Акадэміі — гэта, вядома, куб, чорны або белы куб, які стаіць на пакамечанай паперы. Калі я быў малады, свет мастацтва мяне трохі палохаў — ніколі не ведаеш, якой гранню гэты куб да цябе павернецца. Без аптымізму, веры ў перамогу і апоры на калектыў усё больш складана.

Сёння магу сказаць, што ў цэлым Акадэмія засталася ўсё той жа. Можа быць, дзесьці стала лепш, дзесьці стала горш. Але гэта тая самая баявая адзінка, якая, як і тады, маштабна ўплывае на развіццё мастацтва ў краіне. Хаця мне здаецца, што раней павагі да мастацтва было больш. Але крытэрыі прафесійнага стаўлення да справы ніколі не мяняюцца.

***Запісалі Ганна БІЖЫК і Алена РУСАКЕВІЧ.***

## Дзевяностыя

## НЕБА, ПТУШКІ

*Павел ТАТАРНІКАЎ,*
*мастак, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (1995 г.), спецыяльнасць «графіка», дацэнт кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.*

Я спачатку вучыўся ў «парнаце» (Гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка. — **Г. Б.** і **А. Р.**). Мы хадзілі ў Акадэмію і на прагляды, і на капуснікі. За год-два да паступлення практычна кожны з нас ведаў, на якое аддзяленне будзе паступаць. Я выбраў графіку. Мастакі, якія там выкладалі, былі для нас кумірамі. Разам са мною на графіку з «Ахрэмчыка» паступалі пяць чалавек, а бралі ўсяго шэсць. Атрымлівалася, што мы адзін аднаму канкурэнты. Падчас іспытаў мы жылі ў інтэрнаце, дзе нам свой пакой аддаў Алесь Пушкін — ён быў старэйшы, але ж таксама парнацкі… Яшчэ ў школцы ён быў нашым «шэфам»: мы — пяты клас, а ён — адзінаццаты. Дык вось, на момант паступлення, калі нам не было дзе жыць (грошай здымаць кватэру няма, пакой на экзамены ў інтэрнаце не давалі), Алесь Пушкін сказаў: «Жывіце ў мяне!»



*Вікторыя Ярэніч.*
*«Дон Кіхот свайго часу».*

Часам пытаюцца, ці была падчас вучобы паміж намі канкурэнцыя, здаровая канкурэнцыя. Што такое нездаровая канкурэнцыя ў працы, я нават і не ведаю. А канкурэнцыя ў творчасці ёсць заўсёды, і гэта нармальна. Яна ёсць у кожнай навучальнай установе. Нават у дзіцячых садочках. Калі ёсць лідары, амаль заўсёды яны вядуць за сабой астатніх, гэта педагагічны факт. Усе мастакі-студэнты вучацца адзін у аднаго. Выкладчыкі даюць агульнакарысную інфармацыю. Час ад часу, зразумела, могуць падказаць, накіраваць. Але ж галоўнае, што дае акадэмічная адукацыя, — гэта якасць рамяства. Яе можна атрымаць толькі працуючы і назіраючы за працай сяброў. Група ў нас была рознаўзроставая. Нас, хлопцаў з «парната», усе на кафедры звалі «гарохам». «Брацікамі» і «гарохам» — малыя ўсе былі, худыя… Але былі ў нас і старэйшыя. Зміцер Локіць, Віталь Дударэнка. А дзяўчына ў нас усяго адна была — Лянуся Нядзелька.

Самы цікавы час — гэта, вядома, пленэры. Яны былі даўжэйшыя, чым цяпер — два месяцы. Уяўляеце сабе, два месяцы на прыродзе? Ну, гэта ж цуд, курорт! Ясна, што грошы там хутка канчаюцца, трэба думаць, як пражыць. Тады яшчэ, акрамя стыпендыі, студэнтам выдавалі натурныя грошы, грошы на матэрыялы. Даволі нармальная сума атрымлівалася, каб на вёсцы пражыць. Хаця здараліся смешныя выпадкі. Неяк практыка была ў Гальшанах. Тады не было яшчэ мяжы з Літвой, але крызіс ужо пачаўся, з’явіліся карткі і талоны. Ды нам на вёсцы нічога не прадавалі, бо мы там не прапісаны. Што рабіць? Жылі ў будынку, дзе была школьная бібліятэка, і школьны вартаўнік-конюх выдаў нам мех бульбы. Але гэтага ўсё роўна было малавата… Тады да

нас часта прыязджалі сябры. Неяк з Вільнюса прыехаў вядомы цяпер мастак Сяргей Поклад. Прыехаў ды зайшоў у нашу вясковую краму: там ужо даволі пуста было, але на верхніх паліцах радамі стаялі палатняныя мяхі з бразільскай кавай у зернях. Каштавала 2 рублі 55 капеек кілаграм — гэта амаль бясплатна, нават на тыя часы. Ясна, што вяскоўцы не куплялі гэтую каву ў зернях так шмат, як яе прывозілі. І тут Сяргей кажа: «Гэта ж Кландайк! Збірайцеся, паедзем у Вільнюс». Тады рэйсавыя аўтобусы хадзілі з Гальшанаў у Вільнюс. Набралі мы гэтых мяхоў і паехалі. А ў Літве на той час ужо было шмат прадпрымальнікаў, кавярні розныя адчыняліся. Кава з Бразіліі — страшэнны дэфіцыт! Нідзе яе не было, а тут на табе — мяхі гэтай кавы. І мы яе прадалі па нейкім неверагодным для нас кошце. У адно імгненне ў нас стала шмат грошай! Што з імі рабіць? Ну, паелі — наеліся. З сабой розных сыроў з булкамі набралі, а грошы ўсё не канчаюцца. І вось мы знайшлі адзін рынак, а там — вайсковая амуніцыя з нейкіх савецкіх складоў. Глядзім — бляшанкі-дымавухі вайсковыя. Ну і набралі мы гэтых дымавух. А на наступны дзень у мяне дзень народзінаў, і хлопцы прэзентуюць мне бутэльку французскага калекцыйнага віна, купленую на аўкцыёне, з нумарам: 163164.

А яшчэ людзі ў Гальшанах, пэўна, і дасюль думаюць, што там прызямлялася НЛА. На Купалле да нас ізноў прыехалі сябры, і мы пайшлі з імі на ўзлесак паліць вогнішча. А ў нас яшчэ захавалася сёе-тое з віленскіх вайсковых запасаў: дымавухі, фаеры розныя, ракетніцы. Паспявалі мы песні і пачалі запускаць усё, што ў нас было. На світанку вярнуліся ў вёску, а да нас прыбягае знаёмая маленькая дзяўчынка і кажа: «Ведаеце што, а ўчора ў Гальшаны НЛА прылятала! Вось там, за гарой. Там вялікі шар пераліваўся. А вакол яго яшчэ іншыя маленькія лёталі палову ночы, а пасля адляцелі!» Толькі пасля мы зразумелі, што гэта было нашае вогнішча і дымавухі, але не сталі расчароўваць дзяцей.

Шмат цікавага ўспамінаецца і пра нашых натуршчыкаў. Была цудоўная натуршчыца Тамара — балерына на пенсіі (балерыны ж рана выходзяць на пенсію). Такое ўражанне складалася, што яе спецыяльна рыхтавалі пазіраваць. Была яна ўжо не маладая, але вельмі цікавая. Яшчэ аднаго памятаю натуршчыка — дзед. Здаравенны такі, прыгожы дзядзька. Яму было 90 з нечым гадоў. Па прафесіі шкловыдзімальшчык. Ён быў мінчанін і расказваў нам розныя байкі пра даваенны Мінск. Казаў, што людзі тады віталіся адно з адным нават праз дарогу, нават незнаёмыя. Гэта лічылася правільным. Пра Янку Купалу расказваў, як ён яго на вуліцы сустракаў і вітаўся з ім.

Калі зноў вяртацца да нашага курса, ён лічыўся ўмоўна моцным. Але галоўнае — псіхалагічныя адносіны паміж людзьмі. Здараецца, што не сябруюць аднакурснікі, сварацца. Тады рушыцца ўсё. Калі непрыемна прыходзіць у сваю майстэрню, бо не сябруеш з суседам, ты проста пакутуеш. У нас было добра. Здаралася, сыходзіць вечарам дадому не хочацца. Хоць ты начуй у майстэрні з сябрамі. Частка з нас яшчэ жыла ў інтэрнаце, дык мінчане не хацелі сыходзіць ад нас. Да начы сядзелі. Мы і цяпер усе сябруем, вельмі блізка, па-братэрску. Я лічу, што сябры са студэнцтва — гэта тыя сябры, якія застаюцца на ўсё жыццё. Вось у мяне так дасюль і не з’явілася блізкіх сяброў не з таго перыяду.

Да дыплома мы падышлі як курс, які дае надзеі. І мы надзеі апраўдалі. Кіраўніком майго дыплома быў рэктар — Васіль Пятровіч Шаранговіч. Паколькі чалавек ён быў заняты (усе гэтыя адміністрацыйныя справы), то прыходзіць да нас часта не мог. Таму адносіны ў нас будаваліся на даверы: ёсць тэрмін — і за гэты час я павінен выканаць пэўную работу. Ды і сама сістэма будавалася так, што спачатку абараняецца тэма, потым эскізы і гэтак далей. Адным словам, праблем не было. Працаваць нам хацелася. Майстэрні былі. А галоўнай нашай забавай было працаваць з сябрамі разам. У мяне была серыя літаграфій. На трэцім курсе трэба было зрабіць ілюстрацыі да паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Нам гэтае

заданне падалося спачатку нецікавым, таму што нам, маладым, заўсёды хацелася чагосьці свежанькага. Але ў гэтым творы ёсць такія філасофскія абагульненні… І неяк атрымалася, што я знайшоў цікавы вобраз гэтага твора, зрабіў работу «Дзедаў човен»: човен, а ў ім вёска плыве, дрэвы розныя. Гэтая ідэя легла ў аснову дыпломнай серыі «Падарожжа», дзе асноўны сімвалічны элемент — човен.

Акадэмія… Пакуль ты яшчэ не студэнт — гэта адна справа, калі ты ўжо тут вучышся — іншая. Пасля ты выйшаў з Акадэміі, і ў цябе засталіся ўспаміны. Потым ты прыйшоў сюды выкладаць — гэта новая гісторыя. Шэсць год вучобы ў Акадэміі! Я і жыў тут у інтэрнаце. Гэта дом! Жыццё праходзіць тут: каханне і праца. Калі ў мяне пытаюцца пра нерэалізаваныя планы, я кажу: «Дзяўчынку нарадзіць». Сыночак ёсць, вось яшчэ дачушку хачу. Я лічу, што гэта абсалютна адэкватны план для дарослага мужчыны. А калі да творчасці, то тут заўсёды думаеш: нешта яшчэ не зрабіў, не паспеў ці не паспяваю. Існуе яшчэ такое паняцце, як крызіс сярэдняга ўзросту, але калі шмат працы, то ўсё спакойна праходзіць. Я думаю, што ў мяне даволі шчаслівы складваецца лёс і творчы, і чалавечы.

***Запісалі Ганна БІЖЫК і Алена РУСАКЕВІЧ.***

## ЛЁД З ПАВІДОКАМІ СОНЦА

***Алена БОХАН,***
*мастацтвазнаўца, выпускніца Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (1996 г.), спецыяльнасць «Мастацтвазнаўства (выяўленчае мастацтва)», прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт.*



*Веранiка Несцярук. «Кампазіцыя».*

Першая палова дзевяностых была вельмі багатай на мастацкія падзеі, гучныя акцыі. У асяродку творчай інтэлігенцыі тады панаваў аптымістычны настрой і надзея на каласальныя змены, уяўлялася, што магчымае ўсё. Студэнты актыўна ўдзельнічалі ў разнастайных мастацкіх праектах, напрыклад, адзначалі стагадовы юбілей славутага Уладзіслава Страмінскага. Не без уплыву нашых выкладчыкаў мы, студэнты, сталі ўдзельнікамі шэсця і перфомансу, якія ладзіў да гэтай падзеі Ігар Кашкурэвіч. Тады было весела знаходзіцца ў цэнтры неверагоднай дзеі, калі лёд Свіслачы расквецілі павідокі сонца з палотнаў нашага вялікага земляка. А цяпер усведамляеш, што такім чынам нас назаўжды знітоўвалі з гісторыяй і культурай Радзімы.

З абсалютнай упэўненасцю магу назваць чалавека, які карэнным чынам паўплываў на мой светапогляд, — Міхась Фёдаравіч Раманюк. Гэтага педагога лічу самым галоўным у маім жыцці. Мне пашанцавала, што легендарны знаўца народнага мастацтва стаў кіраўніком дыпломнай работы, а пасля і кандыдацкай дысертацыі. На жаль, давучвацца ў аспірантуры давялося ўжо без яго. Думаю, што Міхась Фёдаравіч пакінуў след не толькі ў маёй душы. Ён быў геніяльным настаўнікам, які вельмі добра адчуваў сваіх вучняў і ненавязліва скіроўваў іх менавіта на той шлях, які, як паказваў далей час, прыводзіў да поспеху. Ён заўсё-

ды дапамагаў паверыць у свае сілы, а гэта адзін з галоўных талентаў настаўніка.

Я пачала вучыцца на дызайне, а потым апынулася на кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў. Мой пераход на «Мастацтвазнаўства» стаў тым момантам, калі я дакладна ўсвядоміла, чым хачу займацца, і знайшла любімую справу. Дагэтуль вельмі ўдзячная лёсу і людзям, якія паўплывалі на гэтае рашэнне.

Пытаць пра адчуванне колеру і ідэнтыфікацыю праз яго alma mater — у сценах Акадэміі справа марная. Канечне, гэта ўсе колеры адразу. Вось пахі і гукі абсалютна канкрэтныя. Найперш, пах растваральніка ў майстэрнях жывапісцаў і спецыфічны пах гліны на першым паверсе, дзе размяшчаліся майстэрні скульптараў. А гукі адмысловыя — паліфанія з фартэп'янных мелодый, ціхага мармытання тых, хто развучвае ролю, нечаканых ускрыкаў, манатонных прамоў лектараў з-за зачыненых дзвярэй аўдыторый і, вядома, маладога і вясёлага смеху.

З моманту паступлення ў Акадэмію ніколі з ёй не развітвалася. Нават калі працавала ў іншым месцы, я паралельна вучылася ў аспірантуры ці выкладала. Думаю, што калектыў Акадэміі, стыль адносін паміж выкладчыкамі і студэнтамі вельмі моцна ўплывалі на маё стаўленне да жыцця ўвогуле.

Ці паўплывала Акадэмія на мой характар? Мне здаецца, што характар — уласцівасць, дадзеная з нараджэннем. Канечне, чалавек прыстасоўваецца да абставін, але характар схаваць цяжка. Магчыма, Акадэмія навучыла мяне разумець гэта і з павагай ставіцца да індывідуальнасці іншых.

Калі згадваць пра любімы від з вакна аўдыторыі… У мяне не было любімага віду з вакна, але была любімая аўдыторыя 421 у галоўным корпусе, дзе праходзілі заняткі па гісторыі мастацтваў, дзе харызматычныя выкладчыкі закідвалі ў галовы студэнтаў неверагодныя ідэі, якія станавіліся зернем для мастацкіх праектаў, дзе было здадзена нямала важных іспытаў, дзе на сцяне ад шматгадовых прытульванняў студэнтаў з'явіліся шэрыя плямы-сілуэты і ў пустой аўдыторыі здавалася, што за партамі сядзяць здані. Вокны ў гэтай аўдыторыі звычайна былі зацягнутыя цёмнай тканінай (калі я вучылася, паказваць слайды можна было толькі ў цемры). Але, калі шчыльную тканіну ўсё ж адсоўвалі, адкрываўся від на вуліцу Сурганава. Імклівы рух транспарту і вулічная мітусня кантраставалі з размовамі пра вечнае і прыгожае і вярталі да сучаснага жыцця, наводзячы на думкі пра сустрэчы з сябрамі і штодзённыя клопаты.

Дыпломная работа фактычна вызначыла мой прафесійны шлях, бо тэму паходжання і стылістыкі традыцыйнага беларускага арнаменту я развівала далей у кандыдацкай дысертацыі. Канечне, на сённяшні мой погляд, некаторыя ідэі ў дыпломнай дастаткова наіўныя, але не магу сказаць, што мне сорамна за тое, што напісала 20 гадоў таму. На нашай кафедры заўсёды была добрая традыцыя — з трэцяга-чацвёртага курса студэнты звычайна ўжо вызначаліся з выбарам тэмы дыпломнай, бо напісанне навуковай работы патрабуе значнага часу на збор матэрыялу.

Традыцыя, уласцівая творчым школам, — гэта цесная сувязь настаўніка і вучня. Акадэмія не падобная на многія ўстановы адукацыі, дзе студэнт праходзіць пэўныя, выверaныя, этапы навучання і ў залежнасці ад прыкладзеных намаганняў атрымлівае чаканы вынік. Для спасціжэння таямніц творчасці такая схема не спрацоўвае. Студэнты засвойваюць майстэрства, а выкладчыкі цярпліва і настойліва шукаюць іх моцныя бакі. Перадусім у Акадэміі аддаецца перавага таленту. Адоранаму студэнту шмат што даруецца, але ж ад яго і патрабуюць максімальна раскрываць свой талент, працаваць на поўную моц.

Калі параўнаць час вучобы з якой-небудзь з'явай, аб'ектам ці станам, то гэта хутчэй за ўсё спіраль, якая сімвалізуе адначасова і няспыннае развіццё, і цыклічнасць, традыцыі. Так і Акадэмія, нарошчваючы абароты, развіваючыся, рухаецца, аднак жа, у рытме, зададзеным тымі, хто стаяў ля вытокаў.

***Запісаў Тарас КУЧЫНСКІ-ПАРАВЫ.***

## Двухтысячныя

# САМАЕ ГАЛОЎНАЕ — УПЭЎНЕНАСЦЬ У САБЕ

***Вячаслаў ДАМУЦЬ,***
*тэлеаператар, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (2006 г.), спецыяльнасць «тэлеаператарства», загадчык аддзела тэлеаператараў Дырэкцыі падрыхтоўкі праграм генеральнага прадзюсарскага цэнтра Белтэлерадыёкампаніі.*

Паступіў я ў Акадэмію ў 2001 годзе. Быў старастам курса. Я вучыўся на завочным аддзяленні, і людзі ў групе ўжо працавалі на тэлебачанні. Магчыма, таму выкладчыкам з намі было прасцей. Мы ўжо разумелі, чаго мы хочам ад вышэйшай адукацыі.

Сам я да паступлення не працаваў у тэлевізійнай сферы — займаўся фатаграфіяй. Мне было цікава, але фатаграфаваў я больш інтуітыўна. Аператарскае мастацтва заснаванае ў многім на тэорыі фатаграфіі і жывапісу, таму першыя два-тры курсы мы займаліся выключна фатаграфіяй. Я ведаў пра тое, што аператары на першых этапах навучання ў асноўным займаюцца фатаграфіяй, вывучаюць законы кампазіцыі, светлавы малюнак, асвойваюць розныя жанры фатаграфіі. Таму і паступаў у Акадэмію менавіта з мэтаю навучыцца фатаграфаваць. Я хацеў атрымаць веды ад прафесіяналаў і не планаваў звязваць сваё далейшае жыццё з тэлебачаннем.

Яркім для мяне быў сам момант паступлення. Таму што я паступаў, калі мне было ўжо 30 гадоў. Конкурс быў даволі вялікі. Да гэтага былі падрыхтоўчыя курсы, і я рыхтаваўся. Кожныя выхадныя прыходзілі са сваімі фатаграфіямі, горача іх абмяркоўвалі — да паступлення патрэбны быў яшчэ і камплект фотаздымкаў з 20—30 штук на розныя тэмы. Прычым яны мусілі быць аформленыя. І афармлялі мы іх перад самым экзаменам. Дасюль памятаю, як вакол стаяў моцны пах клею. Першыя экзамены былі па спецыяльнасці. Напрыклад, у студыі трэба было зняць партрэт за пэўную колькасць часу — нам давалася 45 хвілін. Мы павінны былі прадставіць мастацкі вобраз чалавека. Наступнае заданне — зрабіць за адзін дзень фотарэпартаж у горадзе на зададзеную тэму. Маркіравалася плёнка, трэба было прынесці каля 10 фатаграфій. А ўсяго было толькі 36 кадраў. Тэма — «Дзеці сталіцы». Трэба было знайсці кропкі і для сябе прадумаць, як на фатаграфіях гэтых дзяцей падаць, падаць нейкі вобраз, прычым у жанры рэпартажу. А на наступны дзень мы мусілі прынесці аддрукаваныя здымкі.

Па прафесійных прадметах у мяне былі пяцёркі, а вось за пераказ я баяўся. Але ў выніку было не так кепска. З 20 балаў я набраў 19,5. Пры паступленні гэта быў адзін з лепшых вынікаў, што мяне вельмі здзівіла. Я паверыў у сябе.

У Акадэміі выкладчыкі давалі магчымасць раскрыцца. І самае галоўнае — было жаданне працаваць. З аднакурснікамі ў мяне былі вельмі добрыя адносіны, мы ўсе сябравалі. Рабілі нейкія сумесныя працы. У нас была моцная група.

З дванаццаці чалавек восем атрымалі дыпломы з адзнакай. Не зважаючы на тое, што мы вучыліся завочна, заняткі мы не прапускалі. Ставіліся адказна і да агульнаадукацыйных прадметаў, і да прадметаў па спецыяльнасці. Усе хацелі вучыцца. Майстар-клас у нас вяла А. А. Суханава, яна ў свой час стварыла гэтае аддзяленне. У яе вялікі досвед работы ў кіно, таму ёй было пра што нам расказаць.

У якасці дыпломнай працы я рабіў сваю троххвілінную замалёўку. У мяне была аматарская камера. Я ездзіў у адпачынак і там здымаў марскія пейзажы. Потым іх нарэзаў і пад музыку Вівальдзі падклаў шэраг прыгожых марскіх пейзажаў на ўзыходзе сонца. У свой час я хадзіў у мора, убачыў практычна ўвесь Ціхаакіянскі рэгіён — ад Аляскі і да Новай Зеландыі. Усё гэта было ў мяне ў галаве.

Немагчыма аддзяліць творчасць ад жыцця, а жыццё — гэта рэальнасць. Вядома, ёсць праца, ёсць адказнасць за аддзел, за людзей, ёсць сям'я, як я магу

іх абдзяліць? Але калі ёсць час, я пагружаюся ў нерэальнае. Самое натхненне не бярэцца з ніадкуль, яно прыходзіць ад навакольнага свету, ад людзей, якія побач, ад добрага кіно, якое глядзіш. Хочацца неяк праявіцца ў гэтым жыцці. Гадоў пяць таму я наладзіў выстаўку фатаграфій апаратараў, менавіта з мэтаю паказаць іх унутраны свет.

Плёначнай фатаграфіяй я цяпер не займаюся. Я вельмі доўга і ўпарта працягваў працаваць з плёнкай. Але з цягам часу я зразумеў, што ў лічбавай фатаграфіі значна больш магчымасцей. Плёнцы трэба прысвячаць шмат часу. У наш дынамічны час гэта немагчыма. Для гэтага трэба займацца толькі фатаграфіяй, і нічым іншым, а сумяшчаць усё даволі цяжка.

У рабоце апаратара шмат адказнасці, таму што з матэрыялам, які зняты з камеры, павінны потым працаваць многія людзі. Першапачатковы матэрыял робіць апаратар, і ягонае мысленне, светапогляд уплываюць на «карцінку», якую мы бачым.

У Акадэмію я паступаў свядома, я ведаў, чаго ад яе хачу. І што хацеў, атрымаў. Самае галоўнае, што я атрымаў ад выкладчыкаў, — упэўненасць у сабе. Я веру: тое, што я раблю, успрымаецца станоўча. Вельмі важна гэта ў час зразумець.

***Запісалі Ганна БІЖЫК і Алена РУСАКЕВІЧ.***

## ЗАЛАТЫЯ ГАДЫ...

***Сяргей ЖБАНКОЎ,***
*акцёр, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (2008 г.), спецыяльнасць «акцёрскае майстэрства (музычны тэатр)», акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага.*

Калі згадваю Акадэмію, чамусьці адразу ўяўляю блакітныя і пясочныя адцені. Напэўна, тое, што звязанае з прыемнымі ўспамінамі, заўсёды асацыіруецца з любімымі колерамі. А водар Акадэміі… Калі першы раз прыйшоў у Акадэмію, я яшчэ не ведаў, што буду туды паступаць. Проста зазірнуў да свайго сябра Антона Калініна, з якім разам вучыліся ў вучылішчы. Памятаю, быў трохі здзіўлены, як усё абсталявана. Памятаю водар нейкай старызны, у добрым сэнсе гэтага слова, і старых драўляных дзвярэй.

Мама мая заўжды казала: «Сярожа, студэнцкія гады — гэта залатыя гады!» І гэта праўда! Самы яркі ўспамін — гэта тое, што мы заўжды былі разам. Нам казалі, што гэта толькі першы курс мы такімі будзем дружнымі; потым, што гэта толькі два курсы мы такімі будзем дружнымі… Казалі: гэта цяпер вы разам іграеце дыпломныя спектаклі, адзін раз сыграеце і разыдзецеся! Мы скончылі Акадэмію і яшчэ два гады збіраліся і ігралі дыпломныя спектаклі. Гэта ўжо потым хтосьці з’ехаў у Маскву, хтосьці стаў вельмі занятым, але два гады мы трымаліся і ігралі. Напэўна, самыя яркія і прыемныя ўспаміны — гэта жарты, людзі, агульная атмасфера нязмушанасці і тое, што мы заўжды адно аднаго падтрымлівалі, і ў творчым працэсе таксама. Ніколі не забудуся, як мы збіраліся пасля заняткаў у якім-небудзь дворыку, сядзелі, размаўлялі, нешта абмяркоўвалі; нашы ранішнія акцёрскія трэнінгі не забудуся. Калі цяжка, але ты падымаешся зранку і прыходзіш, таму што трэба, і Ірына Іванаўна прымушае нас бегаць, скакаць па радах. Гэта таксама крута. І гэта толькі прыемныя ўспаміны!

Калі назваць людзей, якіх згадваю з гадоў вучобы… гэта, найперш, мая жонка. Мы з ёй у вучылішчы займаліся. А потым мы разам паехалі паступаць у Акадэмію, а як адвучыліся — пажаніліся. І, напэўна, менавіта яна самы дарагі для мяне чалавек, таму што ўвесь гэты шлях навучання мы прайшлі разам. З сяброў гэта, вядома, Саша Цялюк, Света Карнялюк, Ігар Босак, Анзор. Мы і цяпер сябруем, прыходзім адно да аднаго ў госці. На прэм’еры.

Калі параўнаць час навучання ў Акадэміі з якой-небудзь з’яваю, станам… Чамусьці адразу ўявіўся трохкутнік, нават піраміда, што імкнецца ўверх. Хацелася б, вядома, каб гэты трохкутнік усё ж такі перажыў рамонт і гэтае месца заха-

валася. Для нас гэта святое месца. Вельмі шкада, калі праязджаеш паўз Акадэмію і разумееш, што дзверы зачыненыя і там нічога не адбываецца. Хочацца, каб там кіпела жыццё! Я думаю, у нас шмат моладзі, якой ёсць што сказаць! І я жадаю, каб хутчэй рамонт скончыўся. І моладзь сюды імкнулася. Так шмат залежыць ад нас, маладых акцёраў, ад тэатра, які мусіць прывабліваць і захапляць!

Чым бы я не займаўся падчас вучобы ў Акадэміі, каб у мяне была такая магчымасць? Мне здаецца, што не варта нас так мучыць па неспецыялізаваных прадметах. У Акадэміі ў нас была этыка ў Карлаўны. Усе казалі, што ў яе занадта цяжка здаць. Але, не ведаю, ці тое яна чалавек-настрой, ці тое, калі я да яе прыходзіў, у мяне ўсё было ў парадку. Я ўсё здаваў і ішоў сабе. Але ж у нас былі, і, ведаю, цяпер ёсць тыя, хто здае ёй па два-тры тыдні… Замест таго, каб аддаць свае сілы на маўленне і майстэрства, у іх галава забітая этыкай. На самай справе, мне калісьці далі карысную параду: у галаве мусіць быць фільтр. Зразумела, што ўсё ты не запомніш, проста не зможаш, але тое, што ты разумееш і лічыш патрэбным, ты заўжды возьмеш.

Змяніць штосьці ў сваім жыцці ў дадзены момант я не хачу. Але ж жыццё гэткая непрадказальная штука, хто ведае, можа, я паспрабую сябе ў якасці рэжысёра.

Калі я толькі паступіў у Акадэмію, паралельна трапіў на конкурс «Зорны дыліжанс» (накшталт «Фабрики звезд» па-беларуску). Мне заўсёды вельмі хацелася спяваць, хацелася, каб са мною займаліся. Я яшчэ ў вучылішчы палюбіў выконваць розныя вакальныя рэчы, і мне хацелася на сцэну, спяваць! І вось, калі я паступіў у Акадэмію і адначасова прыняў удзел у «Зорным дыліжансе», я пачаў разумець, што сам сябе магу ашукаць, што свет «Зорнага дыліжанса», ён нейкі несапраўдны. Нягледзячы на ўсю яго прывабнасць, маштабнасць, тэлевізійнасць, усё гэта не тое. А тут, у Акадэміі, неяк усё цяплей, гэты свет больш жывы, і ў ім больш чагосьці сапраўднага. Мне і цяпер цікавая эстрада, хочацца спяваць на сцэне, але ўжо тады я разумеў, што тэатральная «кухня» мне бліжэй. І не столькі нейкая падзея, колькі вось гэтае ўсведамленне стала для мяне паваротам.

Ці паўплывала вучоба на мой характар? Так. Я і не думаў, што здолею арганізаваць працэс, выказваць і адстойваць свой пункт гледжання. Не ведаў, што ўва мне могуць выявіцца такія якасці, а вось, дзякуючы Акадэміі, зразумеў і стаў для курса капітанам!

У нас было некалькі дыпломных спектакляў. «Ах, Галівуд, Галівуд!», «Алена Прыгожая», «Венскія сустрэчы» і «Канцэрт». «Венскія сустрэчы» — гэта класічныя аперэты, а «Канцэрт» складаўся з рускіх аперэт. Быў яшчэ «Расія Жывага» рэжысёра Дзмітрыя Багаслаўскага. Вы пыталіся пра нерэалізаваныя праекты: якраз гэтую пастаноўку і хацелася б аднавіць. А дзякуючы спектаклю «Ах, Галівуд! Галівуд!» я трапіў у тэатр імя М. Горкага. Гэта наш адзін з самых дзёрзкіх, вясёлых спектакляў. Хаця здаралася рознае. Аднойчы перад спектаклем я ўзяў светлавы прыбор, а дзесьці агаліўся дрот, і мяне замкнула! Я тады спужаўся пасапраўднаму — схапіў і не мог адпусціць. Усё жыццё прамільгнула, як фільм, перад вачыма. І вось, калі ўсё вакол ужо расплылося, я здолеў выкінуць гэтыя драты. Казалі, што я бледны-бледны, але сцвярджалі, што спектакль прайшоў лепш, чым звычайна.

Традыцыі Акадэміі? Гэта пасвячэнне. Мне яно вельмі запомнілася. Яшчэ добрая традыцыя — конкурс «Чытаюць і спяваюць студэнты БДАМ». Гэта свята Акадэміі, калі ўсе збіраюцца, слухаюць адно аднаго, глядзяць, хто што зрабіў…

***Запіс Настассі ФАНАРЫКАВАЙ.***

***Кіраўнік праекта: Марыя КАРПЯНКОВА.***
***Фота Паліны ЛЯЖАНСКАЙ.***

*P. S. Сёння, калі Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, якая апошнія некалькі гадоў з-за рамонту ў галоўным корпусе рыхтавала студэнтаў на Каліноўскага, Чычэрына, Будзённага…, нарэшце вяртаецца ў родныя сцены, на праспект Незалежнасці, хочацца пажадаць ёй, каб добрыя старыя традыцыі працягваліся. І нараджаліся новыя.*

Казімір КАМЕЙША

# ВЯРТАННЕ Ў ВОСЕНЬ

Мне падабаецца гэты наш студэнцкі здымак. Толькі прыгледжуся да яго — і адразу вяртаецца далёкае юнацтва, 1963 год. Шасцёра зусім не самотных хлопцаў са студэнцкага інтэрната на Свярдлова задумалі аднойчы увекавечыцца. Здымку пашанцавала: ён шмат разоў з’яўляўся ў кнігах і часопісах і, пэўна, дасюль захоўваецца ў шасці альбомах. Пажылы фатограф «растасаваў» нас гэтак: мы ў першым радзе сядзім — аўтар гэтых радкоў, Сяргей Судніковіч і Эдуард Зубрыцкі, а яны другім радам стаяць — Мікола Пацэнка, Рыгор Семашкевіч ды Уладзімір Навумовіч. Такой вось сям’ёй мы і жылі ў студэнцкім інтэрнаце ў цеснаватым пакойчыку, у які трапіць можна было праз вялікі пакой, дзе жылі студэнты аддзялення журналістыкі. Аднойчы нам падсялілі нават сёмага, вельмі вясёлага, крыху хуліганістага хлопца з Палесся. Але той неўзабаве ажаніўся са старшакурсніцай, перавёўся на завочнае ды з’ехаў у нейкую далёкую правінцыю.

Я добра памятаю і той халаднаваты лістападаўскі вечар, калі мы, апрануўшыся ва ўсё лепшае (хто ў сваё, хто ў пазычанае), падаліся ў бліжэйшае атэлье. На здымку і бачым: усе такія важныя, усе пры гальштуках, і толькі адзін я ў швэдары. Чаму ж, быў і ў мяне чорны касцюм і некалькі гальштукаў да яго, але швэдар я лічыў самым лепшым сваім убраннем, бо ў Мінску ён быў такі адзін — надта мудраванага вязання, расквечаны праз усе грудзі вясёлкаю яркіх палосаў, ды яшчэ меў вялікі адкідны каўнер. Купіў я яго выпадкова ў камісіёнцы на Кірава, там пазней і прыкасцюміўся. Мы сфатаграфаваліся на памяць, калі позвай з ваенкамата мяне, трэцякурсніка, паклікалі ў войска. Што зробіш, мой ваенны год нараджэння быў беднаваты на хлопцаў, а шэрагі прызыўнікоў трэба было некім папаўняць, дык стрыглі пад нулёўку і нас, студэнтаў. Кафедру ваенную перад гэтым у БДУ ліквідавалі. Цяжка было пакідаць сваіх сяброў ажно на тры гады. Цяжка, але трэба.

У першы год маёй службы мы яшчэ неяк перапісваліся, але хутка ўсім надакучыла аднастайная эпісталяршчына, і сувязь я падтрымліваў хіба што з рэдакцыямі ды яшчэ з Хведарам Чэрнем, які ўзяўся рыхтаваць да друку маю першую кнігу. Быў ён хлопцам самаахвярным, наш дарагі Хведар. І не таму, што сам да ўніверсітэта адслужыў у войску. Проста такім нарадзіўся.

Я вярнуўся з войска, калі вырай нашага студэнцкага курса разляцеўся па самых розных гнёздах, а з Рыгорам мы сустрэліся, калі ён, папрацаваўшы дырэктарам васьмігодкі на Смаргоншчыне, вучыўся ў аспірантуры ўніверсітэта. Ён ужо быў акружаны колам новых сяброў, з многімі з іх пасябраваў потым і я. Хто адважыцца аспрэчваць старое сцверджанне, паводле якога сябры нашых сяброў ёсць нашы сябры?! А на трэцім курсе, куды я вярнуўся пасля службы, вучыліся цяпер зусім іншыя, маладзейшыя за мяне хлопцы і дзяўчаты, і сярод іх я адчуў сябе няўтульна. Аднёс я дэкану заяву і перавёўся на завочнае навучанне. З Рыгорам мы пачалі ўсё часцей сустракацца, калі я працаваў на Беларускім радыё. Аб’ядноўвала нас хутчэй за ўсё моцнае падстрэшша рук Анатоля Вялюгіна, нашага незабыўнага паэтычнага настаўніка. У Рыгора ўжо выйшла першая кніга паэзіі «Леснічоўка», а мая ўсё чакала ў выдавецтве. Давялося звяртацца за падтрымкай да «адмірала паэзіі»

Вялюгіна. А пачыналі друкавацца мы з Рыгорам адначасова. Яго паэтычны пачатак, магчыма, і не назавеш нейкім узлётам. Гэта наш паэтычны факультэцкі настаўнік Алег Лойка авансаваў нам усім добрыя крылы, назваўшы студэнцкае літаб’яднанне «Узлётам». Да сапраўднага ўзлёту яшчэ было далекавата, але крылы ўжо адрасталі. Я памятаю, як у студэнцкім пакоі нараджаліся вершы Рыгора Семашкевіча «Дзівасіл», «Родныя назвы», «Леснічоўка», «За ліўнямі, за аркамі вясёлак». Нараджаліся яны без паспешлівасці, не скажу, што пакутліва. Але мала калі быў адразу канчатковы варыянт. Рыгор умеў адшукаць тую паэтычную нітачку, за якую можна было асацыятыўна ўхапіцца. Пасля ўжо на яе можна нанізваць і дэталі нейкія, і вузлаваць кідкія вобразы, і змацоўваць усё гэта адпаведнай думкай. Вось вычытаў ён у біяграфіі Хведара Жычкі, што той нарадзіўся ў вёсцы Марс на Жлобіншчыне. А нехта са студэнтаў абмовіўся, што ў блізкім Дзяржынскім раёне ёсць пасёлак Юпітэр. Гэта быў час смелага асваення касмічнай прасторы, трыумфальнага палёту ў космас Юрыя Гагарына. Адразу ж у маладога паэта выспеў касмічны верш. Толькі канцоўка ў вершы атрымалася падкрэслена зямная:

Ўзлятаем, людзі, рвёмся мы за хмары.
Няхай стартуюць нашы караблі!
Не забывайце ж пра зямныя Марсы
І незямныя цуды на зямлі.

Ну а заяўка на паэтычны старт была зробленая Р. Семашкевічам крыху раней у біяграфічным вершы:

А я з сорак пятага,
А я з сорак пятага,
Равеснік дня Перамогі
І выбуху першага атамнага.

Верш пачаткоўца быў заўважаны. Нават самы аўтарытэтны крытык Рыгор Бярозкін адзначыў смелы пошук маладога аўтара. Трэба было бачыць, які́м акрыленым пачуваўся тады Рыгор. І гэта зразумела: на самым пачатку яго заўважылі. Працаваў Рыгор Семашкевіч спакваля, але настойліва. Галоўнае, што не гнаўся за колькасцю. Калі калегі яго ў асноўным перапявалі ўжо вядомае, смакавалі сваё дзяцінства, падкрэсліваючы яго «басаногасць», ён шукаў дзялянкі яшчэ не асвоенай. А калі і браўся за ўжо апрабаваныя тэмы, дык імкнуўся глянуць на ўсё сваім вокам, пад сваім вуглом, як гэта яшчэ ніхто да яго не рабіў. Здаецца, у маёй прысутнасці пісаўся некалі і верш пра салдата, які вярнуўся з вайны, пра яго доўгі сон. Потым я ўбачыў гэты твор у кнізе. І ён мала чым нагадваў той, папярэдні. Значыць працаваў, дапрацоўваў, падганяў пад сваю думку.

У нашай паэзіі заўсёды было шмат творцаў, чый голас цяжка вылучыць з агульнага хору галасоў, якім і ў пошуку, і нават у таленце цяжка адмовіць, а вось уласна сваё, індывідуальнае знайсці ў іх амаль немагчыма. Такія творцы ведаюць, як пісаць і што пісаць, і творчай актыўнасці ім не бракуе, а вось уласнага творчага почырку яны так і не выпрацавалі. Сваё асабістае, адметнае Рыгор Семашкевіч пачаў шукаць яшчэ з першых крокаў. І знайшоў. Верш яго і здзіўляе нас часамі менавіта сваёй адвольнасцю, так званай простасцю, нібыта аўтар размаўляе з намі паміж іншым, без высілкаў на шматдумнасць і шматзначнасць. Такія вершы, наколькі мне вядома, пішуцца зусім не проста. Простае для творцы заўсёды складанае. Возьмем, да прыкладу, хаця б гэтыя радкі:

Здзівіся, друг мой, —
Неспадзеўкі
І для цябе, і для мяне
Такія паўзрасталі дзеўкі
У нашай роднай старане.

Здаецца, такое ўжо адвольнае, просталінейнае, нібыта і несур’ёзнае. А далей вунь як каларытна і густа пайшло:

Пасляваенных тых пястушак
Так шчодра час панасяваў.
Не проста ў дочак, а ў дачушак
Свой мёд на вуснах заспяваў.

І гаворка пайшла пра вельмі ж сур’ёзнае — пра саму «перазменку пакаленняў». Да гэтай гаворкі адразу ж падключаемся і мы, чытачы, бо згадваем адразу і нешта падобнае сваё.

Толькі дзве кнігі паэзіі, якія ён паспеў выдаць пры жыцці, зусім не збядняюць аблічча сапраўднага паэта, якім ён паўстае перад намі. Можа, засяродзіцца на адной толькі паэзіі перашкаджала навука, літаратуразнаўства, праца ў архівах той жа Вільні? А можа, проза ўсё настойлівей адваёўвала права ў яго творчай гаспадарцы? Ужо ў нарысе «Лічыла дні зязюля» ёсць усе прыкметы і нават зачын добрай, разважлівай і ўдумлівай прозы. Якое яно прыцягальнае — гэтае ўменне здзіўляцца і глядзець на ўсё толькі сваім, толькі ўласцівым табе зрокам, а таму бачыць так, як мусім потым бачыць і мы — цёпла і захоплена. Усё гэта гучыць як запрашэнне ў каларытны, лясісты куточак, дзе простая будзённая звычайнасць ніяк не засланяе ўсяго прыгожага і прыцягальнага.

Крытыка заўсёды патрабуе ад празаіка ведання таго самага жыццёвага матэрыялу, які дабываецца, паводле меркавання некаторых, праз нейкія неверагодныя выпрабаванні лёсу. А біяграфія ў самога паэта, магчыма, не такая і багатая на жыццёвыя ўражанні. У ёй школа, універсітэт, невялікі час працы ў школе, потым зноў вучоба і выкладчыцкая праца. А гэта хіба не жыццё? Усё, дзе ты жывеш, колькі жывеш і як жывеш — ёсць жыццё. Навошта патрабаваць ад творцы нейкага асаблівага жыцця? Вунь як хапіла яго на каларытную сатырычную аповесць «Бацька ў калаўроце» (1976).

З гумарам, яркім народным досціпам глянуў Рыгор Семашкевіч на новыя з’явы ў нашым жыцці, на тое, што добра ведаў сам, з чым непасрэдна сам судакрануўся ў паўсядзённым жыцці. Пра твор адразу ж загаварылі ў літаратурных і навуковых колах. Былі нават пакрыўджаныя, якія пазнавалі сябе ў тым творы. Нічога тут дзіўнага няма, калі ўлічыць, што аўтар вылучыў самае тыповае, што ўжо было знаёма чытачу, але не па творах, а менавіта па самім жыцці. Сёння, перачытваючы аповесць «Бацька ў калаўроце», я пачынаю заўважаць і тое, на што калісьці не звярнуў увагі. У гэтым творы падсвядома прысутнічае сапраўднае спаборніцтва лірыка з сатырыкам, прычым поспех і аднаго, і другога ўвесь час ураўнаважваецца. І мне, чытачу, бывае то смешна, то адначасова шчымліва-балюча. Цікава, ці заўважаў гэтую раўназначнасць дзвюх адрозных плыняў сам аўтар. Ды ён, здаецца, і не ставіў перад сабой задачы асуджаць свайго героя. Наадварот, ён нібыта спачувае яму. Рыгор Семашкевіч хоча засяродзіць нашу ўвагу хутчэй на часе і асяроддзі ды абставінах, у якія трапляе яго герой. Ён у сваіх паводзінах і залежны ад усіх гэтых складнікаў часу. А як вядома, з часу нікуды не ўцячэш.

Мне здаецца, што, чытаючы гэтую аповесць, я дзесьці бачыў у ёй і сваю асабістую прысутнасць. Шмат чаго прыгадвалася, калі спыняўся на старонках, дзе студэнты выпраўляюцца ў дыялекталагічную экспедыцыю. Нейкія знаёмыя дэталі я тут сустракаю. Хутчэй за ўсё аўтар мае на ўвазе тую самую экспедыцыю, у якой разам з Р. Семашкевічам давялося браць удзел і мне. Усё тут як быццам супадае з маімі прыгадкамі.

Як ні намагаюся сёння памяццю вярнуцца ў той час, у нашы маладыя гады, а ўсё вяртаюся чамусьці ў верасень. Не, у Рыгора Семашкевіча, здаецца, няма вершаў пра верасень, хоць гэта месяц яго нараджэння.

Але верасень для майго пакалення сімвалізуе вельмі шмат памятнага і значнага. У далёкім верасні мы ўпершыню засяліліся ў цесны пакойчык інтэрната, а потым дружна запаўнялі студэнцкія аўдыторыі, у верасні мы ўпершыню пастукаліся ў дзверы самых аўтарытэтных рэдакцый. У верасні ўрэшце мы зразумелі, што тое, чаму мы прысвяцілі сябе, гэта назаўжды.

У пасмяротнай кнізе Рыгора Семашкевіча «Лічыла дні зязюля» я напаткаў яшчэ адзін здымак, датаваны 1961 годам. На ім — Янка Брыль, будучы цесць

паэта, Анатоль Вялюгін і ён, зусім яшчэ хлапчанё, на нейкай сустрэчы ў Маладзечна. У студэнцкія гады здымка гэтага я не бачыў. Магчыма, адшукаў яго Р. Семашкевіч пазней, а вось пра сустрэчу тую ён часта нам расказваў. І пра Вялюгіна нават згадваў як пра добрага свайго знаёмага. Аднойчы ён і падбіў мяне схадзіць у рэдакцыю «Полымя» з вершамі. Я завагаўся — вунь як адразу ўзялі высока. А ён супакоіў мяне: «Пойдзем. Ты не пашкадуеш». Яны тады сядзелі разам: і Максім Танк, галоўны рэдактар, і загадчык паэзіі Анатоль Вялюгін. Я і сапраўды не чакаў такой незвычайна цёплай сустрэчы. І вершы нашы тады не засталіся незаўважанымі. Іх неўзабаве надрукавалі на старонках часопіса. Можна ўявіць, якая гэта была радасць для пачаткоўца, бо і не ўсім паэтам з вялікай творчай ношай за плячыма ўдавалася трапіць на старонкі самага паважанага ў рэспубліцы часопіса. Настаўнік, ён жа і «адмірал паэзіі», паважаў маладых, лёгка знаходзіў між іх сваіх сяброў. Праўда, на гэта ў яго меўся свой густ і выбар.

Заўсёды, калі выпадае ехаць на Маладзечна, стоячы на пероне і чакаючы электрычкі, згадваю жартоўны Вялюгінаў перафраз сумнага багдановічаўскага:

На тым пероне, дзе я чакаю
На Маладзечна электрычкі,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Хвядоса Жычкі.

Усе першыя кніжкі з «тэлевізарам» на вокладцы выходзілі тады пад рэдакцыяй Хведара Жычкі. Так было і ў Семашкевіча, а праз год і ў мяне. Чатырохрадкоўе хутка падхапілі і панеслі на вуснах паэты. Жычка з вёскі Марс быў вельмі зямным паэтам і ў тых, каго рэдагаваў, цаніў больш не касмічнае, а зямное. Праўда, крытыкі нашы трымаліся іншага правіла — усё заземленае імі не цанілася, здавалася нечым кшталту леташняй травы. Але ж Рыгор Семашкевіч таксама лічыўся крытыкам. Пісаў ён і пра творчасць Рыгора Барадуліна, і Алега Лойкі, і Яўгеніі Янішчыц. Быў, як правіла, вельмі асцярожным у сваіх ацэнках, але і пазбягаў кампліментарнасці. Імкнуўся ўсё называць сваімі імёнамі. Нават калі дзе-небудзь у застоллі адзін пачынаў панегірычна падхвальваць другога, ён узрываўся: «Ну, не трэба. Ты ж бачыш, як чалавеку няёмка!» І ўсё ж ён найпершым чынам паэт. З яе, паэзіі, пачынаў, з ёю і заставаўся. Многія яго паэтычныя радкі мелі сапраўды афарыстычнае гучанне. А яго невялікі верш «Францішак Багушэвіч» можна і праз дзвесце, і праз трыста год уключаць у любую хрэстаматыю, і ён будзе гучаць надзённа:

Якія дакоры
Бываюць у гора?
Імжыць праз гады сіратлівы пагляд.
На ўсю Беларусь мільён пракурораў
І толькі адзін, толькі ён адвакат.

А як дакладна і кранальна сказана пра вайсковыя могілкі Мінска, дзе пахаваныя Колас, Купала, Чорны, Трус:

Спыніся — далёкі ці блізкі, —
Тут маршалы нацыі спяць.

Можна і яшчэ прыводзіць прыклады. Вершы ягоныя хоць і не з тых, кідкіх, але з запамінальных.

Зязюля ягонага лёсу была скупою. Яна адшкадавала паэту толькі няпоўных трыццаць сем гадоў. Але за гэты адпушчаны час зроблена так шмат, хоць і працаваў Рыгор Семашкевіч, як мы ўжо казалі, не спяшаючыся. Гэта гаспадарлівая сялянская рыса ніколі і нідзе яшчэ не падводзіла. Рабіць варта хоць і марудна, але грунтоўна. А яшчэ трэба бачыць далёка наперад і ўмець слухаць свой час. Паэтычныя зрок і слых у яго былі бездакорныя…

Максім ЖАЛЕЗІНКА

# МАСТАЦКІ ІНСТРУМЕНТ ПІСЬМЕННІКА




**Бібліятэка акадэміка П. Ф. Глебкі (1905—1969): каталог выданняў: з фонду аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр. навук. б-ка імя Якуба Коласа; склад.: А. В. Сцефановіч (адк. склад.) (і інш.); рэд. бібліягр. запісаў: І. Л. Мурашова, А. У. Траццякова; рэдкал.: А. І. Груша (гал. рэд.) (і інш.) — Мінск: Беларуская навука, 2015.**

Яркім прыкладам, узорам таго, якім павінен быць пісьменніцкі кнігазбор, з'яўляецца хатняя бібліятэка беларускага паэта, вучонага Пятра Глебкі. У калькасці 3867 экзэмпляраў выданняў на розных мовах. Кнігазбор захоўваецца цяпер у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа. Яшчэ пры жыцці акадэмік выказаў жаданне, каб яго збор у поўным складзе быў перададзены на захаванне ў акадэмічную бібліятэку. Пасля смерці пісьменніка яго жонка Ніна Іларыёнаўна выканала волю мужа і ў жніўні 1979 г. перадала частку кнігазбору і рукапіснага архіва ў фонд. Калі ж не стала Ніны Іларыёнаўны, асноўная частка кніжнай калекцыі ў лістападзе 1986 года перайшла ў Коласаўскую бібліятэку.

Апісанню яе і прысвечаны каталог выданняў «Бібліятэка акадэміка П. Ф. Глебкі». Аўтары прадмовы Іна Мурашова і Вольга Губанава адзначаюць універсальна-гуманітарны характар бібліятэкі, якая «ўключае мастацкую літаратуру і выданні, што датычацца пытанняў беларускай і сусветнай культуры ў самым шырокім сэнсе: кнігі па гісторыі, філасофіі, палітыцы, рэлігіі, мастацтве і інш. Значную частку складаюць даведачныя выданні: энцыклапедыі, слоўнікі і даведнікі па разнастайных галінах ведаў».

На фарміраванне кнігазбору, несумненна, паўплывалі сама біяграфія П. Глебкі, яго творчыя і навуковыя зацікаўленні. У 1927 годзе пабачыў свет першы паэтычны зборнік «Шыпшына» («красамоўны ўзор лірычнай паэзіі, глыбокае выяўленне паэтавай душы»). У 1920—1930 гг. выходзяць і кнігі паплечнікаў П. Глебкі па фарміраванні беларускай нацыянальнай літаратуры на новым этапе. Многія з гэтых кніг присутнічаюць у кнігазборы Пятра Фёдаравіча. Як і раман А. Александровіча, А. Вольнага, А. Дудара «Ваўчаняты» (1925), кнігі паэзіі З. Астапенкі «Краіне» і «На ўсход сонца» (абедзве — 1939), М. Багуна «Рэвалюцыі» (1932), «Рэха бур» (1931), З. Бандарынай «Веснацвет» (1931), П. Броўкі «Паэзія» (1932), «Так пачыналася маладосць» (1934), А. Дудара «Слуцак» (1935), В. Казлоўскага «Музыка працы», «Слова аб юнай кра-

іне» (абедзве — 1932), М. Лужаніна «Галасы гарадоў»... Многія з кніг — з дарчымі надпісамі. Можна толькі здагадвацца, як гэтыя выданні ацалелі ў віхурным полымі Вялікай Айчыннай вайны. Але гэта ўжо асобная гісторыя.

Спынім сваю ўвагу хаця б на аўтографах Максіма Лужаніна. 7 ліпеня 1930 года ён падпісвае таварышу па літаратурным цэху паэтычны зборнік «Новая ростань»: «Пятрусю Глебку ў знак шматлікіх дзён пражытых разам». А ў кастрычніку 1930 — зборнік «Неаплачаны рахунак»: «Можа, яно й так, / можа, яно й гэтак, / што найлепшы з кветак / мак. / Ведаеш сама: / цяжка быць паэтам. / Так? / Ніне — у знак маіх асабістых сімпатый. (М. Лужанін)...» Аўтограф адрасаваны Ніне Іларыёнаўне. Гэты ж зборнік у той самы дзень М. Лужанін падарыў і Пятру Глебку: «Фініш — наступнае. Старт — упартасьць. Пятрусю — Максім...» На кнізе «Першамайская вуліца» Максім Лужанін 7 кастрычніка 1932 года робіць наступны дарчы надпіс: «Пятрусю Глебку. У дружбе міналіся дні, пісаліся кнігі. У дні нашай восені (няхай яна не прыходзіць) успомнім усё жыццё да апошняга радка...» Захаваліся ў кнігазборы і даваенныя кнігі Петруся Броўкі — і паплечніка, і блізкага сябра. А ў 1933 годзе, дарэчы, выйшаў іх, Броўкі і Глебкі, сучасны зборнік нарысаў — «Ураджай».

Вучоба ў Белпедтэхнікуме, а пасля ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, удзел у рабоце літаратурных арганізацый «Маладняк» і «Узвышша» — усё гэта накладвала свой адбітак на кола сяброў, узаемадачыненні, стасункі з пісьменнікамі. У 1934—1936 гг. П. Глебка працаваў у Саюзе пісьменнікаў БССР кансультантам па паэзіі. З таго часу пашыраюцца яго інтарэсы да шматнацыянальнай савецкай паэзіі. Хатняя бібліятэка папаўняецца кнігамі Джэка Алтаузена, Паўла Антакольскага, Мікалая Асеева, Эдуарда Багрыцкага, Мікалая Брауна, Сямёна Бытавога, Сяргея Гарадзецкага, Яўгена Далматоўскага, Аляксандра Жарава... За многімі з кніг згаданых аўтараў — сустрэчы, ліставанне.

Вершаваныя зборнікі рускага паэта — Мікалая Брауна, выдадзеныя ў розныя дзесяцігоддзі, — адлюстраванне сяброўства, шчырай дружбы двух сімпатычных творцаў. Сведчанне таму — змест дарчых надпісаў: «Петру Глебка — золотому человеку с особенным задушевным приветом...»; «Дорогому, замечательному Петро Глебко — мое старье, которое надо бы предать огню»; «Петру и Нине Глебкам — друзьям моим дорогим и вечным с любовью очень большой — на счастье, на радость, на песню! Н. Браун»; «С Вами — Петр и Нина Глебки — / Узы дружбы нашей крепки, / Потому что нет на свете / Никого сердечней Пети / І на всей земле безбрежной / Нет милее Нины нежной. / Совершенно сердечно, Н. Браун». У кнігазборы — і восем паэтычных кніг Марыі Камісаравай, жонкі М. Брауна, выдатнай рускай паэтэсы. І яе дарчыя надпісы адрасаваныя Пятру Фёдаравічу і Ніне Іларыёнаўне, а пасля — і адной Ніне Глебка (аўтографы 1970, 1978 гадоў). Адзін з іх — на зборніку «Ожидание встречи» — працытую: «Дорогой Нине Илларионовне Глебке — на добрую память, на крепкую дружбу, а истоки ее в нашей молодости, незабываемо-прекрасной с ее сердечными встречами, творческими радостями, любимой работой. С душевной признательностью, М. Коммисарова. 17.III.1978 г. Ленинград». Ужо болей як восем гадоў прайшло, як не стала П. Глебкі. Пайшоў з жыцця і М. Браун. А М. Камісарава піша такія цёплыя словы... Мо дзе ў архіве М. Брауна захоўваюцца і лісты Пятра Глебкі, віншавальныя паштоўкі, кнігі беларускага паэта з аўтографамі? Сын М. Брауна — таксама паэт Мікалай Браун, палітычны вязень брэжнеўскіх часін (самы драматычны цыкл вершаў Брауна-старэйшага якраз сыну-вязню і прысвечаны), жыве ў Санкт-Пецярбургу. Мо ён і пральле святло на іншыя факты такога шчырага пабрацімства П. Глебкі з санкт-пецярбургскімі, ленінградскімі паэтамі?..

Многія кнігі з бібліятэкі Пятра Фёдаравіча нагадваюць пра захопленасць

паэта ўкраінскай літаратурай. Два тамы з трохтомніка Юрыя Яноўскага суседнічаюць з яго «Вибраним» (Кіеў, 1949). Сярод васьмі кніг Тараса Шаўчэнкі не можа не выклікаць захапленне чатырохтомнік «Мастацкая спадчына», дзе сабраныя выяўленчыя матэрыялы. Выданне П. Глебку падаравалі калегі з Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя М. Т. Рыльскага Акадэміі навук Украінскай ССР. Падаравалі як выдатнаму і вялікаму сябру Украіны і таленавітаму перакладчыку паэзіі Тараса Шаўчэнкі. Ва ўкраінскім раздзеле кнігазбору — томікі паэзіі Максіма Рыльскага, Паўло Тычыны, Сцяпана Крыжаніўскага, Міколы Бажана, Леаніда Первамайскага, кнігі беларускіх паэтаў Я. Купалы, «Білоруська радянська поезія», анталогія «Белоруська радянська поезія» ў двух тамах. А яшчэ — кнігі па ўкраінскім фальклоры, украінскай этнаграфіі.

Шматабсяжнасць творчых, навуковых інтарэсаў Пятра Глебкі, перададзеная складальнікамі каталога праз знаёмства з яго бібліятэкай, уражвае. Як і ўражвае, бярэ ў свой палон сам каталог пісьменніцкай бібліятэкі. Да месца ў ім і артыкул «Ад Тычыны да Купавы: з гісторыі экслібрыса Пятра Глебкі», аўтарам якога з’яўляецца Віктар Свякла. Нагадаем: кнігазбору П. Глебкі прысвечаныя кніжныя знакі работы М. Тарасікава, Я. Красоўскага, Я. Ціхановіча, А. Тычыны, М. Купавы. Змешчаныя ў каталогу і ілюстрацыі вокладак, тытульных старонак, аўтографаў з кніжнага збору.

Бібліёграфы, кнігазнаўцы з Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа, рэалізаваўшы праект па збіранні і выданні каталога, нагадалі даследчыкам кніжнай культуры Беларусі пра вартасці важнага напрамку росшукаў. Апісання патрабуюць і іншыя кнігазборы. Каталог «Бібліятэка акадэміка П. Ф. Глебкі (1905—1969)», будзем спадзявацца, справакуе новы вíток цікаўнасці да жыцця і творчасці, мастацкай і навуковай спадчыны пісьменніка.



Язэп ЛІТВІНОВІЧ

# СПОВЕДЗЬ ПАКУТНАЙ ДУШЫ




*Мікола АЎРАМЧЫК*

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

*Мінск: Беларуская навука, 2015.*

Гэты аднатомнік Міколы Аўрамчыка пабачыў свет у серыі «Беларускі кнігазбор», заснаванай у 1996 годзе. Ён — восемдзесят першы том у гэтым унікальным выдавецкім праекце, што ажыццяўляецца дзякуючы Кастусю Цвірку. Не памылюся, калі скажу, што кніга чаканая для прыхільнікаў таленту Міколы Якаўлевіча. Нарэшце з'явілася мажлівасць пазнаёміцца з усім лепшым, што напісана ім, пачынаючы з 1938 года, калі ўпершыню прыйшоў да рэспубліканскага чытача, выступіўшы з вершамі ў часопісе «Полымя» (які тады называўся «Полымя рэвалюцыі»). Адзін гэтых вершаў — «Адлёт жураўлёў» — і адкрывае том «Выбраныя творы».

Верш гэты цікавы ўжо тым, што на яго ў свой час звярнуў увагу пясняр Беларусі Якуб Колас. Пра гэта, дарэчы, можна даведацца са слоў самога М. Аўрамчыка — у кнізе змешчаная яго аўтабіяграфія «Пра сябе». Напісаная яна яшчэ ў 1962 годзе, калі яе аўтару было ўсяго 42 гады. Мікола Якаўлевіч, дарэчы, пакінуў яе ў першапачатковым выглядзе, не ўносячы ніякіх правак ці дапаўненняў.

Бадай, гэта можна было зрабіць. Як-ніяк, а ў студзені сёлетняга года М. Аўрамчык адзначыў сваё 95-годдзе. Хоць, можа, і правільна, што менавіта так паставіўся да таго, што вылілася калісьці ў шчырую споведзь. Канечне, ёсць у аўтабіяграфіі і мясціны, якія з агледзін сённяшняга дня патрабуюць удакладненняў — не пра ўсё ж можна было пісаць у 1962-м, дый пазней таксама. Але шмат што прасвятляецца ва ўспамінах М. Аўрамчыка пра сяброўлітаратараў.

У сувязі з вершам «Адлёт жураўлёў» цікавяць згадкі Міколы Якаўлевіча пра пачатак яго творчай біяграфіі. Наконт гэтага ён быў гранічна шчыры і ў 1962 годзе. Далучэнне да прыгожага пісьменства ў яго адбылося дзякуючы настаўніцы беларускай літаратуры. М. Аўрамчык прызнаецца: «Алена Лаўрэнаўна Меляшкевіч па-сапраўднаму абудзіла ў маёй душы цікавасць да свайго прадмета». Гэта тым больш важна, што юны М. Аўрамчык спачатку «нязменна любіў толькі адну геаграфію».

Яшчэ слова Міколу Якаўлевічу: «Дзякуючы ёй (Меляшкевіч. — **Я. Л.**) горача палюбіў я апавяданні і аповесці Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага, вершы Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. У сямігодцы і сам пачаў пісаць». Тады ён вучыўся ў Цялушскай сямігадовай школе. Калі хто не ведае, то нагадаю: Цялуша прапісалася і ў біяграфіі

Алеся Адамовіча. Гэта на Бабруйшчыне, там ён жыў з бацькамі.

Друкавацца М. Аўрамчык пачаў у бабруйскай газеце «Камуніст», у якой былі моцныя літаратурныя традыцыі. Яшчэ з таго часу, калі там у 1925—1930 гадах працаваў спачатку адказным сакратаром, потым рэдактарам Міхась Лынькоў. Ён жа быў арганізатарам і кіраўніком Бабруйскай філіі «Маладняка» і Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Першыя вершы М. Аўрамчыка былі змешчаныя ў «Камунісце» ў 1937 годзе. Улетку ж 1938-га, пасля заканчэння сярэдняй школы, яго выклікалі ў Мінск на рэспубліканскія курсы маладых аўтараў. Восенню ж гэтага года паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

На верш «Адлёт жураўлёў» Якуб Колас звярнуў увагу пасля публікацыі яго. У пачатку красавіка 1939 года, калі разам з Янкам Купалам, Міхасём Лыньковым і Эдзі Агняцвет прыйшоў у педагагічны інстытут на літаратурны вечар. Паказаў гэты твор маладога паэта і Янку Купалу. Яшчэ да таго, як М. Аўрамчык прачытаў яго перад аўдыторыяй. У аўтабіграфіі «Пра сябе» Мікола Якаўлевіч піша: «Потым Якуб Колас выказаў сваё ўражанне аб творчасці літгурткоўцаў, падрабязна разгледзеў мой верш “Адлёт жураўлёў” і ў кнізе запісаў пакінуў вельмі пахвальны водгук аб ім».

«Адлёт жураўлёў», што адразу кідаецца ў вочы, канечне ж, напісаны ў духу свайго часу, але не так, як пісалі тады іншыя. М. Аўрамчык куды больш стрыманы:

За калгасам, над трактам вялікім,
Дзе асеннія хмары ўсплылі,
Пралятаюць, раняючы крыкі,
Караванам даўгім жураўлі.

Іхні палёт устрывожаны тым, «што вясной, прылятаючы, зблудзяць // І не знойдуць знаёмых балот». Сапраўды, «трактары загрукочуць, камбайны, // Пахавае дрыгву сенажаць».

«Выратоўвае» верш апошняя страфа. М. Аўрамчык знайшоў належнае выйсце. Дзякуючы гэтаму і праўдзіва паказаныя змены, што адбываліся ў жыцці, але разам з тым ён знаходзіць месца і спрадвечным насельнікам балот:

Не сумуйце па родных балотах,
Прылятайце з далёкіх краін.
На лугах заліўных між чароту
Многа знойдзецца ўтульных мясцін.

Толькі нядоўга заставалася М. Аўрамчыку радавацца жураўлям. У аўтабіяграфіі ёсць і такія радкі: «Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі на нашу краіну застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс. Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск, а назаўтра ў высокай збажыне ўзбоч Бабруйскай шашы хаваліся ад фашысцкіх сцярвятнікаў, якія бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў грамадзянскае насельніцтва». Тады ж М. Сурначоў напісаў свой знакаміты верш «У стоптаным жыце». Той самы, што пачынаецца такімі вядомымі радкамі: «Ляжыць ён забіты ў стоптаным жыце…»

Развіталіся сябры ў Асіповічах. М. Сурначоў паехаў цягніком да Магілёва, «намерваючыся адтуль завітаць да сваіх бацькоў». Родных, якія жылі ў вёсцы Плёсы Бабруйскага раёна, хацеў пабачыць і М. Аўрамчык. Аднак цягнікі на Бабруйск ужо не ішлі, бо немцы захапілі гэты горад. Лясамі Мікола Якаўлевіч дабраўся да Магілёва, адтуль паехаў у Мсціслаў, дзе жыў ягоны сябра-аднакурснік, і разам з ім у шэрагах аднаго з запасных палкоў пайшоў на ўсход. На Смаленшчыне напаткаў М. Сурначова. Апынуліся ў вучэбным узводзе тапографаў-вылічальнікаў. Ля Тамбова, дзе «з тэадалітам і сталёвай лентай вымяралі казахстанскі стэп вакол Какчэтава і Акмолінска».

У пачатку ж 1942 года студэнтаў з незакончанай вышэйшай адукацыяй адклікалі ў Маскву. Там яны з М. Сурначовым разлучыліся назаўсёды: у кожнага быў свой франтавы лёс. Гвардыі радавы М. Аўрамчык трапіў на Волхаўскі фронт. Зведаў тое, што зведалі ўсе, хто ваяваў, знаходзячыся на перадавой. Выконвалі свой армейскі абавязак і хацелі жыць, бо былі маладыя. Дый

каму не хочацца жыць! Нягледзячы на тое, колькі табе гадоў.

Пра гэта і верш «Уначы перад наступленнем». Не сказаць, каб гэты твор часта цытуецца, калі гаворка заходзіць пра адлюстраванне беларускай паэзіяй тэмы Вялікай Айчыннай вайны. А дарэмна, бо ён — адзін з лепшых не толькі ў творчасці самога М. Аўрамчыка, а і ва ўсёй нашай літаратуры. Ён пра тое, чым жылі салдаты перад наступленнем. Ён пра іхняе адчуванне дыхання вайны, з якой сутыкнуліся:

Не кіпяць больш вішні ў белай пене,
На лістах ачахнула раса…
Не інакш як перад наступленнем
Змоўкла франтавая паласа.

Хоць бы прастрачыў хто з аўтамата
Здрадлівую ціш такой начы…
Хоць бы дзе адзіная гармата
Зноў ускалыхнула далячынь.

Але верш гэты і пра спадзяванне выжыць. Нягледзячы ні на што. Нават на тое, што наваражыла цыганка: «Быццам без пары мне, маладому, // Суджана загінуць у вадзе». Які аптымізм, якая ўпэўненасць:

Хутка сівізна падзе на скроні,
Ад снарадаў забурліць вада,
А мяне ўсё так і не дагоніць
І не ўтопіць у бядзе вада.

Вада дык «не дагнала». Выпрабаванняў жа было столькі, што нікому не пажадаеш. Бо што такое Волхаўскі фронт?! Гэта і сумнавядомы генерал Уласаў. Той самы Уласаў, які аказаўся здраднікам. Уласаў, якога знаходзяцца сёння ахвотнікі зрабіць ледзь не героем, які, маўляў, перайшоў на бок гітлераўцаў, каб змагацца з бальшавізмам, Сталіным, з таталітарным рэжымам. Адным словам, самы што ні ёсць «чысценькі дэмакрат».

Нядоўга давялося М. Аўрамчыку ваяваць ва ўзводзе славутых «Кацюш». У канцы чэрвеня таго ж сорак другога пры акружэнні каля Мяснога Бору ён трапіў у палон. З гэтага моманту і пачалася ягоная «трагічная, ахвярная біяграфія». Вывезлі М. Аўрамчыка ў Рур, на каменнавугальную шахту горада Марль: «Кожны дзень на дасвецці з лагера да шахты канваіры прыганялі вялікую калону з палонных, абвітую гірляндамі шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі калом білі штайгеры і іх памочнікі».

Гэта прызнанне з аўтабіяграфіі. А гэта сведчанне ў адным з вершаў:

Паўзмрочная капальня
ў дымным Руры,
І ў ёй не я,
а сноўдае штодзень
Шкілет,
які яшчэ абцягнут скурай,
Ды на сцяне —
чужы, сутулы цень.

Зведанае, перажытае ў гады Вялікай Айчыннай вайны ніколі не адпускала М. Аўрамчыка ад сябе, таму і ў творах, напісаных пасля заканчэння яе, нязменна прысутнічае гэтая тэма. Сярод іх вылучаецца верш «Каб гэткага лёсу вы не мелі…». Радкі яго прасякнутыя болем. Але гэта не толькі ўласны боль, а і боль усіх тых, каго напаткаў гэткі ж самы незайздросны лёс:

Чужою славай радавым не ласавацца…
Але мне крыўдна ўсё ж, што пакрысе
У мове прыжылося слова ўласаўцы,
Джалільцы ж слова
ведаюць не ўсе.

Тым больш гэтая несправядлівасць адчувальная сёння. І ў самым страшным сне колькі дзясяткаў гадоў назад не магло б прысніцца, што знойдуцца ахвочыя абяляць здрадніка генерала Уласава.

Вярнуўшы добрае імя старое,
Закона справядлівая рука
Уваскрасіла з мёртвых, як героя,
Былога нашага палітрука.

Маецца на ўвазе: Муса Джаліль — татарскі паэт, ён жа палітрук, які мужна трымаўся ў фашысцкім палоне, замоўчваецца, хоць, здавалася б, справядлівасць даўно перамагла.

Бадай, няма такога сапраўднага аматара, а значыць і знаўцы нацыянальнай паэзіі, хто б не ведаў верш Міколы Якаўлевіча «Беларуская сасна»:

З кожнай штольні пахне беларускай
Баравой
смалістаю сасной…
Пад зямлёй праход нязручны вузкі
Выглядае просекай лясной.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ты з настойлівасцю вугаль колеш,
Іскры пырскаюць з-пад малатка…
Родная сасна пад цяжкай столлю
Не аддасць у крыўду земляка.

Высока, аднак заслужана ацаніў гэты твор М. Аўрамчыка народны паэт Беларусі Пімен Панчанка: «У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібы сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М. Святлова гэта «Гранада», у Я. Смелякова — «Калі я захварэю…», у С. Арлова — «Яго зарылі ў шар зямны» і г.д. У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы «Беларускую сасну»… Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае — верыш шчыраму даверліваму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству…»

Кнігу «Выбраныя творы» склаў сам Мікола Якаўлевіч. У раздзеле «Паэзія» захаваны храналагічны прынцып падачы твораў (асобна стаіць паэма «Волхаўская споведзь»), але няма падзелу па выдадзеных ім кнігах. Бадай, гэта правільна. Тым самым, як бы знаёмішся з адной, працяглай у часе, споведдзю паэта. Чытаеш тое, што ён пісаў у розныя гады. Адштурхоўваючыся ад вершаў, што з'явіліся параўнальна нядаўна, можаш дапоўніць тое, чаго няма ў ранейшых творах. Ды ўсё роўна М. Аўрамчык сказаў далёка не ўсё, што хацеў сказаць. Пра гэта даведваешся і з верша «Калі памру, не плачце…»:

Шкадуйце ў маёй долі
Адну з найбольшых бед:
Пра сяброў, што ў няволі
На той траплялі свет,
Я расказаць мог болей,
І расказаць як след.

Манера пісьма ў М. Аўрамчыка, у чым можна пераканацца як па гэтым вершы, так і па іншых творах, знешне спакойная, але такое ўражанне падманлівае. У яго вершах ёсць і такая важная якасць, як прыхаваны да пары да часу драматызм, што сведчыць пра неўтаймаванасць душы лірычнага героя, яго не толькі чыста чалавечы, але і грамадзянскі неспакой, які асабліва дае пра сябе знаць тады, калі ўнутраная энергія радка просіцца вонкі, прагне споведзі. Гэта відаць і ў рамане «Падзямелле», сюжэт якога таксама падказаны М. Аўрамчыку ўласна перажытым. Але біяграфія самога апавядальніка — толькі частка таго фактычнага матэрыялу, які выкарыстоўвае пісьменнік. За лёсам апавядальніка паўстае і лёс тых з яго пакалення, хто зведаў нечалавечыя выпрабаванні, звязаныя не толькі (дый не столькі!) з ваеннымі дзеяннямі, колькі з жахам палону, няволі. Між іншым, ёсць у яго і аповесць «Палон», ды з-за абмежаванага памеру аднатомніка яна не магла трапіць у «Выбраныя творы».

Плённа працуе М. Аўрамчык і ў галіне мемуарыстыкі, расказваючы пра тых пісьменнікаў, з якімі яго ў той ці іншы час звёў лёс. Аднак тут у яго ёсць сваё правіла: расказваць толькі пра тых, каго ўжо з намі няма. І гэтага правіла ён заўсёды прытрымліваецца. Раздзел «Успаміны», думаю, асабліва цікава будзе прачытаць маладым чытачам. Дзякуючы М. Аўрамчыку яны, па сутнасці, па-новаму адкрыюць для сябе шмат якіх пісьменнікаў. А то і напаткаюць новае імя, прачытаўшы ўспаміны «Паэт і чайка», у якіх расказваецца пра паэта Уладзіміра Рагуцкага, з якім Мікола Якаўлевіч разам вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце.

Кніга М. Аўрамчыка «Выбраныя творы» — гэта свайго роду споведзь пакутнай душы, якая, нягледзячы на перажытае, засталася чыстай і светлай. Такая споведзь, якой гэтак не стае сёння, калі знаходзяцца пісьменнікі, жадаючыя кідацца ў крайнасці. Мікола Якаўлевіч — не з іхняй кагорты. Свой боль ён часцей хавае ў сабе і, не зважаючы ні на што, застаецца не толькі праўдалюбам, а і аптымістам. Гэта таксама дапамагае яму жыць, радуючы сваімі творамі, сваёй прысутнасцю ў гэтым тлумным свеце.

**Кастусь БАРУТА**

## РАЗ, ДВА... ТЭРАПІЯ СМЕХАМ




*Савелій ПАЎЛАЎ*

**ТЭРАПІЯ СМЕХАМ.**
**Сатыра і гумар.**
*Мінск: Чатыры чвэрці, 2014.*

*Ирина ФОМЕНКОВА*

**СМЕХ ДЛЯ ВСЕХ.**
**Рассказы.**
*Минск: Четыре четверти, 2014.*

*Анатоль ЗЭКАЎ*

**ТАРЫ-БАРЫ.**
**Літаратурныя пародыі.**
*Мінск: Чатыры чвэрці, 2015.*

*Мікола ШАБОВІЧ*

**ПРЫКОЛЫ АД МІКОЛЫ.**
**Літаратурныя пародыі.**
*Мінск: Чатыры чвэрці, 2015.*

*Василь ТКАЧЕВ*

**НА ВСЕ СЕЛО ОДИН МУЖИК.**
**Рассказы.**
*Минск: Четыре четверти, 2015.*

Пра тое, якая жыватворная сіла — смех, можна прывесці шмат выказванняў. Не менш іх і пра тое, як смех дазваляе чалавеку станавіцца духоўна святлейшым, маральна чысцейшым. Ці не самае знакамітае сярод гэтых выказванняў — «Смеючыся, чалавецтва развітваецца са сваімі недахопамі». Аднак правільным будзе і такое меркаванне: «Сухая тэорыя, мой сябра, а дрэва жыцця пышна квітнее». Але паколькі тэорыя ёсць тэорыя, дык лепей усё праверыць на практыцы.

Гэтым і кіравалася выдавецтва «Чатыры чвэрці», засноўваючы серыю «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». Дарэчы, не лішне нагадаць, што яно хоць і не дзяржаўнае, некаторым і дзяржаўным выдавецтвам паказвае прыклад таго, як трэба працаваць. Каб і кнігі цікавыя выходзілі, дый, што сёння асабліва актуальна, яны былі запатрабаваныя чытачом.

Першай у новай серыі выйшла кніга сатыры і гумару Савелія Паўлава «Тэрапія смехам». Аўтар яе — чалавек знаны, выдаў шмат кніг, якія не прайшлі незаўважанымі як з боку чытачоў, так і крытыкі. С. Паўлаў — таксама вядомы дзяржаўны дзеяч, прымаў актыўны ўдзел у міжнародным жыцці Беларусі. Таму невыпадкова ў кнізе «Тэрапія смехам» з'явіліся і раздзелы «З жыцця вярхоў» і «З вандровак па Штатах», у якіх ён дае сваю ацэнку шмат якім падзеям, выступаючы ў асноўным як сатырык.

Ды толькі не адна сатыра вабіць С. Паўлава. Дарэчы, ягонай кнізе «Імперская параноя» ў свой час была прысуджаная прэмія Саюза журналістаў СССР. Утульна адчувае сябе С. Паўлаў і ў гумарыстычным амплуа. Асабліва гэта відаць па гэтай кнізе з такой трапнай назвай — «Тэрапія смехам». Не адмаўляючы арыгінальнасці той назвы, што ўзята выдавецтвам для гэтай бібліятэчкі — «Несур'ёзна пра сур'ёзнае», не сумняваюся, што не менш бы падышло да яе і найменне «Тэрапія смехам». Дый, як вядома, коней на пераправе не мяняюць. Тым больш іх не мяняюць, калі адразу быў узяты ўпэўнены разгон, што і пацвердзіла кніга «Тэрапія смехам».

Напісанае С. Паўлавым — гэта не смех дзеля смеху, хоць, пагадзіцеся, пасмяяцца ўволю таксама нікому не супрацьпаказана. Апавяданні, гумарэскі, карацелькі С. Паўлава, дый творы іншых жанраў выклікаюць і жаданне пільней прыгледзецца да самога жыцця. Бо ўсё, пра што расказвае пісьменнік, пра што ён піша, узята з паўсядзённасці, пра што сведчаць ужо самі назвы асобных раздзелаў: «З летапісу перабудовы», «Непрызнаныя геніі», «Перабудовачны фальклор», «Байкі ў прозе, жарты, прытчы».

Дарэчы, пра фальклор, падказаны так званай перабудовай. Нельга не пагадзіцца з С. Паўлавым: «[…] такія асяродкі сатыры і гумару, як Аўцюкі, ёсць у многіх гарадках і вёсках Беларусі. Там жывуць вясёлыя і мудрыя людзі». Адзін з іх Пракоп. Аўтар кнігі «Тэрапія смехам» прызнаецца, што ён жыве ў яго роднай вёсцы, а гэта на Браслаўшчыне: «Руплівы працаўнік, востры на язык жартаўнік. Адны пра яго кажуць: "Хадзячая энцыклапедыя". Другія пярэчаць: "Не, інстытут грамадскай думкі…" А Пракоп пасміхаецца блакітнымі, як браслаўскія азёры, вачыма ды захапляецца чароўным, як казка, прывабным, як пацалунак жанчыны, ды супярэчлівым, як тая ж жанчына, светам…» Дый Нупрэй не на шмат ад яго розніцца. Яны — дасціпныя, душэўна прыгожыя і мудрыя вяскоўцы. Ім і дае слова ў некаторых сваіх творах С. Паўлаў.

Сапраўды, атрымалася свайго роду тэрапія смехам. У народзе што кажуць тады, калі ёсць пачатак нечаму новаму і важнаму? Як запражэш, так і паедзеш. Другой у гэтай серыі выдавецтва «Чатыры чвэрці» стала кніга Ірыны Фамянковай «Смех для всех». Таксама ёсць з чаго ўсміхнуцца, над чым паразважаць, напрыклад над тым, як нярэдка ў паўсядзённым жыцці шмат значыць выпадак, як ён можа паўплываць на чалавека. Творы ж І. Фамянковай маюць дакументальную аснову. Гэта, безумоўна, як бы прывязвае аўтара да таго, што было і як было. Значыць, у пэўнай ступені скоўвае мастакоўскія магчымасці. З другога боку, дазваляе быць пераканаўча-праўдзівай.

Анатоля Зэкава ў пісьменніцкім асяродку звычайна заўсёды сустракаюць з усмешкай. Аднак не толькі таму, што ён

нязменна вясёлы, дасціпны, за словам у кішэню не лезе. На жартаўлівы настрой уплывае і ягонае прозвішча. Асабліва напярэдадні якой-небудзь чарговай амністыі. Абавязкова знойдзецца хтонебудзь, дый не злacліва заўважыць: «Яшчэ, здаецца, і не выпускалі, а ты ўжо на волі».

Дарэчы, пра прозвішчы. Прызнаюся шчыра, пакуль не ўзяў у рукі Анатолеву кнігу «Тары-бары», і не ведаў, што сваё гучнае прозвішча Зэкаў атрымаў толькі на другім годзе жыцця, а хадзіць і размаўляць вучыўся пад матчыным — Зарэцкім. Гэтыя звесткі я пачэрпнуў з даведкі «Пра аўтара», змешчанай у канцы кнігі. Інфармацыя пра аўтараў падаецца і ў іншых кнігах серыі. З той толькі розніцай, што ў адных выпадках гэтыя звесткі сціслыя, у іншых — разгорнутыя.

Слова пра Зэкава, хоць і напісана ад трэцяй асобы, сумнявацца не даводзіцца: пра сябе расказаў сам А. Зэкаў. З уласцівым яму гумарам, з характэрным для яго досціпам. Таму сама даведка «Пра аўтара» ўспрымаецца… Нават жанр не магу вызначыць. Ды не ў жанры, зразумела, справа. Галоўнае, што гэта чытаецца. Не горш за самі пародыі. Дый, як у той кулінарыі: не важна, як гатаваў, абы толькі смачна было есці.

Пачастунак жа ад А. Зэкава, як і ў іншых яго кніжках сатыры і гумару (а ёсць жа ў яго яшчэ і зборнікі прозы, «сур’ёзных» вершаў, кнігі казак і апавяданняў для дзяцей) атрымаўся такі, што гэта можна вызначыць словам, якое так любіў паўтараць незабыўны Ян Скрыган. Праўда, Іван Аляксеевіч прамаўляў гэта з іншай нагоды, часцей праводзячы якую-небудзь дэгустацыю, але і «дэгустацыя» пародый А. Зэкава, несумненна, патрапляе пад гэтае трапнае і такое беларускае слова.

Не адзін дзясятак паэтаў трапілі ў поле зроку парадыста. Некаторыя з іх не адзін раз. Дый тыя, на каго А. Зэкаў яшчэ пародыю не напісаў, гатовыя ледзь не ў чаргу станавіцца, каб толькі ён звярнуў на іх увагу. Такое стаўленне да яго невыпадковае. З той жа даведкі «Пра аўтара» даведваемся: «А зробленая аднойчы заява парадыста, што пародыі ён піша на лепшых паэтаў, бо слабыя вершы ўжо самі па сабе пародыя, выклікала ў літаратараў хутчэйшае жаданне трапіць у лік парадзіраваных: каму ж не хочацца быць лепшымі?! Адно што радкі з уласных вершаў не прапануюць, каб парадыст меней часу губляў на чытанне іх кніг, а болей засяроджваўся на напісанні ўласных пародый».

Ды, як вядома, ахапіць неахопнае немагчыма. Наколькі А. Зэкаў пладавіты парадыст, але ўсіх усё адно «абагрэць» не можа. Шанцуе толькі шчаслівчыкам, а ў гэты шэраг патрапілі Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Раіса Баравікова, Міхась Башлакоў... Дый многія іншыя. Ці не на кожную літару алфавіта іхнія прозвішчы пачынаюцца. А парадыст Зэкаў-сявец не абышоў увагай і Таццяну Сівец. Каб таксама не пакрыўдзіць. Бо як атрымліваецца? Таго спарадзіраваў, гэтага… А, зноў жа, чаму пра мяне забыўся?

Прыкладаў, наколькі ўдаюцца А. Зэкаву пародыі, прыводзіць не буду. Амаль усе яны пададзеныя так, што відавочна: пісаў гэта чалавек невыпадковы, а той, хто на пародыях зубы з’еў. Калі якую заўвагу і рабіць, дык хіба толькі такую. Калі-нікалі асобныя радкі гучаць крыху… Ці фрывольна, ці то вольна. Дый, калі сур’ёзна разважыць, а што тут кепскага. Гумар на тое і гумар. Ён, а тым больш сатыра, ніколі «салодкімі» не бываюць. Наконт жа солі… Зноў жа справа густу. Тое, што аднаму перасолена, іншаму падасца… недасоленым. Так што застаецца чытаць пародыі А. Зэкава і даваць ім ацэнку, зыходзячы з уласных меркаванняў. Такія вось тары-бары…

Прызнаны майстра гумарыстычнасатырычнага цэху і Мікола Шабовіч. Як і А. Зэкаў, ён асабліва паспяхова выступае ў жанры пародыі. Дый, на што таксама нельга не звярнуць увагу, абавязкова знаходзіць для сваіх твораў арыгінальныя загалоўкі. Назва ж адной з ягоных кніг — «Хор болей не спявае» — такая, што сама просіцца для напісання пародыі. Адразу з’яўляецца жаданне паразважаць, што ж такое нечакана з гэтым хорам здарылася. Няйначай, усе артысты

раптоўна захварэлі. Ды так, што не могуць доўга вытрымаць выступленне ці рэпетыцыю. Ёсць жа такая хвароба, панацэю ад якой з настойлівасцю прапануе рэклама ў мінскім метро. Але, калі пісалася гэтая кніга, а пасля выдавалася, такіх лекаў яшчэ не было. Таму хор і не змог выступаць…

Ды я крыху адхіліўся ў бок. Не мне пародыі пісаць. Хай пішуць іх тыя, хто гэтым пастаянна займаецца. Дый не толькі на паэтаў, а і на саміх сябе. М. Шабовіч на А. Зэкава, А. Зэкаў — на М. Шабовіча. Што, дарэчы, яны часам і робяць. Такое перакрыжаванае «апыленне» дае не менш цікавы вынік, чым звычайная пародыя. Хоць, трэба быць справядлівым, і ў А. Зэкава, і ў М. Шабовіча звычайных пародый не бывае. Яны ў іх атрымліваюцца такія, што, чытаючы іх, не смяяцца проста нельга. Недаравальна нават. Як і нельга не здзіўляцца дасціпу саміх парадыстаў, якія, адштурхоўваючыся ад арыгінала, пішуць такое… Хочаш — смейся, а хочаш — рагачы, за жывот беручыся. А можна і заплакаць. Ад напльву вялікай хвалі смеху, які талентам народжаны.

Для прыкладу, у гэтай пародыі, сціпла названай «Больш у жыта не пайду», у якасці «зыходнага матэрыялу» ўзятыя такія радкі паэта Міколы Ждановіча:

Завяла ты мяне ў высокае жыта,
Так далёка, што цяжка вярнуцца назад.

Ап’янела ў вачах калыхалася неба,
Ды сціскала мне горла тугая каса.
Я не ведаў, чаму ты шаптала: «Не трэба!»

А гэта тое, што пасля асэнсавання напісанага М. Ждановічам атрымалася ў М. Шабовіча:

І навошта вяла ты мяне ў тое жыта,
Мне б «не трэба» магла ты і дома сказаць.
Як дахаты вярнуцца, мне лепей скажы ты,
Чымся горла тугою касою сціскаць…

Нас шукалі два дні ажно тры верталёты,
І галодных, і мокрых прывезлі дамоў.
Буду з Маняй стаяць ля суседняга плота,
Больш з табой не пайду да высокіх жытоў!

Ды што М. Ждановіч! Паэтаў нашых чытаць, можна і не гэткае напаткаць. Такое часам скажуць, што міжволі думка з’яўляецца: усур’ёз яны ўсё прамаўляюць, альбо можа, так вырашылі пажартаваць. Як, скажам, Яўген Хвалей. Ці то муха восеньская яго ўкусіла, ці, магчыма, з нейкай іншай нагоды, калі чамусьці ўвесь белы свет становіцца не мілы, а ў горле так перасохла, што ў параўнанні з гэтым сухменем Сахара — квітнеючы аазіс, але нарадзіліся ў яго такія радкі:

Літара «Ж» —
Камбайн поле стрыжэ.

Літаратурны крытык, напаткаўшы іх, канечне, пачаў бы глыбакадумна дакемваць, што і да чаго. Парадыст жа, як вядома, не крытык. Ён дае сваю інтэрпрэтацыю прачытанаму. Таму М. Шабовіч, прачытаўшы такое, ад радасці ажно рукі пацёр. «Ну і Жэня, ну і маладзец! — падумаў ён. — Каб болей падобнага і іншыя пісалі, не тое, што без хлеба не застаўся б. Яшчэ б і на масла хапіла».

Канечне, пра тое, што М. Шабовіч падумаў, можна толькі здагадвацца. А што атрымалася ў яго — калі ласка, відаць з пародыі «Камбайнам там і не пахла». Гаворка вядзецца ад імя самога «занямонскага паэта» (выраз М. Шабовіча) Я. Хвалея, а ён — сама даверлівасць, таму ягоная душа наросхрыст. Усё, як «было», прамаўляе, нічога ад чужых вушэй не хавае. Паэт ёсць паэт. Нярэдка і ад ганарару гатовы адмовіцца, толькі б з’явілася магчымасць паспавядацца.

Мікола Шабовіч у сваёй пародыі і даў Я. Хвалею такую магчымасць:

У Мінск я прыехаў, і там бачу «Ж»,
Заходжу спакойна, без лішніх рухаў.
«Літара «Ж» — камбайн поле стрыжэ», —
Я дэкламую, каб нехта паслухаў.

Выйшла кабета, амаль негліжэ,
І, нібы на злыдня, тарочыць вочы:
— Які шчэ камбайн! Літара «Ж» —
То ж туалет жаночы!

Дасціпна, нічога не скажаш. Чытаючы кнігу «Прыколы ад Міколы», падобных прыкладаў можна прывесці колькі заўгодна. М. Шабовіч на дзіва назіральны, а яшчэ, а гэта для парадыста таксама вельмі важна, па-добраму пераборлівы. Не кідаецца на тое, што ляжыць на паверхні, а стараецца

знайсці такія радкі, страфу — з аднаго верша ці з некалькіх, якія б у пародыі дазволілі не проста пасмяшыць чытача, але і паказалі яму як некаторыя паэты, самі таго не заўважаючы, праяўляюць такую творчую неахайнасць, непераборлівасць, якая вядзе да двухсэнсоўнасці, неадэкватнага ўспрымання таго, пра што гаворыцца.

У М. Шабовіча важна і такая якасць: яму амаль ніколі не здраджвае пачуццё меры. Я невыпадкова ўдакладніў «амаль», бо, на жаль, напаткаў у кнізе… Не ведаю, як і лепш сказаць.

Апошнім часам бываюць выпадкі, калі некаторыя маладыя аўтары спрабуюць быць за панібрата з класікамі. Гэта, вядома, не нова. У рожкі са старымі сутыкаліся яшчэ некаторыя «маладнякоўцы». Цяпер такіх «разумнікаў», на шчасце, менш.

Але каб у М. Шабовіча з’явілася падобная вольнасць?! Ні за што не паверыў бы, калі б у адной з пародый не напаткаў такое! «[…] і Янка сярод іх // Стаіць пад мухай». Якога Янку мае на ўвазе, удакладняць не буду. Са зместу пародыі і так усё зразумела. Дый пародыя недвухсэнсоўна названа «Суровы Купала». Успрымем гэта звычайным недаглядам, які, асабліва не падумаўшы, дапусціў сур’ёзны парадыст.

Сур’ёзным называю М. Шабовіча не таму, што нярэдка самі гумарысты — людзі не проста сур’ёзныя, а занадта сур’ёзныя. Якраз М. Шабовіч і ў жыцці не пазбаўлены пачуцця гумару. Маю на ўвазе сур’ёзнасць іншага кшталту. Паколькі гумар, пры ўсім іншым, і свайго роду духоўныя лекі, дык той, хто дае іх іншым, мусіць да гэтага ставіцца з усёй сур’ёзнасцю.

Васіль Ткачоў — таксама пісьменнік вядомы. Ён і празаік, і драматург, і публіцыст. У кнізе «На все село один мужик» выступае як апавядальнік. «Чыста» гумарыстычных твораў сярод іх няма, але тонкі, дасціпны гумар прысутнічае ці не ў кожным апавяданні. У тым ліку і ў тым, якое дало назву кнізе і якое завяршае яе. Сам аўтар даў яму падзагаловак «Жыцейскія гісторыі». У пэўнай ступені гэта так, бо ўзяты асобныя эпізоды з жыцця персанажаў твора. А іх усяго трое, жыхароў вёскі Шкірдзюкі. Некалі шматгалосай, а цяпер знікаючай, таму што засталіся толькі гэтыя персанажы, якія нікуды не збіраюццца выязджаць.

Адзін мужчына і дзве жанчыны, ведаюць адно аднаго яшчэ з гадоў маленства і юнацтва. Паміж імі тады ўзнікалі пачуцці. Цяпер, на схіле жыцця, гэтыя пачуцці зноў даюць пра сябе знаць. І гэтаксама, як тады, у час маладосці, не ўсё так гладка, як можа падацца на першы погляд. Атрымліваецца таксама свайго роду любоўны трохкутнік. В. Ткачоў часам піша з непрыхаванай іроніяй, месцамі «дазваляе» самім персанажам пакпіць адзін з аднаго. Але ўсё гэта робіцца з любоўю да тых, чый век завяршаецца, але хто не растраціў сваіх пачуццяў, сярод якіх і самае светлае і моцнае — каханне.

І ў іншых творах персанажы таксама запамінальныя. Нават у навелах, сярод якіх вылучаецца «Шанс». Гэта гісторыя старога халасцяка Генадзя Пятровіча, які нечакана напаткаў у аўтобусе жанчыну, з якой пазнаёміцца яму раіла знаёмая. Па тэлефоне яны да нічога пэўнага не прыйшлі. Цяпер жа…

У серыі «Несур’ёзна пра сур’ёзнае» на падыходзе новыя кнігі. Балазе, гумарыстаў і сатырыкаў у беларускай літаратуры стае. Ухвальна і тое, што ім ёсць што вынесці на строгі чытацкі суд. Гэта і Уладзімір Ермалаеў, які, на жаль, сёлета пайшоў з жыцця. Гэта і Казімір Камейша, і Мікола Чарняўскі... Несумненна, ім у бібліятэчцы месца знойдзецца. Як і іншым пісьменнікам. І бясспрэчна, што творы іхнія будуць запатрабаваныя. Не ў апошнюю чаргу таму, што серыя «прагучала».

Адбылося гэта не толькі дзякуючы таму, што ў ёй планка мастацкасці вытрымліваецца на належнай вышыні. Немалаважна і тое, што ўдала знойдзены фармат кніжак, якія невялікія памерам. Што зручна для карыстання. Мастацкае афармленне таксама добра прадумана. Для афармлення вокладкі бяруцца рэпрадукцыі карцін Валянціна Губарава — мастака, які, як і аўтары твораў, дзе жартам, а дзе ўсур’ёз выхоплівае пэўныя моманты з нашага жыцця.

Застаецца толькі сказаць: «Да новых сустрэч!»

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ШЧАСЛІВАЙ СУСТРЭЧЫ!




*Васіль БЫКАЎ*

**ГАРАДЗЕНСКІ АРХІЎ**

**Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі**

*Гродна—Вроцлаў, 2012*

Заснаванне тэматычнай беларускамоўнай серыі «Гарадзенская бібліятэка» амаль 10 гадоў назад стала яркай падзеяй у культурным свеце не толькі Беларусі, але і замежжа. Ды гэта і не дзіўна: Гродна — адзін з самых старажытных гарадоў краіны, своеасаблівая атмасфера якога заўсёды прыцягвала прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі. Як сцвярджаюць арганізатары кніжнай ініцыятывы, мэта праекта — «дакументацыя і прасоўванне культурнага і гістарычнага даробку гарадзенцаў, а таксама папулярызацыі ведаў пра сярэднявечную, навачасную, міжваенную і паваенную гісторыю Гародні як істотнага элемента еўрапейскай спадчыны». Цяпер налічваецца ўжо некалькі дзясяткаў унікальных краязнаўчых, гістарычных, літаратурных выданняў серыі. Чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з першай у Беларусі кнігай па сацыятапаграфіі, з вынікамі археалагічных даследаванняў сярэднявечнай Гародні, «біяграфіяй гарадзенскіх вуліц», антрапалагічнымі аспектамі гістарычнай урбаністыкі, невядомымі «лістамі з Зэльвы» Ларысы Геніюш, успамінамі Зоські Верас, творамі Віктара Карпюка, Дануты Бічэль, Віктара Сазонава, Дар'і Ліс, Віктара Шалкевіча ды іншымі арыгінальнымі кнігамі.

Сярод аўтараў праекта і выбітны даследчык жыцця і творчасці Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава — Сяргей Шапран, узнагароджаны прэміяй імя Алеся Адамовіча за даследаванне «Васіль Быкаў: гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». А ў 2012 годзе пабачыла свет не менш грунтоўная і запатрабаваная кніга «Васіль Быкаў: гарадзенскі архіў». І сёння не сціхае абмеркаванне цікавых знаходак пісьменніцкага архіва, а падрабязнасць і дакладнасць каментарыяў і тлумачэнняў з'яўляецца прыкладам навукова-даследчай літаратуразнаўчай працы. Творы, прэзентаваныя ў кнізе, захоўваліся ў сына пісьменніка Васіля Васільевіча Быкава ў Гродне і маюць прыкладную даціроўку 1957—1972 гг.

Усе яны, за выключэннем незавершанай аповесці «Атакі не будзе», друкуюцца ўпершыню. «Па тых запісах, што зроблены Васілём Уладзіміравічам у другой палове 1950-х гг. — і зроблены не шарыкавай асадкай, а яшчэ чарнільным пяром, — можна ўбачыць, якім менавіта шляхам ішоў Быкаў у літаратуру, як старанна вучыўся майстэрству прыгожага пісьменства і як сярод дзясяткаў літаратурных сюжэтаў вышукваў тыя, што маглі падысці менавіта яму, Васілю Быкаву», — сцвярджае Сяргей Шапран. І сапраўды, запісы ў сшытках, нататніках Быкава — быццам падрабязная энцыклапедыя сталення пісьменніка, што дадае новыя фарбы да яго творчага партрэта ў вачах сучаснікаў. Рэдкая адказнасць, самадысцыпліна, крытычнае стаўленне да ўласнай працы — пра ўсё гэта сведчаць невядомыя раней запісы Васіля Уладзіміравіча. Як спяваюць розныя птушкі, у які час распускаюцца кветкі, як гавораць у народзе датычна жыццёвых сітуацый — кожную дробязь, падгледжаную-падслуханую ў паўсядзённых справах, фіксуе малады пісьменнік, каб не быць галаслоўным, не пісаць пра надуманае і «жыццёва непраўдзівае».

Запісы Васіля Быкава – своеасаблівая рэфлексія, тэрапія для душы. «У мяне сябра (Убарэвіч). Цвёрдакаменнае сэрца. Нешта з ім сталася – на ўсё не рэагуе. Рашылі караць. І я таксама. Ідучы на … выпадкам убачыў яго — такая боль у душы, што я галасаваў за непакаранне. Ён сказаў дзякуй і выправіўся», — шчыра выказвае свае перажыванні пачынаючы пісьменнік. Штодзённыя думкі і высновы, мудрыя ў сваёй прастаце займаюць значную частку нататак: «Дзяцей мучаюць музыкай», «Мір у сям'і ў дзень палучкі», «Хлопец, які заляцаецца да дзяўчыны, вельмі точна адчувае падобныя намеры другога».

Пакуты росту, этапы цярністага шляху ў літаратуру — усё гэта не абмінула і прызнанага майстра на пачатку творчага развіцця. «Згрызотамі пачуцця, зусім няважнымі для дарослага мужчыны» называе Васіль Уладзіміравіч свае перажыванні ў лісце да Еўдакіі Лось, працэс працы над першымі творамі характарызуе наступным чынам: «Гэта было жахліва». Абмежаванасць мастацкіх сродкаў, цяжкасць пры стварэнні жывых характараў, нягнуткасць слова — гэтыя і іншыя недахопы «кожнага пачынаючага» дэталёва разглядаюцца маладым Быкавым. Часцяком нават перамога, публікацыя не давала доўгачаканай палёгкі, твор здаваўся нецікавым і бяздарным (так адбылося, прынамсі, з аповесцю «Апошні баец» пасля з'яўлення яе на старонках «Чырвонай змены»). Сур'ёзныя літаратуразнаўчыя біяграфічныя даследаванні ніколі не абыходзяцца без узнаўлення кола цікаўнасцей, кола чытання пісьменніка, без адкрыцця тых імёнаў, што «служаць маякамі». Літаратурнымі парадамі Талстога, Чэхава, Гогаля, Тургенева, Паўстоўскага, Хэмінгуэя, Стэндаля шчодра перасыпаны «гарадзенскія нататнікі»… А выказванне Горкага: «Сомнение для художника — прекрасное чувство, а вот самомнение — пагуба», — можна лічыць асноўным правілам літаратурнай творчасці Васіля Быкава. Наглядныя схемы сюжэтаў, алгарытмы распрацоўкі тэмы, планы характараў — так педантычна працаваў пісьменнік над кожным творам. Калі б не гарадзенскі архіў, шырокая грамадскасць магла б ніколі не даведацца пра першую аўтабіяграфію пісьменніка, створаны самім Быкавым кінасцэнарый па аповесці «Сотнікаў», зварот Васіля Уладзіміравіча да жанру прыпавесці на самым пачатку творчага шляху (а не ў 90-я гг., як лічылася раней). Фотаздымкі розных гадоў, фрагменты сшыткаў, малюнкі пісьменніка, змешчаныя ў кнізе «Васіль Быкаў: гарадзенскі архіў», дапамагаюць чытачам стварыць яскравы візуальны вобраз, уявіць лад жыцця Быкава ў дадзены перыяд.

«Не хочу издали», — прамаўляе хлопчык з аднайменнай прыпавесці Васіля Быкава. Зблізку пазнаёміцца з унутраным светам, характарам творчай кухні аднаго з самых уплывовых пісьменнікаў XX стагоддзя зможа кожны, дзякуючы руплівай працы Сяргея Шапрана, а таксама ўсіх тых, хто паспрыяў адкрыццю невядомых старонак быкаўскага жыццяпісу.




*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ*

**АНЁЛЫ**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2015*

Як адрозніць бяздарнага аўтара ад сапраўды адоранага, надзеленага мастацкім густам? Вядома, што і ў кожнага прафесійнага крытыка, і ў аматара літаратуры ёсць уласная шкала ацэнкі. Выпрацаваная гадамі, часам надта суб'ектыўная… Аднак на што мы звяртаем увагу ў першую чаргу? Іван Тургенеў у свой час выказваў наступнае меркаванне: «Пазнаю талент па падрабязнасцях. Няма падрабязнасцей — няма таленту». Чым, калі не фенаменальнай назіральнасцю, уменнем убачыць незвычайнае ў звычайным адрозніваецца сапраўдны творца? Не схематычна, умоўна, а па-мастацку засяроджана на важных дробязях (якія пры гэтым не здаюцца штучна прыцягнутымі з кантэксту) — так пісаць вучацца не ўсе і не адразу.

Тым, хто знаёмы з паэтычнай творчасцю Дзмітрыя Пятровіча, не трэба нагадваць падрабязнасць яго лірычных пейзажаў, партрэтаў, апісанняў шчырых перажыванняў герояў. Колер аблокаў, пах травы і лісця, «веснапеў любові», «шэпат ночы», «агонь абдымкаў»… Тая ж падрабязнасць адрознівае і лірычную прозу Дзмітрыя Пятровіча. Зборнік аповесцей, апавяданняў, эсэ «Анёлы» — яркі таму прыклад. Грунтоўныя, фізіягнамічныя назіранні за знешнасцю герояў выдаюць творцу-візуала, які шчыра захапляецца чалавечай арыгінальнасцю, гармоніяй знешняга і ўнутранага. «Павуцінка маршчынак» ля вачэй доктара Дзяніса Сакалоўскага — сведчанне даверлівага і вясёлага нораву, «вочы з павалокай» Сямёна Равуцкага — доказ прывабнасці для жанчын, «коратка стрыжаны, шыракаплечы, з высокім прамым ілбом, глыбока пасаджанымі вачыма, гарбаносы» капітан міліцыі Пятро Корань — «сапраўдны крэмень» і ў сямейных справах, і ў службовых. Асаблівай увагі вартыя падрабязныя жаночыя партрэты ў прозе Дзмітрыя Пятровіча. Жанчына як муза, крыніца радасці і натхнення: «З мокрых валасоў на прыгожыя агаленыя плечы сцякалі брыльянцістыя кроплі, што зіхацелі-пераліваліся на сонцы. Дзяўчына ўсміхалася чароўнай усмешкай… Зубы як перліны, бяздонныя зялёныя вочы, прыгожы, па-ўсходняму, выгін броваў». Жаночыя персанажы кнігі «Анёлы» — зямныя мадонны, што адраджаюць сваю боскую, святую сутнасць праз яднанне з каханым, з прыродай, праз самаадданае служэнне сям'і… Каб зразумець стаўленне аўтара да жанчыны, варта толькі згадаць эпітэты, якімі ён характарызуе сваіх гераінь: «…Гэта была яна. Яго Таня — яго першае каханне, юнацкая мроя, анёл яго мар і надзей». Рамантычнае светаадчуванне пісьменніка праяўляецца і ў каларытных пейзажных замалёўках, увогуле, у спрадвечным імкненні ў неба, да анёлаў… Безліч апісанняў неба, вечаровага, ранішняга, начнога арганічна ўплецены ў канву падзей: «За акном барвовае неба здавалася нібы аблітым крывёй. Аблокі, што ўвесь дзень хадзілі па небе, падсвечаныя сонцам, раздзьмуўшы свае ветразі, зараз здаваліся

суцэльнай чорнай хмарай, якая пералівалася, зіхацела ўсімі колерамі ўжо заходзячага сонца», «Першыя зоркі, як залатыя галоўкі цвікоў, зіхцелі, пераліваючыся на чарнюткім жнівеньскім небе, з якога часам яны зрываліся, пакідаючы на нябесным полагу сляды-маланкі». Відавочна рамантычным з’яўляецца і светаадчуванне герояў кнігі: загадчык апёкавага аддзялення Міхась Сямёнавіч з апавядання «Ружа» «шмат чаго бачыў у жыцці, але ўсё роўна не мог прывыкнуць да людскога гора», сям’я Войцікаў яднаецца, дзякуючы неабыякавасці да лёсу сабакі «з чалавечымі вачыма» (аповесць «Джэк»), для жанчын кнігі выведзена не толькі формула фізічнай прыгажосці, але і формула душэўнай раўнавагі, годнасці — «пачуццё ўнутранай свабоды і адчуванне сябе любімай і патрэбнай родным». А яшчэ амаль усе персанажы кнігі Дзмітрыя Пятровіча, выдатна разумеючы заганы «нялепшага, няшчырага», «псеўдаўзаемнага» дарослага жыцця, адчуваюць настальгію па маленстве, юнацтве, маладосці… Як жа існаваць пры адвечнай тузе па «светлым і амаль бесклапотным часе»? Зрабіць маладосць «стылем жыцця, спадзяваннем на лепшае, аптымізмам» і … «абавязковым пачуццём закаханасці». Нягледзячы на вялікую ўвагу да дэталёвых апісанняў, нельга адмовіць Дзмітрыю Пятровічу і ў майстэрстве пабудовы сюжэта. Па нечаканасці развязкі многія апавяданні кнігі варта было б адносіць да навел… Даволі арыгінальнай з’яўляецца і кампазіцыя аповесці «Белая жанчына»: хараналагічна яна пачынаецца з развязкі (спачатку падзеі 2006 года, пасля — 2005-га). Гэта сімвалічна, бо «пракручванне» чалавечага жыцця перад смерцю якраз і адбываецца ад зваротнай кропкі… А рызыка ўласным жыццём для спелеолагаў, даследчыкаў пячор, — надта частая практыка. Безумоўна, містычная аповесць «Белая жанчына» годна працягвае традыцыі прыгодніцкага жанру ў беларускай літаратуры.

Некаторым героі Дзмітрыя Пятровіча могуць падацца занадта ідэальнымі, пейзажы — занадта ідылічнымі, пачуцці — занадта палкімі, сітуацыі — тыпова рамантычнымі. Можа, у нечым цвярозая рацыянальнасць і справядліва выкрывае недахопы аўтара. Аднак, відавочна, такі стыль пісьма — далёка не штучны для паэта, празаіка, музыканта з чулай душой. Пэўна, толькі так і пішацца, калі здольны адчуваць спрадвечную «радасць неўміручага жыцця», калі «лунаеш высока-высока на пругкіх лёгкіх крылах».




*Надзея ПАРЧУК*

**ВЕНЕРЫН ЧАРАВІЧАК**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

«У кожнага ёсць справа // Адметная ў жыцці. // Каб дзень прайшоў цікава // І ты сваю знайдзі», — прызывае юных чытачоў Надзея Парчук. І з яе вуснаў гэтае пажаданне гучыць цалкам натуральна: паэтка, якая даволі позна прыйшла ў літаратуру, выдатна разумее важнасць лёсавызначальнага жыццёвага выбару. «Калі б мне яшчэ 13—15 гадоў таму сказалі, што я буду пісьменніцай, то я б у гэта не паверыла.

У гэты час я нават не думала пра тое, што буду прызнана паэтам. Што займею сяброў і буду дапамагаць пачынаючым паэтам», — прызналася Надзея Мікалаеўна на леташняй творчай сустрэчы. Успрыняцце жыцця як вышэйшага дару, адоранасці — як лекаў для душы і цела — вось чаму варта павучыцца ў гэтай мудрай жанчыны.

Светлы, узвышаны, шчыры характар яе вершатворчасці выдатна праявіўся і ў кнізе для дзяцей з рамантычнай назвай — «Венерын чаравічак». Думаецца, што калі і ставіла для сябе Надзея Парчук адмысловую дыдактычную мэту — дык гэта напомніць маленькім свавольнікам пра традыцыйныя дзіцячыя заняткі і гульні, каб адцягнуць іх ад сядзення за маніторамі ў душных пакоях. Героі яе вершаў катаюцца з ледзяных гор, рыхтуюць для птушак шпакоўні, дапамагаюць на гародзе дзядулям і бабулям, ходзяць у грыбы. Неабдымны, цікавы свет чакае нас кожны дзень, варта толькі адкрыць розум і сэрца для новых думак-уражанняў… Памятаеце дванаццацігадовага Дугласа Сполдзінга з «Віна з дзьмухаўцоў» Рэя Брэдберы? Які аднойчы ўсвядоміў, што ён жывы, а таксама рупліва фіксаваў «адкрыцці і азарэнні» за кожны летні дзень? Уражлівыя персанажы Надзеі Парчук маюць той жа эмацыйны запал:

Ох і любіць хлопчык Ромка
Забаўляцца на падворку —
Каля дзедавае хаты,
Дзе ўсяго расце багата.

Свойская жывёла, разнатраўе — усё гэта вабіць гарадскіх дзяцей, якія не маюць магчымасці кожны дзень піць сырадой і купацца ў рэчцы.

Праца на зямлі — гэта пачэсна, вучыць дзяцей Надзея Парчук. «Нібыта каралю» ўсміхаюцца сланечнікі стараннаму хлопчыку з верша «Песенька агародніка». А пасля сур’ёзных спраў трэба ўмець і цікава, захапляльна адпачываць. Без вясёлых прыгод тут не абысціся: караблік з фанеры можа стаць вялікім фрэгатам, басейн ці ванна — «Безназоўным морам», тазік — востравам піратаў. А яшчэ захапляецца паэтка шчаслівымі дзіцячымі снамі, дзе гавораць кветкі, зоркі і лясныя жыхары. Хто з нас не хацеў бы зноў вярнуцца ў спакойны бестурботны сон на золку новага дня, у якім «раніца з-за гор едзе ў калясніцы»?

Зборнік «Венерын чаравічак» можа стаць цікавым спадарожнікам у дзіцячых вандроўках на цэлы год: паэтка раскрывае сакрэты і таямніцы кожнай пары года. Як сустракаць буслоў, як збіраць спелыя маліны, як пазнаёміцца з зайцам у восеньскім лесе, як рыхтавацца да Новага года? Гэтыя важныя пытанні не застануцца без адказу пры знаёмстве з «маленькай энцыклапедыяй» для дзіцяці ад Надзеі Парчук. Вершы, казкі ў вершах, загадкі не дадуць засумаваць. Аднак сур’ёзны наказ на будучыню дзеці таксама атрымаюць:

Не забывай, што прыйдзе час-пара
Табе да важных справаў далучыцца:
Пра гонар дбаць бацькоўскага двара
І бараніць Радзіму навучыцца.

Рыхтавацца да «часу-пары», але і ўмець атрымліваць асалоду ад дзіцячай бесклапотнасці — на разумным балансе ў выхаванні і базуецца фарміраванне гарманічнай, прыгожай фізічна і маральна асобы.



# ВЕРАСЕНЬ

* * *

У сваім **вераснёўскім** нумары за **1988 год** «Полымя» надрукавала п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя». Гэта быў незвычайны перыяд у гісторыі ці не ўсёй савецкай літаратурнай перыёдыкі, тыражы якой рэзка падскочылі ў тысячы разоў. Велізарныя тыражы займелі, у першую чаргу, цэнтральныя выданні, якія разыходзіліся па ўсім Савецкім Саюзе. Напрыклад, «Новый мир» у 1988 годзе меў больш чым мільённы тыраж, а ў 91-м гэты паказчык і ўвогуле даходзіў да неверагоднай лічбы — 2 700 000 (да прыкладу, у 75-м тыраж часопіса складаў 175 000 экзэмпляраў). Далёка не ў апошнюю чаргу такі скачок адбыўся дзякуючы публікацыям раней забароненых альбо паўзабароненых, але недаступных шырокаму чытачу твораў. Напрыклад, на старонках таго ж «Нового мира» адзін за адным друкаваліся «Доктар Жывага» Барыса Пастарнака, «Катлаван» Андрэя Платонава, «Архіпелаг ГУЛАГ», «У коле першым», «Ракавы корпус» Аляксандра Салжаніцына.

Аналагічныя працэсы адбываліся ў літаратурных выданнях фактычна ўсіх рэспублік былога Саюза. Скажам, у Азербайджане актыўна вярталі ў сучасны літаратурны кантэкст творчую спадчыну рэпрэсіраванага паэта і драматурга Гусейна Джавіда (каб я мог лепш уявіць значнасць яго творчасці для іх нацыянальнай літаратуры, мае азербайджанскія сябры параўналі яго з Купалам). Калі гадоў пяць таму часопіс «Нёман» вырашыў надрукаваць на сваіх старонках творы Гусейна Джавіда, то аказалася, што ў Беларусі ёсць усяго тры яго кнігі, і ўсе — толькі ў Нацыянальнай бібліятэцы, па адным экзэмпляры, прычым, у адной з іх былі надрукаваны не пераклады, а… падрадкоўнікі з азербайджанскай мовы на рускую. Што ж, праблема з перакладчыкамі пачала ўжо востра стаяць у канцы 80-х.

У тыя гады ў Беларусі таксама вярталіся ў літаратурны кантэкст творы, яшчэ нядаўна невядомыя шырокаму чытачу: Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Жылкі, Барыса Мікуліча… Сярод найбольш яркіх і значных публікацый «з невядомай спадчыны» можна назваць друкаванне ў студзеньскім нумары «Полымя» за 1988 год рамана Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя».

П'есу «Тутэйшыя» Купала закончыў у 1922 годзе, у «Полымі» — упершыню — яна з'явілася ў 1924-м. Пастаўлена ў БДТ-1 (цяперашнім Купалаўскім) — у 1926-м. Праўда, пратрымалася яна ў рэпертуары тэатра зусім нядоўга.

Вось як пра гэта пісаў у прадмове да другой палымянскай публікацыі п'есы (1988) крытык Анатоль Сабалеўскі: «*За пастаноўку ўзяўся М. Папоў, вядомы рускі рэжысёр, непасрэдны вучань К. Станіслаўскага, які ў 1925—1926 гадах узначальваў Беларускі дзяржаўны тэатр. Планавалася выпусціць прэм'еру ў першай палове сезона 1926—1927 года, услед за пастаноўкамі* «*Перамогі*» *Е. Міровіча і* «*Віру*» *Я. Рамановіча і іграць яе на вялікай сцэне, гэта значыць у памяшканні, у якім і цяпер працуе купалаўскі калектыў (у той час тэатр таксама меў малую сцэну).*



*«Тутэйшыя» ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна.*

*У спектаклі былі заняты буйнейшыя акцёры. Роля Мікіты Зносака даручалася Г. Грыгонісу, на той час найбольш вопытнаму акцёру, які лічыўся першым комікам трупы; роля Янкі Здольніка — У. Крыловічу, зноў жа першаму і буйнейшаму сацыяльнаму герою. Нават у невялікіх ролях былі заняты лепшыя артысты — У. Уладамірскі, Б. Платонаў.*

*Аднак спектакль не атрымаўся. Мабыць, на яго лёс паўплывала і тое, што п'еса была значна скарочана і чамусьці рабіў купюры намеснік дырэктара тэатра нехта А. Матусаў. Пастаноўшчык жа М. Папоў пакінуў беларускі калектыў, пераехаў працаваць у Маскву, у Вялікі тэатр. Спектакль застаўся без рэжысёрскага нагляду, і яго знялі з рэпертуару. Па сведчанні Фларыяна Ждановіча, заснавальніка тэатра, а на той час асноўнага акцёра трупы, ён прыняў рашэнне аб зняцці «Тутэйшых» з рэпертуару на той падставе, што Купала намерваўся п'есу яшчэ дапрацоўваць. Але ставіць яе ўжо не было каму. І больш калектыў тэатра да «Тутэйшых» не звяртаўся».*

Ведаў пра гэта Фларыян Ждановіч ці не, але яго рашэнне аб зняцці п'есы з рэпертуару дзіўным чынам супала з іншай падзеяй. 19 лістапада 1926 года абмеркаванне «Тутэйшых» адбылося на пашыраным пасяджэнні калегіі аддзела друку ЦК КП(б)Б, дзе гаварылася пра тое, што было вялікай памылкай прымаць да пастаноўкі п'есу ў такім выглядзе, у якім яна была напісана і надрукавана, што яе трэба значна перапрацаваць, і добра было б, калі б Янка Купала паведаміў у друку, што сам не задаволены ёю і прыступіў да перапрацоўкі. Амаль праз паўтара года пасля гэтага пасяджэння п'еса трапіла ўжо на разгляд бюро ЦК КП(б)Б, на якім даклад рабіў Галоўліт. Сярод іншага, у дакладзе было сказана наступнае: «"Тутэйшыя" — сатырычныя сцэнкі з менскага жыцця ў перыяд 1918—1920 гг. На фоне цэлага шэрагу адмоўных тыпаў (быўшы паліцэйскі, быўшы чыноўнік, поп, дама і г. д.) адзіны станоўчы тып, рэзанёр Янка Здольнік, беларускі народны настаўнік. Гэты герой з моцна выражанай народніцкай афарбоўкай не пазбаў-

лены моцнага нацыяналістычнага духу. Палітычныя перакананні яго крайне падазроныя. Уся п’еса перапоўнена як замаскіраванымі, так і яўнымі выпадамі супраць Савецкай улады».

Што да заявы Купалы наконт незадаволенасці творам, то яна была зроблена, праўда, органам ДПУ, у 1930 годзе (неўзабаве пасля гэтага Купала спрабаваў скончыць жыццё самагубствам): «В 1922 г. мною была написана пьеса «Тутэйшыя», в которой я задавался целью высмеять приспособляющегося чиновника и отобразить в шутливой форме некоторые моменты переходного времени. Пьеса эта была поставлена в театре наспех и непродуманно и прошла незаметно. Возможно, не все места в ней и я сам как следует оформил. Вообще пьеса эта не удалась мне».

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што і тагачасная крытыка неадназначна ўспрыняла п’есу. Некаторыя аўтары бачылі ў ёй залішнюю карыкатурнасць і схематызм (У. Чаржынскі), жанравую мешаніну, а таксама, як вялікі недахоп, і тое, што аўтар старому ладу не супрацьпаставіў новы (І. Замоцін). Паступова ў беларускім савецкім літаратуразнаўстве выкрышталізаваўся адзіны падыход у ацэнцы «Тутэйшых», які вельмі дакладна быў сфармуляваны ў энцыклапедычным даведніку «Янка Купала», што пабачыў свет у 1986 годзе ў выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»: «“Тутэйшыя”, сатырычная камедыя К<упалы> з вельмі адчувальнымі момантамі вадэвіля і фарса. Паводле вызначэння аўтара, трагічна-смяшлівыя сцэны з мінскага нядаўняга жыцця. Завершана ў жн. 1922. Напісана ў перыяд, калі К. нялёгка ішоў да разумення складаных супярэчнасцей новага часу. У п’есе гучыць роздум пра шляхі і будучыню бел. народа. З аднаго боку, яна адмаўляе стары, знішчаны рэвалюцыяй свет прымусу, маны, фальшу, вострасатырычна выкрывае яго абаронцаў, асуджае замежную акупацыю як спробу аднавіць бурж. парадкі, заняволіць бел. народ сацыяльна і нацыянальна, з другога — пазначана звужана-аднабаковым разуменнем рэчаіснасці, суб’ектыўнай ацэнкай некат. сацыяльных з’яў. Майстэрству пабудовы камічных сітуацый, тонкай назіральнасці, каларытнасці сцэн шкодзіць адсутнасць дынамікі ў разгортванні сюжэта, недастатковасць псіхал. абгрунтаванасці паводзін і ўчынкаў паасобных герояў. Ідэйна-мастацкая супярэчлівасць не дала п’есе мажлівасці заняць значнае месца ў бел. сав. драматургіі».

Аднак гэты артыкул, як і многія іншыя (а трэба сказаць, што і ў шасцідзясятыя, і ў сямідзясятыя гады пра п’есу пісалі І. Навуменка, А. Есакоў, Н. Перкін і іншыя крытыкі і літаратуразнаўцы) не даваў адказу на адно важнае пытанне: чаму «Тутэйшыя», пачынаючы з 1927 года, не перадрукоўваліся аж да 1988-га, ці, прынамсі, чаму не ўваходзілі нават у Зборы твораў Янкі Купалы (як вядома, першае яе кніжнае перавыданне адбылося ў 1989 годзе, а ў хуткім часе спектакль па ёй на сцэне Купалаўскага тэатра паставіў Мікалай Пінігін).

Адказ няпросты, выходзіць за рамкі чыста літаратурныя, і кожная эпоха знаходзіла для яго свае версіі, аргументы, апраўданні. Аднак у чым пагаджаліся, бадай што, усе, незалежна ад часу: тэма беларускай «тутэйшасці», праблема беларускай нацыянальнай самасвядомасці, да якой звярнуўся Купала ў сваёй п’есе, для нас заўсёды была вельмі далікатнай і няпростай.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

***Фота прадастаўлена Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы.***



